


# ПОЛЫМЯ

ЛІТАРАТУРНА-МАСТАЦКІ
І ГРАМАДСКА-ПАЛІТЫЧНЫ ЧАСОПІС

**12** (1034)

СНЕЖАНЬ

**Выдаецца
са снежня 1922 года**

ЗАСНАВАЛЬНІКІ:
Міністэрства інфармацыі Рэспублікі Беларусь;
грамадскае аб'яднанне «Саюз пісьменнікаў Беларусі»;
рэдакцыйна-выдавецкая ўстанова «Выдавецкі дом «Звязда»



Мінск
Рэдакцыйна-выдавецкая ўстанова
«Выдавецкі дом «Звязда»
2015

# ЗМЕСТ



**Казімір КАМЕЙША**

# АСТРАВЫ НА СУШЫ

*Аповесць у навелах*

*Магчыма, не кожнаму густу дагаджу гэтымі сваімі згадкамі. Ды не засмучу нязгодных, калі скажу, што пісалася гэта так, як і былі рассыпаны на сушы самі астравы-хутары. А іх пад шнурок не падгоніш. Тут будзе заўсёды крыху хаатычна, крыху асіметрычна, аднак жа з прыкідам свайго жыццёвага вокамеру, з думай не толькі пра сябе, але і нашчадкаў сваіх. Не было агульнага архітэктара, таму і неспарадкаванасць такая. А за ўсё хай адказваюць памяць мая, зрок яе, і час, і адлегласць таксама.*

***Аўтар***

## Абсягі

Хутар вырастаў з лесу, хутар і сам некалі быў лесам. Можа б, ім і заставаўся яшчэ дасюль, калі б не той, ужо даўно ўсімі забыты граф Брэза, які паціху прайграваў у карты гэтае пушчанскае багацце, што дасталося яму ў спадчыну ад нямоглага бацькі. Дзякуючы таму дзіўнаватаму графу (да яго яшчэ мы змушаны будзем вярнуцца ў нашай распавяданцы), і пачалі расці ў гэтай глухаватай лясістасці астраўкі адзінокіх хутароў, што дарогамі і сцяжынамі сваімі прывязваліся, прытульваліся адзін да аднаго, то аддаляючыся, то зближаючыся, часам чужыніста ўцякаючы ад нядобрых і зайздросных вачэй.

У запушчаных пушчанскіх абсягах хапала ўсяго — былі там і пакацістыя груды, і ціхія ўкладзістыя раўніны, было і шмат балота з даўгаватай віхля-

---

***Камейша Казімір Вікенцьевіч*** *нарадзіўся 4 снежня 1943 года ў вёсцы Малыя Навікі Стаўбцоўскага раёна Мінскай вобласці. Скончыў філалагічны факультэт Беларускага дзяржаўнага ўніверсітэта імя У. І. Леніна (1970). Служыў у Савецкай Арміі, працаваў у раённых газетах, на Беларускім радыё, у часопісах «Вясёлка», «Маладосць», «Полымя», «Вожык».*

*Аўтар зборнікаў паэзіі «Восеньскія позвы» (1969), «Мембрана» (1972), «Нектар» (1974), «Тут мае вёсны прычалены» (1977), «Сябрына» (1978), «Плёс» (1982), «Галоўная вярста» (1985), «Пярэймы дня» (1988), «Кубак блакіту» (1993), «Лінія лёсу» (1996) і інш., кніг для дзяцей «Гаёўка» (1975), «Буслянка» (1985), «Дзятлава кузня» (1987), «Добры дзень, шафёр» (1988), «Крыгагром» (2001), кніг прозы «Духмянае дзіва» (1984), «Паміж кубкам і вуснамі» (2010), «Ад Кромані да Свіцязі» (2013). Лаўрэат Літаратурнай прэміі імя Аркадзя Куляшова (1989).*

стай канавай, з дрыгвяністымі берагамі ў зялёным нізоўі. Той, хто купляў гэта багацце праз Віленскі зямельны банк, вышукваў сабе плошчу, дзе б і лесу, і полю, ды і сабе самому было зручна і вольна. Але каб і не надта дзікавата і глуха было, хай сабе і паводдаль, але каб не далей людскога вока. Думалася і гэтак.

Мясціну гэту так потым і назвалі — Астравы. І няма ў тым нічога дзіўнага, што зялёныя непрыкметныя астравы з'явіліся не ў нейкім там акіяне ці моры, а ўсяго на старажытнай беларускай сушы. Хоць пушча сама здалёку і звысоку (гэта калі глядзець з самалёта) нагадвае суцэльны зялёны акіян, а згубленыя ў ёй хутары заўсёды здаюцца ўтульнымі і абжытымі астравамі. Ды і жыхары тутэйшыя (некаторыя з іх нават прозвішчы такія маюць — Жыхар), спачатку жартам, а потым ужо і ўсур'ёз называлі сядзібы свае не хутарамі, а астравамі, а сябе — астраўскімі, а то і — астравіцянамі.

Людзі жывуць, як вядома, паўсюль — і на вадзе, і на сушы. Праўда, жывуць па-рознаму. Відаць жа, і сам Бог не дазволіць, каб усе жылі аднолькава. Будзе зусім тады не цікава. Бо і людзі ж самі па сабе ўсе розныя. Хоць жыць кожнаму хочацца як найлепей. Да гэтага кожны і імкнецца ад самага свайго нараджэння. Дзе вы знойдзеце чалавека, якому хацелася б жыць дрэнна, горш за іншых? Няма і не будзе такога. А пакуль жывуць людзі, ім трэба ладзіць паміж сабой шляхі і масты зносін, каб не дзічэць, не ваўкавець паасобку.

Жыццё не спынялася, ішоў час, прабягалі гады, і хутары паміж сабой звязаліся прамымі, выгінастымі, крыжоўнымі, а то і абарванымі дарогамі, тупкімі і гразкімі ляснымі сцяжынамі, сапраўднай жыццёвай повяззю, якая і павінна быць у чалавека.

Хай і не надта шчаслівым, але ўдала аселым астравіцянінам у Астравах пачуваў сябе і Казюк Дучэнскі. Востраў яму дастаўся не з самых горшых, хоць і пры балотцы, але з акон яго нядаўна пабудаванай прысадзістай хаты добра праглядваўся лясны гасцінец, што лучыў Гуменаўшчыну з Хатавой.

Гасцінец нагадваў чалавеку, што дзесьці за пушчай існуе вялікі свет, і, захацеўшы, па яго замове можна было трапіць у Івянец і Стоўбцы, у Баранавічы і Брэст, Маладзечна і Мінск. А родная Казюкова вёска Дудкі, хоць і прытулілася да самай Стаўбцоўскай шашы, выглядала чамусьці нейкай сіратлівай, нібыта ахінутая ценем глухой задуменнасці. І людзі тут жылі нейкія пахмурыя, нібыта дзеці аднаго бацькі. Было ўражанне, што сама ўсмешка даецца ім вельмі цяжка, нібыта перажылі яны нейкае вялікае гора. Хоць жылі не горш і не лепш за ўсіх астатніх на гэтых прыпушчанскіх разгонах. Задуменным і маўклівым быў і Казюк. Часам здавалася, што ў адным ім жывуць адразу два Казюкі, але розныя, не згодныя адзін з адным. А таму заўсёды спрачаюцца, шукаюць і не знаходзяць згоды. Можа, па гэтай самай прычыне любіў Казюк размаўляць сам з сабой. Не, не ў думках, а ўголас, ды так захоплена і зацікаўлена, што іншыя здзіўляліся. Паслухаць яго збоку, дык можна было падумаць, што чалавек моліцца, гаворыць пацеры, а ён на поўным сур'ёзе спрачаецца з другім сабой, ды так горача, узрушана, ажно да пены на вуснах. Калі якісьці незнаёмец і спрабаваў усміхнуцца ці ўпікнуць яго за гамонку з самім сабой, Казюк нават не крыўдзіўся, не апраўдваўся і часта адказваў старым апрабаваным жартам: «А чаму б з добрым чалавекам і не пагаварыць?» Жартаваў ён рэдка, але нягледзячы на сваю прыродную замкнутасць, жартаваць умеў. Жыццё таму-сяму вучыла. Жыццё яшчэ той настаўнік. Трэба толькі быць у яго паслухмяным вучнем.

Паслужыўшы ваенным мараком на Балтыцы і крыху пабачыўшы свету, Казюк зразумеў, што бадзянне яму ўжо дастаткова. Трэба падавацца ў родныя пушчанскія мясціны ды ладзіць неяк сваё жыццё-быццё. На моры добра, а на

сушы куды лепш. Праўда, у роднай хаце ў Дудках было ўжо цеснавата. У яго двух старэйшых братоў тым часам з'явіліся свае сем'і, ім ужо было не да яго. І выйсце знайшлося само сабой. Хтосьці з добрых людзей сасватаў яго аканомам да пана Гаціцкага, што меў маёнтак паблізу, на Суле. Памяркоўнаму пану прыйшоўся па душы гэты крыху хмуры негаваркі хлопец. Відаць, за тое, што быў ён «без хітрыкаў», надта ўжо працяцкі і, галоўнае, нідзе не заўважаны ў распусце.

Маёнтак Гаціцкіх сваімі будовамі выходзіў да самага левага берага Сулы, роднай Казюковай рэчкі. І ў пісьмах сваіх, якія часамі дасылаў з Балтыкі ў Дудкі, не прамінаў Казюк ніколі, каб запытацца, як там цячэ яго рака, ці не змялела, або разлілася вышэй берагоў, як бывала ў яго дзяцінстве. Людзі кажуць, што той, хто шмат паплаваў па вялікім моры, яшчэ больш прывязваецца да сваёй маленькай ракі. Тут, каля Сулы, і пачаў завязвацца зусім не марскім вузлом яго трывалы жыццёвы вузел. Неўзабаве Казюк ажаніўся на тутэйшай хутаранцы Зосі, да якой прыглядаўся даўно, яшчэ да вайсковай службы. Гаціцкі, як мог, спрыяў вяселлю свайго аканома, хоць прадчуваў, што той надоўга не затрымаецца ў маёнтку. А хлопец яму падабаўся — вунь як складна, як роўна павёў ён панскую гаспадарку. Але такія ціхуны заўсёды прагнуць самастойнасці і шукаюць ціхага, нікому не падуладнага пушчанскага спакою. Дарагавата, праўда, абышоўся той спакой цягавітаму Казюку. Каштавала гэта не толькі грошай, якія ён па капейчыне збіраў, працуючы аканомам, а і здароўя, і сілы. Колькі поту праліў ён, пакуль карчаваў ляды ды паліў лаўжы, варочаў цяжэразныя бярвенні. Спакой і воля, як вядома, даюцца чалавеку заўсёды цяжка. Як бы там ні было, але свайго ён дамогся. На ўласным лясным востраве Казюк пачуваўся гаспадаром. Дзе ні ступіць — усюды свая зямелька, нікому кланяцца не трэба. Польскія ўлады хутаранцам дужа не перашкаджалі ў іх жыцці-быцці. Некалі, гуляючы з сябрамі-маракамі па прыморскай партовай Клайпедзе, напаткалі падвясёленыя хлопцы прыставучую варажуху-цыганку. Вырвала яна з Казюковай маладой скроні волас ды хітравата пакруціла ім у паветры: «Вось як заплаціш — дык скажу ўсё, што чакае цябе наперадзе!» Заплаціш — дзе дзенешся. Нагадала яна тады Казюку неспакойнае сямейнае жыццё і пяцёра дзяцей. І яно ўсё дакладна спраўдзілася. Наконт неспакойнага жыцця, магчыма, яшчэ можна і спрачацца, а дзяцей, і праўда, прыдбалі яны з Зосяй роўна пяцёра. Тыя і сапраўды адно за адным сыпанулі, як грыбы пасля спорнага дажджу: чацвёра дзяўчатак ды апошні рыжаваты хлопчык. Усе галасістыя, вясёлавокія, больш, відаць, у іх было матчынага. Хіба што ўпартасць перадалася ягоная, Казюкова. Першая, Стася, паспела ўжо выскачыць замуж за тутэйшага небагатага, але дужа старанлівага хлопца. А тут нейкі хлюст з недалёкіх Малых Навікоў падходжвае і да другой, Ядвісі. Стала трывала на нogі і сярэдняя Маня. Старанлівымі растуць меншыя Чэсь і Ванда. Жыццё ёсць жыццё, кожны ладзіць яго сам, як умее, ды яшчэ як каму ў ім пашанцуе.

Але Польшча на тутэйшых землях трывала нядоўга. Яшчэ, здаецца, учора навушнікі старога дэтэктарнага прыёмніка-«глосніка» праз калючы трэск мембранаў выкрыквалі гнеўнае і пагрознае, што злятала з вуснаў самога Рыдзсміглага: «Не аддамо не толькі мундзіра, але і ніводнага гузіка з мундзіра!», а ўжо з-пад Івянца, «ззяючы бляскам сталі», неслася панцырная віхура, шугала конская віхраніца Чырвонаармейскай кавалерыі. Верасень 1939 года чырваніўся не толькі полымным лісцем асін і клёнаў, чырвоны колер зарыўна адсвечваўся паходнымі вогнішчамі ля гасцінцаў і бальшакоў. У напалоханых, ацішэлых гарадках і мястэчках у агонь ішло ўсё, што магло гарэць: шалёўкі

з вокан, сухія прымшэлыя магільныя крыжы, а то і проста драбіны з воза. А начамі, прыхапіўшы сёе-тое з залатога скарбу, беглі праз пушчу ашаломленыя паны і падпанкі. І ўсё гэта было добра відаць з лясістага вострава Дучэнскіх. Цяпер гасцінец насупраць Казюковай хаты паказваў свой гонар. Ён сустракаў і праводзіў толькі самых найпаважаных з новай улады, іншыя спадзяваліся на старыя зарослыя шляхі ды нетравыя ваўчыныя сцежкі.

Неяк ноччу бачылі, як ля астраўскіх узмежкаў мільганулася знаёмая брычка на пісклявых рысорах, з прыгнутымі, схаванымі ў клункі галовамі на ёй. То ўцякаў, трымаў кірунак на Баранавічы вяліканавікоўскі пан Рычард Гузоўскі. Як расказваў потым яго парабак Стась Ланцэвіч, пан Рычард на развітанне і ўсю дарогу моцна піў, ды ўсё напеўваў сваю любімую «Ойру», а яшчэ не шкадаваў залатнікоў, ціхенька падсыпаў іх Стасю ў кішэню ды прыгаворваў: «Паментай, Стаську, добжэго Рыся, ктуры юж блізко до пекел!» Пан, калі браў чарку, насамрэч быў дабрэйшым чалавекам. А тут, лічы, парабку дасталося ўсё: шмат усялякай пакаёвай драбязы, вышыванак, яшчэ не зусім зношанай адзежы, начыння ўсялякага. Усё яно яшчэ доўга будзе нагадваць пра негана-ровага пана, след якога згубіцца недзе ў далёкім свеце. Бачылі астраўскія, як палаў разрабаваны маёнтак пана з Калатоўкі Палонскага, полымя высокімі языкамі скакала да неба, нібы хацела ахапіць усё, што баязліва ад яго адступалася. Маёнтак падпалілі самі маланавікоўцы.

«Вар'яцтва, калі папраўдзе, — казаў сам сабе Казюк. — Чым вінаватая перад Богам і людзьмі, хай сабе і багатая, будыніна?» І чынілася ўсё гэта рукамі набожных ды працавітых людзей. А людзі адразу адчулі, што ўсё тое, што яшчэ нядаўна належала камусьці аднаму, адразу сталася нічыім. Дык чаму б ім ды не пакрыстацца. Усё недасяжна-панскае зараз зусім адкрыта прымервалася да сваіх бедных двароў.

Новую уладу, праўда, сустракалі не з кветкамі, не з вялікай радасцю. Ужо хадзілі чуткі, што недзе за Нёманам муштрой заганяюць усіх у калгасы. Яшчэ ніхто толкам і не ведаў, што гэта такое, але здагадкамі, нядобрымі чуткамі адзін аднаго прыпалохвалі. Чыесьці далёкія знаёмыя, можа, нават і сваякі, хто паспрабаваў ужо таго калгаснага смаку, перасцерагалі тых, да каго тое новае яшчэ не дайшло. А яшчэ казалі, што багацейшых будуць раскулачваць, вывозіць у Сібір. Але хто тут, у Астравах, багаты? Галота адна. Ужо зімой наступнага, саракавога года, чуткі пацвердзіліся. Студзеньскай ноччу ў самыя маразы вывезлі ўсю сям'ю ляснічага з Балевіч Ярашынскага. Добрым памяркоўным чалавекам быў сам Ярашынскі, нідзе нікому нічога дрэннага не зрабіў, не пакрыўдзіў, а адыграліся на ім. Усе рыхтаваліся да горшага.

І ўсё раптам як перакрэсліла вайна. Усё памянялася за адну ноч. Ужо добра грымела недзе каля Баранавіч. Замітусіўся, забегаў хутаранскі люд. У гэтай мітусні Казюк раптам успомніў пра этажэрку з кнігамі, якія ён набываў за апошнія капейкі, калі служыў яшчэ на флоце. Казалі, што немцы не любяць усяго рускага, у тым ліку і кніг. А ў Казюковым зборы было ўсё выключна рускае. З польскіх кніг у іхняй хаце была толькі Зосіна кантычка. Прыцемкамі Казюк схапіў лапату і пабег закопваць свой папяровы скарб, звязаўшы яго вяроўкай і захінуўшы ў нейкія лахманы. За гумном, на самым бярозавым узлеску, ён выкапаў не такую і глыбокую яму. Дно ямы і сам пакунак добра замасціў яловым сушняком, а закапаўшы, прыкрыў усё яшчэ невялікім ядлоўцавым кустом. Назаўтра глянуў на той куст — і сам здзівіўся: нідзе і намёку не было на нейкі там таямнічы спрат. А напачатку меў ён намер схаваць усё гэта дабро дзе-небудзь далей у глыбіні лесу. Цяпер нават пахваліў сябе, што зрабіў усё так, як яно рабілася...

Грымоты вайны чуліся недзе ўсё далей і далей. Часамі хто са старэйшых прыкладаў вуха да зямлі і сумна казаў: «Гудзе па-страшнаму. Недзе ідуць вялікія баі». А тут, у пушчы, было пакуль што ціха.

Людзі ваявалі, наступалі і адступалі, бралі і здавалі гарады, гінулі, знікалі без вестак, а махавік чалавечага жыцця круціўся сваім няспынным ладам. Часам даваў збоі. Сам час і быў тым самым майстрам, які ці лёгка ці цяжка, а правіў усе непаладкі ў тым махавіку, каб ён зноў круціўся сваім ладам. Але лад той зараз быў не тым, звычайным, мелася ў ім шмат трывожлівага, грымлівага, нават невыноснага і смяротнага. Усё часцей пушчанскую цішыню парушалі не толькі асобныя стрэлы, а нават страшнаватая страляніна, а то і выбухі. З Гуменаўшчыны, Дзераўной, з Ніўнага і Налібакаў даходзілі трывожлівыя чуткі пра фашысцкія здзекі, расправы. У Дзераўной застрэлілі ксяндза Доўжыка, нібыта за сувязь з партызанамі. А яшчэ нядаўна ён бласлаўляў шлюб Казюковай Ядвісі і таго самага хопца з Малых Навікоў, у якіх цяпер нарадзіўся першынец Ромачак. Кожная новая вестка была страшней ад папярэдняй. Некага недзе спалілі, некага закатавалі. Расстралялі ў Вялікіх Навіках цэлую сям'ю Пагоцкіх. Зноў жа, за тую самую сувязь з партызанамі.

Найстрашней стала летам 1943 года, калі пачалася блакада Налібоцкай пушчы. Усё вакол грымела, і, падагрэтае ярасным летнім сонцам, палала, як тое пекла. Карнікі з батальёна Дэрлінвангера нішчылі на сваім шляху ўсё жывое. Палалі вёскі, пасля іх заставаліся толькі прывіды печаў ды комінаў, чорныя камені ад падмуркаў ды галавешкі. Так зніклі Янкавічы, Пруды, Баркі. Карная навалач абышла Астравы, крыху паздзекавалася, але не зачапіла Малыя Навікі, прасунулася праз Ціханаву Слабаду і падалася на Рубяжэвічы. Людзі на той час нібыта вымерлі, і затаіўшыся па хатах ды спратах, чакалі горшага. У калону, якая расцягнулася на добрую вярсту, запіхвалі прыкладамі тутэйшых мужчын, якія не паспелі схавацца, разам з людам цягнулі з хлявоў і жывёлу. Трапіў пад гарачую руку карнікаў і Вінцук, Казюкоў зяць, цяпер ён ішоў у калоне і вёў на повадзе іх пярэстую карову. Ядвіся са слязьмі, з лямантам, кінулася ў ногі да стройнага маладога афіцэра, які размаўляў па-польску. На руках жанчыны тузаўся замурзаны, заплаканы Ромачак.

— Паночку! Адпусціце мужа, аддайце карову! Мы ж прападзем во з ім, — выцірала яна вочы заплаканаму Ромачку. Афіцэр нязлосна ўсміхнуўся, абвёў доўгім засяроджаным позіркам маладуху.

— Дык што табе даражэй — муж ці карова? — з той жа ўсмешкай запытаўся афіцэр.

— Муж! Муж! — загаласіла жанчына.

— Ну то бяры свайго мужа! — афіцэр зрабіў дзіўны жэст рукой, і два канваіры, патрасаючы аўтаматамі, грубавата выпхнулі з калоны ашаломленага Вінцука, а людзі яшчэ доўга жагналіся, усхліпвалі, перагаворвалі ўсё тое, што нядаўна бачылі. «Маліцеся, людзі, Богу, што так усё абышлося!» — казалі старэйшыя. Усе, вядома ж, чакалі яшчэ горшага, але спадзяваліся на лепшае.

Мінуў адзін, а потым і другі год. Горшага, дзякаваць богу, не дачакаліся. А тое, што было пасля, напэўна, і ёсць тое самае лепшае, на што спадзяваліся. Мірная зямля пад нагамі і мірнае неба над галавою, — што можа быць лепей для чалавека, які перажыў нядаўна страшную вайну?! А вайна хоць і скончылася, але страх яшчэ ўсё не пакідаў тутэйшага люду. Страх — рэч надта жывучая, страху паддавалі чуткі пра лясных братоў, што шнырацъ бандамі па тутэйшых лясах. Нехта іх недзе сустракаў, нехта недзе бачыў, нават уцякаў ад іх без аглядкі і, дзякуй богу, уцёк. Былі і прыдумшчыкі. Хітрая Суднічыха з суседняга вострава, адшукаўшы ў «жандовым лесе» (так мясцовыя называлі

дзяржаўны лес) добрую баравіковую дзялянку, пусціла пагалоску, што за ёй там надоечы гнаўся нейкі аброслы мужчына ў адным споднім адзенні. Гэтак, меркавала, адпалохае астатніх і тыя ціхом будуць сядзець дома, пабаяцца нават сунуцца ў грыбны лес. Аднак меншыя астравіцяне тут жа высачылі, як бабуля кошык за кошыкам цягае з лесу крамяныя чарнагаловікі і падаліся яе слядамі да грыбнога нерушу. Ды калі ўжо баяцца бандытаў, то і ў лес не варта хадзіць. А як жа ты ў яго не будзеш хадзіць, калі жывеш у ім?

І ўсё ж бандытаў баяліся. Не на пустой глебе вырастала чутка, што ў мясцовых лясах шнырыць банда нейкага Барана і што паспела ўжо яна нарабіць нямала шкоды. Нападаюць тыя «бараноўцы» ў асноўным на мясцовых актывістаў. Нехта бачыў іх каля Зарэчча, у Замкавым лесе. А нядаўна падчас сходу расстралялі тыя праз акно цэлы прэзідыум вясковага сходу, у якім сядзелі важныя стаўбцоўскія начальнікі.

Можа, простаму астраўскому люду і не варта было баяцца тых лясных братоў. Чым ён ім не дагадзіў? Казалі, што ў бандзе той сапраўды запраўлялі нейкія браты Бараны, яны і скалацілі тую банду. А паколькі браты ашываюцца галоўным чынам па лясах ды хутарах, дык чаму б не асцерагацца іх і тут, у лясістых Астравах. Баяцца трэба было перш за ўсё Казюку Дучэнскаму, бо ён жа якраз і ёсць той самы актывіст, ходзіць апошнім часам па астраўскіх хатах, разам з раённымі ўпаўнаважанымі збірае люд на сходы, дзе і запісваюць у тыя самыя калгасы. Ён, як яму і сказалі наперад, і будзе першым калгасным начальнікам, мясцовым старшынёю.

Сёння Казюк зноў чакае раённых гасцей, ужо выслаў у Шашкі за імі падводу. Чакаецца самы ваяўнічы паход «у масы». Нездарма сам раённы суддзя Цесарчук узначальвае ўсю каманду. Упаўнаважаны з райвыканкама Горцаў паабяцаў у мінулы раз прывезці Казюку пачытаць «Цусіму» Новікава-Прыбоя. Былому матросу гэта будзе цікава. Казюк даўно чуў пра гэты цікавы твор і ўсё марыў пачытаць яго. Начальнік можа і забыцца. Яму, напэўна, зараз не да кніг. Дужа перажываў Казюк, што яго кніжны скарб, які ён закапаў у першы ж дзень вайны, так бясследна і знік там, на ўзлессі. Ужо як добра аціхлі ваенныя грымоты, спахапіўся ён, узяў рыдлёўку і пайшоў капаць тое самае месца, якое і запамінаў і пазначаў ядлоўцавым кусцікам. А патугі былі марныя. Капаў і перакопваў, ды ўсё дарэмна. Зямля як праглынула тыя кнігі. Не мог жа хтосьці тады падцікаваць, падумаць, што там золата. Хаця чаму не мог? Але ў тое Казюку мала верылася. Ды і пры самым двары, лічы, закапаў. А можа, згніла ў сырой зямлі за гэты час ненадзейная папера? Ды не, калі б так, то, можа б, хоць след які застаўся? А, можа, з перапалоху тады, у цемры, вечарам сам заблытаў свой след так, што згубіўся ён незваротна? Згубілася нешта большае, чым тыя кнігі. Прапала сама памяць яго далёкай маладосці.

— Ты па сваіх кнігах, як па нябожчыку якому плачаш, — злавала Казюкова жонка Зося.

— Яны і ёсць мой нябожчык! — агрызаўся Казюк. — Табе ўсё роўна гэтага не зразумець

Але не столькі прапажа кніг выводзіла з сябе ўвішную Зосю, колькі прыезд тае самае раённае «каманды». Жонка наперад ведала, чым усё гэта скончыцца. А скончыцца, як заўсёды, застоллем. Ёй жа вечарам трэба будзе іх сустрэць, пасадзіць за стол, а на стол паставіць усё, што ставяць для шаноўных гасцей. А дзе тое ўсё ўзяць? Вунь свая немалая сям'я на бульбе ды саладусе толькі і трымаецца. Як наварыць чыгун у пояс заціркі, дык і перабіваюцца ёй некалькі дзён запар. А тут панкі галодныя. Абы чым іх жа карміць не будзеш. Калі яна казала пра тое Казюку, той злаваўся:

— А гарод нашто ў цябе?

— Гарод гародам, — скардзілася Зося. — А што ў кубельцы ў нас? Апошні аполец сала...

— Трэба ў Мані ў лаўцы хоць камсы якой узяць, — ужо спакойна раіў Казюк. — Пад чарку ўсё пойдзе.

Маня нядаўна скончыла сямігодку і цяпер працавала ў лаўцы, што нядаўна адчынілася ў хаце Гарохавікаў, за добрую вярсту ад хутара, у самай цэнтры, як тут казалі.

— А грыбы ж яшчэ ёсцека, — умешваўся ў іх гамонку малодшы Чэсь.

— Во, правільна, — спадабалася гэта Казюку. — Так што, мае дарагія, бярыце з Вандаю кошыкі і марш у лес. І каб без баравікоў мне не варталіся!

Голас гаспадара набываў пакрысе ўжо іншыя, больш вясёлыя адценні. Мякчэла неўпрыкмет і сама гаспадыня.

Лета сапраўды спрыяла чалавеку, не давала яму змарнець на пасляваеннай нішчымніцы. Чэсь і Ванда часта яшчэ цёмначы беглі ў лес. Далёка хадзіць не трэба — грыбы раслі пад самым носам, у ягоным, Казюковым, лесе. Але які ён цяпер «ягоны». Калі Казюк аднойчы заікнуўся: «Мой лес», яго адразу ж асек суддзя Цесарчук:

— Какой твой лес? Надо забывать эти старые привычки! Лес отныня наш, государственный. Понял? Ты ж сам строишь новую жизнь…

Збянтэжаны Казюк прамаўчаў, хоць у душы пакрыўдзіўся, бо абыходзіліся з ім, як з малым унукам, якога нядаўна прывезла старэйшая Ядвіся з Малых Навікоў. З чатырохгодкам Ромачкам едакоў у хаце прыбавілася. Хоць колькі тое дзіця з'есць?! А вось клопатаў у хаце адразу пабольшала. За малым, якога ледзьве выхадзіў ад запалення лёгкіх доктар з Ругайца Ладноў, патрэбна было добрае вока. І ў каго ён толькі ўдаўся? На хлапчуку нібыта ўсё гарыць, ён і хвіліны не ўседзіць на адным месцы. Ромачак пачуваўся ў дзедавай хаце, як тое птушаня, якое доўга трымалі ў нейкай клетцы і раптам далі волі. Хлапчук яшчэ і гаварыць як след не навучыўся. Аднак звычкі дарослых засвойвае з ходу. Падабаюцца Ромачку і тыя словы, што часта злятаюць з вуснаў дзедавага Чэся, Ромачкавага дзядзькі. Бабуля Зося іх называе чамусьці «брыдкімі». Дарэчы, бабулю Ромачак, як і ўсе астатнія, называе «мамай». Сама Ядвіся, калі днямі па нейкай патрэбе заявілася ў Астравы, дык нават жахнулася: Ромачак як ачужэў, зусім не прызнае маці. Калі яна паспрабавала яго прылашчыць, той з плачам кінуўся да бабулі:

— Мама! Забяры мяне!.

— Я твая мама, Ромачак, — ледзь сама не заплакала Ядвіся.

— Не-а, ты не мая мама, — румзаў Ромачак.

— А хто ж тады я?

— Не ведаю…

— А я ж табе цукерачак прывезла, Ромачак! — паддобрывалася Ядвіся.

— Не трэба мне цукерак. Мне Маня лепшых прынясе, — паказваў свой характар Ромачак. І Ядвіся нават разгубілася. Зусім адзічэў малы на хутары.

Дома яна нават з нейкай трывогай казала мужу:

— Нічога не будзе, трэба забіраць малога, зусім ачужэла дзіцё.

— А што ты хочаш, расце малое, а сярод чаго расце, таго і набіраецца…

— А чаго ён добрага набярэцца ад Чэся? Мацюкоў хіба? Дык ён ужо навучыўся ім.

— Не Чэсь жа яму нянька, а маці твая, — стараўся Вінцук улагодзіць расхваляваную жонку. Вядома, разважаў ён цвяроза, малога можна было і не аддаваць на хутар, але ж у яго зараз набралася столькі клопату. Ён сур'ёзна

заняўся будоўляй новай хаты, у старой, дзе яны жылі праз сені разам са старэйшым братам Юзікам, пачуваў ён сябе нязручна, і апошнія грошы, якія яшчэ вяліся ў хаце, аддаваў на будоўлю. Пагаманілі яны гэтак, паспрачаліся і ўрэшце пагадзіліся, што нічога не здарыцца, калі малы пабудзе нейкі час на хутары. Не ў каго ж чужога.

Пройдуць гады, і калісьці маленькі Ромачак вырасце ў самавітага Рамана Вікенцьевіча, пасябруе з пяром, будзе працаваць у вядомым сталічным часопісе. І захочацца яму хоць на дзень вярнуцца на той далёкі дзедаўскі хутар, дзе некалі яму было так утульна і вольна. Але хутара ўжо не будзе, пойдуць з жыцця адзін за адным і людзі, што жылі і на ім, і па суседстве з імі. І пачне тады ён усімі намаганнямі хапацца за памяць, выцягваючы нейкімі штрышкамі адтуль і сваё, і тое, што некалі чуў і ведаў праз памяць іншых. Будуць дапамагаць яму ў гэтым і сны, у якіх былое заўсёды вяртаецца толькі такім, якім ты яго некалі пабачыў. Магчыма, з часам людзі навучацца фатаграфаваць свае сны. Колькі тады вернецца чалавеку назаўсёды страчанага ў сваёй першароднай некранутасці! Раман Вікенцьевіч, вядома ж, таго часу ўжо не дачакаецца. І ўсё ж у хвіліны глыбокага роздуму ён спрабуе вярнуцца туды, у далёкае-найдалёкае дзяцінства. Ну што ж, наперад, Ромачак!

## Граф Брэза

Яшчэ невядома, ці згадвалі б мы сёння пра нашы Астравы, калі б не ён, той дзівакаваты граф Брэза. Іх папросту б у прынёманскай пушчанскай даліне не існавала, аднак з'явіўся ён, каму ўся гэта зямля належала, а потым з'явіліся і Астравы. Гэта ў акіяне астравы нараджаюцца разам з ім самім, па волі і загадзе прыроды, тут, на сушы, усё залежыць ад волі, а часам і дзівацтваў самога чалавека. Хоць і залежны ён часта сам ад стыхіі, нораву, парывістасці, нават бушуйства прыроды, ды карціць яму, прагнецца перастварыць усё на свой лад, нават не думаючы і не зважаючы на тое, што ёсць яшчэ найвышэйшы творца, які сам у адказе за ўсё гэта, ім задуманае і зладжанае. Ён, бачыце, не можа чакаць «міласці ад прыроды», яму трэба самому дыктаваць ёй свае капрызы. Вось і нарываецца на тую самую стыхію. Але ён такі, які ёсць, і яго ў адным, ды і некалькіх пакаленнях, ужо не перайначыш. Дзівак-чалавек, не хоча зразумець таго, што сам ён таксама часціна прыроды...

З графа нашага хоць і падсмейваюцца пушчанцы, ужо ці не ў чацвёртым пакаленні, а ён жа аніяк не падобны на ўсіх нас астатніх нават паводзінамі сваімі, не толькі тварам. І не мы з вамі давалі яму той самы пашанотны графскі тытул, ён дастаўся яму разам з прозвішчам, з гэтым пушчанскім лесам, з сэрцам і характарам.

Малады граф і завітаў аднойчы ў тутэйшыя мясціны, каб паказацца свету і глянуць зблізку на сваё багацце. Прыехаў у шыкоўнай брычцы, запрэжанай у чацвярык гладкіх адной гнядой масці коней у добрым, нават вясёлым настроі. Спыніўся ў засценку Беламошша ў самай багатай хаце Рычарда Камара. Прасторная хата мела прыглядную ўтульную святліцу, вялікія ў белай шалёўцы вокны, філянковыя дзверы. У Камара і сам двор увесь аж свяціўся, гладкі зялёны і дагледжаны, пры добрых садзе ды гародзе. Была вясна, цёплая, недажджлівая. І граф, чалавек высокага росту, танклявы, светлавалосы, з добрай весялінкай на прадаўгаватым твары, цікаўным і дапытлівым позіркам аглядаў густаваты зялёны абсяг, пацешна, зусім па-дзіцячы жмурыўся ад

сонца. Ён потым сам паказваў гаспадыні, святочна апранутай з гэтага выпадку, як і што паставіць у святліцы, дзе ён будзе жыць, паміж іншым разглядаў і здымкі, што ў просценькіх рамках займалі ледзь не ўсю сонечную сцяну ад лесу, з цікавасцю дапытваўся, хто і каму ў якім сваяцтве даводзіцца.

Вестка пра маладога графа з Варшавы з хуткасцю птушкі абляцела ўвесь невялічкі шляхетны засценак, знайшлося многа цікаўных вачэй, асабліва сярод дзяўчат, а ўжо на наступны дзень усе ведалі нават тое, што гожы малады граф нежанаты, мае наконт тутэйшых лясных уладанняў шмат планаў. Раніцой Камарова суседка па мянушцы Мурынка цікавала з-за вугла, як госць, агаліўшыся да пояса, асвяжаецца вадой з непрыкметнай крынічкі пры алешніку за плотам. Потым, закінуўшы белы ручнік з вышытымі пеўнямі на плячо, тупаў да ганка. Ён і не здагадваўся, што кожны яго крок даўно адсочваецца пільнымі вачыма. Свежа-зялёны вясновы лес дадаваў настрою графа святочнасці і лагоды...

Брычцы сваёй малады Камароў кватарант адпачываць не даваў, коням таксама. Яго рэдка бачылі ў Беламошшы. Усе дні ён прападаў то ў Дзераўной, то ў Івянцы. Часам нават затрымліваўся там на некалькі дзён. Людзі казалі, што гэты шаноўны пан ездзіць і гуляе з іншымі панамі ў карты, прычым на вялікія грошы. А ў пана іх, пэўна, добрая валізка будзе. Іншыя казалі, што завёў сабе малады прыгажун каханку. Людзі ўсяго могуць нагаварыць, але сам Камар на свае вочы бачыў, як сядзеў яго кватарант аднойчы на ложку, абкладзены калодамі атласных картаў і раз за разам тасаваў іх. «Не думаю, што гэта ён варажыў па тых картах, — казаў Камар сваёй Гунэфе. — А пытацца ж не будзеш пра тое ў самога. Пэўна, да гульні нейкай рыхтаваўся...»

Камар любіў грошы, але картаў баяўся. «Карты да дабра не давядуць, — казаў ён. — Я ведаў такіх гульцоў. Яны апошнюю кашулю прайгравалі. А былі багатымі людзьмі. Карты — гэта вялікая зараза. Да каго яна прыстане — той і памрэ з ёю».

Малады граф не надта клапаціўся пра тое багацце, якое дасталося яму ад бацькі, хоць спачатку яно захапіла яго, ледзь не ўзняло на крылы. Але тут жа ўсе свае справы ён адразу перадаручыў двум сваім давераным — Камару ды Ярашынскаму. Тут ужо была бацькава навука. Яна грунтавалася на законе ракі. У ракі, як вядома, два берагі. Адзін можа быць высокі і круты, а другі — нізкі і топкі. Але абодва яны будуць дбаць пра адно: трымаць плынь у адным сваім рэчышчы. Чалавеку патрэбны таксама два свае берагі апоры. Можа, імі і будуць гэтыя два гаспадарлівыя мужчыны, лічыў малады граф...

А Мурынку, маладую суседку Камара, непакоіў клопат іншага кшталту. Як гэта падысці, як прыглянуцца маладому панічу, думала яна вечарамі, седзячы перад люстэркам, прыпёршы яго маленькай ножкай да маладога фікуса на падаконні. Думала пра гэта, часта ходзячы да калодзежа па ваду і знарочыста марудна круцячы стары калаўрот. Думка гэта неадчэпна хадзіла ўслед за ёю скрозь, дзе хадзіла яна сама, не давала ёй ноччу спаць. З маладымі такое здараецца часта. Але граф недзе ўсё прападаў, позна, часам пад раніцу вяртаўся ў сваю святліцу і потым доўга, бывала, суткамі, адсыпаўся. Коней заўсёды распрагаў сам Камар, тут жа адводзіў іх на лужок да лесу, путаў жалезнымі путамі, бо не дай бог, пакваліцца які цыган і скрадзе выгулянага стаенніка.

Пайшлі неўзабаве першыя грыбы, і спрытная Мурынка неяк завітала да Камароў з кошычкам залацістых крамяных лісічак:

— Можа, ваш паніч пасмакуе?!

І не прамінула пацікавіцца:

— А што ён хоць есць? Пэўна ж, нейкія не нашыя прысмакі?..

— Ды не, якія там прысмакі, — махала рукамі Камарыха. — Прасцяцкі ён у ядзе, непераборлівы. Пакладу вяндліны — дык нават не зачэпіць. Любіць картоплю вараную з кіслым малаком.

— Во, бачыце! — здзіўлялася Мурынка. Развітваючыся, яна прасіла сказаць графу абавязкова, што грыбы для яго збірала менавіта яна. Хай ведае, хто так клапоціцца пра яго.

А граф неўзабаве развітаўся, і шыкоўная брычка яго, лёгка пагойдваючыся на рысорах, пакіравала да гасцінца. Нейкія пільныя справы клікалі яго да Варшавы. Калі ў пушчы графа ніхто надта не турбаваў, ён там, можна сказаць, бесклапотна бавіў час, дык тут, у Варшаве, пасля смерці бацькі на яго адразу абрынулася процьма клопатаў. А клопаты, якія б яны ні былі, — гэта вам не мухі, ад іх проста так не адмахнешся. Баючыся, што ў іх можна завязнуць, як у той смале, граф неўзабаве зноў уцякаў на крэсы, у пушчу. На гэты раз у Беламошша ён заявіўся не адзін, а прывёз з сабой гарэзніцу-прыгажуню, стройную, з асінай таліяй і надта зваблівым лялькападобным тварам. Пушчанскаму гаспадару сказаў, што гэта яго сястра, а сам не ведаў, як дагадзіць сваёй красуні, папрасіў асаблівай увагі і ў Камарыхі.

Варшаўская прыгажуня як стрэльнула ў двары сваімі зялёнымі вачыма, дык і сэрца ў беднай Мурынкі аж ёкнула ад зайздрослівага болю. Красуня ніяк не выглядала на сястру, нават рыскі нідзе хоць адной падабенства не праглядвалася. І стары Камар скеміў адразу: гэта яго каханка. Яны і паводзілі сябе, як тыя два ўлюбёныя галубкі. Дзе тут, у засценку, тое схаваеш?! Ды і навошта, урэшце, ад яго хаваць? Каму якая справа да маладога, закаханага паніча?

Доўга аднак закаханыя не пацешыліся ў зялёнай лясной волі. З Варшавы нечакана прыйшла тэлеграма. Графа Брэзу тэрмінова выклікалі туды па нейкіх неадкладных справах. Хуценька сабраўшы дарожны саквояж, той сеў у брычку, якая тут жа знікла за ляснымі прысадамі.

За ўсім гэтым уважліва сачыла Мурынка са свайго бяссоннага акна. Заўважыла яна, што граф адправіўся ў дарогу адзін, пакінуўшы сумаваць у лясной адзіноце сваю зеленавокую прыгажуню. Але тая дужа не сумавала. Ужо на наступны дзень з Дзераўной, дзе быў расквартараваны польскі ўланскі полк, прыскакалі ў Беламошша на белых конях восем малайцаватых кавалерыстаў-афіцэраў. Былі яны ва ўсім парадным, яркіх рагатоўках-канфедэратках, белых пальчатках, з шаблямі пры баку. Быў у шаноўных візіцёраў і адзін асядланы конь без вершніка. Лёгкія афіцэрскія рукі падкінулі прыгажуньку ў вольнае сядло, і праз хвіліну вершнікі разам з паненкай, а яе прапусцілі наперад, лёгка паскакалі да гасцінца. Іх след неўзабаве растаў у цікаўных і зайздрослівых вачах Мурынкі.

Перад ад'ездам прыгажуня мела размову з гаспадарамі, ніхто, апрача самога Камара ды яго Гунэфы не ведае пра тыя сакрэтныя перамовы. Можна было толькі заўважыць, як спагадна ды сумна паглядзелі тыя ёй наўздагон. Здагадваліся, што прасіла тая нічога не казаць брату пра яе пушчанскую самаволку. У Беламошша паненка вярнулася праз некалькі дзён у суправаджэнні ўсё той жа світы. Моцна прытомленая, яна нікуды не выходзіла з хаты, ляжала ў ложку, гартаючы і чытаючы праз сон нейкі лёгкі раман, сумна перагортваючы яго старонкі.

Граф вярнуўся нечакана суботнім вечарам і не паспеў яшчэ прывітацца з гаспадарамі, як выскачыла з дзвярэй яна, гарэзна павісла ў яго на шыі, адразу забыўшыся, што той для яе, хоць і прыдуманы, але брат. Гаспадары толькі дзіўнавата пераглядаліся паміж сабой. Здаецца, усё абышлося. І ўсё было б добра, каб не Мурынчын доўгі язык. Падлавіла яна ўсё ж момант ды і

вышаптала графу на вуха тое, што бачыла на свае вочы. Граф адразу ўскіпеў, разбушаваўся. Куды і дзелася яго былая лагода. Ён тут жа загадаў прыгажуні збіраць валізкі. А потым, не доўга думаючы, пасадзіў яе ў брычку і адвёз у Стоўбцы. А там купіў білет да Варшавы, пасадзіў у цягнік і сумна памахаў услед рукою.

З таго часу графа як падмянілі. Цяпер у Беламошшы ён з'яўляўся рэдка. Быў увесь час у раз'ездах, — то ў Івянцы, то ў Вільні. А калі аднойчы завітаў на некалькі дзён, дык Камар яго ледзьве пазнаў. Быў ён хмуры і прыгнечаны, шэры і нявыспаны ў твары, зусім непадобны на ранейшага графа. Кажуць, сёння гуляшкі, а заўтра без рубашкі. Дагуляўся малады Брэза да таго, што прайграў у карты ўсё сваё лясное багацце — ад Астравоў да Налібок. Нехта бачыў, а можа, прыдумаў, як ехаў урэшце граф Брэза на худзенькім коніку праз Рубяжэвічы, пацягваў нешта гадкае з мутнай бутэлькі ды горка ўздыхаў:

— Эх, бутэлечка! Такое вузенькае рыльца, а прайшло праз цябе ўсё: і лес, і поле, і доля мая… І ўсё прапала… І яго не вернеш…

— Яго прыклад — усім нам навука, — любіў потым паўтараць Казюк Дучэнскі. — Кожны недзе стаіць блізка ад таго самага.

Пасля ўсяго гэтага Казюк і адправіўся ў Віленскі зямельны банк, так і прыдбаў тыя трынаццаць гектараў лесу, затое ён мае свой лясны востраў. А таму ўдзячны не толькі сабе самому, а і яму, дзіўнаму графу Брэзу.

## Двор

Двор забіраў з усяго трынаццацігектарнага багацця Казюка не так і багата месца, але тае цеснаты, якая ўласціва лясным вясковым дварышчам, тут не адчувалася. У ім можна было лёгка раскруціцца з возам, санямі, а гэтага ўжо для любога гаспадара дастаткова. Хапала месца і даўгаватаму хлеўчуку з дзвюма павецямі, і дрывотні, і склепу, і драўлянаму зрубку калодзежа з невысокім жураўлём над ім, а самае галоўнае — хаце пад высокай разгалістай чаромхай. Густыя праслы старога частаколу, што ахоплівалі кругам двор, з двух бакоў замыкаліся невысокімі жардзянымі варотамі. Вароты леваруч адчыняліся проста на ўтравелую дарогу, якая бегла ад самага крайняга хутара Трыпуцяў паміж садам і манежам з малатарняй Плескача паўз двор Судніка і да самага канцавога хутара Пугача, а там увесь прастор рассякала шаша, што цягнулася з Дзераўной да Стоўбцаў. Правыя вароты адчыняліся на поплаў з грудам, а тут была ўжо свая дарога, вясной і восенню гразкая, яна пераходзіла ў грэблю, мінала канаву і бегла далей, да цэнтры, дзе ўжо меціліся адзнакі будучай вёскі. Тут нядаўна адбудаваліся Камар і Ярашынскі, якія пасля знікнення графа Брэзы пераехалі сюды з Беламошша. Правыя вароты амаль ніколі не зачыняліся, хіба што летам, калі вярталася з пашы карова з двума бычкамі, ці выганялі з хлява свіней. Зімой пра вароты наогул забываліся. Жывучы сярод лесу, ці варта ад каго адгароджвацца? Ужо сам лес ёсць твой надзейны плот. А каму трэба дапяць да тваіх вуглоў, ён зробіць гэта лёгка і не надта намагаючыся, хай плот той будзе ўдвая вышэйшым ад самога лесу.

У гародчыку, што пачынаўся ад прызбы злева і цягнуўся на добры дзясятак крокаў да калодзежа, пры самым камлі чаромхі буйна цвілі касачы і півоні. Жоўтым цветам палалі нарцысы, чырваніліся яснымі вачыма мальвы. І ўсё гэта гожа атуляла густая, кроністая чаромха. Вясной яна ўся аж кіпела буйным белым цветам, прыманьвала да сябе цэлыя раі пчол, а ўжо восенню галіны яе выцяжарваліся цяжкаватымі гронкамі чорных, цягучых, гаркавата-кіслых

ягад. Імі ласаваліся не толькі залётныя птушкі, любіў пасмакаваць іх і маленькі Ромачак. Хоць смак той быў ледзь не са слязьмі, ягады нібыта сціналі ўсё ў роце. Ягады прасілі цукровага падмацунку, а цукру, як і солі, як і запалак, у хутаранскай хаце вечна не хапала.

Дзве высокія яловыя жардзіны, як дзве рукі, трымалі па краях плоту хісткую драціну антэны з белымі шашачкамі кандэнсатараў на канцы. Ніткаю праваду антэна была праз акно звязана з дэтэктарным прыёмнікам, дзядулевым «глоснікам».

Для птушак, асабліва для ластавак, антэна служыла нядрэнным седалам. Часта перад дажджом, калі неба густа зацягвалі хмары, ластаўкі зляталіся да антэны з усіх бакоў, і чорны доўгі ланцужок з дзюбаў і крылцаў пацешна пагойдваўся пад хмарай, нібыта хацеў скінуць яе на зямлю. А Ромачак думаў, што гэта ластаўкі злятаюцца паслухаць дзедаву музыку. Вунь і на галоўках іх нібыта насунуты нейкія слухавачкі. Яны нават нечым падобныя на тыя, што насоўвае на вушы ў хаце дзед. Гадзінамі ён можа сядзець пры акне ды слухаць свой «глоснік». Далі паслухаць неяк тыя слухаўкі і Ромачку. У вушах адразу нешта затрашчала, запішчала, нібыта іх пачалі праколваць, а потым пачуўся нейкі голас, зайграла музыка. Яна была надта звонкая, а голас шапялявіў. Ромачак напалохаўся, хуценька зняў з галавы тыя слухаўкі і больш ніколі не прасіў у дзеда паслухаць «голас з неба».

Чамусьці не падабаўся Ромачку доўгі хлеў. Было там цёмна і няўтульна, непрыемна пахла гноем, а вось калі бабуля Зося прыладжвала маленькі зэдлік, нацягвала на сябе белы фартушок, брала ў рукі драўляную даёнку і пачынала даіць рагатую лысунню, Ромачак ад яе не адыходзіў. Надта ж чараўніча стралялі ў днішча даёнкі тыя белыя цёплыя струменьчыкі.

Любіў Ромачак дрывотню пры правай, заўсёды расчыненай павеці. На дрывотні, густа ўсыпанай жоўтымі і белымі крупамі апілак, рагаціліся старыя козлікі для распілоўвання дроў. Былі яны ў частых надрэзах, але стаялі на зямлі цвёрда, гатовыя прыняць на свае рожкі любое бервяно, а танчэйшы сушняк для распілоўкі клалі на іх цэлымі бярэмямі. Побач стаяла і груваcткая бярозавая калодка, на якой калолі дровы ці звычайнай шчарбатай сякерай, ці калуном. На дрывотні моцна пахла смалой, і яе духмяністы водар не выветрываўся тут ні зімой, ні летам. Бо і сам гаспадар, і яго сын Чэсь не давалі астываць ні разаку, ні сякеры. Часам ручку разака дазвалялі пацягаць і Ромачку, якому яшчэ ўсё не хапала росту, каб дацягнуцца да яе, дык ён дацягваўся, прыўздымаючыся на кончыкі босых пальчыкаў — летам хлапчук бегаў басанож.

Крыху воддаль ад хаты знайшоў сабе прытулак склеп з невысокай саламянай стрэшкай. Для Казюковай гаспадаркі ён быў малаваты, таму рэшта бульбы заўсёды зімавала ў цёплай глыбакаватай яме пры лесе. З левага боку склепа расла высокая груша-дзічка. Вясной яна дзяліла з чаромхай усё нахлынне пчол, а па вечарах яе галіны разгойдвалі карычневыя гуллівыя хрушчы, за якімі Ромачак любіў паляваць. Злоўленага хрушча ён хаваў у пусты карабок ад запалак, а потым, калі клаўся спаць, засоўваў карабок з хрушчом пад падушку. Хрушч прарэзліва патрэскваў пад вухам, і гэтыя гукі нагадвалі Ромачку якраз усё тое, што чуў ён аднойчы ў дзядулевых слухаўках.

Уся невялікая прастора ад склепа і да самых град незаўважна для самога гаспадара зацягнулася маладым вішняком, што насеяўся ад дзвюх старых вішань, на якіх любіў гарцаваць стары рыжы кот. Вішні пладаносілі мала. Тое, што выспявала, сядзела высока ўгары, і ласаваліся ім пераважна толькі дразды. Пры самых градах расло некалькі маладых яблынь-антонавак. Яны яшчэ не пладаносілі, але на іх гаспадар меў вялікую надзею.

А вось вялізнаму гумну-адрыне ў двары месца не хапіла. Яно сіратліва стаяла за дарогай пры самым лесе, а само даўгаватае гумнішча ніколі не зарастала травой, бо яе тут жа скошвалі, каб потым пры самым гумне дасушваць сена, калі яшчэ не зусім падсохлым яго прывозілі з тутэйшых сенкосных абшараў. Летам адна палова гумна, да самых крокваў, была запоўнена маладым духмяным сенам, а ў другой палове складвалі толькі снапы з новага ўраджаю. Тут жа, на добра ўбітым гліняным таку, іх потым і абмалочвалі. Побач заўсёды напагатове стаялі тры гаспадарскія цапы. З добра адшліфаванымі за ўсе гэтыя гады біčамі і цапільнамі.

Пры самых дзвярах, добра зацененая, хавалася высокая драўляная кадушка з бярозавым сокам, які трываў тут ледзь не да самага жніва, хоць потым меў ужо якасці не соку, а квасу. Старая конаўка заўсёды вісела на цвіку побач. Бярозавым квасам праганялі смагу і на сенакосе, і на жніве, калі ад спёкі ці прытомы патрабаваўся свежы глыт ратоўнай вільгаці. Не скажаш, што двор і гумнішча чужыніліся самой дарогай, якая падзяляла іх нібыта на дзве прасторы. Не, хутчэй за ўсё яны былі як адно цэлае.

## Хата

Хату калісьці зрубілі з хвойных, не надта гладкага цёсу, бёрнаў. Хто яшчэ будзе думаць пра нейкую там гладкасць, калі няўсцерп хочацца мець сваю страху?! Але ж добрай сякеры ніколі не бывае сорамна перад не надта ўпэўненым склюдам. Высокая, амаль у два вянцы, засыпаная жаўтапёсам прызба, надавала і без таго нізкай будыніне нізкасці, выглядала яна даволі прысадзістай, нібыта сама, як тое дрэва, вырасла з гэтай балоцістай глебы. Невысокім быў і парог у сенях, бо з ім лёгка зліваўся і вялізны пляскаты камень, які служыў пры парозе ганкам. Ніхто ніколі не абчэсваў той камень, хутчэй за ўсё яго адгладзілі час ды прырода, а не абцасы яе гаспадароў ды гасцей, што апошнім часам бывалі тут не так і рэдка.

Левыя дзверы пры самым парозе вялі адразу ў святліцу, а праваруч як не ўсе сені займалі жорны з цяжкаватымі, ніжнім і верхнім камянямі, з добра выслізганым круглым млёнам, што мацаваўся пры сцяне пад самым дахам. Шыракаватыя скрыпучыя дзверы кухні якраз і выходзілі на скрыню тых жорнаў. Добрую палову кухні займала печ з прасторнай чарэнню, на якой ніколі не было цесна, нават калі зімовымі вечарамі на ёй усаджвалася ўся Казюкова сям'я разам з унукам. Сядзелі звычайна сямейнікі пры запаленай траскучай лучыне (берaглі газу), палускалі зярняткі-гарбузікі, вялі самыя розныя гавэнды. Сам гаспадар адаграваццa на печы не меў ні часу, ні жадання, а вось маленькаму Ромачку ў гэтым сямейным гурце было цёпла і ўтульна, хапала і ўвагі, і весялосці. Цешылі і сваё, і чужое вока вянкі залацістай цыбулі і торбачкі з семкамі ды арэхамі, што віселі на доўгім арэхавым шастку, а ў часы, калі свежавалі вепрукоў (перад Калядамі і Вялікаднем) быў і другі шасток, на які чаплялі на падсушку ружаватыя духмяністыя каўбасы.

У некалькіх драўляных шафках пры печы і на дзвюх паліцах каля яе нават бракавала месца для ўсяго посуду, таму гаршкі, збанкі часта віселі, сохлі ці моклі, на нізкаватых шчыкецінах плота. А вялізнаму кухоннаму сталу «на казюлях» месца было адведзена якраз насупраць чарэні пры нізкім цёмным акне на тры шыбіны ў крыжастай раме. Падлога кухні была глінабітная, гладкая, толькі пры печы ды парозе дзе-нідзе ад часу з'явіліся ледзь прыкметныя ямінкі-выбоіны, за якія часта чапляўся і падаў Ромачак.

Святліца ж не мела ніякага падабенства з кухняй. Калі няроўныя сцены кухні былі аклееныя старымі газетамі, на якіх ужо даўно выцвілі літары, дык гасцявую частку хаты добра падлагоджвалі зялёныя кветкі свежых шпалераў, добра пасавала пакою і драўляная падлога. Высакаваты чатырохкутны стол, які змайстраваў тутэйшы пушчанскі сталяр Стонька, быў засланы кваціцстым саматканым абрусам. А самы кут у святліцы і падаконні займалі вазоны: пальмы, фікусы, міртчы. Некаторыя вазоны цвілі чырвонымі яркімі каснікамі кветак. Усё гэта няўседліваму Ромачку нагадвала маленькі хатні лес, куды ён і бегаў часам хавацца ад злосных гномаў, што, як сцвярджаў дзядзька Чэсь, жывуць недзе пад печчу, разам з курамі. У святліцу меўся ўваход з кухні, які заўсёды быў завешаны нейкай дзяружкаю. Якраз перад ім узвышаўся да самай столі цагляны, пабелены вапнай, стаяк, шчодры на цяпло і не надта прагны да дроў. Ромачку падабаліся чыгунныя дзверцы таго стаяка. На іх была выціснута выява салдата з паднятай да маршу нагой. Калі ў стаяку гарэў агонь, у яго водсвеце сапраўды здавалася, што салдат усё вышэй і вышэй падымае нагу, нібыта маршыруе. Ромачак не адводзіў ад яго позірку, часам і засынаў, седзячы на зэдліку пры гарачых дзверцах. Невялікую частку святліцы падзяляла даўгаватая кваціцстая шырма, за якою стаяў куфар і два ложкі. А сама спальня размясцілася далей, за перагародкаю, дзе стаяў і нейкі тапчанок, на якім спаў Ромачак.

Няўтульна выглядала святліца толькі зімой, калі ў ёй снавалі кросны. Яны тады займалі ўсю сярэдзіну пакоя, пасоўвалі да самага акна стол. Але гэта была толькі часовая нязручнасць. Перад самым Вялікаднем кросны адпраўлялі на адпачынак, разбіралі іх і хавалі на гарышча.

## Груд

Груд тут, у самым пушчанскім нізоўі, выглядаў светлым сонечным пагоркам, які адразу ж пераходзіў у спелы травяністы поплаў, добра ўтканы дзьмухаўцамі ды лотаццю, дзе-нідзе з белаватай казіной, якую час ад . часу выпальвалі. Поплаў цягнуўся ўздоўж старой канавы, аж да самай шашы, перабягаў нават яе, пераходзячы далей у густы змешаны лес. Злева ён абрываўся хутаранскімі гародамі, а справа яго шырокім плынным нажом падразала канава. Гэтак акрэслівала свае межы тутэйшая паша. Ніхто і ніколі тут не касіў, з ранняй вясны і да самых Пакроваў толькі пасвіўся хутаранскі статак.

На самы груд жывёлу амаль не пускалі. І пастухі, і маленькія падпаскі берaглі гэтую гарыстасць без дрэў і кустоўя, з духмянымі чмялінымі купінамі для сваіх забаў і адпачынку. Тут кожны раз, акрамя хіба гарачых летніх дзён, гарэў агонь і амаль ніколі не астывала вогнішча. У ім пяклі бульбу, а калі хто прыносіў з дому сала, смажылі яго на ражэнчыках, падкінуўшы дзеля паху ў агонь сырога ядлоўцу. Тады сала не толькі смажылася, а яшчэ і вэндзілася. Лепшай смакаты вясковая душа і не ведала.

На такіх вось грудах прашчуры нашы калісьці будавалі храмы і маёнткі. Месца і надта было прыгляднае. Трэба толькі здзіўляцца, чаму не ўсміхнулася яно якому з магнатаў. Хоць той жа самы граф Брэза, напэўна ж, меў наконт яго свае намеры, і нейкія сцены нават у думках выбудоўваў. З’явіліся б сцены, можна было б унізе, дзе цячэ канава, і азярко вымаляваць. Вады ж хапала. А добра, што і пастухоўства мясцовае для сваіх уцех мела гэта звабліваe ўзвышэнне. Часам і падарожнік, зусім чужы чалавек, спыняўся тут, садзіўся на прымшэлы валунок ля падножжа груда, каб зацягнуцца дымком люлькі ці звычайнай самакруткі ды ўзважыць цвяроза сваю нейкую патаемную думку.

І самалёты, лёгкія на ўзлёт стракозкі, штораз зніжаліся над гэтай мясцінай, прывітальна махалі крыламі, а то рабілі круг — напэўна, пацешна глядзеўся зверху той лысы груд, бо такой увагі да сябе не памятае ніводная пушчанская мясціна.

А яшчэ адсюль разганяліся буслы, калі апрабоўвалі перад выраем крылы маладых сваіх глюгачоў. Тут заўсёды ладзіліся перададлётныя бусліныя манеўры. Слабенькіх часам пакідалі, не бралі з сабой у вялікую дарогу, і тыя часта зімавалі пры нейкім хутары, выходзячы днём да прамерзлага балота.

Пэўна ж, не па мапе ды компасе адшукалі гэты груд недзе адразу пасля вайны вандроўныя цыганы. Доўгі абоз іх неяк летам спыніўся за канавай, збочыўшы з гасцінца, і вясёлы гаманкі табар адразу пачаў уздымаць свае шатры. Іржалі коні, дыміліся вогнішчы, і трывожліва брахалі пушчанскія сабакі. Не спадабалася гэта і пастухам — іх нібыта выжывалі з абжытага, але задзірацца з прыблудамі тыя не захацелі, пачалі цярпліва чакаць, калі вандроўцы самі зразумеюць, што яны тут чужыя. Чарнавокія, гнуткія ў стане жанчыны, панадзіліся адразу блукаць па хутаранскіх дварах, варажылі на картах, абяцалі тутэйшым маладзіцам цэлыя горы шчасця, а тыя расплачваліся за ўсю гэту цыганскую хлусню то яйкамі, то маслам, то гарцам мукі ці круп. Умелі выцыгньваць харч і малыя, басаногія і кудлатыя цыганяты. А вось мужчыны з табара ў пушчанскіх дварах паказваліся рэдка.

Вечарамі ў заканаўі чулася музыка, плылі на ўсю пушчу вясёлыя цыганскія песні. Астраўскія кавалеры раней за пастухоў адшукалі дарогу ў цыганскі табар, а калі былі на падпітку, заходзілі туды, як да сябе дадому, зусім не адчуваючы няёмкасці, як быццам былі даўно знаёмыя, ці доўгі час жылі разам.

Пасябравалі астраўскія хлопцы з цыганскім гарманістым Агдалем. Гэты быў не раўня нашым саматужным музыкам, якія ігралі абы-як і «ўсяго патроху». Агдаля сыпаў з ружаватых мяхоў гармоніка сапраўдным жарам. Як толькі расцягне іх, ды яшчэ голасам густым падхопіць, дык і на душы адразу харашэе, і як казаў адзін пушчанскі рыфмач, «тут жа ногі просяць самі больш актыўнай дзейнасці». Таго Агдалю жадалі мець на кожнай пушчанскай вечарынцы. Гэтым і карысталіся астраўскія дзецюкі, якія прыходзілі заўсёды на дапамогу ў якасці памяркоўных пасрэднікаў. Агдалю ахвотна адпускалі з табара, бо вяртаўся ён хоць на другі ці трэці дзень, але кожны раз прывозіў з сабой то мяшок зерня, то бульбы, то яшчэ якога дабра, бо закон у музыкаў такі: калі заказваюць музыку, дык і нешта плацяць за яе.

Малога Ромачка Чэсь з Вандаю часта палохалі тымі цыганамі, якіх ён не бачыў на свае вочы. Яго ўяўленне малявала іх нейкімі дужа страшнымі зверчукамі, што водзяцца дзесьці глыбока ў пушчы, а да людзей з'яўляюцца толькі сярод ночы. На груд Ромачак пачаў паказвацца толькі на наступнае лета, калі добра абжыўся ў дзядулевай хаце, а з пушчы ціха і раптоўна з'ехаў цыганскі абоз. Адразу пасля Сёмухі, як толькі пацяплела і адскочыла першая кволая трава, ён памагаў бабе Зосі выганяць на пашу рыкастую Лысунню і двух яе бычкоў, большага і меншага. Баба гнала дручком сваю жыўнасць да груду, а Ромачак драцяным кірульцам гнаў услед за ёю свой паслухмяны жалезны абруч. Абруч яму прыдбаў дзядзька Чэсь, дзесьці зняў яго з пакалечанай ваеннай машыны. Усе большыя і меншыя за Ромачка падпаскі мелі такія абручы, умелі кіраваць імі. Ромачкаў абруч быў спачатку непаслухмяны, а потым малы навучыўся не толькі бегаць за ім, але кіраваць, прыспешваць і тармазіць. Абруч на радасць Ромачку так роўна каціўся па яшчэ не зусім падсохлай сцяжыне ды крыху дзіўна вызваньваў нейкую сваю мелодыю. Абручом каціўся па грудзе і сам веснавы дзень.

На грудзе, пры вогнішчы, большыя пастухі рэзаліся ў карты, дружна высмейвалі тых, хто заставаўся «ў дурнях». Карты былі нарэзаны з вокладак нейкіх старых кніг, смешна размаляваныя хімічным алоўкам, усе масці мелі адзін сіні колер. Але кожны, хто трымаў іх у руках, уяўляў, што ён трымае куплёныя, бліскучыя атласныя карты, якія бываюць толькі ў сапраўдных багатых карцёжнікаў.

Ромачка тут жа малыя ўцягнулі ў гульню, якая называлася «пікарам», далі ў рукі арэхавы кіёк, і ён разам з усімі бегаў па грудзе, кідаў, на колькі хапала сілы, той кіёк, а потым спяшаўся разам з усімі, каб ухапіць яго як найхутчэй. І тут, і там хапала смеху і весялосці. Для малых лепшага нічога і не трэба. Толькі б іх не трывожылі дарослыя.

У той дзень Ромачку пашанцавала і на чмяліны мёд. Нехта з меншых адшукаў у купіне чмялінае гняздо. «Вялікія пчолы», як называў іх Ромачак, чорна-белыя, з яркімі аксамітавымі, раздвоенымі на большую і меншую палавіну крылцамі, мітусліва кружыліся над купінай, не давалі падступіцца. Толькі потым нехта са старэйшых пужыльнам, распароўшы купіну, выграб адтуль некалькі святлістых шышачак чмяліных сотаў. Адну з іх далі і Ромачку. Ён баязліва браў яе ў рукі, а яна, заклееная зверху празрыстай плевачкай, уся аж залацілася ад мёду. Яму далі саломінку і паказалі, як трэба высмоктваць тое, што было ў васкавой шышачцы. Рэдкі, як вада, мёд аддаваў нейкай травяной гарчынкаю, але Ромачку дужа спадабаўся. Такое смакоцце ён спрабаваў упершыню.

Меншыя зайздросцілі большым. Некаторыя з бальшуноў мелі ўжо свае гаманцы, а ў іх хаваліся белыя і жоўтыя капейкі, нават зеленаватыя папяровыя грошы. Важна было ўсім гэтым пахваліцца перад меншымі: «Во які я зух!» Нехта хваліўся нават, выцягваючы з кішэні зашмальцаваны авечы капшучок з тытунём, скручвючы пры ўсіх цыгарку з абрыўку нейкай паперчыны, а потым прыкурваючы яе ад вугалька з вогнішча. А яшчэ кожны з бальшуноў меў свой сцізорык, маленькі ножык-складанчык, пераважна самаробны, скляпаны ўдала з нейкага старога ляза. Звычайна іх насілі ў кішэнях на пяньковых тонкіх вяровачках. А вось у Чэся, дзядзькі Ромачка, сцізорык быў прычэплены да блішчастага ланцужка, які весела пабліскваў над правай верхняй кішэняй фрэнча, каб усе бачылі, які ён франтаваты. Чэсь і хваліўся, і ганарыўся сваім сцізорыкам з блішчастымі перламутравымі чырвонымі тронкамі. Складанчык быў фабрычны. Чэсь хітравата прыўсміхаўся, калі бачыў, якімі прагнымі вачыма сочыць за яго дарагой рэччу пляменнік, і часам адчэпліваў ланцужок і даваў малому патрымаць у руках тыя блішчастыя тронкі. Тады Ромачак адчуваў сябе самым шчаслівым на свеце, нават забываўся пра ўсё іншае, таксама прыцягальнае, што даводзілася бачыць на грудзе.

Там, на грудзе, Ромачка навучылі спускаць свісткі з маладых, толькі нядаўна ахопленых зялёным лістам, галінак. Надрэжаш яе наўскос, потым абвядзеш лязом кару па даўжыні свістка, абстукаеш яе тронкамі, і кара тут жа адстае, лёгкай трубачкай скручваецца. Потым на галінцы робіш невялікае заглыбленне для паветра, надзяеш скручаную кару на яе ранейшае месца — і свісток гатовы. Самыя найлепшыя атрымліваліся з галінак лазы і арэшыны. Усе свісткі чамусьці свісталі адным голасам, гэта быў голас новай вясны.

А нядаўна дзед Казюк недзе з-за Нёмана прывёз у сваю хату падлеткупастушку, якую адны звалі Веркай, іншыя — бежанкай. Ромачак так упадабаў гэта чарнявае дзеўчанё, нібыта яна была яго сястрой. Ён хадзіў па пятах за бежанкай, выганяў і пасвіў разам з ёю карову, нават абараняў, кідаўся з дубцом, калі да яе чапляліся назойлівыя бальшуны. А тыя набралі ўжо добры хлапечы ўзрост, былі пераросткамі, вайна надрэзала ім некалькі дарагіх школьных гадоў.

А прырода давала ім тое, што і павінна даваць чалавеку. Не мог цярпець Ромачак, калі бальшуны кідалі яго Верачку-бежанку на купіну, спрабавалі задзіраць сукню, ён кідаўся на іх з кійком, а тая і сама, як магла, адбівалася пужыльнам. На дапамогу Ромачак клікаў з-за поплава дзядзьку Чэся, а ў таго быў нейкі свой клопат на блізкім хутары. Бальшуны так дапяклі самотную Верачку, што тая паскардзілася грознаму Казюку, і той прымчаўся аднойчы на груд з бізуном у руках. Босыя пяткі бальшуноў толькі бліснулі за канавай. Скончылася ўсё тым, што Верачку аднойчы дзед пасадзіў на воз і зноў адвёз туды, за Нёман. Дзе той Нёман і які ён, Ромачак яшчэ не ведаў і ніколі не бачыў яго. Толькі здагадваўся, што гэта нешта куды большае за іх зеленаватую канаву.

Сам груд у сваёй значнасці мог паспрачацца з любым востравам, бо тут было больш, як дзе, і волі, і прасторы і паветра, і нават непаслушэнства, а то і разбэсты, і кожны «смаркач» гнуў тут сваё, хацеў вылучыцца паміж іншых. А гэта збоку выглядала і надта смешна.

Хлапчукі любяць гуляць у вайну, на тое яны і хлапчукі. Гульні ж у яе на нашым грудзе былі і надта блізкімі ад самой вайны, бо паўсюль бачылася яшчэ багата яе слядоў, свежымі былі і ўспаміны пра яе. Той жа мурзаты кароткаштанны Ромачак між сваіх малых равеснікаў пачуваўся ўжо героем, бо нядаўна тутэйшы ўчастковы Стрэмка дазволіў патрымаць яму ў руках сапраўдны наган. Проста дастаў з кабуры, на якую ўвесь час зыркаў вачыма малы, і даў у рукі: «На, пагуляй!» Пра гэта ўсе ведалі і нават зайздросцілі Ромачку, але тут, на грудзе, у іх была свая зброя. Яны шукалі і знаходзілі тыя самыя патроны, якіх па лесе вайна насеяла больш, чым грыбоў. Хлапчукі цягалі іх шапкамі і тут жа кідалі ў агонь, а потым, адбегшыся, назіралі, як тыя бязладна папуквалі ды разам з кулямі рассыпалі па баках гарачае вуголле. Колькі ў гэтым было радасці, незразумелага захаплення, ведала толькі сама дзіцячая душа.

Нехта з большых прывалок аднойчы на груд сапраўдную вінтоўку. Яны доўга, з заміраннем сэрца разглядвалі яе, цягалі за рукаятку затвора, узводзілі яго, націскалі на спускавы кручок. А потым у некага з'явілася абойма патронаў з блішчастымі галоўкамі куль. Загналі затворам у патроннік адзін патрон, але стрэльнуць ніхто нават з бальшуноў не адважваўся. Чуў хтосьці ад старэйшых, што прыклад, калі страляеш, б'е балюча ў плячо. А плечы ж яшчэ кволенькія, худзенькія. Выйсце ўсё ж знайшлі, дадумаліся. Цаўё вінтоўкі надзейна прыкруцілі дротам у расшчэліну старой хвоі, накіравалі яе на кусты, узвялі затвор, а даўгаватую вяроўчыну зацягнулі за спускавы кручок і… адбегшыся, тузанулі. Стрэл грымнуў глухавата, але з добрым раскацістым рэхам, у кагосьці аж у вушах заклала.

Дарослы люд як быццам і не заўважыў таго пастухоўскага свавольства ці проста не звярнуў на яго ўвагі. Дарослым хапала сваіх клопатаў, яны рыхтаваліся да новага, невядомага ім жыцця, пачыналі звозіць у цэнтру свае старэнькія гумны, будавалі вялізную канюшню і яшчэ большую пуню. Вазілі на тых самых, яшчэ сваіх конях, якія ўжо заўтра будуць не іхнімі, а як казаў Казюк, «калекцiўнымі».

## Гасцінец

Гасцінец Казючок запамятаў з таго часу, як першы раз услед за маці пратэпаў па ім сваімі босымі кволымі ножкамі. Гасцінец пачынаўся з гумяноўскага скрыжавання і добра бачыўся з двух левых дзедавых акон, даўгаватым шэрым паскам з-пад зялёных вершалін лесу ён забягаў у іншы, той самы «жандовы лес», цягнуўся да Хатавы і ўрэшце выбягаў на івянецкую брукаванку.

Шкада, што дзедавы два левыя акны не ўмеюць гаварыць, а паказваюць толькі тое, што самі бачаць. А калі б яны ўмелі прамаўляць на чалавечай мове, то маючы, як і ўсё на свеце, сваю памяць, нагадалі б нам столькі цікавага і непаўторнага, што за адно жыццё ніколі не пабачыш. Памятаюць яны не толькі тутэйшых кірмашовых вазакоў, але і коней з вясёлымі вясельнымі шамкамі, з даўжэзнымі, як абняць вокам, вазамі і санямі, і шасцерыкі шаленістых коней, на якіх перад самым маем імчаліся з Варшавы ў свой пушчанскі маёнтак паны Дзяржынскія. Пазней коней памянялі на хуткія гудлівыя аўтамабілі. Калі яны паказваліся на гасцінцы, падзівіцца на іх выбягалі з лесу і старыя, і малыя. Па гасцінцы сноўдалі і грыбнікі, і каморнікі, і паштары, і проста жабракі. Рухаліся па ім і змораныя пехацінцы Першай сусветнай, і лёгкія польскія ўланы, а потым і шэрыя калоны карнікаў Дэрлівангера.

Добра запомніўся гасцінец і Ромачку. Некалькі разоў маці забірала яго з дзедавага хутара і вяла ў Малыя Навікі, дзе была іх родная хата. І дзедаў лес, і поле пры ім з вялізнай кучаравай арэшынай выходзілі да самага гасцінца, адкуль зусім па-іншаму глядзеўся і сам астраўскі хутар, і ўсе астатнія двары, што астраўкамі рассыпаліся на вялізнай далоні выкарчаванай ды апаленай пушчанскай прасторы. Да кожнага з іх вяла ці дарога, ці свая сцежка.

Пры самым гасцінцы, дзе адгаліноўвалася лясная дарога на Малыя Навікі, стаяў высокі драўляны крыж з невялікім драўляным распяццем пад бляшаным узорыстым німбам. У гародчыку, што акаймоўваў крыж, густа кусцілася, ружовымі кветкамі палала калючая шыпшына, а праз яе ледзь праглядваліся зялёныя шабелькі касачоў з жоўтымі і сінімі кветкамі над імі. Маці Ромачка заўсёды прыпынялася ля крыжа, жагналася, потым акідвала доўгім позіркам бацькава поле, і яны ішлі далей сцяжынай пры хвойным старым лесе, паўз старую гаёўку, ад якой застаўся толькі адзін падмурак з цяжкімі зеленаватымі валунамі, што здалёк нагадвалі нейкіх дзіўных і нерухомых жывёлін. Сцежка вяла да малінніку, дзе пад нагамі чвякала дрыгвяністае балота. Да хады Ромачак быў неахвочы.

— Ой, ножкі баляць! — плакаўся ён маці. І тады яна прыгіналася, а ён узбіраўся на яе спіну, абхопліваў ручкамі шыю, і яны рухаліся далей. У малінніку было цяжэй, маці даводзілася пераскокваць з купіны на купіну, каб не завязнуць у дрыгвяністай багне. Маці стамлялася, цяжка дыхала і толькі на беразе канавы ставіла Ромачка на ногі.

— Тупай сваімі ножкамі, не будзь гультаём, — казала яна. Не разумеў Ромачак, як было маме цяжка, а таму ўпарціўся, садзіўся ў траву і капрызліва хмыкаў, слязліва жаліўся.

А неяк праз сцяжыну, якую яны адольвалі па траве, шаснула доўгая шэрацёмная гадзюка. Маці спалохана войкнула, тузанула балюча Ромачка за руку, і страх той перадаўся Ромачку на ўсё жыццё. Сам ён падрастаў, сталеў, а ўбачыўшы раптоўна дзе-небудзь змяю ці вужа, пускаўся спалохана на ўцёкі.

А гасцінец бег сваім кірункам. У лесе ён пачуваў сябе больш упэўнена. Тут было заўсёды ціха, нават утульна. Дзе-нідзе ў лагчынах цямнелі застоеныя лужы, якія рэдка калі перасыхалі. Іх абыходзілі і аб'язджалі то з аднаго, то з другога боку. Гасцінец часта перакрыжоўваўся сцяжынамі, новымі паласамі каляіністых і карэністых дарог. А дзесьці пасярэдзіне, на падвышаным прагале гасцінец раздвойвала ўжо не лужа, а высакаваты лоўж, які то ўзнікаў, то раптоўна знікаў, кімсьці падпалены. Месца гэта называлася «забітым хлопцам». Старыя людзі казалі, што гэтым шляхам ішоў некалі хлопец-паштавік, а яго падпільнавалі і забілі нейкія бандыты. У сумцы паштавік нібыта нёс вялікія грошы. Памяць пра забітага перадавалася з пакалення ў пакаленне.

А паміналі хлопца гэтак: хто ні едзе, хто ні йдзе — спыніцца, ды пакладзе на тое месца сухую галінку. А калі вырастае цэлы лаўжок, нехта абавязкова яго падпальвае, хутчэй за ўсё — самі леснікі. Ромачку заўсёды рабілася страшна, калі яму нагадвалі пра тое месца. А для ўсіх астатніх гэта быў своеасаблівы лясны компас. Калі ў каго-небудзь з хутранцаў ці вясковых пыталіся, дзе ён збіраў грыбы, адказ можна было пачуць такі: «Ды там, каля «забітага хлопца». І ўсім адразу было зразумела, дзе гэта.

А крыху далей у лес і бліжэй да Хатавы, якая спрадвеку славілася сваім броварам, пры самым гасцінцы тулілася смалярня.

Яна яшчэ здалёк нагадвала пра сябе рэзкім водарам дзёгцю і шкіпінару. У гэтым месцы рос гоністы стромы хвайняк, яго ствалы былі пакрэслены скрозь белымі стрэламі падсочкі. Саму смалу-жывіцу па панядзелках у высокіх драўляных бочках звозілі ў двор смалярні. Гліняныя востраканцовыя кубачкі ад падсочкі віселі не толькі на ствалах, а часта без патрэбы валяліся пры дарогах, імі забаўлялася мясцовая дзятва.

Гасцінец вабіў да сябе малога Ромачка. Толькі адно было яму няўцям, чаму гэта адным і тым жа словам называюць і дарогу, і тое смачнае, што прывозяць з кірмашу, а яшчэ яго часта цётка Маня прыносіць са сваёй лаўкі за канавай.

— Так бывае, каток мой, — казаў яму дзед Казюк.

Ромачак ведаў адно: знаёмых і незнаёмых гасцей трэба чакаць з гасцінца. У гэтым потым перакананае яго і само жыццё.

* * *

«Стаўпецкія панкі», як называла Казюкова Зося раённых начальнікаў, ужо другія суткі не давалі спакою астраўскім хутаранцам. Пасля не зусім удалага сходу ў самай большай хаце ў Карніцкіх, падаліся яны па хатах. Гэтым разам даўгавата правалтузіліся на хутарку ўпартага Макася. Таго худатварага высокага пушчанца ўгаварыць запісацца ў калгас было не проста.

— Не, не буду запісвацца! Рабіце са мной, што хочаце! — стаяў той на сваім. Ён нядаўна вярнуўся з Баранавічаў, наведваў там сваю дваюрадную сястру дык наслухаўся шмат пра ўсходнікаў, якія ў тыя калгасы ўступілі яшчэ да вайны. Казалі, цяпер тыя цягнікамі едуць сюды, каб выменяць нейкае адзенне на тутэйшы харч.

Людзі жывуць без хлеба. «Чакае такое і нас», — палохаў ён жонку.

Суддзя Мікалай Цесарчук зрываў голас, даказваючы Макасю, якое залатое жыццё чакае яго, калі ён уступіць у калгас. Але тое на ўпартага гаспадара не дзейнічала. Цесарчук абводзіў знішчальным позіркам усю сваю каманду, кідаў злосныя іскры на Казюка, а той падхопліваўся з доўгага зэдля, на якім яны сядзелі, прытуліўшыся да сцяны, то выбягаў у сенцы, то зноў вяртаўся і садзіўся на краёк зэдля. Тут ужо ўзрываўся і фінагент Горцаў:

— Мы што, табе не ясна тлумачым? Можа, і не адразу, але ж будзем жыць, як і не снілася нікому.

— Лепш аднаму есці мала, чым разам — сала, — спрабаваў жартаваць Макась.

— Разумнік, глядзі ты! — узрываўся ўчастковы Стрэмка, гасячы аб падэшву бота засмактаны недакурак. Злаваліся начальнікі. Ледзь не цэлы доўгі чэрвеньскі дзень яны патрацілі на аднаго гэтага ляснога вупара, а ён і не думае здавацца. Вунь ужо і не распрэжаны з раніцы конь, прывязаны да шула, выскуб пры плоце добрую палянку мурагу, а ў іх і ў роце цэлы дзень

нічога не было. Толькі паляць без перадыху тытунь, ды выходзяць за плот, каб памачыцца ці вады конаўку выпіць. Упёрся чалавек, як той конь у плот — ні туды і ні сюды.

Калі падняліся з зэдля і ўжо адчынілі дзверы ў сенцы, Цесарчук паглядзеў на гадзіннік, схаваны ў даўгаватае рукаво фрэнча, а потым яшчэ раз вярнуўся, змераў зласнаватым позіркам гаспадара і амаль пагрозліва кінуў:

— Падумай добра, грамадзянін Макась. Даём табе падумаць да раніцы! А там… сам дагадвайся, што можа быць!..

Хоць гэта быў і не прысуд, але ў вуснах надзьмутага суддзі нават і звычайнае бяскрыўднае слова часта гучыць як намёк на яго. Ён ведаў з вопыту: і таго, што прамоўлена было хай сабе і надта лагодна, дастаткова, каб чалавек не толькі падумаў, але і задумаўся. І той задумаўся, што можа здарыцца ў выпадку такога ўпартага супраціву ўладзе. Яшчэ свежай была ў памяці высылка Сымона Пугача. Ад яго вялікага хутара пры шашы застаўся толькі вялікі сад, які цяпер будзе належаць ужо калгасу. Хапун той адбыўся самай ноччу, зімою. Пасадзілі ўсю сям'ю ў сані, сабралі сёе-тое з маёмасці ў клункі ды і павезлі на станцыю ў Стоўбцы. А там пагрузіліся ў таварныя вагоны і — бывай, пушча. Але ж Пугач быў не яму раўня. Той меў гаспадарку, якая пушчанцам і не снілася, меў нават сваю млячарню, дзе выраблялі сапраўды панскі сыр, у млячарні працавалі тутэйшыя людзі. Малыя з Астраўскіх хутароў бегалі да той млячарні, каб паласавацца абрэзкамі ад панскага сыра. Нават тыя абрэзкі здаваліся малечы неймавернай смакатой. А хто ён, Макась, у параўнанні з Пугачом?.. Так, нейкі незайздросны паўсераднячок. Ён сам з сябе і смяяўся: «Серадняк я — торбы па баках, а сам пасярэдзіне». З упартых ён адзін, відаць, і застаўся. Але ж нездарма кажуць: як не ўтрымаўся за грыву, дык і на хвасце сарвешся. Нават калі не вывезуць яго ў тую Сібір, якой многія былі напалоханы, дык зробяць адшчапенцам, абкладуць, як таго ваўка, з усіх бакоў, ды пачнуць тыкаць пальцамі. А ўсе ж астраўскія запісаліся-такі ў калгас. Вунь ужо і гумны іх сцягваюць у цэнтру, дзе будуць агульная канюшня, гумно і свіран, толькі невядома, якім будзе само жыццё.

Круціліся, глуха грукалі па грэблі колы старога воза, высланага вышэй драбін маладым сенам, воблака выкручастага сіняга дыму з-пад дарагога «Беламору» кацілася над грывай сівога каня, разганяючы назойлівых камароў і казычучы ноздры. Камандаўцы вярталіся на Казюкоў хутар, дзе іх ужо чакала вячэра з чаркай і добрай закускай, а потым і салодкі сон на свежым сене ў прылесным гумне, якое для прыліку пакінулі начальніку-гаспадару. Сонца ўжо села за кашлатыя вершаліны заканаўнага бору, толькі чырвоная палоска зары яшчэ ўсё адсвечвалася ў верхніх шыбінах вокан. Гаспадыня тым часам падаіла карову, працадзіла малако і пачапіла на плот памытую цадзілку і, не запальваючы святла, чакала гасцей. Іх галасы ўжо былі выразна чуваць з-за груду. Галасы зліваліся ў хор, і выдзеліць чый-небудзь адзін з гэтага хору было немагчыма. Адчувалася, што мужчыны прытаміліся, што дзень для іх быў доўгім і надакучлівым, хоць гамонка перабівалася і смехам, нават рогатам. Чаму б пасля працоўнага дня і не пажартаваць?! Гаспадыня ведала, што гамонкі тае яшчэ на добрай паўночы хопіць і за сталом.

Пакуль Казюк з Чэсем выпрагалі каня, госці, распрануўшыся да пояса, спакваля асвяжаліся ля студні. Там, пры самым зрубе, стаяла вядро з вадой, і Ромачак з меднай конаўкі паліваў халодным струменем на рукі і спіны мажным гасцям, заходзячыся ад рогату, калі тыя моршчыліся, пакрэктвалі, скакалі і прыгіналіся, падбадзёраныя калючым халодным струменем. А яны не прамі-

налі пырснуць і яму ў твар, ды так, каб хлапчук ад нечаканасці і конаўку з рук выпусціў. Ромачак з-пад ілба, незаўважна прыглядаўся да кабур з наганамі, што абцяжарвалі папружкі раённых начальнікаў. З кабур праглядваліся гладкія цемнаватыя рукаяткі наганаў.

Рукі і вочы Ромачка самі цягнуліся да гэтай таямнічай зброі. Яму ўжо дазвалялі пагуляць з ёю, і ён ад шчасця і разгубленасці не ведаў, што рабіць, бегаў з кухні ў святліцу, цэліўся ў кожны сучок на сталі. Сёння, можа, пашанцуе таксама, бо вунь як паддобрываецца Ромачак да ўчастковага Стрэмкі, палівае і палівае з конаўкі яго загарэлы дужы карак, падае мыла і ручнік.

І вось Стрэмка, памыўшы карак, выцершы яго, адшпіляе кабуру. Ягоная чырвона-сіняя фуражка ўжо даўно на галаве ў Ромачка, вузкі раменьчык ад яе гайдаецца пад барадою. А ў рукі тут жа трапляе і наган. Ён бегае, куляецца з ім у дварышчы, забягае ў хату. Зараз Ромачку хочацца толькі аднаго: вось бы ўбачылі яго з тым наганам сябры-пастушкі. Во было б зайздрасці!

А гасцям тым не да малога. Яны хутчэй спяшаюцца за стол. Баба Зося нясе ўжо перад сабою саганок з разварыстай бульбай. Ён на ўсю хату дыхае вільготнай гарачай парай. Пад бульбу, салёны агурок ды хрумсткі леташні груздок добра ідзе чарка. За сталом яшчэ ціха, выпіты толькі першыя стограмоўкі нечага моцнага, дымнаватага, ад якога і здалёк Ромачку пячэ ў носе. Ён бачыў неяк, як тое моцнае і сіняе, па саломінцы цячэ ў вядро там, ля самагоннага апарата, у алешніку пры канаве, і яшчэ бачыў, як смакуе яго дзядзька Чэсь, спачатку моршчачыся, а пасля і весела ўсміхаючыся. Чэся за стол не запрашаюць — няма чаго падлеткам прывыкаць да застольных звычак. Яны нядаўна з сястрой Вандай падаліся недзе на хутары на свае маладыя гулі.

Моцную чарку госці запіваюць бярозавым квасам з той самай кадушкі, што стаіць у гумне, прыцярушаная сенам. Госці неўзабаве павесялеюць, разгамоняцца, а тады будуць намнога дабрэйшыя, чым зараз, нехта, магчыма, яшчэ палезе ў кабуру, выцягне з яе прыгожы наган, выдзерне з рукаяткі абойму з жоўтымі джальцамі патронаў, а ствалок чорненькі, варанёны, апынецца ў руках Ромачка. Аднаго нагана яму сёння мала.

Начальнікі, калі сядзяць за сталом, усе вясёлыя і добрыя. Гэта там, у двары, яны крычаць, сварацца адзін на аднаго, выкрыкваюць тыя самыя брыдкія словы, якія Ромачак часта чуе ад Чэся і ад самога дзядулі, ён нават навучыўся гаварыць іх сам, часта, дзе папала, паўтарае іх. За што баба Зося сцябае яго скарачом.

Быў толькі аднойчы адзін, чужы начальнік, відаць, вышэйшы ад гэтых. Больш яго Ромачак не бачыў. Той, высокі з бліскучымі залатымі зубамі на паўрота, чамусьці ўзяў Ромачка за руку, павёў у кут да абразоў і спытаўся:

— Хто гэта?

— Божынька, — адказаў малы, як вучыла яго баба Зося. А потым ён падвёў Ромачка да вялікага партрэта ў новай драўлянай раме, што вісеў пры самым парозе ў святліцы. Гэты партрэт, які нядаўна пачапіў дзед, нават падабаўся Ромачку. На ім быў намаляваны нейкі прыгожы чалавек з вусамі, аззяны золатам гузікаў ды вялікіх бліскучых пагонаў на шырокіх плячах. Стрэмкавым пагонам з маленькай зорачкай на іх было далёка да тых, што залатым россыпам адсвечвалі на партрэце. Высокі падвёў Ромачка да партрэта і зноў запытаўся:

— А гэта хто, ведаеш?

— Ведаю — вусач кламлёўскі, — адказаў Ромачак, як вучыў яго дзядзька Чэсь.

І тады высокі замахаў рукамі і ледзьве не з кулакамі накінуўся на дзеда:

— Ты как, твою мать, воспитываешь внука? Ты же знаешь, что за такие слова и сам можешь загреметь?..

— А я яго не васпітываю. Хай бацька васпітывае, — асцярожна агрызнуўся тады дзед. А Ромачак спалохаўся, пабег і схаваўся пад фартух бабы Зосі.

Ніхто больш да Ромачка не чапляўся з нейкімі цяжкімі пытаннямі, толькі дзед потым доўга сварыўся на Чэся:

— Гэта твая работа. Вучыш малога, чаму не трэба.

У Ромачка памяць была чыстая і свежая, ён тут жа лавіў і запамінаў усё, што казалася і спявалася. Ні разу яшчэ ў сваім жыцці Ромачак не бачыў поезда, а песеньку дзядзькаву запомніў адразу:

Поезд едзе, рэйкі гнуцца,
А ў цыганкі слёзы льюцца…

— А чаго яна плача, цыганка тая? — пытаўся ў дзядзькі Ромачак.

— Малы яшчэ ты. Падрасцеш — зразумееш, — адказваў абыякава дзядзька. З дзядзькам спрачацца дарэмна.

За сталом тым часам павесялела, пайшла жывей гамонка, паволі развязваліся языкі. Гэта рабіла сваё чарка. Сцены часта скаланаў грымотны рогат. Мужчыны смяяліся гучна, іх нечаканы рогат часта змушаў Ромачка затыкаць вушы. Доўга ўсё не было, недзе забавілася ў лаўцы Маня. Тая і не спяшалася дамоў, цуралася, напэўна, п’янай кампаніі, забрыла недзе да кагосьці на хутар ды і бавіць там час, паглядаючы на гадзіннік.

Гаспадыня час ад часу падавала на стол нейкія стравы, грымела засланкай, нешта ставіла ў печ, а Ромачак усё вытанцоўваў з наганам у руцэ то ля стала, то ў спальні. Ніколі яму так не шанцавала, як сёння, бо нехта яшчэ з начальнікаў, раздобрыўшыся, аддаў яму сваю зброю. З двума наганамі ў руках і адным пад шлейкай штонікаў уяўляў сябе Ромачак самым непрыступным і непераможным у свеце воем. Ён то заціхаў, затаіўшы даханне дзесьці пры ложку, то ўскокваў і бег на кухню, уздымаючы вецер ля бабулінага фартуха. А праз хвіліну зноў вяртаўся да стала. Госці мала звярталі на яго ўвагі, яны былі заняты сваёй размовай, зрэдку падымалі чарку, забыўшыся на ўсе дзённыя мітрэнгі. Было ўжо, напэўна, позна, бо добра падгарэў у лямпе кнот, закурэла зусім яе шкло. Ды і песня, якую завёў нечакана той, якога ўсе звалі Немцам, нагадвала пра тое, што госці засядзеліся. Бо песню, як казаў дзядзька Чэсь, на падмогу клікалі толькі пасля трэцяй пляшкі. Сельсаветчык Немец зацягваў:

По диким степям Забайкалья,
Где золото роют в горах,
Бродяга судьбу проклиная,
Тащился с сумой на плечах.

Песню дружна падхоплівалі астатнія:

На нем рубашонка худая
Со множеством разных заплат.
Шапчонка на нем арестанта
И серый тюремный халат.

Галасы пасля гэтых слоў заціхалі, напэўна, астатнія іх не ведалі, далей запявала вёў толькі адным сваім голасам. А потым зноў падхопліваў нібыта павесялелы хор:

Бродяга к Байкалу подходит,
Рыбацкую лодку берет
И грустную песню заводит,
Про родину что-то поет!..

Жаласлівая выходзіла песня. Баба Зося краёчкам хусткі выцірала слязу, а Ромачку рабілася шкада таго «брадзягі», які надумаў пераплыць Байкал. Дзе той Байкал, Ромачак таксама не мог зразумець. Пэўна ж, недзе далёка, за нейкімі гарамі.

Усіх гэтых мужчын Ромачак даўно ведаў не толькі па прозвішчах, якія часта гучалі за сталом, а потым і называліся дзедам, ведаў ён іх і па галасах, а яны за сталом часам мяняліся, набывалі то звонкасць, а то і хрыпатасць. Не разумеў толькі малы аднаго: адкуль у гэтай вясёлай кампаніі ўзяўся немец і чаму ён разам з усімі сядзіць за сталом, п'е гарэлку ды спявае. А з кім жа, як не з немцамі, толькі нядаўна яшчэ ваявалі. Ромачак, праўда, гэтага не памятае. Яго яшчэ тады на свеце не было. Але ж пра гэта ўсе ведаюць. Многа чаго, незразумелага для Ромачка, было ў гэтым жыцці. Хоць вушы ён меў амаль дарослыя. Так шмат усяго адразу ўлятала ў іх, заставалася там надоўга, тут жа абрастала і пытаннямі, а часцей за ўсё сваімі дзіцячымі здагадкамі. Рос ён хлапчуком дапытлівым, а таму і не саромеўся пытацца, калі чаго не разумеў. Чэсь яму неўзабаве растлумачыць: «Немец — гэта фамілія такая ў іх сельсаветчыка».

Песню начальнікі даспявалі, і адразу ж на ўсю хату прагучаў дзедаў пракураны голас:

— Зо-с-я! Чуеш?

— Міхайлаўна! Эг-ей! — падхапіў Стрэмка.

Гаспадыня ўжо наперад ведала: патрабуюць яшчэ адну пляшку. Яна тут жа адчыніла сенцы, нарабіла там груку, а неўзабаве несла ўжо запацелую, заткнутую папяровым коркам бутэльку.

Застольцы курылі, не паспявалі тушыць у старой бляшанцы цыбукаватыя папяросныя акуркі. Часам тыя дагаралі самі па сабе на краі стала. Сіні дым клубамі каціўся пад столлю, віўся па вазонах, сцінаў дыханне. Застолле было ў самым разгары.

І раптам сухі, як сцёб бізуна, стрэл скалануў шыбіны, звонам аддаўся ў вушах, запахла гарэлым порахам. Стрэл прагучаў, як гром з яснага неба. Усе адразу паўскоквалі з-за стала, нядобра і недаўменна глядзелі адзін на аднаго. Ці то ад нечаканасці, ці то ад перапалоху доўга маўчалі і ніхто не адважваўся загаварыць. Казюк першым выбег з-за стала і, зазірнуўшы на кухню, убачыў перапалоханую збялелую жонку. Яна стаяла каля печы, цярэбячы фартух, а Ромачак разгублена лыпаў вачыма, так і не зразумеўшы, чаму наган, які ён трымаў уніз руляй, стрэльнуў. З яго яшчэ сачыўся лёгкі дымок. Кіслы пах гарэлага пораху цяпер уладарыў над усім тытунёвым дымам, што накурылі застольцы.

— Хто, вашу маць, пакінуў патрон у патронніку? — не спытаў, а раўнуў на ўсю хату суддзя Цесарчук.

Як аслупянелы, стаяў і баяўся паварушыцца Стрэмка. Гэта быў яго наган. Меў ён у кішэнях добры запас патронаў. І чаму б служываму і не пастраляць у вольную хвіліну дзе-небудзь у ляску, далей ад людскіх вачэй, падбадзёрыць сваю руку, павастрыць вока. Не далей як учора ён рабіў тое ў беразнячку за Варыжыхай. Расшпіляў кабуру, выцягваў наган, а потым цэліўся ў нейкую паперчыну, наколатую на сучок. Адзін за адным гучалі, білі ў вушы роўныя стрэлы, сухім дажджом сыпалася кара. І ў грудзях яго, сціснутых скуранай

партупеяй, лягчэла, быццам ён пасля нуднай і працяглай смагі выпіў конаўку халоднага бярозавага квасу.

— Ну мой гэта, — нарэшце вінавата прамовіў ён і тут жа перавёў усё на жарт. — Раз у год страляе і незараджаная стрэльба.

— Ну і даеш ты, Стрэмка, — доўга яшчэ хітаў галавою Цесарчук. Госці, здаецца, адразу працверазелі. Усе падаліся на кухню, шукалі кулю, якая нядаўна прасвістала за іх спінамі. А яна, прабіўшы шалёўку, засела ў прыаконным бервяне. Куля магла каштаваць жыцця гаспадыні хаты, бо праляцела ля самага яе фартуха. Куля, як вядома, шляху не выбірае.

Невядома, колькі б яшчэ цягнулася тое застолле, каб не такая нечаканасць. А так, узяўшы яшчэ па аглаблёвым кілішку, мужчыны пачалі збірацца ў гумно, каб добра выспацца перад заўтрашнім клопатным днём.

— Нічога, хутка ад вас забяруць гэтыя цацкі, — падаў свой голас не надта гаваркі Горцаў. — Бандытаў па лясах ужо няма. Няма чаго і баяцца.

Стрэмку гэтыя словы не спадабаліся.

— У вас забяруць! — агрызнуўся ён. — А нам зброя паложана.

— Паложана, але не трэба яе тыцкаць у дзіцячыя рукі, — крамсануў па ім злосным позіркам суддзя.

А Ромачак збянтэжана маўчаў, схаваўшыся за спіну бабулі. Ён чакаў горшага, што магло быць пасля ўсяго гэтага здарэння. Горшым магла быць хіба што «бярозавая каша», якой часта палохалі малых.

Кулю тую дзядзька Чэсь потым шылам выкалупае з бервяна і аддасць Ромачку:

— На, вазьмі, герой, на памяць!..

Доўга яшчэ потым Ромачку будуць нагадваць пра яго дзіцячае свавольства, якое невядома чым магло скончыцца. Нават у самыя сталыя гады, калі Ромачак станецца Раманам Вікенцьевічам, намнога за яго старэшы Часлаў Казіміравіч аднойчы скажа:

— Тады ты ледзь не застрэліў маці нашу!

Папроку ў гэтых словах не будзе, а толькі ўсяго сумная згадка.

* * *

Калі настрашыў мех, дык і торба страшная, казалі пушчанцы. Нават самы ўпарты з астравіцян Макась паставіў свой подпіс, нейкі крыжык, і запісаўся ў калгас. «Астравы больш хутарамі не будуць! — рашуча заявіў на апошнім сходзе самы галоўны ўпаўнаважаны Цесарчук. — Цяпер вы — вёска. Такая ж, як і ўсе ў вашым калгасе». У апошні прыезд раённага начальства ўсё ўжо было вырашана наконт будучай пушчанскай гаспадаркі. Паколькі Астравы яшчэ ўсё лічыліся хутрамі, дык праўленне калгаса размясцілася ў Старыне, даволі вялікай вёсцы ў параўнанні з Брухачамі, Ругайцам і Брынічавым. Там жа яшчэ раней прапісаліся сельсавет і пошта. Старшынёй калгаса, як ужо вядома было і раней, прызначаўся Казюк Дучэнскі. Самы галоўны раённы прадстаўнік Цесарчук тупаў нагой пры слове «прызначацца».

— Ніякіх прызначэнняў! — крычаў ён. — Мы толькі выбіраем. Усім народам.

Доўга думалі над назвай калгаса.

— А што тут ламаць галаву? — зноў умяшаўся Цесарчук. — Ты — Казімір. І калгас назавём «За мір». Мы ж усе — за мір! Праўда?..

Усе пагаджаліся. Вунь, аказваецца, як усё проста, калі ёсць разумная галава.

Вечарам у хаце Дучэнскіх зноў накрывалі стол. На закусь гэтым разам засеклі меншага гаспадаровага пеўня. А Чэсь нават налавіў рыбы, у таптуху яго трапілі некалькі дабраватых шчупакоў. Госці былі ў настроі — іх мукі і бадзянне па лясных хутарах нарэшце скончылася. І атрымалася ўсё так, як і было задумана. Падымалі чаркі то за гаспадара, то за кожнага паасобку з гасцей. Угаворвалі нават прысесці за стол гаспадыню, але тая адмовілася. Ды і сам гаспадар гэтага не любіў. Якая гэта мужчынская гамонка, казаў ён, калі баба за сталом?! Але чарку ўзяць яе ўсё ж прымусілі, бо далі слова для тосту.

— Ну скажы, Міхайлаўна што-небудзь пра нас, грэшных! — настойваў Стрэмка.

Разгубілася Міхайлаўна, расчырванелася, але пару слоў сказала:

— То каб вы жылі доўга-доўга, — гаспадыня замаўчала, задумалася, а потым дадала: — Каб мы памерлі, а вы яшчэ жылі!

— І за мір! — падхапіў захмялелы Горцаў.

Гаспадыня прыгубіла чарку і ўзмахнула ёй, пустой, у паветры, каб засведчыць, што выпіла ад сэрца і да дна, хоць у чарцы той і было ўсяго як дно закрыць.

Абышлі толькі ўвагай Ромачка. Ніхто з гасцей на гэты раз не расшпіліў сваю кабуру, не даў яму ў рукі жаданага нагана. Ды і язык у малога тым часам пачынаў хадзіць спрытней, і цяжкае «р» ён ужо прамаўляў больш цвёрда. Уважыла Ромачка толькі цётка Маня, якая сёння раней звычайнага вярнулася з лаўкі. Яна дастала са сваёй чорнай сумкі-«турэбкі» для Ромачка некалькі цукерак, загорнутуых у блішчастыя паперкі. Ромачак лашчыўся ля цёткі, бегаў шчаслівы па кухні, а ўжо праз якой паўгадзіны шчасліва драмаў за цёмнай шырмай. Балазе набегаўся за дзень на грудзе.

Госці прасядзелі за сталом да першых пеўняў, выпілі не адну пляшку моцнай пушчанкі, задымілі ўсю хату сінім папяросным дымам, а раніцой фурманка з імі пакінула хутар. Казюк Дучэнскі цяпер прачынаўся рана, часам і зусім не клаўся спаць, а раніцой, на хуткую руку паснедаўшы, сядлаў адразу сваю любімую буланку і ехаў на калгасны двор. А вяртаўся заўсёды апоўначы, стомлены, часам з паніклым тварам. У самой цэнтры, дзе за некалькі тыдняў выраслі і канюшня, і пуня, на вялікім драўляным слупе, наверсе загнутым локцем, цяпер вісеў на ланцугу канчур старой рэйкі. Раніцой сам Казюк біў што меў сілы па ёй нейкім шворанам — і рэйка звінела на ўсю пушчу, а хутаранцы затыкалі адразу вушы. Так Казюк склікаў на працу сваіх падначаленых.

А ў алешніку пры грудзе, дзе баючыся і хаваючыся, па начах гналі падпольны ржаны напой, «недапечаны» Камароў Людвік выдаваў свае звоны. Такім жа самым шворанам той так малаціў па бакавінах пустых катлоў, што з груда разбягалася спуджаная скаціна. Дайшло неўзабаве да Казюка, што гэтым самым ненармальны Людвік дражніцца з яго, чалавека пры ўладзе, зводзіць на смех яго сур’ёзныя службовыя намаганні. Бачылі, як ганяўся Казюк на кані з бізуном за няшчасным Людвікам. А таго і на кані паспрабуй дагнаць! «Што ты з дурня возьмеш?» — лаяўся ён потым на ўвесь калгасны двор. Хацеў нават пасекчы тыя катлы, але своечасова спахапіўся: і сам жа часта карыстаўся тым самагонным апаратам.

Калгаснікі працавалі цяпер гуртам. Жанчыны — сваім, а мужчыны — сваім. Усе межы, якімі дзяліліся адваяваныя калісьці ў лесу нівы, тут жа зааралі. Людскім загончыкам зрабілася адразу цесна. На сваё і часу нават не хапала. Добра яшчэ, што скаціну пакінулі, ды той самы груд з пашаю. Дзень і

на самой справе стаўся як нітка з надрывам: звяжаш яе, дык яшчэ карацейшай робіцца. Ужо не жартам, а ўсур'ёз пагаворвалі пра «камунізму», дзе і есці, і спаць будуць усе разам. «Па ўсім відаць, што так і будзе», — казалі пушчанцы. «Ат, што ўжо надта змянілася, — гавэндзілі больш дасціпныя. — Раней панскі бізун быў, а цяпер — Казюкоў».

Самы мудрэйшы з хутарскіх стары Суднік даводзіў свой расклад:

— Во папомніце маё слова, доўга наш Казюк тут не паскача. Паставілі яго, бо тутэйшы. Каб не шумелі дужа. А потым усё аціхне, дык свайго прышлюць. Каб ні сваякоў, ні дружкоў тут ня меў. Бо як жа тады кіраваць будзеш?..

Мудрэйшы даводзіў, што менавіта так рабілася некалі ва Усходняй. Нашто новае прыдумляць, калі старое прыгадзілася?

Раніцой пры канюшні, засоўваючы нагу ў стрэмя, перш чым адправіцца ў Старыну, Казюк суцешыў мужчын навіной:

— Не бядуйце, скора зажывём. У Свержані МТС арганізавалася. І нам дадуць трактара.

— Зажывеш тут, — мармытаў сам сабе, каб не чулі іншыя, стары хутаранец Лабун. — Каб з торбамі не пайшлі жабраваць хаця…

А жабракоў у гэтых мясцінах бачылі. І не толькі старэйшыя. Праўда — чужых, з-за гасцінца. Вось і нядаўна прайшоўся праз Астравы нейкі занебны старац, заходзіў ён на кожны хутар, двор, а там, дзе запрашалі, і ў хату. Ромачак спалохаўся, калі ўбачыў у іхнім двары незвычайнага старога. Высокі, прыгнуты, сівы, нібы ўвесь з інею, з барадой, якая звісала на самыя грудзі, ва ўсім зрэбным і лапцях, з дзвюма вялікімі торбамі, што вяроўкамі сваімі былі перакрыжаваны на спіне, стары, пакуль ішоў праз двор, раз-пораз маліўся. Бабуля Зося паклікала старога ў хату, усадзіла на кухні за стол, наліла конаўку малака, паклала лусту хлеба. Ромачак цікаваў за ім з-за печы. А ён марудна адкусваў хлеб, запіваў яго глытком малака, зноў ставіў конаўку на стол. Рукі ў жабрака трэсліся, але дрыготкімі пальцамі ён падбіраў кожную крошку на стале і адпраўляў яе да вуснаў, што хаваліся недзе ў барадзе. Ромчку зрабілася шкада старога, ён зазірнуў у яго чырванаватыя вочы, і яму здалося, што тыя плачуць. Калі стары паеў, ён зноў доўга жагнаўся дрыготкай рукою. Баба Зося прынесла з кубельца апольчык сала і кавалачак здору, адрэзала добрую лусту хлеба на кляновых лістах. Усё гэта дзядуля асцярожна клаў у сваю лягчэйшую зрэбную торбу. А потым ён развітаўся, доўга адкланьваўся ўсёй хаце і павольна пайшоў у напрамку гасцінца. Ромачак яшчэ доўга глядзеў яму ўслед і толькі цяпер заўважыў, што ў таго была яшчэ адна торба, якая, як пляцак, матлялася на спіне. Постаць жабрака марудна аддалялася да лесу. Здалёку здавалася, што ён не ідзе, а плыве, і неўзабаве белы, хісткі сілуэт зусім растаў у шчымлівай зеляніне лесу.

Потым Ромачкавы сябры казалі, што бачылі жабрака, калі ён начаваў каля груда ў жыце. Яны хадзілі глядзець і бачылі там прымятыя сцяблíны і траву. Тут, відаць, была жабракова лежня. Ромачку зноў зрабілася шкада старога бяздомнага жабрака. Вось калі б упрасіць дзеда Казюка, думаў ён, можа б той згадзіўся ўзяць старога бяздомніка да іх на хутар. Пасвілі б яны разам статак на грудзе ды радаваліся жыццю. Але жабрака і след прастыў. Болей ён на хутары не паказваўся. А калі часам Ромачак яго згадваў, бабуля адразу жагналася і ціха казала:

— Хай будзе літасцівым да яго Бог.

А дзед Казюк казаў сваё:

— Не, ён ужо не вернецца, каток мой! Гэта не жабрак пайшоў, гэта наша мінулае пайшло. А мы з табой будзем ладзіць новае жыццё.

* * *

Гэта толькі ў акіяне агульная вада не лучыць, а раздзяляе, аддаляе і чужыніць блізкія астравы, на сушы агульная зямля іх толькі збліжае, прывязвае адзін да другога вузламі дарог ды сцяжын. Якім бы ні быў утульным дзедулеў двор, але ў суседнім, дзе жыў са сваёй сям'ёй Пляскач, Ромачку падабалася куды больш. Там не толькі ёсць свой сад, але яблыні з грушамі растуць па ўсім двары: і за пуняй, і пры плоце, і нават ля веснiц. Дом у Плескачоў вялізны, як пуня, З разьбаванай шалёўкай на вокнах, а дах крыты бляхай. Фасад густа ўплецены дзікім вінаградам, праз які ледзьве праглядваюцца вокны з драўлянымі аканіцамі. Тых аканіц ніхто ніколі не зачыняе. Яны, відаць, зроблены так, дзеля прыгажосці. Сям'я ў Плескачоў для такой будыніны дык і надта малая: дзед Сымон ды баба Аўдоля, а яшчэ іх дачка Маня ды Лёва з Жэнікам, амаль Ромачкавы равеснікі. Ромачак яшчэ да груда пасябраваў з суседскімі хлапчукамі і часта бегаў у Плескачоў двор. Месцам іх гульняў стаўся недабудаваны цэментавы манеж пры пуні. Доўгае бервяно прываду да малатарні, якое мусілі раскручваць коні, малыя, узяўшыся рукамі з двух бакоў, лёгка раскручвалі самі, а потым асядлаўшы яго, доўга яшчэ кружыліся з крыкамі, піскам і рогатам. Лепшага задавальнення дзіцячая душа і не ведала. Яны кружыліся, і, здавалася, кружыцца разам з імі і манеж, і двор, і ўся гэта неабсяжная пушчанская зямля. Манеж цяпер ужо ніхто не збіраўся дабудоўваць, ён так і застанецца на доўгі час месцам дзіцячых гульняў.

Хутар Плескачоў і Дучэнскіх падзяляла невялікая кудзерка, справа ад поля, дзе раслі высокія, не дужа аб'ёмістыя ў ствале бярозы, крыху меншыя яліны ды прыземістыя хвоі, а па нізе туліўся нясмелы арэшнік, зелянілася лаза. У той кудзерцы яны, малыя, часта гулялі ў хованкі. Там і хавацца не было дзе. Прыкленчыш ці прыгнешся пад якім-небудзь кустом, а цябе ўжо даўно ўбачыўшы, нехта крычыць: «…Тры-чатыры-пяць…Ужо іду шукаць!» Няма тут чаго шукаць — усё відаць. Як на далоні. Але гульні на тое і гульні — тут усё пабудавана на прытворстве. А самае цяжкае прытворства — гэта прытварацца дарослым. Як ты ні старайся, ні гуляй пад дарослых, самі дарослыя ў лепшым выпадку пасмяюцца з цябе, ці зробяць выгляд, што не заўважаюць. Дзяцінства — гэта самы непаўторны тэатр, дзе часта дзецям нашым даводзіцца выконваць такія ролі, якія і масцітаму акцёру не пад сілу. Ромачку нашаму добра ўдаваліся ролі і конніка, калі ён скакаў праз дварышча на арэхавым кіёчку-кані, і будаўніка, калі ён на грудзе, пры канаве, ляпіў з пяску цэлыя крэпасці і замкі, і пажарніка, калі збіраючы пры дарозе старыя расцярухі сена, складаў яго ў кучкі, падпальваў, а потым тушыў. Запалкі, якія на хутары Дучэнскіх, як і ўсюды ў Астравах, хавалі і ад самых малых, і ад самых старых, Ромачак здабыў проста выпадкова. Нехта з дзедавых гасцей забыўся іх на стале разам з пустым пачкам ад «Казбеку», самых паважаных начальніцкіх папярос. Вось тут Ромачак ледзьве не натварыў бяды. Хоць ролю пажарніка сыграў бездакорна.

Стаялі спякотлівыя летнія дні, сасмяглая зямля вымольвала дажджу. Перасохла ўшчэнт і ашмоцце сена, якога даволі натрэслася пры дарозе, калі звозілі яго ў гумно. У адзін з такіх дзён, калі на хутары нікога не было, а за гаспадара пакінулі Ромачка, ён і пачаў наводзіць тут свае парадкі. У першую чаргу вырашыў падчысціць двор, поўзаў, збіраў у ахапкі сухое сена. І нічога лепшага не прыдумаў, як падпаліць яго. Толькі раз чыркнуў запалкай — і невялічкая кучка ўсхапілася лёгкім гарачым полымем. Ад яе падхапіла іскру і пайшла

гарэць наступная, і вось ужо ружовая гарачая змейка пабегла да склепа. Спалохаўся Ромачак, закрычаў, з крыкам кінуўся тушыць увішнае полымя, таптаў яго босымі нагамі, апякаючы пяткі, а ўпарты агонь выслізгваў з-пад ног. Ромачак убачыў ля прызбы стары дзяркач, схапіў яго і пачаў біць адчайнае полымя. А яно вырывалася, яшчэ больш набірала сілы. Заліваючыся слязьмі, ён кінуўся на полымя ўсім целам, бязлітасна збіваў яго далонямі, і тое, змаглося, як і ён сам, толькі цёмнай змейкай поўз па нізе хітраваты дымок. Тут Ромачак успомніў раптам пра ваду, якая была ў цабэрку ля студні. Схапіў старую міску, з якой кармілі курэй, і пачаў вадой заліваць тое, што нядаўна гарэла, а зараз толькі злёгку дымілася.

Чорныя выпаліны, дзе прайшоўся агонь, Ромачак потым падмяце дзеркачом. Самога пажарніка цяпер цяжка было пазнаць. Ён і сапраўды быў падобны на негра з нейкай старой кнігі, увесь перамазаны сажай ды з абдзёртымі каленямі, нібыта яго толькі што працягнулі праз комін з сажаю. Да гонару самога героя мусім зазначыць, што ў гэтым стыхійным спектаклі, які падрыхтаваў сам выпадак, сваю ролю Ромачак выканаў мужна, праўдзіва, як самы сапраўдны пажарнік. І самае галоўнае, што пра само свавольства, а гэта было менавіта яно, ніхто на хутары так і не даведаўся. Герой не той, як потым пераканаўся Ромачак, хто на ўвесь свет трубіць пра сваё геройства, а той, хто трымае яго ў сабе. Тваё хай і застаецца тваім! Галоўнае, каб тут не было ніякага прытворства.

У кудзерку Ромачак хадзіў больш ахвотней, чым у дзядулеў лес, чым на груд. Тут, казалі яму, жыве Цень. З Ценем Ромачак ужо даўно быў знаёмы, а вось у твар яго яшчэ так ні разу і не разгледзеў. А хацелася.

Пачалося ўсё з таго, што ён аднойчы сонечным днём бегаў па двары, ды нечакана спыніўся як укопаны, бо заўважыў, што нехта побач бегае за ім, паўтарае яго крокі і рухі, дражніцца, ён бывае большым ці меншым ад самога Ромачка. Гэта як і калі яму захочацца. Ён колькі разоў спрабаваў адбіцца ад гэтага чорнага чалавечка: замахнецца на яго, а той адказвае тым жа.

— Хто гэта? Ён услед ходзіць за мной! — скардзіўся Ромачак цётцы Вандзе.

— Гэта цень твой, не бойся яго, — супакойвала малога цётка.

— Я не хачу з ім гуляць!— злаваўся Ромачак.

— А ты і не гуляй. Як сонца схаваецца, ён пойдзе спаць.

— А дзе ён жыве? — дапытваўся цікаўны Ромачак.

— У кудзерцы жыве, — зманіла цётка.

Аднойчы Ромачак, каб ніхто не бачыў, узяў са стала стары кухонны нож з драўлянай ручкай і падаўся ў кудзерку. Нож ён браў не на тое, каб напужаць Ценя. Думаў, наспускаць з лазы свісткоў. Як на тое, выдаўся сонечны светлы дзень. І калі Ромачак ступіў на святлісты прагал за старой бярозай і дастаў схаваны пад кашульку нож, тое ж самае зрабіў і чорны Цень, які раптоўна ўзнік перад ім. І Ромачак спалохаўся, кінуў у траву свой нож і, плачучы, пабег дадому. Цень бег услед за ім, даганяў яго і толькі перад самымі сенямі спыніўся. У хату заходзіць Цень пабаяўся.

А ў хаце раптам спахапіліся: прапаў нож. Бабуля перавярнула ўсё на кухні, шукаючы згубу. «Во толькі ляжаў на стале і… як пад зямлю праваліўся», — здзіўлялася баба Зося. «Гэта Ромачкава работа, — здагадалася цётка Ванда. — Зараз знойдзем…»

А Ромачак тым часам нясмела адчыняў дзверы кухні.

— Ромачак, дзе нож? — дапытліва паглядзела ў вочы яму цётка.

— Цень забраў! — выціраючы слёзы, прамармытаў Ромачак.

— Дзе ж ён у цябе забраў? Пойдзем — пакажаш.

— Ды ў кудзерцы…

Ромачак адразу ўхапіўся за цётчыну руку і павёў да кудзеркі. Нож знайшлі пад той самай бярозай, на сонечным прагале. Цётка Ванда, усміхаючыся, падняла яго, і яны, абое задаволеныя, пабрылі дахаты.

Дарослыя потым смяяліся з Ромачка, ну а той яшчэ доўга не мог зразумець, чаму той Цень так любіць сонца і чаму ён так дзіўна расце, — то меншае, то большае. Дзівак нейкі, гэты Цень. І чаго ён да Ромачка прычапіўся? Каб зразумець гэта, трэба было хоць крыху, зусім не многа, падрасці. Супакоіўся хлапчук толькі тады, калі заўважыў, што не толькі ён, а ўсе людзі навокал жывуць, кожны са сваім двайнікам-ценем. І тут таксама няма ніякага прытворства.

* * *

Мінула зіма. Пачыналася яшчэ адна Ромачкава вясна на дзедавым хутары. На дрэвах яна акрэслілася новым гадавым кальцом, а ў ягоным жыцці больш выразнай радзімкай на левай шчацэ, новымі гузакамі, набітымі пад печчу, куды ён лазіў, баючыся гномаў-красналюдкаў, даставаць яечкі, што знеслі маладыя куркі-чубаткі. Яйкі бабуля Зося клала горачкай у старое рэшата, ціха прыгаворваючы:

— Гэта Ромачку на сняданнейка, а гэтыя на Вялікдзень пафарбуем.

Велікодныя яечкі малы запомніў яшчэ з мінулай вясны. Апрануўшы шэры жакецік з белым каўнерыкам, ён асцярожна клаў іх у кішэню. А яны былі чырвоненькія, у белую макавую крапінку. Потым яны з Жэнікам і Лёвам біліся ў біткі, спачатку — у носікі, потым — у пяткі. Дзядзька Чэсь вучыў Ромачка, як лепей трымаць тое яечка ў руцэ, як біць ім, сам ішоў падстрахоўваць пляменніка. Мабыць, дзядзька неяк заваражыў тыя яечкі-жачкі, бо Ромачак амаль заўсёды выходзіў пераможцам, вяртаўся дамоў з поўнымі кішэнямі чырвоных выйграных яечак. А яшчэ яны з Лёвам і Жэнікам хадзілі па чужых хутарах, там усюды іх адорвалі то цукеркамі, то яйкамі. І дамоў яны вярталіся потым з поўнымі шапкамі дарункаў.

Запомніліся Ромачку велікодныя спевы валачобнікаў. Валачобная песня плыла з-за канавы, ступала па грэблі, а пад самую раніцу заходзіла пад чаромхавае акно дзядулевай хаты. Рассыпісты, крыху п’янаваты хор мужчынскіх галасоў будзіў усіх, хто быў у хаце, падымаў з ложка старэйшых. Спявалі кожнаму паасобку, кожнаму дарылі па сваёй песні. Часта гучалі яны няскладна, але заўсёды шчыра, бо і гаспадару, і гаспадыні, і ўсёй іхняй сям’і валачобныя спевакі жадалі толькі ўсяго самага найлепшага:

Дзень добры таму, хто ў гэтым даму!
Вясна красна, зялёна!
А ў гэтым даму гаспадарочак,
Гаспадарочак — слічны паночак.
Ці спіш, ці ляжыш, ці спачываеш?
А калі ты спіш — Бог жа з табою,
А калі не спіш — гукай са мною.
А ўстань раненька, умыйся бяленька…

Пасля гэтай песні гаспадар нёс свой дарунак-аддзяку, а то і запрашаў валачобнікаў у хату. Ужо днём валачобнікі вярталіся на які-небудзь хутар з добрымі мяхамі яды і пітва. Тады пачыналася святкаванне. Звычайна — па некалькі дзён запар.

Па Вялікадні бярозы пачыналі плакаць сокам. Дзед яшчэ да гэтага навыдзёўбваў сякерай і долатам з бярозавых круглячкоў адмысловых карытцаў. І вось нарэшце пагодным ранкам пасля сняданку з любімымі Ромачкавымі грэцкімі блінамі яны выправіліся на ўзлессе.

— Пойдзем, мой каток, бярозкі даіць, — гукнуў дзед.

Ромачак не зразумеў дзядулевага жарту: «Як гэта “бярозкі даіць”? Гэта ж — не каровы?»

— Пойдзем-пойдзем, мой каток! — смяяўся дзед. Настрой у яго быў адпаведна вясновы. Сонца з кожным днём прыгравала ўсё мацней, ужо даўно падсохла ў дварышчы, у нізкіх месцах пачалі нясмела прабівацца першыя іголкі маладой травы. На ўзлеску яшчэ белымі мурзатымі гурбачкамі драмаў снег, а ўжо весела зірнулі сваімі блакітнымі вочкамі пралескі. Недзе высока ў небе залівіста вызвоньвалі жаўранкі, а ў дзвюх дзядулявых шпакоўнях прыемна высвіствалі вуглістыя шпакі. Вясна прасіла паверыць, што сёння на гэтых прасторах гаспадыняй ёсць яна сама. Слухацца трэба толькі яе. Для падсочкі дзед выбіраў самыя крайнія ад поля, яшчэ не старыя бярозы, камлі, якіх ужо добра памажнелі ў абхваце, ён прачэсваў сякерай пры самым доле грубейшы, прычарнелы слой кары, а потым свярдзёлкам круціў глыбокаватую дзірку, з якой адразу ў твар пырскалі мутнаватыя сінія струмені, ніжэй дзіркі забіваў белы драўляны латок. Па ім роўным струменьчыкам сок сцякаў у драўлянае карытца. Дзядзька Чэсь абачліва прыхапіў з сабой конаўку, каб адразу і апрабаваць першачок-бярозавік. Ах, як салодка ўлагодзіў грудзі першы халодны глыток веснавога смаку! Вечарам першыя вёдры свежага бярозавіку выльюць у прамытую кіпенем кадушку.

У хаце цяпер забываліся пра ваду з калодзежа, вядзерца на кухні было запоўнена толькі свежым бярозавікам.

— Пі, Ромачак, пабольш соку, — казала ўнуку бабуля Зося. — Гэта ж — лякарства, якое пасылае нам сама вясна.

— Лякарства многа не вып’еш, — жартаваў дзед.

— У цябе адно лякарства… Ведаеш — якое? — зласнавата адказвала яму бабуля.

Новая вясна несла Ромачку і яшчэ адну радасць. Сёння, калі сонца прыгрэла з большай сілай, як гэта было днём раней, яны з дзядзькам Чэсем выправіліся на рыбу. Іхняя канава, што пасля паводкі пачала ўваходзіць у свае берагі, у лагчынах пакінула шмат лужын, у якіх засталіся і шчупакі, што падрыхтаваліся да нерасту. Дастаткова было крыху падмуціць тыя лужыны, і ў рукі самі плылі пружыністыя дзябёлыя шчупакі. На іх зараз і паляваў дагадлівы Чэсь. Ён плюхаўся ў гумовіках па халаднаватых іскрыстых лужах, адхукваў застудзянелыя ад халоднай вады рукі і ўскрыкваў ад задавальнення, калі выкідаў на сухое месца важкаватага шчупака. Ромачак тут жа падбягаў і, колючы рукі аб халодныя пёркі, адпраўляў рыбіну ў мокрую торбу. Дамоў сёння яны вярталіся з даволі важкім уловам, пра які і не снілі.

Вечарам над пушчай праплыла вялізная ліловая хмара. Зашумеў у кронах вецер, гнуў і ламаў яшчэ не расквітнелыя кучары чаромхі над акном. Недзе за лесам азваўся гром, бліснула маланка, прашумеў лівень. Але неўзабаве ўсё сціхла, навальніца пайшла бокам, а маладая трава ў двары адразу загарэлася свежым зялёным агнём.

## Канцэрт

Слова «канцэрт» Ромачак упершыню пачуў ад бабулі, але доўга яшчэ не мог яго як след вымавіць. Заміж «канцэрта» ў яго атрымоўваўся «кацэт», дзе ўжо і надта блізка было да «ката». Рыжага ката бабуліны дзяўчаты чамусьці называлі Чэсем, бо і той быў таксама рыжаваты, нават валасы меў агністыя. Хоць нікога рыжага ў радні быццам не было. Але радня і род, як кажа сам Казюк, — паняцці, якія заўсёды прывязаны да самага далёкага мінулага чалавека. А хто здольны зазірнуць у тое мінулае? Рэдка каму гэта ўдаецца. Таму ўсё і абмежавана чалавечай загадкай ды нейкімі туманнымі адгадкамі. Але размова ў нас пра «канцэрт», ліха яго матары.

Канцэрты даваў сам дзед Казюк, калі браў добрую чарку і не закусваў. А закусваў ён, трэба сказаць, рэдка. Выпіваў часцей за ўсё «пад тытунь», пад тую самую самакрутку, а ўжо як стаў важным пушчанскім начальнікам, дык і пад папяросу.

Папяросы не абы-якія, а вышэйшага гатунку, у асноўным «Беламор», што па ягоным заказе прыносіла з лаўкі дачка Маня. Некалі, праўда, была ў Казюка шляхетная люлька, добра выштукаваная нейкім пушчанскім майстрам. Набіваў ён яе тытунём-мультаном, які сам высяваў у градах, а потым пыхкаў круглымі колцамі сіняга дыму, салодка зацягваючыся ды прыўсміхаючыся ад задавальнення. Напэўна, люлька дадавала ягонай душы таго самага шляхетнага гонару. Цягнулася гэта да таго часу, пакуль не асек яго той самы высокі начальнік, што прыязджаў толькі аднойчы ў Астравы. Так, гэта той, што спрабаваў калісьці цвічыць маленькага Ромачка. Заўважыўшы ў руках Казюка люльку, ён злосна стрэліў на яго вачыма, і не сказаў, а ледзь не пракрычаў грознае:

— Ты, дорогой, брось эти штучки. Трубку у нас курит только один человек. Сам знаешь, кто это, — і паказаў пальцам пад столь. Тут і здагадвацца не трэба было: правадыр гэта, Сталін. Дзед усё зразумеў, пайшоў да печы, якая ў гэты час палілася, і шпурнуў у полымя, магчыма, самую дарагую сваю рэч. Ромачак з жалем назіраў, як адразу ўспыхнула тая люлька, і тут жа назаўсёды знікла ў агні.

Голас у дзеда быў густы, басавіты. А калі ўжо заспявае — дык шыбіны ў вокнах пачынаюць вызвоньваць ды падпяваць. Ромачак нават ведаў на памяць некаторыя дзедавы прыпеўкі.

Бывала ладзіліся канцэрты на нейкія святы ў вялікай хаце Карніцкіх. Там быў свой хор, і чыстым звонкім голасам запяваў у ім дзядзька Чэсь. Усе Дучэнскія былі галасістыя. Іх і хлебам не кармі, а дай паспяваць. Што зробіш, калі песня сама вырываецца з грудзей. Яе трэба і выпускаць з тае грудной клеткі. Хай ляціць на волю!

Канцэртамі называлі яшчэ і начныя вылазкі ў чужыя сады. Найбольш латашылі суседскі, Плескачоў, які быў у самай сваёй пладаноснай сіле.

— Стары Сымон глухі, ён усё роўна не пачуе, — былі перакананы тутэйшыя падросткі-пераросткі. Ён ніколі і не чуў тых начных «канцэртаў», хоць чыя гэта работа, здагадваўся.

Летам, апрача гаспадара і гаспадыні, усе Дучэнскія спалі на сене ў пуні. Не хацелі браць з сабой толькі Ромачка. А потым Чэсь згадзіўся:

— А хай прывыкае да сну пад зорамі!..

У пуні, на маладым духмяным сене, ёсць тое, чаго няма ні ў якім царскім ложку з пярынаю. Само сена ўмее размаўляць, нашэптваць на вуха самыя патаемныя словы. Так чамусьці здавалася Ромачку, які, соладка заснуўшы,

спаўзаў ноччу з дзяружкі і трапляў у нейкую нару. Сена было слабавата ўтаптанае па баках, а таму нават пад маленькім цяжарам апаўзала да сцен. З той нары Ромачка выцягвала за руку цётка Маня. Малы глядзеў здзіўленымі вачыма і не разумеў, дзе ён знаходзіцца. І валасы, і твар яго былі зацярушаны перасохлымі травянымі былінкамі, і вочы малога толькі здзіўлена лыпалі. Нават у паўзмроку пуні гэта заўважалася. Другі бок пуні, той, што выходзіў да лесу, быў яшчэ пустым. Гэта яго потым напіцуюць снапамі жыта ды аўсу. Ну а ток будзе заўсёды заставацца чыстым. На ім потым і пачнуць абмалочваць снапы. Ромачак неяк бачыў, як дзед з Чэсем станавіліся насупраць адзін аднаго і пачыналі з-за вуха махаць цапамі. Цяжкаватыя бічы, лёгка і роўна, як удары барабанных палачак, білі і калацілі падсохлыя снапы, нават выбівалі нейкую сваю мелодыю, роем падскоквалі ўгору абмалочаныя зярняты. Ромачак неяк паспрабаваў памахаць тым цэпам, дык ледзьве падняў яго.

— Кашы мала яшчэ еў, каб малаціць, — пасмяяўся з яго Чэсь. — Махай лепш дубчыкам, каб гусі баяліся. Гусі, на жаль, не баяліся Ромачка, баяўся ён іх. Асабліва палохаў яго стары гусак, ён выцягваў сваю доўгую шыю і з шыпеннем бег, каб пацэліць у Ромачка сваёй жоўтай дзюбай.

На сена ўзбіраліся па старой хісткай драбіне, што стаяла пры самай сцяне, абапёртая на бэльку. А з сена Ромачак любіў спаўзаць на спіне. Гэта было куды прыемней, чым спускацца з горачкі на санках.

Як ні ўпрошваў Ромачак сваіх цётак і дзядзьку, на начныя «канцэрты» яго не бралі. Мала што можа здарыцца — паспрабуй тады ўцячы з малалеткам! А той здагадваўся пра ўсе іх начныя прыгоды-задумы. Сам прытворыцца, што спіць, а вушы натапыраны, чуюць кожны перашэпт. Большыя заўсёды чакалі, пакуль засне меншы. А ён, набегаўшыся за дзень на грудзе, засынаў хутка. А пра тое, што без «канцэрта» і на гэты раз не абышлося, Ромачак потым здагадваўся па той горцы сакавітых яблыкаў, якая раніцой вырастала на сене. Яблыкі духмяніліся, прасіліся ў рот, а самыя зелянейшыя і даспявалі потым самі па сабе на цёплым сене.

Але аднойчы Ромачак прачнуўся сярод ночы і ўбачыў ля сябе пустыя дзяружкі, у гумне, акрамя яго, нікога не было. Усюды панавалі цішыня і цемра. І Ромачку зрабілася страшна. Ён прыслухаўся: недзе побач задзірыста стракатаў нядрэмны цвыркунок, шапацела пад вухам сена, калі ён паварочваўся на пакамечанай дзяружцы. І раптам ні з таго, ні з сяго, раскалоў напалам ноч, доўгім рэхам азваўся ў лесе, стрэл. І ўжо праз хвілін колькі дзверы пуні скрыпнулі, пачуліся ціхія, падобныя да шэпту галасы. А потым захісталася драбіна, па ёй падымаліся ўгору яго цёткі і дзядзька. У Ромачка прайшоў адразу страх. Ён прытварыўся, што спіць, а сам услухоўваўся ў прыглушаную гамонку.

— Ну, буська, зарабіў у задніцу солі! — пачуўся насмешлівы Чэсеў голас.

— Чэша недзе с... — ужо даволі гучна зарагаталі дзяўчаты.

Ромачак зразумеў, што «канцэрт» не абышоўся без прыгод.

Назаўтра па Астравах папаўзла чутка: нехта ноччу ўбіваўся ў чыйсьці Гумяноўскі сад. Гаспадар пачаставаў злодзея добрым зарадам солі. Залесныя гаспадары, якія ніколі не расставаліся са стрэльбамі, мелі заўсёды ў запасе і такія набоі. Ромачак ведаў таго хутаранскага бальшуна, што меў мянушку «буська». Ён прыганяў на груд сваю пярэстую карову з невялічкай цялушачкай.

Папалохалі, адным словам, тутэйшых распуснікаў. Цяпер і стары Пляскач спаў спакойна, і Ромачка ніхто не турбаваў сярод ночы.

* * *

Дзверы ў сенцах былі адчынены, а ў іх працяжліва гулі жорны. Стары, выслізганы да бліскаты млён круціў Чэсь, а бабуля Зося толькі падсыпала ў скрыню збожжа. Белы мучны пылок веяўся і асядаў на твары. Нібы ўпарцілася, цяжка шаргацела верхняе каменнае кола. Жорны круцілі не кожны дзень, добра, калі хоць раз у тыдзень выпадала такая нагода. Звычайна гэта было, калі збіраліся пячы праснакі. Сям'я вялікая, а таму і на хлеб была ашчадная. Ды і заўсёды знаходзілі яму добрую замену: пяклі праснакі, блінцы, аладкі, варылі і бульбу, якую лічылі другім хлебам.

Раз ці два на год ездзілі ў млын у залеснае Аколава, дзе заўсёды было завозна, часта на гэта трацілі цэлы дзень. Таму ладавалі важкі, вышэй драбін воз мяхоў і ранкам, яшчэ з цёмным выпраўляліся ў дарогу. Там зерне малолі, а пшаніцу, што ішла на булкі і макароны, яшчэ і пытлявалі, перамолвалі.

Ромачку даўно карцела пакруціць жорны самому, але ён яшчэ не дарос да ручкі млёна, і дзядзька Чэсь, каб услужыць пляменніку, часта ставіў яго ножкамі на табурэт, а потым ужо яны разам у чатыры рукі раскручвалі жорны. Як кажуць, чым бы дзіця ні цешылася, абы не плакала. Ромачак быў не з плаксуноў, аднак калі малому чаго-кольвечы дужа зажадаецца, ён мог так жаласліва, са слязой на вейцы папрасіць яго, што і ў любога непрыступнага адразу мякчэла душа.

Дзверы ў сенцы былі адчынены, каб дабавіць святла, якое ледзьве прабівалася праз вузенькае акенца ў сцяне. Дзіця пацешыцца-пацешыцца, дый сваю цацку кіне — давай яму другую. Вось і Ромачку ўрэшце надакучылі жорны, і ён пачаў тузаць дзядзьку за рукаво: «А калі ж на рыбу пойдзем?» А той яму надоечы абяцаў узяць з сабой на канаву. Летні дзень тым часам добра распаліў свой нябесны горан, і Ромачак раптам прыгадаў учарашняе дзядзькава абяцанне.

— Вось дапаможаш дамалоць — тады пойдзем, — жартаваў дзядзька, паказваючы, што ў мяху яшчэ дабравата зерня. Ромачак стаяў на табурэце, дзвюма рукамі прыліпшы да млёна, жмурыў вочы ад парушыння, што разам з асцюкамі ляцела са скрыні, і яму здавалася, што цяжкі камень круціцца, дзякуючы толькі яго, Ромачкавым намаганням. А з дзядзькавых шчок ужо даўно ра́гамі сцякаў пот. Ромачак цярпліва чакаў, калі ж урэшце апусцее мех. І вось нарэшце дзядзька, патросшы ім у паветры, шпурнуў на плот — хай ветрыцца!

Перакурыўшы, дзядзька пераапрануўся, нацягнуў на сябе старыя рыбалоўныя порткі і фрэнч, схапіў з-пад павеці таптуху, і вось яны ўжо кіруюцца да канавы. Ромачак бег за дзядзькам, весела размахваючы пустой зрэбнай торбачкай, якая сёння, калі пашанцуе, будзе мець сваю вагу.

Правы бераг канавы пры самай вадзе быў балоцісты, гразкі, месцамі дрыгвяністы. Берага нібыта не існавала, і да вады часта даводзілася дабірацца, перабягаючы з купіны на купіну, падмінаючы прыбярэжную асаку ды аер. Ромачак стараўся ступаць воддаль вады, а дзядзька Чэсь, падбіваючы таптуху пад старыя карчы ды альховыя карэнні, не то плыў, не то ступаў у густой зеленаватай вадзе, якая была зусім не глыбокая, рэдка дзе мінала пояс. Дзядзька доўга боўтаў нагамі дно ля самай таптухі, потым падымаў яе за ручку і калі нешта ў самым кулі трапяталася, падыходзіў да берага і кідаў у рукі Ромачку. Усё астатняе з паўзучай травой-донніцай, з водарасцямі і глеем выкідвалася на бераг, у торбачцы ўжо трапяталіся па

пары шчупакоў і галавастых мянькоў, нават некалькі вужастых, жаўтавата-шэрых уюноў. Зусім малую рыбу дзядзька шпурляў назад у ваду— хай расце да наступнага лета.

Яны прайшлі добры адрэзак канавы, а ў торбачцы яшчэ было легкавата. А тут раптам не пашанцавала: выцягваючы таптуху, дзядзька зачапіў яе нейкім тырчастым карчом і дабравата рвануў днішча. Лаючы канаву і сябе таксама, раззлаваны Чэсь выбраўся на бераг, дзе было больш тупка і сумнавата аглядваў парваную частку сеткі, нешта прыкідваў. У гумовіках яго непрыемна хлюпала, цёмная вада ручаямі сцякала з абліплых портак. Ромачак баяўся, што на гэтым сённяшняя іх здабыча закончыцца, ён спачуваў дзядзьку, якому не мог нічым дапамагчы.

Спачатку дзядзька хацеў паслаць Ромачка дамоў, на хутар, па ніткі. Аднак тут жа перадумаў. Пакуль малы будзе дабірацца туды ды назад, пакуль знойдзе тыя ніткі (яшчэ ці знойдзе), бо дома ж, напэўна, нікога няма, дык і сонца за лесам схаваецца.

— Давай сюды ножык! — загадаў ён Ромачку. Дарагі сцізорык, пакуль дзядзька рыбачыў, ляжаў у добра зашпіленай кішэні ў кашульцы Ромачка.

— І торбу давай!..

Малы зняў з пляча мокрую торбу і падаў дзядзьку, які за гэты час паспеў выкурыць і макраватую самакрутку.

Дзядзька спрытна адрэзаў вяроўку, на якой трымалася торба.

— Будзеш насіць цяпер яе ў руках, — сказаў ён Ромачку, а сам пачаў сшываць, счэпліваць вяроўкай парванае месца.

— Справа майсцера баіцца! — пахваліў ён сам сябе і зноў ступіў у ваду. На душы ў Ромачка павесялела І ўжо зусім весела стала, калі ў таптуху пачалі трапляць блішчастыя, сталёва-спінныя шчупакі, яснапёрыя акуні. Далей па канаве, дзе дно было асабліва гразкаватым, пайшлі ў куль адзін за адным уюны, яны дзіўнавата папісквалі ў Ромачкавай торбе, якая з кожным крокам набірала вагу. Гэтак, атоптваючы, абмацваючы і адзін, і другі бераг, дайшлі яны да самага Трыпуцёвага лужка, дзе канава завяршалася невялікім буркатлівым ручайком. Там дзядзька выйшаў на тупкаваты, зарослы казіной бераг, кульнуў дагары таптуху і пачаў распранацца. Ён скінуў з сябе мокры фрэнч, выкручваў ад вады порткі, потым усё адзенне развесіў на кусце вербалозу, каб тое хоць крыху падветрылася, а можа, і падсохла на ўжо слабаватым сонцы. А Ромачак выцягваў са сваёй кішэні дзядзькаў тытунь, абрывак нейкай газеты і запалкі. Цяпер можна было спакойна і пакурыць. Дзядзька ўзважыў у руцэ торбу з уловам і застаўся задаволеным.

За доўгі час рыбнага бадзяння Ромачак прытаміўся, нібыта пратопаў самай цяжкай для яго дарогай у Малыя Навікі. Ён чакаў, што дзядзька зараз пачне распальваць цяпельца, прасушваць мокрае адзенне. Але той, паглядзеўшы на сонца, якое ўжо было нізкавата над лесам, пачаў збірацца ў дарогу. На сябе ён нацягнуў толькі мокрыя порткі, высока падкасаўшы іх, усё астатняе шпурнуў у таптуху і закінуў за плечы. У таптуху кінуў і торбу з рыбай, якую Ромачку было ўжо несці цяжкавата. І яны цянькамі пабрылі да грэблі.

Вечарам Ромачак з цікавасцю назіраў, як трапечуцца, падскокваюць на скавародцы падсоленыя ўюны. На другой вялікай скаварадзе смажыліся шчупакі з акунямі. За вялікім кухонным сталом іх чакала самая смачная пушчанская вячэра, якая рэдка сніцца і панскаму сталу. За стол збярэцца ўся вялікая сям'я Дучэнскіх.

* * *

Тая жнівеньская ноч ускалыхнула хату Дучэнскіх, падняла ўсіх са сну. Ромачак праз сон лавіў нейкія трывожлівыя галасы, а потым падхапіўся і сам. Дзед і дзядзька Чэсь у адных споднiках выбегалі ў двор, ускочылі з ложкаў і дзяўчаты, Маня з Вандай.

— А дзеткі мае, што ж гэта будзе? — галасіла баба Зося. Ромачак разам з астатнімі прынік да акна і ўбачыў, як недзе за канавай разгараецца, выхопліваючы і рвучы цемру, вялікае полымя.

Толькі потым зразумеў Ромачак, што гэта гарыць лаўка цёткі Мані. Полымя ярка высвечвала два акны дзедавай хаты, што выходзілі да канавы. Мужчыны, схапіўшы вёдры, беглі туды, за канаву. А там, у цэнтры, хтосьці адчайна біў у рэйку, з усіх бакоў збягаліся людзі. Хацелася бегчы туды і Ромачку, але яго, моцна прыціснуўшы да сябе, супакойвала баба Зося. Недзе на хутарах на ўсю моц, падвываючы, брахалі сабакі. А полымя шугала, разгаралася з яшчэ большай сілай. Здавалася, яно абняло сабой паўнеба.

Казюк Дучэнскі яшчэ не ведаў і не здагадваўся, што з гэтай начы пачнуцца ўсе яго беды, што яны, як лавіны, стануць абрушвацца на яго адна за адной, аж пакуль не падкосяць, не выб'юць з жыццёвай каляі і яго самога.

Да лаўкі было не падступіцца, яна выгарала датла. Уранні, калі наехала са Стоўбцаў міліцыя, яшчэ дагаралі, сумнавата дыміліся касматыя галавешкі, пастрэльвала перагрэтае шкло, балюча паскрыпваў гарачы прысак. Збіраліся ў гурт, перашэптваліся ўстрывожаныя хутаранцы. Такога яшчэ ў гэтых мясцінах не бачылі. Нават у часы горшыя, ваенныя. А таму і размоў, і здагадак, і спрэчак было дастаткова.

Цётка Маня стаяла збоку, да непазнавальнасці змяніўся яе твар, ён быў як палатняны. Яна ціха ўсхліпвала, выціраючы хустачкай заплаканыя вочы.

Вестка пра незвычайнае здарэнне тут жа абляцела пушчанскія вёскі, абрасла чуткамі і плёткамі. Многія казалі, што гэта нагадалі пра сябе «лясныя браты».

— Рана яшчэ складваць зброю! — паўтараў увесь час устрывожаны ўчастковы Стрэмка. — Рана!..

— А можа, гэта Казюку хто помсціць? — выказвалі здагадкі іншыя.

Падвечар у хату Дучэнскіх завіталі госці ў пагонах. Праз прыадчыненыя дзверы Ромачак бачыў, як яны перабіралі ўсё ў святліцы. Куфар быў адчынены, з яго даставалі адзенне, скруткі льнянога палатна, за сталом штосьці пісалі, а цётка Маня, збялелая, тулілася ля стаяка. Госці пакінулі хату, калі добра прыцямнела. Разам з сабой яны павялі і цётку Маню. І больш яе жывой Ромачак ніколі не ўбачыць...

Ромачку цяжка было зразумець, што дзеецца навокал. Усе, хто быў у хаце, потым плакалі. Нават дзед крадком выціраў скупаватыя слёзы. Плакаў і Ромачак разам з усімі. Вось і не прынясе яму цяпер ніхто той жаданай цукерачкі, якую часта прыносіла ў турэбцы ці кішэні мілая цётка Маня.

* * *

Вінцук прыехаў забіраць Ромачка назаўтра. Гнеды, сляпы на адно вока конь, пакінуты некалі партызанамі, стаяў запрэжаны ля варот, скуб траву. Лейцы былі вузлом завязаны за шуло. Бацьку Ромачак сустрэў ля парога. Той пацягаў яго за чорненькі цыганісты чубок, потым дастаў з кішэні і працягнуў у рукі малога кулёк цукерак-падушачак.

— Падрос, бачу, сынок! — прыгарнуў яго бацька. — Паедзем цяпер дадому. Мне памочнічак патрэбен.

— Не паеду я нікуды! — насупіўся Ромачак.

Малы застаўся ў двары, сядзеў на прызбе, сумна пасмоктваючы цукеркі, а Вінцук падаўся ў хату і затрымаўся там надоўга. Ромачак не чуў і не ведаў, пра што гаварылі там, за парогам, дзе сабраліся ўсе — і дзядуля з бабуляй, і Чэсь з Вандаю, — не было толькі яго мамы. Яна чакала Ромачка дома.

Твары ва ўсіх былі сумныя, а баба Зося ўвесь час прычытала, выціраючы краёчкам хусткі заплаканыя вочы. А яшчэ яна збірала Ромачка ў дарогу, складвала ў ванзэлачак яго кашулькі, штонікі і шкарпэткі. Бацька неўзабаве выйшаў з хаты, за ім выйшлі і ўсе астатнія. Ніхто і не думаў, што развітанне з унучкам будзе такім жаласлівым.

Вінцук узяў малога на рукі, прыхінуў да сябе:

— Ну, паедзем, там ужо мама недзе зачакалася! — Ромачак раптам зразумеў, што забіраюць яго назаўсёды, што ўжо не будзе ніколі ў яго ні груда, ні гасцінца, ні кудзеркі, ні канавы за грудам, не будзе ўсяго гэтага, да якога ён прывык і за некалькі гадоў прывязаўся моцным вузялком. Мабыць, нешта страшнае здарылася на іх востраве-хутары, бо ўчора забралі цётку Маню, а сёння прыехалі па яго. І ён жаласліва заплакаў:

— Не хачу я ў Навікі, не паеду!..

— Трэба ехаць, мой каток! — гладзіў яго чарнявую галоўку дзед. — Табе ж трэба ў школу ўжо збірацца, а ў нас школы тут няма. А да нас будзеш прыязджаць…

Бацька нёс Ромачка да воза, а той вырываўся і на чым свет галасіў.

— Мама! Забяры мяне! — кідаўся малы да бабулі. Ён па-ранейшаму называў яе «мамай».

— Забярыце мяне, я не паеду ў тыя Навікі.

І не вытрымала жаночае сэрца, расплакалася бабуля і сама.

А Вінцук ужо паганяў каня. Ромачак галасіў, хапаўся рукамі за паветра, а бацька яго суцяшаў:

— Табе там лепш будзе, там дзяцей многа. І дом твой там, а не тут. Ты ж быў тут толькі госцем. А ў гасцях грэх доўга заседжвацца.

Усе стаялі за плотам і сумна праводзілі вачыма фурманку, што ўжо схавалася за кудзерку і павярнула да гасцінца. А Ромачак усё плакаў, худзенькія плечыкі яго канвульсіўна ўздрыгвалі. Вінцук, разгублены і сам ад такога развітання, як мог, суцяшаў сына:

— Ну, хочаш, я дам табе многа грошай, заўтра ты на іх купіш столькі цукерак!

І бацька выцягваў з кішэні дабраваты пук зялёненькіх і шэрых прыгожых паперак, якія тут жа рассыпаліся на каленях малога, і Ромачак лавіў іх маленькімі ручкамі, зноў збіраў у пук. Так яшчэ нядаўна ён збіраў пад старым клёнам чырвонае апалае лісце, а потым бачыў, як бабуля пячэ на ім хлеб. Лісце пад боханам надавала яму самы нязвычны смак. Магчыма, лісце для яго было больш даражэйшым, чым гэтыя каляровыя паперкі. Але ён памятае, як за тыя паперкі ў Манінай лаўцы куплялі самыя дарагія дзіцячыя цацкі: лялькі, маленькія машынкі, завадныя птушачкі і жабкі. У навікоўскіх гасцях, куды яго зрэдку з вялікай цяжкасцю несла за спінай, і вяла за ручку мама Ядвіся, дзе яго пакідалі толькі на некалькі дзён, самай лепшай цацкай для маленькага Ромачка стаўся бацькаў кашалёк, які сам выпаўзаў з расшпіленай кішэні чорнага фрэнча, а ў ім хораша пазвоньвалі кругленькія капейкі і весела шамацелі прыгожыя паперкі з нейкімі малюнкамі. Ён любіў прыгожыя яркія малюнкі

на паперках, збіраў і хаваў у кішэнях тыя, у якія былі загорнуты цукеркі, што часта прыносіла яму з лаўкі цётка Маня.

Слёзы непрыкметна высыхалі на шчочках Ромачка. Воз лёгка падкідвала на ўкаранелых каляінах старой лясной дарогі, неўзабаве выехалі на шырокае пясчанае гала, парослае дымнаватым вастраверхім ядлоўцам. Конь пачынаў напінацца, колы вязлі ў густым і сыпучым жаўтапёсе, а потым воз зноў выскачыў на гладкую дарогу, дзе колы адчулі цвёрдае і пабеглі шпарчэй. Пачыналася Калатоўка, лугавое пушчанскае прырэчча. Калі пад'язджалі да драўлянага моста праз вузкую віхлястую рачулку Лубянку, Ромачак заўважыў вялізную, як хмара, чародку цёмна-шэрых авечак. У Астравах яшчэ ніколі такіх жывёлін ён не бачыў. Няўжо гэта тыя цыганы, якімі заўсёды яго палохалі бальшуны з груда?

— Цыга-а-нэ-э! — спалохана прамовіў Ромачак і яшчэ ніжэй прыгнуў у воз галаву.

— Не бойся, мы ўцячом ад іх, — рассмяяўся Вінцук і сцебануў лейчыной «сляпога» гнедага. Той паімчаў хутчэй. Неўзабаве паказаўся выган, а за высокім драўляным крыжам пачыналіся Малыя Навікі, Ромачкава родная вёска. Астравы засталіся ззаду. А перад імі адкрываўся вялікі і незнаёмы пушчанскі мацярык.

* * *

Пакуль ішло следства, Маню Дучэнскую трымалі ў старэнькім, падобным на склеп, муры. Святло сюды ледзьве прабівалася праз закратаванае невялікае акенца. Гэта шэрая змрочная мураванка прыгнятала сваёй пакутлівай цішынёй, забірала і тут жа нішчыла ўсе думы і надзеі. Цемра небяспечна згушчалася ноччу, не ішоў сон, слеплі вочы. Толькі шоргат мышэй ды кароткія перабежкі цяжкіх пацукоў трывожылі слых, змушалі мацней біцца сэрца, нават чуць на свае вушы яго біццё. Час замарудзіў свой бег, здавалася, што ён зусім у нейкае імгненне спыніўся. Раніца з нейкім незразумелым грукатам наверсе, абрыўкамі чыіхсьці галасоў казалі пра іншае, што час не спыніўся і жыццё ідзе сваёй звычайнай ходой. Толькі нехта ў ім пакутуе, як зараз яна, а нехта зусім не здагадваецца пра гэта. Відаць, усе і не павінны пачувацца на свеце аднолькава, кожны жыве сваім жыццём і кожны спадзяецца на сваё. Здаецца ж, яшчэ і зусім мала пражыта, толькі дваццаць з нейкім хвосцікам гадоў, а тут і адны суткі расцягваюцца ў год. Тут зусім іншае разуменне часу.

Зрэдку ў вязніцу падсаджвалі нейкіх маўклівых людзей, пераважна мужчын, адных пакідалі, іншых адразу ж забіралі.

Не было лягчэй, калі выклікалі на допыт. Там, у цеснаватым цёмным пакойчыку з адным сталом і табурэтам, даймалі недарэчнымі пытаннямі, заблытвалі, перапытваючы адно і тое ж па некалькі разоў. Там яшчэ палохалі, малявалі табе наперад такі пакутлівы безвыход. Цяпер яна разумела, што яе абвінавачваюць у падпале яе лаўкі. Зусім недарэчнае абвінавачванне.

Аднае начы да яе падсадзілі ўжо немаладую жанчыну, якую абвінавачвалі ў крадзяжы нейкага калгаснага дабра. Дома ў жанчыны засталося двое малых дзетак ды п'яніца муж. Ад гаманкой кабеты Маня наслухалася самых розных жахаў: і пра нечалавечных следчых, і пра яшчэ горшых сукамернікаў. Незразумела толькі было, адкуль яна ўсё гэта ведае.

Кожны страх заўсёды нараджае новы страх. У вязніцы і засаўка гучыць як вінтовачны стрэл. Кволенькі дзявочы арганізм не вытрымліваў выпрабавання

мурам. Маня змянілася ў твары, а былі хвіліны, калі грудзі яе ірваў цяжкі сухі кашаль. Яна амаль нічога не ела. Усё, што ёй прыносілі на падмацунак, так і заставалася амаль некранутым. Не, гэта была не галадоўка. Гэта быў яе адчай. Цэлымі гадзінамі, нашэптваючы, разбаўленыя плачам пацеры, яна вымольвала ў Бога толькі аднаго: «Хай жа яны там, наверсе, падумаюць, паклапоцяцца пра мяне. Бо ў чым жа я вінаватая? Няма ж і сведкаў аніякіх. Хай збяруць грошы і знойдуць добрага адваката…» Пра вялікую адвакацкую сілу яны часта гаварылі тут, у вязніцы.

А дома, у Астравах, хоць і не чулі яе пакутлівых модлаў, пра яе думалі.

— Трэба ехаць неадкладна да Цесарчука! — паўтараў адно і тое ж Вінцук. Ён запытальна глядзеў на цесця, якога той раённы суддзя бласлаўляў на вунь якую адказную пасаду. А Казюк Дучэнскі ўпарта маўчаў, напэўна, ён выношваў нейкія свае планы наконт гэтага ўсяго.

— Паеду я сам! — урэшце вырашыў Вінцук. — Цесарчук мяне ведае і, здаецца, ведае някепска. Так што паеду. Хай там разбяруцца!..

Цягнуць далей не мела сэнсу. Ды і само сабой мала што робіцца. Гэта добра разумеў разважлівы Казюкоў зяць. Але для любой справы толькі аднаго разумення яе вельмі мала, амаль нічога. І гэта разумеў Вінцук. І ён наважыўся ехаць у Стоўбцы адразу ж, на наступны дзень, як толькі адбылася гэта размова.

— І вы, Міхайлаўна, паедзеце са мной! — сказаў ён цешчы.

— А што ж я там дапамагу. Можа, толькі памяшаю? — разгубілася старая.

— Нічога-нічога, паедзем. Калі я кажу, дык ведаю, што лішнімі не будзеце.

Жаночая, мацярынская сляза, як разважаў Вінцук, ніколі дарэмнай не будзе. Ён памятаў, як паважліва адносіўся калісьці да цешчы раённы суддзя. «Соф'я Міхайлаўна, даражэнькая, мудрэй за вас няма нікога на свеце» — гэта ж словы Цесарчука, чутыя не раз у іхняй хаце. Вінцук пераканаў цешчу. І назаўтра яны адправіліся ў дарогу.

Думалі спачатку дабірацца на спадарожнай. Але ж гэта вялікая рызыка. Ходзяць яны па шашы не так і часта. Аддалі перавагу каню.

Два дзясяткі кіламетраў для баявога партызанскага каня — не дарога. Да таго ж яго добра папасвілі на травяністай расянай аселіцы. Не мінула і дзвюх гадзін, як яны былі ў Стоўбцах. Суддзю адшукалі лёгка, і прыняў ён Вінцука з цешчай амаль па-свойску, хоць размова іхняя атрымалася не такой і простай і, вядома ж, са слязьмі Соф'і Міхайлаўны. Твар суддзі надта ж мяняўся падчас іх размовы, ён то рабіўся хмурым, то ўсмешліва святлеў. Дамоў усё ж яны вярталіся не ў такім змрочным настроі, як ехалі сюды. Суддзя хоць нічога канкрэтнага ім не абяцаў, а ўсё ж іскру нейкай надзеі ў душу закінуў.

На зваротнай дарозе Вінцук не прамінуў заскочыць у нейкую забягалаўку пры вакзале, прапусціў для супакаення шклянку «маскоўскай» ды куфель піва. Цешчы ён купіў марожанага, тых самых салодкіх лёдаў, як называлі яго пушчанцы, і ўжо не шукаў нейкіх слоў, каб суцяшаць, як рабіў тое, калі яны выязджалі з дому. Ён ведаў, што Цесарчук, калі зможа, дык абавязкова дапаможа. Усім жа зразумела, што дзяўчына тут не вінаватая. Усім — ды не следчым. Тыя ва ўсім шукаюць свой след. Злаваўся Вінцук і на цесця. Мог бы і сам да суддзі паехаць. Вунь як абдымаліся некалі за сталом, калі бралі разам чарку. Дык не, упёрся: «Не паеду кланяцца, кленчыць перад ім!» А Цесарчук жа не прамінуў запытацца: «А чаму гэта сам Карлавіч не прыехаў? Што, такі ўжо заняты?»

Вінцук адказаў коратка: «Не ведаю. Гэта ў яго трэба запытацца».

Ехалі яны павольна, не надта гналі каня. Старая шэрая брукаванка, якую ўвесь час падгладжвалі падчас шараварак, была сям-там выбоістай, акаваныя абадкі колаў, калі трапляліся выбоіны, гучна пастрэльвалі, аж трэсліся драбіны. На дарозе было пуста — хоць бы адна спадарожная ці сустрэчная машына трапілася, у іншыя дні, бывала, што ішлі адна за адной і ў тым, і ў гэтым кірунку. Але калі пад'язджалі да гары, за якой унізе працякала рака Сула, ззаду ўсё мацней і мацней пачаў наплываць гул матора. Іх даганяў нейкі грузавік. Вінцук тузануў лейчыну, узяў крыху ўлева. А далей мала што памятае. Яны не бачылі, што грузавік, які набліжаецца, не мінае, а імчыцца проста на іх. Вінцука аглушыў нейкі страшны, працяжны грукат. Калі ён адплюшчыў вочы, то ўбачыў, што сядзіць на карачках каля перакуленага грузавіка. Стары «ЗІС», што пабачыў усялякія дарогі, ляжаў коламі верх. Колы працягвалі круціцца, але матор не падаваў ніякіх гукаў. Ля машыны капашыўся спалоханы шафёр. Конь з пустым возам адбегся далей у лагчыну, стаяў у ёй нерухома, толькі зрэдку ўзмахваў грываю.

Вінцук пачаў шукаць вачыма цешчу і нечакана руку яе заўважыў пад кучай драўляных клёпкаў. Пакульгваючы, бо, падаючы, напэўна, пакалечыў нагу, ён кінуўся разграбаць клёпкі. Клёпкі былі свежыя, асінавыя. Разгробшы іх, ён выцягнуў і цела. Кабета стагнала, задыхалася, і твар і рукі яе былі ў крывавых падцёках. На руках ён аднёс цешчу бліжэй да воза, дзе расла не густая, відаць, не так даўно скошаная трава. Шафёр ніяк не мог зразумець, што здарылася. Магчыма, ён нават прыдрамаў за рулём. Ён разгублена бегаў вакол машыны. Папрасіўшы ў яго вядра, Вінцук пабег да Сулы, каб зачарпнуць вады.

З правага боку на самым беразе шчыравала млячарня. Стаялі фурманкі, мітусіліся людзі. Вінцук клікнуў іх на дапамогу. З млячарні па тэлефоне выклікалі міліцыю. Яна з'явілася не адразу. Не чакаючы яе, цешчу на нейкай спадарожнай машыне адвезлі ў бальніцу. А Вінцук надоўга затрымаўся ля перакуленай машыны, пакуль яе ўрэшце не паставілі на колы. Міліцыянты доўга аглядалі, нават абмацвалі яе.

Клёпкі ляжалі на ўзбочыне, на іх ніхто не звяртаў увагі, дапытвалі кіроўцу і як пацярпелага, Вінцука, пісалі пратакол.

«Вось так яно і бывае, едзеш у дарогу з надзеяй, а вяртаешся з бядой», — сумна разважаў Вінцук. А дамоў хоць ты і не вяртайся. Нічога добрага, апроч слёз, там не чакае.

Ах, колькі было выплакана тых слёз! І дарослымі, і малымі. Свет наш за часы свайго існавання, відаць, сапраўды выплакаў не адно мора слёз. Няма ў тым моры астравоў, якія бываюць у акіяне, нават у звычайным возеры, нават на сушы, як тут, у нас. Нават каб адшукаўся такі востраў, яго патрэбна было б называць востравам чалавечых слёз.

У Астравах, куды, вяртаючыся, заехаў, ужо без цешчы, Вінцук са сваёй сумнай весткай, думаючы, як бы гэта яе асцярожна падаць, яго аглушылі іншай: Чэся забіраюць у войска. Прыйшла позва.

Хмуры, і так не надта гаваркі Казюк, з гэтага часу яшчэ больш замкнуўся ў сабе, цяпер усё часцей размаўляў сам з сабою. А раніцой, калі біў з усяе сілы ў рэйку на калгасным двары, да нудлівага чыгуннага звону дадаваў яшчэ і моцнага марскога мату. Людзі між тым на працу ішлі неахвотна, агрызаючыся, нібыта на тую прынудзілаўку. Многім здавалася, што ва ўсім, што так непрадбачана складвалася ў іх жыцці, вінаваты толькі адзін Казюк. А той і сам увесь з галавой завяз у непрадбачаных бедах.

Толькі аднаму прытыранаму Людвіку было на ўсё напляваць. Ён зноў у прыканаўным алешніку малаціў прутам па жалезным катле і, падрабляючы начальніцкі голас Казюка, крычаў, хрыпнучы ад свайго крыку:

— На рабо-о-ту, вашу маць! Уставаць! Эгэй!

Смяяліся людзі самі сабе. А Казюку Дучэнскаму было не да смеху. Жонку яго яшчэ не хутка выпішуць з бальніцы. А выпісаўшыся, дома яна пачувала сябе вельмі кепска, не ўставала з ложка. І неўзабаве памерла. І тады зноў хутаранцы пачалі перашэптвацца, што Казюка нехта пракляў, а Бог пакараў.

А дачку Маню неўзабаве апраўдалі, і яна аднойчы вярнулася дамоў. Невядома, ці дапамог тут суддзя, ці следчыя не знайшлі ў яе справе ніякай віны. Цяпер астраўскія жылі без сваёй лаўкі. А купляць, што трэба, ездзілі то ў бліжэйшую Гуменаўшчыну, то ў Дзераўную, а то і ў Стоўбцы. Часам на сваім сівым адкормленым кані заяўляўся на хутары і анучнік Ёсель. Той гандляваў нейкімі шпількамі ды голкамі, але патрабаваў старых ануч. А з анучамі ў тыя часы было цяжка.

Маня ж пасля доўгіх тыдняў, праведзеных пад скляпеннямі Мірскага муру, зблажэла і зусім занядужала. Яна моцна кашляла, захлібалася ад кашлю, і на вачах высыхала. Ужо было зразумела, што гэта сухоты, хвароба, што мала паддаецца лекаванню. Ніякай спадзеўкі не даваў і добры доктар з Ругайца Ладноў, з якім у Казюка былі добрыя сяброўскія стасункі. Казалі, што хвароба лечыцца сабачым тлушчам. Давялося шукаць і гэтыя лекі. Не дапамагалі і яны. Былі бездапаможныя і траўнікі тутэйшыя, і знахары. Людзі казалі: «Калі высахлі сокі, дык не памогуць і лёкі». Людзі не часта памыляюцца.

* * *

…На пушчанскіх астравах гаспадарыў май. Свежым зялёным агнём маладой травы палалі долы, ва ўсё зялёнае апраналіся дрэвы. Мяккі зялёны колер бярозы далікатна ўлагоджваў старую зеляніну елкі, хвоі і ядлоўцу, а яшчэ цёплай слязой вільготніў старыя і маладыя вочы. У лесе шмат успыхнула сіняга і белага цвету, ужо і луг асмельваўся на першыя, прыкметныя і непрыкметныя кветкі, а за сцяной у хаце Казюка Дучэнскага памірала дваццацігадовая прыгажуня Маня. І калі з Малых Навікоў завітала старэйшая сястра Ядвіся, нямоглым пальцам выціраючы павольную сухаватую слязу, хворая папрасіла:

— Наламі ты, Ядвіська, маладога бярэзнічку, прынясі ў хату.

Ядвіся не магла стрымаць сваіх слёз. Заплакала, тут жа выбегла з хаты, доўга-доўга змывала слёзы вадой, што наліў учарашні дождж у жоўтыя прыгоршчы нейкага глінянага чарапка. Яна кінулася спачатку да грэблі. А потым успомніла, што бяроз там няма, доўга азіраючыся, падалася да гумнішча, за якім даўно ўжо азначыўся добры малады бярозавы падлесак. Праз малечу-свежаростак пайшла вышэй, дзе бярозкі ўжо дабравата акрэслілі свае танклявыя ствалы. Яна ламала маладыя ліпкія галінкі, а яны не ламаліся, толькі ўпарта згіналіся, нібыта рабіліся гумовымі. У іх маладзенькім нутры яшчэ не прасох нядаўні салодкі сок. А, можа, гэта былі Ядвісіны слёзы?..

— За што ж на нас такое насланнё? — пыталася яна ў сябе, баючыся сваіх слёз. Дзе-нідзе галінкі так і засталіся перагнутымі, але не зламанымі. А Ядвіся ўжо несла ў хату цэлае бярэмя маладой зеляніны, цэлае бярэмя маю.

А яшчэ Маня папрасіла сястру пакінуць адчыненым акно, што выходзіла на лес:

— Можа, пачую, як закукуе зязюля ў бярэзніку. Дзе яна, мая скупая?

А зязюля чамусьці не прылятала. Толькі ў дзвюх шпакоўніцах, адна з якіх прымасцілася на чаромсе пад акном, а другая на вільчыку хлява, густа высвіствалі чорныя шпакі.

Ад свежага, пахкага маладога зяленіва ў хаце адразу нібы пасвятлела. Галінкамі Ядвіся ўпрыгожыла і сцены, і Манін ложак. Букецік з ясных блакітных пралесак паставіла ў шклянцы і пры самай падушцы хворай. Вочы Мані шчасліва праслязіліся, здавалася, нават паружавелі шчокі. А потым адразу пачаліся стогны, агонія, цяжкія хрыпы ў грудзях. Ядвіся трымала Маніну руку ў сваёй, і чула, як у ёй паціху згасае пульс. І адразу расхваляваная Ванда пабегла па свечку.

За дзевяць месяцаў у лоне маці выспявае плод новага чалавека, столькі ж часу спатрэбілася, каб чалавек у самай вясне свайго ўзросту пасля смерці матулі і сам пакінуў гэты свет. Роўна праз дзевяць месяцаў пасля смерці жонкі сям'ю Казюка Дучэнскага напаткала новая смерць. Развітваючыся з нябожчыцай, здавалася, плакала ўся пушча. У труне Маня ляжала ва ўборы нявесты ў белым вэлюме і такім жа плацці. Плакалі, адпяваючы яе, хутаранскія жанчыны. Плакалі, сумна патрэскваючы, свечкі. І надта сумным, насупленым, нібы на кагосьці злаваўся, стаяў ля труны малы Ромачак. Такім яго і пакінуў на фотаздымку стаўбцоўскі фатаграфчык. А потым сумная падвода з трунай, густа ахутанай бярозавай зеленню, паплыла да гасцінца. Жалобныя спевы самотлівым рэхам падхопліваў лес, лёгка пагойдваючы свае маркотныя вершаліны.

А сама вясна не зважала на людское гора, на чыесьці слёзы. Прырода брала сваё, усё ярчэй і смялей разводзіла свае фарбы, на поўную моц распальвала сонца.

Пасля працяглай начной навальніцы цёпла выбухнула, зааксаміцілася маладая трава, на ўсе птушыныя галасы заспявала пушча. Недзе ў заканаўі ў маладым арэшніку заліваліся, цёхкалі, выгіналі самыя неверагодныя каленцы салаўі. Закувала нарэшце і зязюля. Пры самым Казюковым двары яна, не стамляючыся, сыпала сваё бясконцае «ку-ку». Але зязюлю ніхто не слухаў, а, можа, баяліся слухаць. А на падсохлым астраўскім грудзе пасвіліся каровы, дагарала кволае цяпельца. І не спяшалася хавацца за лес стамлёнае сонца.

* * *

Хутар Дучэнскіх цяпер выглядаў сіратліва, хоць у двары і ў хаце нічога не змянілася. Усе хатнія клопаты зараз ляглі на плечы малодшай Ванды. Чэсь служыў у войску дзесьці на Далёкім Усходзе, ён нават не змог прыехаць на пахаванне сястры. Сам Казюк усё часцей прыкладваўся да чаркі, гэтак было лягчэй пазбаўляцца ад змрочлівых думак. Начныя гадзіны для яго наогул здаваліся вечнасцю, бо адольвала бяссонне, скрабло на сэрцы, самі вочы малявалі неверагодныя жахі. І тады ён падхопліваўся з ложка, дрыготкімі рукамі прыкурваў папяросу, выходзіў у двор, доўга і задумліва глядзеў на лес і не бачыў яго, бо абрысы былі спрэс затушаваны непрагляднай цемрай. Рана падымаў Казюк і малодшую дачку. А яна хуценька падскочыць з пасцелі, падоіць карову ды выганіць яе на пашу. А яшчэ і ў печы паспее выпаліць, наварыць бульбы парсючку, што адзінока рохкае ў хляве, бо дваіх астатніх закалолі на памінкі. А яшчэ і сабе трэба спячы нейкі блінок. А потым, хуценька пераапрануўшыся, схапіўшы пад паху тэчку з падручнікамі і сшыткамі, бяжыць у школу. А да Гуменаўшчыны, дзе і туліцца тая школа, добрых тры вярсты дарогі.

Неяк забегла ў клас. Крыху спазнялася, бо ўжо празвінеў званок. Глянула на сябе — і… спалохалася: сукеначка паркалёвая на ёй надзета навыварат. Ціхенька выбегла з класа — і ў прыбіральню. Там пераапранулася, дапляла сваю доўгую касу — ды зноў у клас. Настаўніца, магчыма, і заўважыла ўсё, але нічога не сказала. За старанлівасць яна паважала дзяўчыну. Ды і спачувала: дачка старшыні сталася сіратою. Ванда і вучылася лепш за іншых. Бывала, і на сон забудзе. Будзе цэлую ноч бегаць па хаце ды зубрыць верш, які ніяк не кладзецца на памяць. Бо памяць забіта нечым іншым, сумным. Але пераможа і сон, і сама сябе, абавязкова вывучыць той верш, і ніхто не здагадаецца, як ён цяжка ёй даваўся.

Цяпер Казюк Дучэнскі забыўся і пра сваю рэйку. Выбіўся ён і сам даўно з раўнавагі. Гэтым вечарам папрасіў Ванду адпрасаваць яму крамную кашулю. Сам доўга махаў старым чыгунным прасам, раздзімаў у ім вуголле. Назаўтра раніцой ён цвёрда намерыўся ехаць у Стоўбцы да райкамаўскага начальства. Яму даўно надакучыла ягоная пасада, трэба ад яе неяк адбівацца. Як ні напінаў ён жылы, каб наладзіць справы ў калгасе, а той, бы зламаны воз, як стаяў, так і стаіць на адным месцы. Дучэнскі нават пачынаў ужо верыць у тое, што ўсе яго ўласныя беды цягнуцца ад яго старшынёўства. Вунь дачку якую, прыгажуню, толькі на пасад садзіць, страціў. Жонку страціў таксама. Недзе далёка, за светам сын, старэйшая дачка з’ехала са сваім мужам у Польшчу. Зусім асірацела хата. Ён цвёрда надумаў прасіцца ў адстаўку. Бо марнуецца, прыходзіць у заняпад уласнае жыццё.

Раённае начальства і слухаць не захацела Казюковы довады. Праўда, паспачувала яго гору, ды перавяла гаворку на вясёлы лад.

— Жаніцца табе трэба, Карлавіч! — сказаў яму першы, самы галоўны раённы начальнік. — А калі з гэтым якія цяжкасці — давай паможам! Удоўкі-прыгажуні, здаецца, у пушчы яшчэ не перавяліся… Так што едзь, працуй, шукай нявесту. Рыхтуйся на днях прымаць трактар.

Вярнуўся Казюк са Стоўбцаў ужо ў іншым настроі. Начальнікі ўмеюць угаворваць. На тое яны і начальнікі. Хоць і сам ён для кагосьці нейкі начальнік. Але яму яшчэ вучыцца ды вучыцца ў тых, большых. Вучыцца трэба ўсім у гэтым свеце, нават начальнікам.

Па Астравах неўзабаве папаўзлі плёткі, што старшыня Дучэнскі стаў часта наведвацца да ўдавы Вярэнічыхі, хутар якой хаваўся ў лесе недзе ля самых Брухачоў. Дачулася пра гэта і дачка Ванда. Калі бацькі часта позна не было дома, яна баялася заставацца адна ў сваёй хаце. Хтосьці палохаў яе тым, што ў свой дом сярод ночы могуць з’яўляцца нябожчыкі. Бацька часам вяртаўся дамоў пад самую раніцу, а яна цэлую ноч сядзела пры газоўцы, не тушыла яе, гэтак ратуючыся ад пакутлівай цемры. Але апошнім часам людзі ўсе часцей пачалі пагаворваць, што Дучэнскі знайшоў сабе нейкую жанчыну ў Шашках. Ці мала што могуць казаць людзі, але ж чалавек павінен жыць сваім розумам. А свой розум падказваў Казюку, што ў яго доме не хапае гаспадыні.

Мачаха ў іх доме з’явілася не адразу. Дучэнскі нібыта раздумваў, вагаўся, часам намякаў сваёй малодшай дачцэ, што можа неўзабаве так здарыцца, і ў іх доме яны ўбачаць новага чалавека. То каб не было ніякіх непаразуменняў, таго чалавека трэба прымаць такім, якім ён ёсць. Трэба змірыцца з усім, бо жыццё ёсць жыццё, у ім трэба жыць, а не шукаць нейкіх ворагаў і ладзіць міжусобныя войны.

— Будзе лягчэй нам усім, — казаў Казюк сваёй малодшай дачцэ. Ён нібы падрыхтоўваў яе да будучай сустрэчы з мачахай. Адзін практычны Вінцук глядзеў на ўсё сапраўды практычна:

— Гаспадыня ў хаце толькі выратуе хату, галоўнае, каб флюндрай нейкай не была.

Ядвісі, яго жонцы, гэта не падабалася. Але мужу пярэчыць яна баялася. Ведала, што гэта марная справа.

«Мачаху» — гэтым словам і будуць яе называць у Астравах — Казюк прывёз нечакана разам з усім пасагам на адной падводзе. З пасагу яна мела толькі невялікі куфар ды яшчэ некалькі ванзэлкаў. Вясёлая, рухавая таўстуня з лёгкім румянцам на круглым твары, адразу ж калі спаўзла з воза, пабегла знаёміцца з Вандай.

— Цяжка табе, дачушка, я ж бачу. Нічога, будзеш вучыцца, а гаспадарку ўжо я як-небудзь дагледжу, — шчабятала новая гаспадыня.

Ванда слухала і не чула яе, бо думала пра сваё. Маці і сястру, вядома, з таго свету не вернеш. А яна цяпер будзе вучыцца ў Рубяжэвічах, куды яе залічылі ў сярэднюю школу. Дарога далёкая, больш за дзесяць кіламетраў. Ногі хоць і маладыя, а ў такую далеч не находзішся. Вінцук ужо нават падшукаў ёй нейкую кватэру. Ён і грошы плаціў за тое навучанне, бо яно пакуль платнае. Кажуць, што гэта часова.

— Хай вучыцца дзяўчына, калі мае ахвоту, — казаў Вінцук. — Маладыя павінны вучыцца.

Мачаха пакрысе прывыкала да новай хаты, прыглядалася да «хітраватых», як яна казала, хутаранцаў, а тыя ў сваю чаргу прыглядаліся да яе. Жыццё не спынялася. Ды і хто можа спыніць жыццё, калі існуе свет, прырода, зямля, па якой ходзяць і ездзяць людзі. Жыццё не спыняецца, калі нават хтосьці ў ім і памірае. Бо побач жывуць іншыя, хто заўсёды тут жа падхопіць нейкую абарваную нітку.

* * *

Засценак Малыя Навікі не так і далёка адбегся ад лясістых Астравоў. А прыдатак «малыя» атрымаў таму, што крыху далей, на невялікім адбегу, ёсць цэлае сяло, якое завецца Вялікімі Навікамі. Калісьці, кажуць, гэта была адна вёска, ды задумала мясцовая шляхта адасобіцца, купіла сабе зямлю ды аддзялілася. Засценак невялікі, усяго дваццаць шэсць хат, але Ромачак, які ў сваім жыцці большага нічога не бачыў, адчуў адразу, што трапіў на нейкую дужа вялікую тэрыторыю, дзе хаты большымі і меншымі карабкамі рассыпаліся і па адзін, і па другі бок нешырокай пясчанай вуліцы. І хоць сама вуліца не мае нейкай мяжы, дзеліцца яна ўсё ж на свае два «канцы». І калі маланавіковец з адной, правай ці левай палавіны, кіруецца ў засценак, то заўсёды кажа: «Пайду ў той канец». Кожны канец адпаведна мае свой крыж, свой выган і свой амшар, невялікі лес з балоцістай кругловінай у ім. Гэта Ромачак усвядоміў адразу ж, як толькі яго прывезлі ў бацькоўскую хату. Толькі доўгі час не змог зразумець ён, чаму гэта хата іхняя дзеліцца на дзве часткі: у адной, левай палове, жыве ён з татам і мамай, а ў другой, правай, праз сені, задзірысты Бронік са сваімі бацькамі, яшчэ меншы за яго жэўжык. Вось у дзядулі ў Астравах хата на ўсіх была адна, і за стол яны садзіліся ўсе разам, сёрбаючы халаднік часам з адной вялікай місы. Тата ягоны кажа, што гэта ненадоўга, вось пабудуюць яны ў тым канцы свой вялікі дом, самы большы ў засценку, і адразу пераедуць туды. Будуць жыць толькі адной сваёй сям'ёй. А Ромачку і не хочацца пераязджаць, яму і тут добра. Ромачка ўжо нават не цягне на дзедаў хутар, і не толькі таму, што там пасялілася нейкая «мачаха». Пра гэта часта кажуць тата і мама. Ён тут знайшоў новых сяброў і даўно ўжо не баіцца

ні ценю, ні гномаў-красналюдкаў, нават цыганоў не баіцца. Праўда, з тымі цыганамі ў яго атрымалася і зусім смешна. Калі ён аднойчы ўбачыў тых жа авечак, табунок якіх гналі пастухі разам з каровамі па вуліцы, то адразу кінуўся наўцёкі, лямантуючы пры гэтым:

— Цыган-э-э! Там цыганэ!..

Новыя сябрукі потым доўга смяяліся з яго. На астраўскім грудзе хлопчык ніколі не бачыў авечак, іх там не было. А потым ён і сам смяяўся з сябе, зразумеўшы ўсё тое, чаго не ведаў. Непрыкметна знікла з гаворкі Ромачка і астраўское «э». Нават сусед, дзядуля Франак, з якім Ромачак пасябраваў, пасучы свіней на выгане, асцярожна павучаў яго:

— Ты ж, Ромачак, у шляхетны засценак прыехаў, а ў нас так не гавораць. Трэба казаць не «цыганэ», а «цыганы», не «чмяле», а «чмялі». Малога не пакрыўдзіла гэта навука, проста яму цяжкавата было адвыкнуць ад таго, да чаго ён прывык на хутары.

Бацькі пацІху прывучалі Ромачка да гаспадаркі. Самі яны раніцой запрагалі каня і ехалі ў далёкае поле, якое называлі Маргамі, а Ромачак заставаўся за гаспадара. «Глядзі ж, — наказвалі яму, ад’язджаючы, — загоніш у хлеў карову, як прыгоняць з пашы ў абед! Прыглядай за пчоламі! Калі пачнуць занадта гудзець ды вылятаць з вулляў, ці збірацца ў клубок, бяры венік, макай у ваду і асаджвай пырскамі той клубок. Гэта — рой. Калі ён паляціць — яго ўжо не дагоніш». Пчол тых ажно чатыры вуллі, а воч у Ромачка напалову менш. Паспрабуй упільнуй тых кусучых пчол! Пасядзіць-пасядзіць хлапчанё каля вядра з вадой, ды збяжыць на выган. Там яго новыя сябрукі пасуць свіней, з імі дзядуля Франак, як роўны сярод роўных. Яны паляць агонь у дупле старой вярбы. Смажаць на ражэнчыках сала, пякуць у прысаку бульбу. На выган бегае і Ромачкаў сусед па хаце Бронік, які даводзіцца яму не проста суседам, а дваюрадным братам. Ромачку таксама хочацца на выган.

— І я хачу пасвіць свіней! — плачацца ён вечарамі тату і маме.

— Нашы ж свінні не прывучаныя да выгану, — тлумачыць яму маці, — ты іх не ўпільнуеш. Грады яшчэ каму памятушаць. Бяды тады не абярэшся.

— Я ўпільную, і хлопцы памогуць! — пераконвае іх Ромачак.

— А, можа, хай паспрабуе, — адступае бацька. — Хай пагоніць трое большых? Мо прывыкнуць? На выгане ўсё ж куды лепей, чым у хляве.

— Хай сабе паспрабуе, згоніць ахвоту, — згаджаецца маці.

Назаўтра раніцай свіней выганялі з загарадкі, далі ў рукі Ромачку доўгі бярозавы дубец, а далей свіную тройцу як ветрам падхапіла. І наплакаўся, і нагойсаўся Ромачак у той дзень на выгане. Свінні, адчуўшы волю, захацелі яшчэ большай. З рохканнем ды піскам яны кідаліся ў амшар, а Ромачак бег за імі, сцябаў дубцом, чапляўся за нейкія карчы, падаў, збіваў калені, пераймаў тых ашалелых уцекачоў.

— Вы ж памагайце Ромачку! — ушчуваў дзядуля Франак ужо бывалых свінапасаў Болеся, Стася і Броніка. Тыя кінуліся дапамагаць Ромачку, але рабілі гэта, як заўважыў дзядуля, неахвотна, больш цешачыся з Ромачкавых пакут, чым дапамагаючы яму. За дзень Ромачак так набегаўся за сваёй тройцай, што спаў потым як пшаніцу прадаўшы, толькі носам пасвістваў.

— Цікава ж, ці захочацца яму заўтра на той выган?— пацяшаўся Вінцук. А назаўтра Ромачку балелі натруджаныя ногі і рукі, ныла спіна. Але ён моўчкі ўзяў у рукі бярозавы дубец і пайшоў адчыняць хлеў.

Свінні паволі пачалі прывыкаць да гурту, а сябрукі ўсё часцей і часцей пачалі адпускаць Ромачка дамоў па лусту ды скварку. Тыя ведалі, што ў Він-

цуковым кубельцы заўсёды хапала сала. Дык чаго яму там ляжаць ды жаўцець без ужытку?!

Праз год Ромачак пойдзе ў школу, але ён ужо і сёння ўмее чытаць. Літарам яго навучыла цётка Ванда яшчэ там, на дзедавым хутары. Ён часта паўтарае вершы, якія вечарамі некалі зубрыла цётка, рыхтуючыся да ўрокаў. Калі дзядуля Франак просіць яго нешта пачытаць, ён чытае іх:

Табе, правадыр, мае песні і думы,
І шчырыя шчырага сэрца парывы.
Бо хто калі сніў, ды і хто калі думаў,
Што буду я вольны, што буду шчаслівы…

— А хто напісаў, не ведаеш? — пытаўся дзядуля Франак.

— Не ведаю, цётка не казала, — сумнавата паціскаў плячыма Ромачак.

— Во, бачыце, — звяртаўся дзядуля да астатніх, — а вы так не можаце!..

Ромачак чытаў дзядулю ўсё, што ён памятае, і той здзіўляўся чыстай дзіцячай памяці.

* * *

А тым часам Ромачка рыхтавалі да першай споведзі. Штовечара ўслед за мамай ён паўтараў пацеры, якія ўжо даўно ведае на памяць, але сям-там яго блытаюць чужыя незразумелыя словы. Ромачак баіцца споведзі. Там, у касцёле, дзе ён ужо аднойчы быў з мамай, усё здзівіла і ўразіла яго сваёй незвычайнасцю і ўрачыстасцю. Усё: і светлае высокае паднябенне касцёла, і выявы святых, і свечкі, якія незвычайна высвечвалі твары людзей, і раскацістае гучанне аргана, — змушала ўсхвалявана біцца сэрца, дадавала бляску вачам, змушала задумацца.

Палохаюць Ромачка якраз не пацеры, а тое, што на вуха ксяндзу ён павінен будзе казаць пра свае грахі. Вось і тут, седзячы ля вярбы, пад якой дыміцца маўклівае вогнішча, ён раіцца з сябрукамі, што яму гаварыць наконт тых грахоў.

— Ну, скажы, што ў Паўлішын сад лазіў, — падказвае яму хітрэйшы Болесь. Ён ужо быў у спowядзі і пачуваецца цяпер усёведам.

— Скажы, што бацьку не слухаў, — падказвае Стась.

— Ага, бацьку не паслухаешся! — смяецца Болесь. — Ён доўга, калі што якое, не чыкаецца, так адменціць папругай, што дзясятаму закажаш.

Стары Франак ляжыць пад суседняй вярбой (вербы растуць тут у адзін доўгі радок), ды склаўшы ля вуха дужкай далонь, слухае, сам сабе ўсміхаецца. У гаворку малых умешвацца не хоча. Нарэшце між іншым заўважыць:

— Пакуль грэх свежы — трэба і лячыць яго па-свежаму.

Праз тыдзень, на Зельніцу, у Дзераўнянскім касцёле ладзіўся вялікі фэст. Раніцой Вінцук запрог свайго партызанскага «сляпога», і ўсёй сям'ёй яны адправіліся ў Дзераўную, у той самы касцёл, дзе ў партызанку Вінцук з Ядвісяю бралі шлюб. Па дарозе яны заехалі ў Астравы. На дзедавым хутары стаяла незвычайная цішыня. Быццам усё тут вымерла. Але калі скрыпнулі весніцы, з хаты выбегла з кнігай Ванда. Дзеда дома не было. Іх сустракала новая гаспадыня. Ромачак упершыню ўбачыў тую самую «мачаху», пра якую шмат гаварылі апошнім часам у іх дома. Невысокая, паўнаватая жанчына з добрымі вачыма, пагладзіла Ромачка па галоўцы і паклала ў яго ручку некалькі цукерак у каляровых абгортках. Ромачак, саромеючыся, падзякаваў, як вучылі таму бацькі. Ужо калі яны ад'язджалі, мама Ядвіся адклікала ўбок Ванду і пра нешта ў яе

зацікаўлена распытвала. А потым іх фурманка пабегла да грэблі, мінула груд, дзе ля ранішняга вогнішча сядзелі знаёмыя Ромачку пастушкі. Яны віталі яго радаснымі воклічамі. А Вінцук пугай сцебануў каня, трэба было спяшацца — да свята ў касцёле заставалася мала часу. Уся брукаваная дарога да Дзераўной была запоўнена людзьмі, яны ехалі на фурманках і роварах, ішлі пешшу, неслі ў касцёл свянцаць даспелыя яблыкі і букецікі зелля.

У касцёле Ромачак паводзіў сябе, як і ўсе астатнія, а яшчэ — як вучыла мама. Ён разам з усімі кленчыў і жагнаўся, уздрыгваў ад хвалявання, калі грымлівай хваляй расцягваў свае акорды нябачны арган. Потым з заміраннем сэрца ішоў ён да спавядальні ў правым баку храма. Вось ксёндз прыклаў вуха да невялікага, пераплеценага драўлянымі промнямі акенца, і ў Ромачка адняло мову.

— Я слухаю, — паўшэптам сказаў ксёндз. І Ромачак, набраўшы поўныя грудзі паветра, прашаптаў:

— Я лазіў у чужы сад. Я…

А далей у роце як перасохла Ён стаўся нямым.

Ксёндз узяўся яму дапамагаць:

— А ці крыўдзіў калі дзяўчынак?..

— Не, — ледзь не крыкнуў Ромачак. — Яны самі мяне крыўдзілі.

Ксёндз адразу засмяяўся, а потым перажагнаў Ромачка. А той сапраўды ўзгадаў раптам, як яго пакрыўдзіла адночы суседская Рэгіна, выхапіўшы з яго рукі пячэнне.

Касцельны двор у гэты дзень выглядаў, як добры кірмаш. Гандлявалі проста на падводах, на засланых па ўсім двары пасцілках. Горы яблыкаў і груш, самай рознай зеляніны цешылі вока, казыталі сваёй духмянасцю ў роце. Ромачку бацька накупляў смакавітых ледзяшоў-пеўнікаў, нейкіх духмяных пранічкаў і абаранкаў. Ромачкаў твар свяціўся ад шчасця. Дамоў яны вярталіся зусім іншай Граньскай дарогай, і яна здалася Ромачку зусім кароткай.

Надвечар у Вінцуковай хаце сабралася невялікая сябрына. Прыйшлі блізкія суседзі, завітаў і хрышчоны бацька Вацлаў Тарайковіч, паклікалі і дзядзьку Юзіка, бацькавага брата з жонкай. На стале было цесна ад святочных закусак. Хапала тут усяго і з кубельца, і з грады. Пакуль мужчыны гаманілі ды падымалі чаркі, Ромачак, пасмоктваючы салодкі ледзяшок, углядаўся ў расчыненае акно, якое выходзіла да аселіцы. Ромачак застыў ад здзіўлення, калі ўбачыў, як з-пад іх сажалкі падымаюцца тры высокія постаці святых. Былі яны ў доўгіх да пят сутанах, укрыжаваных на грудзях дзіўнымі паясамі. Ішлі, абапіраючыся на доўгія кіі. Постаці паволі рухаліся ў напрамку іх хаты. Ромачак адчыніў дзверы, выбег у двор, пачаў шукаць вачыма тых, каго толькі што бачыў. Але нідзе нікога не было. Постаці зніклі, як скрозь зямлю праваліліся. Збегаў ён і ў гарод, зазірнуў на аселіцу: нідзе нікога…

Узбуджаны Ромачак вярнуўся ў хату, дзе ўжо не гаманіла, а шумела застолле. Ён праціраў разгубена вочы, пытаючыся ў сябе: «Што гэта было?»

Ромачак ніколі нікому не раскажа пра тое, што давялося бачыць толькі яму аднаму. І тады, адразу, і колькі разоў потым ён спрабаваў гэта зрабіць, але заўсёды стрымліваў сябе: «Яшчэ не паверац, абсмяюць?» Ну, вядома ж, не паверац, ненармальным назавуць. Дык няхай жа яно, ягонае, і застаецца толькі з ім. З гэтай загадкай і пражыў ён усё сваё жыццё. Магчыма, і ў кожнага чалавека ёсць адна свая загадка, пра якую ніколі і нікому не раскажа. Гэтага наш герой не ведае.

* * *

Высокі, сутулаваты мужчына, з ужо добра парэзаным маршчынамі тварам, апрануты ў сучасны джынсавы касцюм, з дзіўнавата нахлабучнай сіняй бейсболкай на галаве, памахваючы паўнаватай дарожнай сумкай, сыдзе з аўтобуса ў Гуменаўшчыне і агледзіцца вакол сябе. Кіне позірк на зарослую маладымі елачкамі гару, за якой схаваецца аўтобус, пяройдзе на другі бок дарогі да адчыненах дзвярэй тутэйшага магазіна. Там, павітаўшыся, акіне позіркам не надта багатыя прылаўкі і пачне выцягваць з кішэні кашалёк. Доўга і ўважліва будзе прыглядацца да яго чарнявая прадаўшчыца, пакуль не адважыцца запытаць:

— Ці не Кулікоўскі вы?

— Ну так, — ён гляне ёй усмешліва ў вочы, але размовы ў іх не атрымаецца. Ён заплаціць за цемнаватую пляшку піва, схопіць яе ў руку і развітаецца. А потым дарога павядзе яго на гару, дзе былы гасцінец змяніла шэрая і роўная, як струна, асфальтоўка. За полем, дзе шуміць высокая, як лес, кукуруза, праваруч узнікне стары, але ўжо зусім рэдкі, хвойнік, леваруч толькі невялікай паласой акрэсліцца Астраўскі лес. Прайшоўшы крыху далей, чалавек пачне пазнаваць знаёмыя елкі і хвоі, якія мала чым змяніліся за гады яго адсутнасці. Лес неўзабаве скончыцца, і вачам адкрыецца вялізная святлістая раўніна поля, засеянага лубінам. Ён спыніцца і доўгім позіркам пачне ўглядацца ў сіняватую далечыню, за якой засталося так шмат перажытага.

— Дзе хаты? Дзе людзі? Дзе дрэвы, дарогі і сцяжыны, па якіх яны хадзілі і ездзілі? Няма. Усё знікла і растала ў сумнай смузе часу. Былыя лясныя астравы даўно зааралі трактарамі. Доўгія, нясконцыя барозны забыцця прабеглі праз усё жыццё кудысьці далёка і незваротна. І толькі ў яго аднаго засталіся маленькія астраўкі памяці, якія таксама ўжо непрыкметна аддаляюцца, адплываюць у тую самую незваротную смугу.





**Мікола МЯТЛІЦКІ**

# З РАКІ СТАГОДДЗЯЎ ПАМЯЦЬ П'Ю

* * *

Памятай: туды імкнецца час,
Дзе ў тумане год не будзе нас.
І таму ў прадбачанні імжы
Ты імгненнем кожным даражы.

## ЯКУБ КОЛАС 1908

Турэмны мур, як дно магілы,
Газніцы зыркая шчака.
«Мой родны кут, як ты мне мілы!» —
Парыўна вывела рука.

Над стынню мінскага квартала
Завеі снежныя гулі.
Туга паэта прарастала
Радкамі «Новае зямлі».

---

***Мятліцкі Мікалай Міхайлавіч*** *нарадзіўся 20 сакавіка 1954 года ў вёсцы Бабчын Хойніцкага раёна Гомельскай вобласці. Пасля заканчэння філалагічнага факультэта Беларускага дзяржаўнага ўніверсітэта імя У. І. Леніна (1977) працаваў карэспандэнтам штотыднёвіка «Літаратура і мастацтва», з 1983 года — рэдактар выдавецтва «Мастацкая літаратура». У 2002—2014 гадах — галоўны рэдактар часопіса «Полымя».*

*Аўтар зборнікаў паэзіі «Абеліск у жыце» (1980), «Мой дзень зямны» (1985), «Ружа вятроў» (1987), «Шлях чалавечы» (1989), «Палескі смутак» (1991), «Бабчын» (1996), «Жыцця глыбінныя віры» (2001), «Замкнёны дом» (2005), «На беразе маім» (2010), «Цяпло буслінага крыла» (2010), «Чалавек падымае неба» (2012) і інш.*

*Лаўрэат прэміі Ленінскага камсамола Беларусі (1986), Дзяржаўнай прэміі Рэспублікі Беларусь імя Янкі Купалы (1998), Літаратурнай прэміі «Залаты Купідон» (2010), Спецыяльнай прэміі Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь дзеячам культуры і мастацтва (2013).*

Ён бачыў Нёман паўнаводны,
Што плыў цяпер крывёю вен,
І дух акрылены, свабодны
Далёка мкнуў з сырэчых сцен.

Душы нястрачаныя скарбы
Мігцелі ў прыхапках святла.
Свае чаруючыя фарбы
Яму паэзія нясла.

Ці можа быць закуты ў краты
Гарачай думкі вольны лёт? —
Адкрые дзверы кожнай хаты,
Абудзіць змучаны народ!

Парве ганебныя вярыгі,
Пакліча лепшай долі дні.
Раздзелы спеюць новай кнігі,
Як навальніца ў цішыні.

Ён сціс сціло, ўсміхнуўся шчыра,
Схаваў папер бухматы стос,
Бо зычна голас канваіра
Гукнуў: — Міцкевіч, на дапрос!

* * *

Нарач. Домік пад яблыняў сховай.
Сонца жніўнае пекнаты.
Аксана Фёдараўна Куляшова
Святкуе свой юбілей залаты.
Дзевяноста вёснаў і зім
Няспешна сышлося ў ім.

А ранак жыцця браўся росна,
Ды дзень сёк сякераю з-за пляча.
У вочы загляну — сягоння ў іх слёзна:
Згадала Платона Галавача,
Дзень восеньскі даўні, калі
У лес на расстрэл павялі…

І сучыцца пругкая нітка ўспаміну,
Трываннем — у жыцця цану.
Здаецца, ступаю па полі мінным,
Іду праз яе вайну,
Чую мальбу, каб жывым прыйшоў
З фронту Аркадзь Куляшоў.

Ён прыйдзе з грымот кананады
Пад легендарным «Сцягам брыгады»,

За ім — паэзія рушыць услед:
Сэрцам адкрые жыцця далягляды,
Сэнсам абдыме
Свет і Сусвет.

І пенная Нарач хваляй да рання
Будзе гушкаць мрою кахання,
Што на вайне апаліла крыло.
І лягуць плодна барозны лёсу,
І высахнуць самыя горкія слёзы,
Падасца: іх сонца ўзышло.

Ды будзе такім кароткім іх лета.
Поўнае болю, сэрца паэта
Не стрывае жару ўсяго.
Нарач зажурыцца…
Песня не спета…
Каня заплача над словам яго.

І будзе яна з галавой сівою
Між яблынь ступаць няўцешна ўдавою —
Грады ўскапай і плот падладзь!
І будзе, на хвілю забыўшы пра гора,
У працы нястомнай упраўная, скорая,
Мужа гукаць: — Падсабі, Аркадзь!

Нарач… Домік пад яблыняў сховай.
Жнівень сонца падняў на рукі.
Аксане Фёдараўне Куляшовай
Здароўя жадаюць дзеці і ўнукі,
І праўнукі піскліва за імі ўслед.
І верыш — нязрушны ён, вечны, свет.

* * *

Не зайздросць маім гадам, —
Гавару з самотай сыну, —
Што нажыў — усё аддам,
Каб пазбыць іх палавіну.

Ўсё ж не часта на мяне
Пазіралі з неба зоркі.
Як віно на палыне,
Год мой кожны скрушна горкі.

Шчэ накруцяцца на вось
І твае парыўна-смела.
Аднаму ўсяго зайздросць:
Я патраціў час умела.

* * *

Вось гэтак, як сягоння я,
Міндоўг над Віліяй стаяў
І піў, асмяглы, з ручая,
А вечар млеў буяннем траў.

Трымцела месяца святло
У люстры плыткае ракі.
Яшчэ тут Вільні не было,
Быў гонкі лес на ўсе бакі.

Аддаўшы продку ўдзякі доўг,
На стромым беразе стаю
І, як ваду калісь Міндоўг,
З ракі стагоддзяў
Памяць п'ю.

* * *

А суддзі хто? — старэчае, як свет,
Перада мной патанне зноў паўстала.
Адказ дакладны — Колас і Купала!
Радкі шапчу іх, быццам запавет.

* * *

Я блукаў па зямлі
у чаканні твайго з'яўлення
І пытаўся: калі
тут каханне мяне сустрэне?
Быццам промень святла,
што свідруе асенні морак,
Ты аднойчы прыйшла
і яснейшаю стала з зорак.
І гады мне далі
найсалодшы прыліў натхнення.
Я блукаў па зямлі
у чаканні твайго з'яўлення.

* * *

Ты ў мора глядзела — яно
Узрушана хвалі шпурляла,
Забаўліва з галькай гуляла,
Хавала таемнае дно.

А там, у глыбінях, жылі
Нямыя марскія стварэнні.

Яны заміралі ў здзіўленні
І прагна вачамі пілі

Красу твайго вабнага цела,
І мора гайдалі ў адчаі,
Адчужана зноўку маўчалі,
І зайздрасць у зрэнках зіхцела.

Вось ты увайшла у ваду —
І сон іх прагнала падводны,
І хтосьці з іх, самы самотны,
У лютасці скуб бараду.

* * *

Аголіць восень кроны
Маіх жывых бяроз,
І вабна, незамглёна,
Пагляне лес, як лёс.

У волкасці світальнай
Трымціць святло кары.
Зноў паляць развітальна
Гаі свае кастры.

Багата што збылося
І згасла да пары.
І вось падносіць восень
Астатнія дары.

Мая яна — і толькі,
І боль, і сівізна,
Не страшная нікольки,
Нясходная, адна.

Дажджамі адгалосіць,
Вятрамі шугане.
Сваё ў лугах дакосіць,
Сваё ў палях дажне.

* * *

Мова мая, што з табою зрабілі?
— Забылі!

Палынамі маўчання загуста укрылі —
Забылі!

А было — батагамі, нагайкай каралі,
А знали.

На руінах ваенных ад ран паміралі,
А зналі.
А сягоння, калі ўслодыч шлунне набілі —
Забылі.

І сумлення астачу пад небам згубілі —
Забылі.

Можа, проста не дужа Айчыну любілі?
Забылі!

## ДУБРОВА

Ашэрхлая кара — вякоў старэчых скура.
У зацішы галін спіць зморана віхура.
Шчацініцца сівец на доле між камлёў.
Прасветліна нябёс між крон, як амбразура,
Дзе ноччу зваба зор знайшла таемны схоў.

Тут волкасцю сырой працятае паветра.
Паўзмрочліва глядзіць прытоеная нетра.
Бы час былы, прысутны на зямлі,
Агус і не сышоў услед за гулкім ветрам,
І сыдзе з-пад дубоў няведама калі.

Застыг перад вачмі камлёў цяжар стотонны,
Узнесеныя ўвыш, гамоняць з небам кроны —
Як вечнасці прывідны сілуэт.
Нібыта тут, спазнаны і скароны,
Канчаецца ўвесь свет.

* * *

Не змерклі часу далягляды,
Не згаслі гукі даўніх струн.
Давалі творчыя парады
Мне Сербантовіч і Блатун.

Я, зусім зялёны школьнік,
Прад тым, як з вершам стаць на ты,
Чытаў, гарэза і свавольнік,
Сваіх настаўнікаў лісты.

Пісалі мне: «Вучыце мову,
Чытайце класіку штодня».
Я верыў кожнаму іх слову,
Сядлаў крылатага каня.

У тыя даўнішнія леты
Гукне журба і скрута слёз.
Мае настаўнікі-паэты,
Які ім выпаў стратны лёс!

Даўно паэмы і раманы
Мной перачытаны не раз.
І верш іх, горка абарваны,
Зіхціць — паэзіі алмаз.

* * *

Выблісне жнівень чырванашчока
Спелым ранетам на яблыні ў садзе.
Зноўку юнацтва далёка-далёка
Ўстане зарою на даляглядзе.

Мудры хадок, нахіляюся ў зморы
Суцемкам познім над бруйнай крыніцай.
Свет мной спазнаны…
Адзіныя зоры
Недасягальнай трымцяць таямніцай.

* * *

Апошні рыжык у траве, кранутай
Празяблаю марозлівай імглой,
Упіўся хмурай восені атрутай,
Дрыжыць, як сам не свой.

Вось-вось снягі закружацца ў прасторы,
Паўстане ціша ў свеце і душы.
Пад Белаю гарою мухаморы
Паскідваюць свае капелюшы.

І ранак ўспыхне ўсцяж аснежна-белы,
Прачыста-светлы, стоена-нямы.
І скажа сэрцу ён: у свеце цэлым
Пагаслі ўсе маланкі і грамы.





**Георгій МАРЧУК**

# АДНОЙЧЫ НА ДАЧЫ

*Камедыя*

**ДЗЕЮЧЫЯ АСОБЫ:**

**Станіслаў Дударчык** — 22 гады.
**Джон Болт** — яго дзядзька.
**Зоя Іванаўна** — натарыус, 23 гады.
**Елісей** — гісторык, 27 гадоў.
**Віталіна Фёдараўна Кубышкіна** — бізнес-лэдзі, 50 гадоў.
**Ліка** — яе дачка, фотамадэль, 20 гадоў.
**Целаахоўнік Віталіны** — 30 гадоў.

***Месца дзеяння —*** *дача Віталіны.*
***Час дзеяння —*** *рэстаўрацыя капіталізму.*

## ДЗЕЯ ПЕРШАЯ

### Карціна першая

Пакой на першым паверсе дачы Віталіны Фёдараўны Кубышкінай, за вялікім акном — сосны, бэз, кветкі. Далей відаць купалы цэркаўкі. Пасярэдзіне пакоя — стол, побач некалькі крэслаў. Крэсла-гушкалка. Фікус. З правага боку — двое дзвярэй у суседнія пакоі. Лесвіца на другі паверх з левага боку. Ля дзвярэй белы бюст філосафа Эпікура. Каля лесвіцы — камін.

Пры стале сядзіць Віталіна Фёдараўна. Яна відавочна нервуецца. Звоніць яе мабільны. Віталіна адказвае.

---

***Марчук Георгій Васільевіч*** *нарадзіўся 1 студзеня 1947 года ў Давыд-Гарадку. Пасля заканчэння школы № 2 у Давыд-Гарадку працаваў ва ўстановах культуры. З 1969 года ў Мінску — адміністратар кінастудыі «Беларусьфільм», асістэнт рэжысёра аб'яднання тэлефільмаў той жа кінастудыі. Скончыў аддзяленне тэатразнаўства Беларускага тэатральна-мастацкага інстытута (1973), Вышэйшыя курсы сцэнарыстаў і рэжысёраў у Маскве (1975). Загадваў літаратурнай часткай тэатра-студыі кінаакцёра, працаваў дырэктарам выдавецтва «Мастацкая літаратура» і галоўным рэдактарам кінастудыі «Беларусьфільм». Цяпер — сакратар Саюза пісьменнікаў Беларусі.*

*Аўтар кніг прозы «Крык на хутары» (1983), «Кветкі правінцыі» (1986), «Вочы і сон» (1990), «Сава Дым і яго палюбоўніцы» (1990) і іншых, шэрагу п'ес, кіна- і тэлефільмаў.*

*Лаўрэат Дзяржаўнай прэміі Рэспублікі Беларусь (1996).*

В і т а л і н а. На сувязі. Так. Пакуль не знайшоў? У прыбіральні шукаў? Ну добра. Цягні гэтых да мяне.

Паўза.

Целаахоўнік штурхае з адных дзвярэй Елісея, ён у трусах і ў майцы, з другіх — З о ю , яна ў купальніку, адразу ж накідвае на сябе халат.

Е л і с е й. Хто вам даў права?! Дазвольце…

З о я. Грубіян, як вы абыходзіцеся з дзяўчынай?!

В і т а л і н а. Хто вы? І чаму тут?

Паўза.

Е л і с е й. Прабачце, я выхаваны джэнтльмен. Чаму я павінен адказваць незнаёмаму чалавеку?

З о я. У чым, уласна кажучы, справа?

Ц е л а а х о ў н і к (*усцягвае на правую руку пальчатку*). Выбіць інфармацыю?

В і т а л і н а. Пакуль не трэба. Перад вамі гаспадыня гэтай дачы, якую на пэўны час арандаваў Стас Дударчык. Вы ведаеце гэта імя?

Е л і с е й. А… Ну, так…

В і т а л і н а. Дзе ён?

З о я. Хто?

В і т а л і н а. Дударчык.

Е л і с е й. Учора да начы — ажно да дзвюх гадзін — распісвалі пульку ў прэферанс. Можа, у сябе, на другім паверсе?

В і т а л і н а. Яго на дачы няма. Дзе ён? Хто вы? Кватаранты, бамжы, наркаманы, тэрарысты? Ён здае вам пакой у субарэнду?

Е л і с е й. Матухна, я джэнтльмен.

В і т а л і н а. А хіба сярод джэнтльменаў няма бамжоў?

З о я. Ён нам не дакладае. Мы яго сябры.

Е л і с е й. Праўда. Вось яна — яго нявеста.

В і т а л і н а. Колькі тут нявест было! Не дурыце мне галавы. І колькі вы тут плануеце заставацца?

Е л і с е й. Пакуль не выганяць. Я беспрацоўны. Гісторык. Спецыялізуюся на неандэртальцах.

В і т а л і н а. Іх рысы нагадваюць табе Стаса?

З о я. А я ў адпачынку.

В і т а л і н а. У сувязі з цяжарнасцю?

З о я. Я б прасіла не зневажаць мяне.

В і т а л і н а. Дурнічка, якая ж гэта знявага? Гэта шчасце… Так, карацей, даю трыццаць секунд і выклікаю міліцыю: спроба абрабаваць дачу…

Паўза.

Нечакана з-пад стала, які накрыты абрусам, выпаўзае С т а с.

С т а с. Не трэба міліцыі, Віталіна Фёдараўна.

В і т а л і н а. Знайшоўся. Ад мяне, братка, не схаваешся. У мяне на ўсё нюх. Мы да цябе ў госці, а ты пад стол?!

С т а с. Баюся спаць на другім паверсе… Клапоў баюся.

В і т а л і н а. Нягоднік! На маёй дачы ніколі не было клапоў.

С т а с. Не… гэта… кляшчоў…

Е л і с е й. Пацукоў і мышэй…

Ц е л а а х о ў н і к. Выбіць інфармацыю?

В і т а л і н а. Пачакаем. Ты мне зубы не загаворвай. Ад мяне і ў Антарктыдзе не схаваешся. Дачу арандаваў? Арандаваў…

С т а с. Дык я ж выплаціў аванс.

В і т а л і н а. Не перабівай, калі гаспадыня гаворыць. Тры месяцы доўгу чакаю. Шкадую. Думаю, сірата. Студэнт. Пяць месяцаў чакаю. Тут і слон цярпенне страціць. Чаму тут пабочныя асобы? Адкуль я ведаю, можа, ты тут падпольны бардэль арганізаваў. Ведаеш, чым гэта ўсё пагражае?

С т а с. Ну што вы… Публічныя дамы сёння пад кожным кустом, у кожнай машыне.

В і т а л і н а. Я хачу ведаць, калі нарэшце я атрымаю свае грошы? Можа, вы яму пазычыце?

Е л і с е й. Я беспрацоўны. Часова…

З о я. А я ў адпачынку. На тыя грошы, што атрымала за адпачынак, купіла з мамай свяцільнік і адну памаду на дваіх.

В і т а л і н а. Ты ж выхваляўся, што наладзіў свой бізнес. Бяздарны ты абібок. Марнуеш маладыя гады. Пашкадавала сірату, бо сама гадавалася сіратой.

З о я. Няпраўда, ён не бяздарны. Ён мысляр, валодае псіхалогіяй, экстрасэнс. Яго ўжо на тэлебачанне, на бітву экстрасэнсаў запрашаюць.

Е л і с е й. Я сведка.

В і т а л і н а. Яго хутчэй запросяць у армію. Чый гэта бюст? Музыканта, поп-зоркі, медыяасобы?

С т а с. Гэта бюст грэчаскага філосафа Эпікура.

В і т а л і н а. А чаму ён без вачэй?

С т а с. Мода была такая.

В і т а л і н а. Смешна. У грэкаў суцэльныя даўгі, а ты думаеш, ён цябе навучыць бізнесу?

С т а с. Будуць грошы. І не проста грошы. А вялікія грошы.

Паўза.

Ц е л а а х о ў н і к. Выбіць інфармацыю?

В і т а л і н а. Пакуль не трэба. Кажы, я слухаю.

С т а с. Колькі вы хочаце за сваю дачу? Я чуў, вы вырашылі прадаць дачу і купіць кавярню пры дарозе…

В і т а л і н а. Не смяшы мяне.

С т а с. І ўсё ж, колькі?

В і т а л і н а. Сто тысяч баксаў. Папрасі ў Эпікура, можа, пазычыць…

С т а с. Я дам сто дваццаць…

Ц е л а а х о ў н і к. Можа, за такія жарты пакараць?

В і т а л і н а. Надыдзе час — пакараем. Гавары далей.

С т а с. Так, я пакуль што ў даўгах. І не толькі вам вінаваты. Я вінаваты банку, браў крэдыт на машыну, купіў яе, але высветлілася, што яна ў закладзе яшчэ ў адным банку.

З о я. Мама…

С т а с. Натрапіў на махляроў.

В і т а л і н а. Мяне на понт не возьмеш.

Е л і с е й. Можа, мы паедзем?..

С т а с. Сядзіце, вы мне патрэбныя. Усё. Я выплачваю два крэдыты, і ў вас працуе лічыльнік. Але Бог пасылае мне выратаванне, таму што я не махляр, а чалавек, які верыць у сваё шчасце.

В і т а л і н а. Лепш бы ты верыў у Бога.

С т а с. Спрабаваў я і маліцца. Пакуль што не атрымліваецца. Грахі не адпускаюць. Шчасце абавязкова наведвае чалавека раз на год.

З о я. Ён выйграў у латарэю.

С т а с. Да мяне едзе ў госці родны дзядзька з Амерыкі.

В і т а л і н а. Амерыка вялікая.

С т а с. З ЗША.

В і т а л і н а. А вось тут больш падрабязна.

С т а с. Ён багаты, мае свой бізнес. Вялікая сетка рэстаранаў. Ён прыслаў мне пэўную суму на развіццё бізнесу.

Е л і с е й. Інвесціраваў. Гэта новае слова.

В і т а л і н а. Ведаю, падшыванец.

С т а с. Цяпер едзе, каб пераканацца, што мой бізнес на ўздыме. Ён сумуе па радзіме. Я не сумняваюся, што ён купіць у вас дачу. Інвестыцыі. Ніхто ўжо не хоча зарабляць грошы ў сваёй краіне, шукаюць дурняў па ўсім свеце, у тым сэнсе — танную працоўную сілу.

Е л і с е й. Нанатэхналогіі.

Паўза.

В і т а л і н а (*да целаахоўніка*). Дай вады. (*Той спачатку налівае ў шклянку, п'е сам, правярае, ці не атручана, тады налівае ў другую шклянку для гаспадыні.*) І калі нам чакаць дзядзьку?

С т а с. Сёння ўвечары. Рэйс 1313.

В і т а л і н а. І які ж ты бізнес пакажаш дзядзьку, акрамя пустых бутэлек з-пад віскі?

С т а с. Фірму псіхарэабілітацыі «Далоў дэпрэсію». Глабалізацыя зрабіла сваю справу, яна абвастрыла фобіі ў зямлян. Надышло царства падману, махлярства і дыктату долара. Сёй-той яшчэ змагаецца за духоўнасць: сям'я, школа, рэлігія. Усю сваю энергію людзі падпарадкоўваюць абстрактным ідэям.

В і т а л і н а. Ну-ну, цікава…

З о я. Вельмі цікава.

Е л і с е й. Ён жа ж вучыўся на псіхолага — тры курсы скончыў.

С т а с. Дзядзька павінен пераканацца, што мая фірма — не фікцыя. Што я на сёе-тое здатны. Прыстасаваўся ў часе.

В і т а л і н а. Ён не кіне грошы на вецер. Амерыканцы жмінды і ўсё пралічваюць. І яшчэ… Ён у спісе Форбса сярод багатых?

Ц е л а а х о ў н і к уключыў планшэт і штосьці адшукаў.

Ц е л а а х о ў н і к. Прозвішча.

С т а с. Джон Болт.

Ц е л а а х о ў н і к. Болт, які бегае стометроўку, гэты? (*Паказвае, як нацягваюць цеціву лука.*)

С т а с. Аднолькавыя прозвішчы. Джон Болт, 55 гадоў, штат Кентукі.

Ц е л а а х о ў н і к. І блізка нічога няма.

С т а с. Ён уладальнік рэстаранаў. Вось *(паказвае фотаздымак на сваім мабільным тэлефоне),* гэта ён з апошнім прэзідэнтам ЗША.

В і т а л і н а. Кепска бачу. Прэзідэнт дакранаецца да яго шчакі?

С т а с. Мода ў іх такая — паляпваць на шчоках. Маўляў, што брат Джон, даўно я ў цябе ў рэстаране не быў. А тут ён знаходзіцца за спінай у прэзідэнта.

В і т а л і н а. Тырчаць толькі нос і плячо.

С т а с. А вы хацелі, каб яшчэ што тырчала?

Е л і с е й. Узровень…

З о я. Можа, сапраўды багаты?

С т а с. У Штатах усе белыя багатыя і афраамерыканкі тэнісісткі.

В і т а л і н а. Далей, далей…

С т а с. Вы на гэтыя пяць—сем дзён зробіцеся маімі пацыентамі.

В і т а л і н а. Не зразумела?..

С т а с. Які ў вас на душы цяжар? Толькі шчыра.

В і т а л і н а. Адзінота. Без мужа дваццаць гадоў. Баюся, што турбізнес мой накрыецца. На Усходзе вайна. Дачку трэба аддаць замуж за прыстойнага чалавека, з капіталам. Памятаю сваю галечу ў юнацтве. Сплю па начах дрэнна. Нервы ў напружанні.

С т а с. Выдатна.

В і т а л і н а. Што ж тут выдатнага? Ты здзекуешся?

С т а с. Я ўсіх павылечваю. Елісей…

Е л і с е й. Я пад дурня падрабляцца не буду.

С т а с. Віскі любіш?

Е л і с е й. Не тое слова. Праз іх пакутую. Настаўнікам не хачу, мізэр зарабляюць.

С т а с. Ну, тады прыдумай фобію. Крытыкуй усіх і ўся, цяпер гэта модна... Ты, Зоя, путана…

З о я. Яшчэ чаго! Я дзяўчына сур’ёзная.

С т а с. Прыдумай, чаму не можаш спаць, чаму страціла сэнс быцця. Тут заставацца не хочаш, а ехаць за мяжу баішся.

Ц е л а а х о ў н і к. А мне што?

С т а с. Потым. Мы з цябе выб’ем інфармацыю. Ці кажаш ты, калі збіваеш тых, хто вінаваты гаспадыні: «Госпадзі, даруй. Не па сваёй волі збіваю».

Ц е л а а х о ў н і к. А што, гэта трэба казаць?

С т а с. Пажадана. Адмоўная энергія, бачу, вісіць над табой. *(Целаахоўнік намагаецца скінуць з сябе нябачную энергію.)* І сам ты пачуваешся няўтульна. Свярбіць нешта… Усім заплачу. Вось трымайце, па сто баксаў кожнаму.

В і т а л і н а . Малайчына, не прападзеш. Колькі энергіі.

Уваходзіць дачка В і т а л і н ы Л і к а. Яна вельмі сімпатычная і хударлявая.

Л і к а. Мама, колькі можна чакаць? Мы спазняемся на адкрыццё французскага буціка.

С т а с *(здзіўлена).* Хто гэта?

В і т а л і н а. Гэта мая дачка Ліка.

С т а с. Вы артыстка? Мегазорка?

Л і к а. Фотамадэль.

С т а с *(працягвае руку).* Стас, буйны бізнесмэн, халасты, былы студэнт, цяпер у акадэмічным адпачынку, псіхолаг. Фрэйд, Юнг, Заратустра, я адтуль. Неўзабаве зраблюся вельмі заможным.

Л і к а. Калі зробіцеся вельмі заможным, тады і пазнаёмімся бліжэй.

В і т а л і н а. Усё, мы ад’язджаем. На сувязі…

С т а с. І для дачкі прыдумайце фобію. Чым больш пацыентаў, тым больш прыбытак.

В і т а л і н а, Л і к а і Ц е л а а х о ў н і к выходзяць.

Е л і с е й. Фу… ну і дзянёчак… Давай возьмем чарку. Гэта было нешта…

З о я. Чаго ты ім нагаварыў?

С т а с. Справа ў тым, што ўсё гэта праўда. Дзядзька ўвечары ўжо будзе тут.

Паўза.

З о я. Яна табе спадабалася?

С т а с. Хто?

З о я. Не прыдурвайся. Дачка Віталіны.

С т а с. Зараз не пра тое. Ты ў нас асаблівая. Суперэратычная. Усё. Я ў аэрапорт.

Е л і с е й. Не зразумеў? А дзе аванс?

С т а с. Сотку пакіньце сабе, а сотку забяру я. Не люблю, калі ў кішэні няма зялёных. Дурная звычка.

З о я. Чаму дурная? Грошы любяць тых, хто любіць грошы.

С т а с. З Богам. Прыбярыце тут.

Е л і с е й і З о я выходзяць.
Нечакана ўваходзіць Л і к а.

Л і к а. Я забыла пакінуць вам сваю візітку *(працягвае візітную картку).*

С т а с. Леакадзія. Прыгожа гучыць.

Л і к а. Цяжкавата. Лепш Ліка. Мне мама збольшага ўсё расказала. Я хацела б пачуць крытыку сваёй англійскай ад носьбіта мовы. Магу быць побач з табой у якасці перакладчыка.

С т а с. Дзякуй. Спадзяюся, што мой дзядзька не забыў родную мову. Хаця… Магу прапанаваць пасаду майго асістэнта.

Л і к а. Выдатна. Я гатую выдатную каву, і рукі ў мяне заўсёды дагледжаныя. Зірні.

С т а с *(бярэ яе руку і ўважліва разглядае).* А чаму лак на пазногцях аблупіўся?

Л і к а. Які ты дзіўны! Цяпер так модна. У розныя колеры пазногці фарбаваць. На жываце ў мяне пірсінг, а на копчыку — выява змяі. Паказаць?

С т а с. Не цяпер.

Л і к а. Ты пад якую групу адцягваешся?

С т а с. Пад штатаўскую. Бліжэй да дзядзькі.

Л і к а. І я балдзею ад Штатаў. Крутая краіна. Яе лятальныя апараты наведалі ўсе планеты нашай сістэмы.

С т а с. Яшчэ і не тое будзе. Галоўнае, каб іх лятальныя апараты нас не наведалі.

Л і к а. Прыязджае група з Германіі. Крутыя хлопцы. Я б з вамі схадзіла. Кажуць, падчас выступлення салісты са сцэны пісаюць проста ў залу.

С т а с. Не можа быць…

Л і к а. Ну гэта ж крута. Усе ад задавальнення проста вар’яцеюць. Прыкольна.

С т а с. І да якога раду?

Л і к а. Пісаюць? Да трэцяга.

С т а с. Білеты вазьму на пяты. На ўсякі выпадак…

Л і к а. Клас. З чаго будуць складацца мае абавязкі?

С т а с. Ухваляць усё амерыканскае, гаварыць яму прыемныя кампліменты. Ён арыгінал — вусы, бакенбарды, курыць цыгары.

Л і к а. Зразумела. Я сплю да адзіннаццаці.

С т а с. А раней?

Л і к а. Цяжка.

С т а с. Трэба…

Л і к а. Паспрабую. Рада, што мы пазнаёміліся.

С т а с. І мне прыемна. Вы прыгожая, што там казаць.

Л і к а. А чаму я на ты з табою, а ты на вы са мной?

С т а с. Я выхаваны.

Л і к а. У нас хоць не суцэльная дэмакратыя, але давай на ты. Памятаю яшчэ са школы, у аднаго паэта чытала: «Пустое вы сердечным ты она, обмолвясь, заменила…»

С т а с. Гэта ў Пушкіна.

Л і к а. Вось як?.. А я думала ў Мапасана.

С т а с. Да заўтра *(цалуе ёй руку).*

Л і к а выходзіць.

С т а с. Штосьці круціць хвастом. Не разумею: гуляе ці на самай справе… шылахвостка. Усё заўтра. *(Музыка.)*

***Зацямненне.***

## Карціна другая

Дэкарацыі першай карціны.
На стале з’явіўся ноўтбук. У пакоі С т а с. Звоніць мабільны тэлефон.
Уваходзіць Е л і с е й.

С т а с *(па тэлефоне).* Гэта я. Слухаю. *(Паўза.)* Ведаю, што будзе пеня, заплачу на гэтым тыдні. Майце сумленне… Да канца гэтага тыдня заплачу. *(Да Елісея.)* Гэтыя банкі, як п’яўкі.

Е л і с е й. Сапраўды, можна ўляпацца па самыя вушы. Я прынцыпова пад такія працэнты не бяру крэдыт.

С т а с. А табе і не даюць. Не здатны заплаціць. Калі ёсць бабкі — не падлабуньваешся пад усіх. Як дзядзька?

Е л і с е й. Здаецца мне, што піжон. Цуд нейкі. Кветачкі нюхае, валіцца ў траву і качаецца. Ліка і Зоя ад яго ў захапленні. Цалуе ім рукі за кожнае іхняе слоўца. Каву следам за ім носяць і пірожныя.

С т а с. Як думаеш, круты наш дзядзька?

Е л і с е й. Звычкі не беднага. Мяне накіраваў у краму, прапанаваў купіць віскі, а дзяўчатам — марціні *(выцягвае з поліэтыленавага пакета дзве бутэлькі).* Рэшту, кажа, пакінь сабе, гэта чаявыя.

С т а с. Дай сюды. Усё ў агульную касу. Хаця… буду праводзіць з табой сеанс псіхатэрапіі, а ты аплаціш мне гэтымі баксамі. Я і сам у дэпрэсіі. Штодзень еду ў горад. Здавалася б, усе павінны быць на працы. Дзясяткі тысяч машын. У горадзе людзі бадзяюцца ад няма чаго рабіць.

Е л і с е й. А руль шмат у якіх машынах трымаюць бландзінкі.

С т а с. І я пра тое. За што яны жывуць? Хто ім бензін залівае?

Е л і с е й. Хто ім мазгі ачмурыў, той і бензін залівае. «Татачкі» аплачваюць і цела, і справу.

С т а с. А ў метро натоўп — ты б толькі бачыў. Хоць бы раз якая камісія праехала і пераканалася, колькі лайдакоў швэндаецца… І такая мяне злосць агарнула: чаму яны на «лексусах» і «мерседэсах», а я не?

Е л і с е й. Тылу няма. Шмат хто жыве за кошт таго, што накралі ці нахапалі продкі.

С т а с. Але не ўсе.

Е л і с е й. Большасць.

С т а с. А тут яшчэ праблемы з арміяй. Я разумею, краіну трэба камусьці абараняць. Але нехта ж можа адкруціцца і ад гэтага. На ўсё трэба бабкі.

Е л і с е й. Калі ёсць двое дзяцей, дык у армію не бяруць.

С т а с. Сапраўды? А гэта ідэя. Дзевяць месяцаў… Можна паспець.

Е л і с е й. Калі намаганні прыкласці. Была б згода.

С т а с. Ды за бабкі і Ліка, і Зоя народзяць.

Е л і с е й. А лепш за ўсё двайнят. Сурагатная мама. Фіктыўны шлюб.

С т а с. Дзяцей можна нават у радзільні пакінуць. Цяпер гэта модна.

Е л і с е й. А можна знайсці ўжо гатовую з двума дзецьмі.

С т а с. А пасля што?

Е л і с е й. Усынавіць дзяцей… фіктыўны шлюб.

С т а с. Пасля не развяжашся. Усё на валаску. Не дасць дзядзька грошай на фірму, не купіць дачу… Жах!

Е л і с е й. Варыянт з гатовымі дзецьмі лепшы. Зоя — сур'ёзная дзяўчына.

С т а с. Што я чую! Табе, цыніку, шкада. Прыкіпеў…

Е л і с е й. Яна, наіўная, верыць у дабро, каханне, справядлівасць. У царкву часам ідзе.

С т а с. А што гаварыў твой Макіявэлі? Ты яе не прасвятліў? Твой італьянскі дзеяч вучыў: шчаслівы той, чый лад жыцця адпавядае норавам грамадства. Усё сёння скіравана на сябе, для сябе і ў імя сябе. Сацыялізм прайграў — не развіваў індывідуальную ініцыятыву, абяцаў рай у камунізме, але ніхто не зможа дажыць да камунізму, таму што жыццё кароткае. Калі не ўхопіш сёння — заўтра будзе позна. Ідуць…

Е л і с е й. Я на кухню.

С т а с. Не трэба. Віскі пакінь.

Е л і с е й. Слухаюся. Падумай наконт Зоі. Не псуй ёй жыццё…

С т а с. Ты думаеш, яна святая?

Е л і с е й. Не думаю. Сэрца ў яе добрае.

Е л і с е й выходзіць. (Музыка.)
Уваходзяць Л і к а, Д ж о н і З о я.

Д ж о н. Пляменнік дарагі, у мяне няма слоў. Табе і вам, прыўкрасныя дамы, не зразумець, што такое дваццацігадовая туга па радзіме. У Вашынгтоне, можаце сабе ўявіць, я ніколі не бачыў крумкачоў. З імі маё дзяцінства… Гэтыя гнёзды на бярозах вакол нашага хутара, гэтыя аблокі, пшаніца, васількі, жаўрукі…

Л і к а. А што, у Вашынгтоне і жаўрукоў няма?

Д ж о н. Можа, і ёсць, але там няма часу слухаць іх. Амерыка працуе, напінаецца… Ніхто нідзе не павінен ведаць, дзе хто робіць і на якія сродкі існуе.

Л і к а. Мне падабаюцца законы Штатаў. Там спадчыну можаш пакінуць нават кату.

Д ж о н. Законы добрыя. Але мне хапала цяпла, пакуль не сустрэў сяброўку.

Л і к а. Дык вы жанаты?

Д ж о н. Амаль. Праўда, цяпер у нас невялікія праблемы. Але не будзем пра Амерыку. Давайце вып'ем за вас, за радзіму.

З о я. Згода.

Л і к а. О, марціні. Люблю з лёдам.

З о я. А я з сокам. Стас! Елісей!

Е л і с е й уваходзіць з падносам, на якім стаяць фужэры з марціні. С т а с разлівае віскі па чарках.

С т а с. За вас, дзядзечка.

Д ж о н. За ўсіх вас. За мір і айчыну. Гэта дарагога каштуе, жыць у айчыне, якую ты любіш і якая любіць цябе.

С т а с. Залатыя словы.

Усе выпілі.

Д ж о н. Пайду, трохі пасплю. Галава ад роднага паветра кругам ідзе.

С т а с. Дзяўчаты вольныя?

Д ж о н. Так.

С т а с. У вас, Зоя, сеанс псіхатэрапіі заўтра ў дзесяць.

Л і к а. Пакідаем вас, пакідаем. Дабранач. *(Цалуе Джона ў шчаку, а тады Стаса.)* Ён такі міленькі, прыкольны мача.

Е л і с е й, Л і к а і З о я выходзяць.

Д ж о н. Яны ў цябе тут жывуць?

С т а с. Звычайна ў маёй фірме сеансы пяці-шасцідзённыя. Сто баксаў за дзень, з бедных і студэнтаў — пяцьдзясят.

Д ж о н. Гэта правільна. Трэба быць літасцівым.

С т а с. Пражыванне, харчаванне адзін раз на дзень. Мы ў пачатку нашага шляху. Яшчэ няма рэкламы ў інтэрнэце. Першыя крокі. Я вінаваты грошы за дачу. Калі яе набыць… вам цаны не было б, дзядзька, гэта ж нерухомасць, а яна заўсёды, як і жанчына, у цане. Гаспадыня зубастая, агрэсіўная, але часам, як і кожную жанчыну, яе можна ўгаварыць.

Д ж о н. Закалыхаць.

С т а с. Яна аддасць дачу па мінімальным кошце. Я тут адзін фінт прыдумаў. Усяго сто баксаў. Знаёмы шафёр з суседняга саўгаса падвязе ў лясок пару машын угнаення. Класічны пах розных пакаленняў. На гэтым спекуляваць будзем. Скінем цану. Хто ж захоча нюхаць адыходы з фермы, калі з раніцы да вечара смярдзіць…

Д ж о н. Ліха. Мне падабаецца твой падыход да спраў і да жыцця. Я хачу папрысутнічаць на тваіх сеансах. Параўнаць методыку. У нас жа ў Штатах суцэльнах мода на псіхолагаў.

С т а с. Усе ў дэпрэсіі, ці што?

Д ж о н. І гэта таксама. Чалавеку ўласцівыя трывога, няўпэўненасць у заўтрашнім дні і вера ў невядомыя магічныя сілы. Я наведваў такія сеансы.

С т а с. Дзядзька! І вы, маючы грошы, таксама ў дэпрэсіі?

Д ж о н. Яна, сябра мой, і грошы часам перамагае.

С т а с. Дэпрэсія — гэта часовае адчуванне асобай бессэнсоўнасці свету і быцця ў гэтым свеце.

Д ж о н. У кожнага гэта часовае цягнецца па-свойму.

С т а с праводзіць дзядзьку ў пакой.

С т а с. Елісей!

Уваходзіць Е л і с е й.

С т а с. Як ён раніцай у краме разлічваўся за прадукты?

Е л і с е й. Па картачцы ў банку зняў баксы, у супэрмаркеце абмяняў іх на нашы.

С т а с. Ты не прыкмеціў, які код яго картачкі?

Е л і с е й. Такое і ў галаву не прыйшло, не было такой установкі.

С т а с. Таму што ты доўбня. Трэба выяўляць ініцыятыву. Злаві момант і запомні лічбы. Цікава, колькі ў яго на рахунку? Што ён усё паўтарае: радзіма, радзіма… Можа, у яго непаразуменні з апошняй жонкай?

Е л і с е й. Там бабы ў багатых добрыя бабкі адсуджваюць.

С т а с. Задачу зразумеў?

Е л і с е й. А як жа…

С т а с. Мы з Зояй паездем у саўгас, там у мяне «парфюмерная справа». А ты заставайся напагатове. Прачнецца — дагаджай. Адданасць дэманструй.

Е л і с е й. Як скажаш.

С т а с. Дзе Ліка?

Е л і с е й. На кухні ласуецца марціні.

С т а с. Хай ідзе сюды.

Е л і с е й выходзіць.
Паўза.
Уваходзіць Л і к а. Яна на падпітку.

Л і к а. Станіслаў Валяр'янавіч, ты клікаў?

С т а с. Гэта я ў прысутнасці дзядзькі Станіслаў Валяр'янавіч, а так Стас.

Л і к а. Я ўважліва слухаю.

С т а с. Дзядзька павінен бачыць, што мы працуем. Ты павінна шукаць па камп'ютары новых кліентаў.

Л і к а. Ты абяцаў, што ўвечары мы пагуляем у начным клубе.

С т а с. Будзе, усё будзе пасля. Вось табе падаруначак *(працягвае ёй пярсцёначак)*. Ён не залаты, але ўсё ж такі.

Л і к а. Дзякуй, родны, не чакала. Я люблю падарункі. Цягнуся ад іх. Клёвы пярсцёнак. Можа, мне зрабіць пірсінг на кончыку языка?

С т а с. Кажуць, што цалавацца нязручна.

Л і к а. Ах, гарэзнічак!

С т а с выходзіць. Л і к а сядае да камп'ютара. Чуваць, як ад дачы ад'ехала машына. Л і к а тэлефануе маці.

Л і к а. Мам, ты хацела пагаварыць са мной? Стас з Зояй паехалі, а Елісей п'е на кухні. Дзядзька адпачывае. Чакаю. Толькі хуценька.

Л і к а асцярожна ідзе на другі паверх, прыслухоўваецца. Тады кіруецца на кухню і вяртаецца з рэшткамі віна ў бутэльцы.
Пад'ехала машына. Уваходзіць В і т а л і н а.

В і т а л і н а. Усё ціха?

Л і к а. Так.

В і т а л і н а. Ты на падпітку?

Л і к а. Тры кроплі. Прыдурваюся, як ты вучыла. Выглядаю наіўнай дурнічкай.

В і т а л і н а. Дзядзька?

Л і к а. Сімпатычны стары. Гадоў гэтак пад пяцьдзясят. Але яшчэ жвавы. Харахорыцца.

В і т а л і н а. Грошы не раскідае. А грошы хаця ў яго ёсць?

Л і к а. Павінны быць. Апрануты добра. Дарагі парфюм. Не сквапны.

В і т а л і н а. Стас?

Л і к а. На мае заляцанні клюнуў, але хітры, сцеражэцца. Пярсцёнак падарыў. Вось.

В і т а л і н а. Калі дзядзька, як ты кажаш, нішто сабе, дык, можа, перастроіць шэрагі і зачапіцца за дзядзьку? Тут табе і Амерыка, і капіталы. Не ведаю, як я тут далей. Ціснуць падаткі. Апазіцыйная прэса палохае і піша, што мы жывём у вар'ятні. А раптам я прагару? Не хачу бачыць цябе ў галечы, як я была ў маладыя гады ў сваёй сталоўцы.

Л і к а. Так… Але Джон. Дваццаць пяць гадоў розніцы.

В і т а л і н а. Каго гэта сёння хвалюе? Было б шчасце. А пасля і развесціся можна, адсудзіць сваю частку.

Л і к а. Я да гэтага не гатовая. Падумаю. Мне больш даспадобы Стас. Прыгожы. Разумны, хітры, дасціпны… А яшчэ калі б грошы ў яго… Бедны — гэта мінус.

В і т а л і н а. Ды яшчэ які мінус. Трымай два франты, на якім будзе перамога — там і шчасце. Ты змагла сфатаграфаваць яго?

Л і к а. Каго?

В і т а л і н а. Ну не Стаса ж. Дзядзьку…

Л і к а *(паказвае фотаздымак Джона на мабільным тэлефоне).* Вось, прыгажунчык.

В і т а л і н а. Гэта ж ты… аголеная!

Л і к а ўздзявае акуляры.

Л і к а. Прабач. Ну, я…

В і т а л і н а. Яшчэ не хапала, каб гэта выставілі ў сетках.

Л і к а. Нічога такога тут няма. Усе там тырчаць. У мяне хоць пастава… Прадзюсер які клюне, французік, напрыклад, ці італьяшка… А як іначай праб'ешся да славы?

В і т а л і н а. Свет зусім звар'яцеў.

Л і к а. Вось ён.

В і т а л і н а. Штосьці знаёмае… Калі б не вусы і не бакенбарды…

Л і к а. Сапраўды, ёсць нешта ад Філі.

В і т а л і н а. Ну, знаёмая ж фізіяномія. Гэтыя хітрыя вочкі…

Л і к а. У аднакласніках бачыла. Ён на нашага школьнага фізрука падобны.

В і т а л і н а. Сфатаграфуй яго буйнейшым планам.

Л і к а. Няма пытанняў.

В і т а л і н а. Я паехала. Справы. Дзейнічай у адпаведнасці з абставінамі. Стасу мала веры. Можа, дзядзька яму лапшу на вушы вешае ці задумаў што. Нікому веры няма. Махляр на махляры і махляром паганяе. Але мяне цяжка прымусіць есці марожанае на Эверэсце.

Л і к а. А як там ядуць?

В і т а л і н а. А зусім проста. Бярэш кавалачак цукру і сядаеш голым задам на яго, а ён ляжыць на лёдзе, кавалачак гэты.

Л і к а. Клёва! Супер, блін! Прыкол будзе. А я разумная, мама.

В і т а л і н а. Ты хітрая, а гэта ўжо частка розуму. І забудзься на свайго дзіджэя. Размахвае рукамі, як малпа, а за душой — ні капейчыны. За яго тэхніка працуе, тут розуму вялікага не трэба.

Л і к а. Я думала, як адна тэнісістка…

В і т а л і н а. З іншых прыклад не бяры. У кожнага свой хлеб. Ну, да сустрэчы *(цалуе дачку).*

В і т а л і н а выходзіць. (Музыка.)

***Зацямненне.***

## Карціна трэцяя

Дэкарацыі першай карціны.

Л і к а прыносіць букет кветак і ставіць у вазу на стол. Уваходзіць С т а с. Л і к а яго не заўважае. Ён абдымае дзяўчыну за плечы і ласкава туліць да сябе.

Л і к а. Стас? Ты? Так і напалохаць можна.

С т а с. Ёсць невядомая сіла, якой валодае толькі жанчына. Гэта сіла — магніт.

Л і к а *(з усмешкай).* І дзе хаваецца тая сіла?

С т а с. У розных месцах цела. Падрыхтуй мне белы халат, а як дзядзька прыедзе з горада — усіх пацыентаў сюды.

Л і к а. Слухаюся, мой валадар. А вось і дзядзька.

Пад'ехала машына. Л і к а выходзіць. Уваходзяць Д ж о н і Е л і с е й.

Д ж о н. Цуд, цуд. Я лятаю. Зусім танна паставілі выдатную пломбу. Медыцына бясплатная, грамадскі транспарт працуе як належыць, людзі добра апрануты, а дзяўчаты — проста ружы. Да стаматолага чарга: шведы, палякі, фіны. Чысціня на вуліцах… Вох, бачылі б вы Парыж.

С т а с. Паўсюль класна, калі ёсць мані.

Д ж о н. Ну, добра, мы тут. Пачынайце працу.

Л і к а прыносіць С т а с у белы халат.

Д ж о н. Я пераапрануся. Літаральна хвіліна. *(Джон ідзе ў свой пакой.)*

С т а с. Ну, парадуй!

Е л і с е й. Ён пракалоўся. Я ўведаў код карткі…

С т а с. І…

Е л і с е й. Ты разумееш, няма на што купіць цыгарэты, пра віскі я ўжо маўчу.

С т а с. Цябе, у рэшце рэшт, алкаголь загубіць. Трымай *(дае яму грошы).*

Е л і с е й. Завяжу. Уладкуюся на працу і завяжу. 97-97.

С т а с. Малайчына. Цяпер засталося толькі скрасці на нейкі час картку і праверыць яе. Ці плацежаздольны амерыкашка?

Уваходзіць Д ж о н.
Е л і с е й выходзіць.
Д ж о н сядае ў крэсла-качалку, пачынае курыць.

Д ж о н. Я буду пасіўна назіраць. Часам толькі слоўца скажу. Я з дзяцінства любіў спрэчкі. Пад сузор'ем Цяльца нарадзіўся.

С т а с. Калі ласка. Я вось пра што думаю. За дачу яна захоча тысяч 80—100, але знізім да пяцідзесяці.

Д ж о н. Гэта не грошы.

С т а с. На адкрыццё фірмы, рэкламу, офіс, рэгістрацыю — тысяч дзесяць.

Д ж о н. Гэта зусім смешныя грошы.

С т а с. Для вас… Дзякуй. Парады хачу спытаць. Пацыентка адна ў мяне Зоя і асістэнт Ліка.

Д ж о н. Хвалюецца маладая кроў?

С т а с. Кожная па-свойму сімпатычная. Ліка з багатай сям'і. Яе мама — гаспадыня гэтай дачы. Эх, каб я быў султан, з абедзвюма б ажаніўся.

Д ж о н. Можаш хоць з чатырма, як у Старажытным Егіпце, калі здатны іх матэрыяльна ўтрымліваць.

С т а с. Вось у тым і справа. Са сваёй прафесіяй на бюджэце буду перабівацца з квасу на ваду.

Д ж о н. Чаму? Як кажуць мніхі, шчасце не ў тым, каб купацца ў раскошы, а ў тым, каб задавальняцца малым.

С т а с. Тое добра для мніхаў. Увесь дэмакратычны свет шануе долар.

Д ж о н. Тут я табе не дарадца. Як сведчыць прымаўка: першая жонка ад Бога, другая — ад людзей, трэцяя — ад нячысціка.

С т а с. Калі шчыра, я яшчэ не спатоліўся свабодай, але абставіны…

Д ж о н. Гуляй напоўніцу. Праляціць маладосць — і не заўважыш. Чаму акадэмічны ўзяў?

С т а с. Трох курсаў хопіць. Галаўныя болі, недасыпанні… надакучыла.

Д ж о н. Каму свой пакой здаеш?

С т а с. Целаахоўніку гаспадыні. Ён там з мамаю. Дзвесце баксаў усяго бяру.

Д ж о н. І тое грошы. У вас яшчэ танна. Вось у Празе… я ледзь без штаноў не застаўся.

С т а с. Дзякуй, што дапамагалі. Дачу вазьму за пяцьдзясят, можа, за сорак і загонім за восемдзесят.

Д ж о н. Разважаеш слушна. Падумаю.

С т а с. Ліка!

Уваходзіць Л і к а.

Д ж о н. Чароўная, закапай мне кроплі ў вочы. Прафесійная катаракта.

Л і к а закапвае яму ў вочы кроплі.

Д ж о н. У цябе дзіўнай прыгажосці талія.

Л і к а. Можаце памацаць. 90—70—90. Ва ўсім горадзе ў мяне адной такая.

Д ж о н. Галівудская зорка.

Л і к а. Як туды трапіць? Вось праблема. Шчоўкні нас, Станіслаў Валяр’янавіч.

Л і к а сядае Д ж о н у на калені і абдымае яго. С т а с фатаграфуе іх на тэлефон Л і к і.

С т а с. Добра, марыць будзем пасля. Запрашай пацыентаў.

Л і к а звоніць у маленькі званочак. Уваходзяць Е л і с е й, З о я, Ц е л а а х о ў н і к. Сядаюць у крэслы.

С т а с. Ці ўсе ўчора атрымалі Евангелле, Каран, Тору, Кнігу па індуізме?

У с е. Атрымалі.

С т а с. Кожны ўвечары прынясе сваю і памяняецеся імі. Пазнаёміцеся, у чым адзінства і ў чым адрозненне. Даю цяпер агульную ўстаноўку. Усім. А тады прыступім да індывідуальных гутарак. Ці ёсць на Зямлі чалавек, які на паўхвіліны, на хвіліну можа спыніць Сонца? Няма. Ці ёсць на Зямлі чалавек, які спыніў цунамі, шторм, навальніцу, вывяржэнне вулкана?

Е л і с е й. Няма такога чалавека.

С т а с. Нам, зямлянам, тое непадуладна. Гэта каштоўнасць. Закон Космасу, Бога, калі хто ў яго верыць. Ці можа чалавек на прыцягу сутак увесь час усміхацца?

Ц е л а а х о ў н і к. Не сустракаў такіх.

Е л і с е й. Можа, хворы?..

С т а с. Ці можа чалавек плакаць на працягу сутак? Не. Ад бяссілля перад нябачнымі сіламі нас ахоплівае паніка, адсюль неўрозы, стрэсы, дэпрэсіі. Усё мацнейшае за нас — зерне, дрэва, гара, машына, іголка. Чалавек пачынае смуткаваць, бо ён не жадае гэта прыняць як рэальнасць. Кроваточыць пратэст яго душы. Ёсць здрады, рабства, падманы, улада грошай і рэжым, прага нажывы і поспеху. Усе падуладныя сваім жарсцям. Пра гэта прачытаеце і ў будызме, і ў індуізме. Дык чаму ж цягам тысячагоддзяў чалавек таўчэцца на адным месцы? У сэнсе духоўнага жыцця і жаданняў прасоўваемся, спяшаемся следам за прагрэсам. Прагрэс з дапамогай Бога робіць побыт лягчэйшым для чалавека, а ён свядома заганяе сябе ў кут неспатольнай прагай задавальнення жарсцяў. Царства спажывецтва перамагае. Ты не можаш паменшыць капіталы таго ці іншага алігарха.

Е л і с е й. Дык зайздросна ж робіцца.

С т а с. Чаму ў вас назіраецца дэпрэсія? Не праз галечу і голад, на хлеб кожны можа зарабіць. Патрэбны не толькі правадыры і алігархі, патрэбныя і служкі. Пакуты душэўныя ад думкі, што хтосьці вінаваты ў тваім лёсе, а не вы самі. Чытайце ўважліва Евангелле. Любі бліжняга твайго, як самога сябе. Дапамажы, чым можаш, бліжняму. Зрабі лягчэйшым і яго трагічнае існаванне на Зямлі.

Ц е л а а х о ў н і к. Усё гэта знаёмае.

С т а с. Вось, напрыклад, маеш ты на абед пяць долараў, але вось сядзіць жабрак, які таксама хоча есці. У тваёй душы ўзнікае пратэст: чаму ты павінен аддаваць свае грошы гэтаму жабраку? Ты ідзеш далей, але там сядзіць яшчэ адзін жабрак. Ён што, не мае рук ці ног? Ён жа можа капаць зямлю, прыбіраць лісце. Чаму не хоча? Пэўна, адмовіўся спасцігаць таямніцу свету і актыўна жыць у сацыяльным асяроддзі. Тады пастаў сябе на яго месца. А ты сам зможаш сесці ля метро і прасіць міласціну?

Е л і с е й. Не.

С т а с. Сорамна. Тады аддай яму два долары са сваіх пяці за тое, што ён увесь дзень сядзіць на зямлі. Яму не сорамна. Гармоніі няма і не было. Шукайце яе ў сваім сэрцы. Пагасіце свой пратэст супраць камунізмуа, капіталізму, феадалізму. Грамадства яшчэ толькі імкнецца да дасканаласці, яно ў пошуку. Усе абмяркоўваюць адзін аднаго. А трэба знайсці сваё шчасце ў кожным дні, у кожнай прафесіі. Перад вамі бюст грэчаскага філосафа Эпікура. Ён адышоў ад іншых філосафаў, якія тлумілі свае галовы абстрактнымі пытаннямі: «Чаму нельга спыніць ходу Сонца?» Ствары свой сад. Праводзь кожны дзень з асалодай і задавальненнем. Вярніся да вытокаў, да Зямлі, Вады, Агню, Паветра. На сёння ўсё. Усе вольныя. Праз пяць хвілін я чакаю на індывідуальны сеанс пацыентку Зою.

Усе выходзяць.

Д ж о н. Разумна. І галоўнае — хочацца слухаць і не пярэчыць. Я, братка, і сам чытаў шмат абы-чаго гадоў да трыццаці, а каштоўную інфармацыю, у тым ліку кнігі, пачаў спасцігаць пасля сарака. Але так пераканаўча давесці змест прачытанага не змог бы. Табе трэба фірма, трэба размах. Не сумняваюся… Усе маюць комплексы.

С т а с. Стараюся, дзядзька. Мая педагог была ў захапленні ад маіх ведаў і заўсёды распраналася першая. Як вучыў Сальвадор Далі: «Не бойцеся дасканаласці, вам яе не дасягнуць».

Д ж о н. Ты любіш іспанцаў? Я люблю Сервантэса. Малайчына. Пайду адпачываць, нешта спаць хочацца. Розніца ў часе адчуваецца.

Д ж о н ідзе да сябе.

Л і к а. Нічога сабе! Аднак жа я ўвогуле не зразумела, што да чаго. Адно ўцяміла: калі няма грошай, а хочаш спыніць Сонца, значыць, ты будыст ці нудыст.

С т а с. Разумець не абавязкова. Трэба шмат што браць на веру. Ты ж не разумееш, чаму і ў цябе, і ў мышы кроў чырвоная і бяжыць па венах. І сэрца таххае. Хто гэта прыдумаў? Прырода? А чаго ж яна нічога больш не выдумляе?

Л і к а. Здурнець можна!

С т а с. Пакліч Зою і разам з Елісеем згатуйце абед, таварыш асістэнт.

Л і к а. Слухаюся, Станіслаў Валяр’янавіч.

Л і к а выходзіць. Уваходзіць З о я. С т а с сядае насупраць З о і.

С т а с. Не хвалюйцеся, калі ласка. Дайце мне руку.

Нечакана ўваходзіць Д ж о н.

Д ж о н. Няма сну. З вамі цікавей.

Сядае ў крэсла.

С т а с. Дайце руку *(бярэ руку Зоі).* О, у вас на пазногцях лак living рознага колеру. Я дзесьці ўжо такое бачыў.

З о я. У Лікі.

С т а с. Ах, сапраўды. Слухаю.

З о я *(не адразу).* Станіслаў Валяр’янавіч, у мяне ўсяліўся нейкі іншы чалавек.

Паўза.

С т а с *(убок).* Гэта парушэнне сцэнарыя.

З о я. Усяліўся.

Д ж о н. У нас у ЗША такое часта сустракаецца. Усяляецца д’ябал і пачынае забіваць ні ў чым не вінаватых школьнікаў. Маўчу, не буду перашкаджаць.

С т а с. Хто ўсяліўся?

З о я. Сяброўка.

С т а с. Гэта ўжо цікава.

З о я. І цяпер я жыву выключна яе комплексамі.

С т а с. Якая яна?

З о я. Яна закахалася. У аднаго разумнага філосафа, але ён па самыя вушы ў даўгах. Яна страціла апетыт, не ведае, як яму дапамагчы. Я ўжо каторы дзень не магу спаць… праз яе. А ён зусім нядаўна пазнаёміўся з адной шалахвосткай, дачкой багатай дамы, ад якой залежаць яго даўгі. Сяброўка ў роспачы. Яна нават ведае, як уратаваць яго ад пэўнай часткі доўгу.

С т а с. Гэта цікава.

З о я. І днямі можна гэта вырашыць. Але сяброўка не ўпэўнена, ці варта гэта рабіць — ён жа захоплены іншай дзяўчынай.

С т а с. Калі яна яго сапраўды кахае, дык як жа яна можа не дапамагчы?

З о я. І я пра тое думала, але сяброўка сумняваецца. І я сумняваюся таксама праз яе пакуты. Што мне рабіць?

С т а с. Хай сяброўка пачакае. Каханне ўсё перамагае, вучыць дараваць маленькія грахі. Даруйце маленькія грахі, каб яны не ператварыліся ў вялікія непрыемнасці.

Д ж о н *(нечакана).* Ды хай плюне твая сяброўка на гэтага Казанову. Ён яе не кахае. Маўчу. Працягвайце.

С т а с. Час лечыць. Філосаф жа бедны — яны ва ўсе часы ў галечы жывуць. А раптам пан Сенека разане сабе лязом па руцэ? І бывай… ці будзе сяброўка твая мець з ім дабрабыт, ці будзе купляць толькі айчыннае? Раней дабрабыт замянялі словам шчасце.

З о я. Але філосаф кажа, што шчасце не ў тым, чаго ў нас няма, а ў тым, што мы ёсць. Яны маладыя, у самым росквіце. Няўжо будуць жабракамі ўсё жыццё? Не магу паверыць.

С т а с. Хто яго ведае. Галеча памнажаецца на галечу, атрымліваецца галеча ў квадраце.

З о я. Бог не пакіне. Яна ж кахае яго, а там, дзе каханне, там Бог.

Д ж о н. Зоя слушна кажа. Каханне надае сілы. Маўчу…

С т а с. Хай сяброўка добра пра ўсё падумае. Можа, у яе ёсць якая нерухомасць, ёй непатрэбная…

З о я. Яна жыве з маці, медсястрой. Бацькі няма.

С т а с. Гэта яшчэ больш ускладняе становішча. Першапачатковы капітал трэба, без яго нічога не зробіш.

Д ж о н. Гэта праўда. У Штатах вельмі цяжка без старту пачынаць. Усё вартае ўвагі даўно падзялілі між сабой сем'і і сенатары.

С т а с. Ты кажаш пра нейкую дапамогу, якая ёсць у сяброўкі для філосафа. Гэта ўжо надзея. Зачэпка.

З о я. Я паспрабую ўсё ёй расказаць.

С т а с. І не варта пераймаць іншых. Не ўсе павінны мець рознакаляровыя пазногці. Гэта прыніжае асобу.

З о я. Зразумела. Я магу ісці?

С т а с. Так. Палуднуйце, а пасля адпачывайце. Вы ж тры ночы не спалі. Сяброўку пазнаёмце з Елісеем.

З о я. Ён не на яе густ.

З о я выходзіць.

Д ж о н. На маю думку, штосьці яна пра сяброўку напрыдумляла. Тут у цябе дылема. Зоя разумная і разважлівая. У свет добра выводзіць Ліку, а абедаў чакаць ад Зоі.

С т а с. Вось і я пра што. Эх, быў бы мусульманінам. Яны ўсё прадугледзелі. Буду слухаць толькі вашы парады.

Д ж о н. Не мне ж жаніцца. Хоць так і свярбіць… успомніць маладосць. Я любіў не толькі стэйкі, але і жанчын. Гуд бай, май лав, гуд бай *(спявае).* Яны мяне цанілі… Муж кухар. Маўчу…

С т а с. Дзядзька, у нас зусім мала часу. Хочацца да канца тыдня…

Д ж о н. Ведаю. Самога калоціць. Язва абвастрылася. Яшчэ адзін зуб заныў. Я чакаю. Мне ўжо тыдзень таму павінны былі кінуць на рахунак трыста тысяч зялёных.

С т а с. Мама… Хопіць, каб адкупіцца ад ваенкамата.

Д ж о н. Я ўратую тваю фірму, і дача мне падабаецца. Самы час пра старасць падумаць. Будзем прасіць Усявышняга аб дапамозе.

С т а с. Вы вернік?

Д ж о н. Зрабіўся вернікам у апошнія гады. Вось купіў ікону Святога Міколы. Зваць мяне Іванам, а па царкоўнаму ў хрышчэнні — Мікалай. Часам расчароўваюся ў людзях, краінах, палітыках… Бог не падманвае, з ім надзейна. Пачакай, пацярпі. Мы павінны перамагчы.

Д ж о н ідзе на другі паверх.

С т а с. Зоя!

Уваходзіць З о я.

С т а с. Дай я абдыму цябе, як на самым пачатку нашага знаёмства. Не калаціся так, не трэба раўнаваць. Я не ведаю, што са мною робіцца. Страх паваліцца і не ўстаць. Нібы ў маіх вантробах пасяліўся хтосьці. Іранізую над уласнымі каштоўнасцямі… Амаль цынік, смяюся з маралі і асноў грамадства. Я ў хаосе. Няма апірышча.

З о я. А я?

С т а с. Тут усё па-іншаму. Свет бурыцца. Усё, як высвятляецца, не мае сэнсу, акрамя харчавання, сексу, здароўя, багацця і пошуку рабоў. Паўсюдна ідуць войны. Я і ў армію баюся ісці. Магу загінуць за нішто. Ты гаварыла, што сяброўка можа дапамагчы мне.

З о я. Заўтра я сёе-тое прынясу, гэта ўратуе цябе.

С т а с. Дай я цябе пацалую, радасць мая. *(Цалуе.)* Божа, дай мне дажыць да заўтра! *(Музыка.)*

***Зацямненне.***

## ДЗЕЯ ДРУГАЯ

### Карціна чацвёртая

Дэкарацыі першай карціны.
У крэсле-качалцы Д ж о н. С т а с ля камп’ютара.

Д ж о н. Ліка! Леакадзія!

Уваходзіць Л і к а.

Д ж о н. Прыгажуня наша, падыдзі да мяне, капні, золатца, па дзве кроплі ў абодва вока, каб я яшчэ лепей бачыў тваю постаць.

Л і к а закапвае вочы Д ж о н у.

Л і к а. Не баліць?

Д ж о н *(гладзіць яе па таліі, па клубах)*. Прыемна.

Л і к а *(гулліва)*. Дзядзька Джон, я прызвычаюся да вашых рук, і што тады?

Д ж о н. Як некалі пісаў адзін малады паэт: «…Она шептала шопотом, а что потом, а что потом…» Я еду з Елісеем у банк, пачакайце мяне, хачу прысутнічаць на сеансах. Цікава, чаму дэпрэсія ў гэтага даўгалыгага целаахоўніка гаспадыні?

Е л і с е й *(трымае на падносе дзве чаркі з віскі)*. Неўроз. Як ва ўсіх. Я вось не магу ўтаймаваць прагу да спажывання матэрыяльных каштоўна-

сцей. З часам пра нас напішуць: «Гэта было страчанае пакаленне, якое хацела ўсё і адразу, нічога не робячы».

Д ж о н. Гэта праўда. Нідзе няма раю, і з неба хлеб не валіцца. Каб добра жыць — трэба добра працаваць.

С т а с. Мы пачакаем вас, дзядзька. Мне і самому цікава.

Д ж о н і Е л і с е й выходзяць.
С т а с уключае песню «Бесамэ муча», падыходзіць да Л і к і.

С т а с. Ты бессардэчная і раўнадушная. *(Абдымае яе, але яна адыходзіць на два крокі ад яго.)*

Л і к а. Вы абодва рэальна нейкія сексуальныя ман’які. Усё дакранаецеся і дакранаецеся да майго цела, а яно грошай прагне.

С т а с. І я пра тое гавару. Дзядзька настойвае, каб я ажаніўся.

Л і к а. Шлюб — гэта мінітурма, у якой муж і жонка па чарзе выконваюць ролі вязня і наглядчыка, як кажа Елісей.

С т а с. Але ж здараюцца выключэнні.

Л і к а. Я не хачу быць ні вязнем, ні наглядчыкам.

С т а с. Дзядзька баіцца даваць грошы халасцяку. Кажа, пусціш на вецер. Я не ведаю, што са мной. Страх паваліцца і не падняцца. У мяне ўсяліўся нехта.

Л і к а. Вы што, усе звар’яцелі? Зоя стогне: усяліўся хтосьці. Чорт ведае што.

С т а с *(выключае музыку)*. Праўда. Я іранізую над каштоўнасцямі грамадства, абыякавы да традыцый і гісторыі свайго этнасу, смяюся з грамадскай маралі. Здзекуюся з гісторыі радзімы. У маёй душы хаос. Няма апірышча. Дзядзька кажа, усё ляціць… Ты павінна выратаваць мяне. Свет разбураецца. Усё не мае сэнсу, акрамя харчоў, сексу, багацця. Ратуй, ты ж разумніца.

Л і к а *(у разгубленасці)*. Але як?

С т а с. Два варыянты. Першы — фіктыўны шлюб, сексу не будзе.

Л і к а. Во-о-сь як?!

С т а с. У тым сэнсе, што ў адпаведнасці з жаданнем. Можам жыць асобна. Дзядзька ахвяруе пэўную суму, і мы спакойна прыдбаем дамок пад Барселонай. Варыянт другі: грамадзянскі шлюб. Палова Еўропы жыве так, каб нічога не рабіць. Трэці — вянчанне…

Л і к а. Усе добрыя. Пад Барселонай. Я кіну ў сеціва фотку, сяброўкі спруцянеюць ад зайздрасці. Трэба параіцца з мамай. Без яе…

С т а с. Можам паставіць пячатку ў пашпарце і тады адразу на развод.

Л і к а. Трэба параіцца з мамай.

С т а с. Мама кансерватар. Старавер.

Л і к а. Я паслухаю, што яна параіць. Я ў яе на ўтрыманні, трэба слухацца.

С т а с. Але гэта трэба зрабіць як мага хутчэй. Да суботы.

Л і к а. Ды я хоць сёння. Распішуць адразу. Скажам, што я цяжарная. Мама заб’е…

С т а с. Для пячаткі…

Л і к а. А ён многа ахвяруе бабла?

С т а с. Даволі многа.

Л і к а. Не хачу фіктыўна. А калі я пасля першай шлюбнай ночы закахаюся ў цябе па вушы?

С т а с. Тады будзе другая шлюбная ноч.

Л і к а. Я ў захапленні ад тваёй дасціпнасці. У мяне такі мача ўпершыню. Качок адзін быў. Ні бэ ні мэ. Потам патыхала, фу-у-у…

Стас. І я ад цябе страціў розум. Раўную да дзядзькі.

Ліка. Людзі падзяляюцца на дзве катэгорыі: імпатэнтаў і на тых, хто зробіцца імпатэнтам. Ён мяне не хвалюе.

Стас. А яго грошы?

Ліка. Я так разумею, у яго спадчыннікаў няма. Усё ўздыхае — ах, радзіма, радзіма.

Стас абдымае Ліку.
Уваходзяць Джон і Елісей.

Джон. Кхе… Думаў, можа, яна пераводам у банк… Глуха.

Стас. Кіньце ёй эсэмэску. Маўляў, так і так, бізнес гарыць.

Джон. Можна і так. Там зараз ноч, раніцай патэлефануем.

Стас. Ліка, паклічце целаахоўніка, а то, відаць, зачакаўся.

Ліка выходзіць у суседні пакой і вяртаецца з Целаахоўнікам.

Целаахоўнік. Дзень добры, Станіслаў Валяр'янавіч.

Стас. Сядайце, не хвалюйцеся.

Целаахоўнік. Я прачытаў усе кніжкі. Паводле ўсіх рэлігій — грэшнік. Вось, напрыклад, збіваю як след тых, хто грошы вінаваты, ці тых, хто на вуліцы не саступіў дарогу нашаму джыпу, хто скоса на нас паглядзеў, а сам думаю: што адчувае ахвяра? Ці знойдзе яна сапраўдны шлях пасля маіх udaраў?

Стас. Задача цяжкая. Пасля такіх udaраў, ды яшчэ бітай, ахвяра ўвогуле можа зрабіцца інвалідам. Хочаш пакаяцца?

Целаахоўнік. Ды як сказаць… Разумееце, доктар, я ж не магу ведаць, што ў гэты час адчувае ахвяра. Мяне ніхто ніколі не біў. Пчала аднойчы ўджаліла, пасля яе доўга шукаў пчаляр. У мяне рукі пачынаюць трэсціся, збіваю і плачу.

Стас. У кожнага на зямлі свая функцыя.

Целаахоўнік. Я ведаю, мне загадалі збіваць, але як ахвяра да гэтага ставіцца… не ведаю, перажываю, пакутую пасля, ці не праклінае мяне.

Стас. У тым сэнсе, ці не надта ты моцна збіў?

Целаахоўнік. Ага. Дэпрэсія. Страшэнная. Па тэлевізары бокс не магу глядзець. Ванітуе. Дапамажыце…

Джон. А не спрабавалі словамі пераконваць?

Целаахоўнік. Не дзейнічаюць словы. Гаспадыня голас па тэлефоне зрывае, патрабуючы доўг. Словы не маюць сілы. У ААН людзі ўсё гавораць і ўсё марна, усе гэтыя рэзалюцыі… пусты гук. Людзі як галадалі, так і галадаюць. Усе ў пастцы валютнага фонду.

Стас. Магу параіць толькі адзін сродак, каб зняць дэпрэсію.

Целаахоўнік. Я на жанчын глядзець не магу. Няма жарсці, напружання. Барані божа адмовіць, у мяне адразу рэакцыя — па твары. Дапамажыце…

Стас. Паспрабуем.

Целаахоўнік. А гэта магчыма?

Стас. Біць будзем. *(Паўза.)* Елісей! *(Уваходзіць Елісей.)* Дзе ў цябе пячонка?

Целаахоўнік *(паказвае на правы бок цела).* З правага боку. Вышэй за пах і ніжэй за рэбры.

Стас. Трэба, Елісей, з усяе сілы, што ў цябе ёсць, стукнуць яго па пячонцы.

Е л і с е й. Я што, хворы? Ты думаеш, што кажаш?! Ды пасля ад мяне мокрага месца не застанецца.

С т а с. Не палохайся.

Ц е л а а х о ў н і к. Бі, калі доктар загадаў. А не — дык я выб'ю з цябе згоду.

Е л і с е й. Ну, калі вы ўсе так просіце і гарантуеце…

С т а с. Гарантуем.

Е л і с е й. Калі ў інтарэсах лячэння гэткая працэдура…

Асцярожна стукае Ц е л а а х о ў н і к а па пячонцы.

Ц е л а а х о ў н і к. Нібыта камар учмяліў.

Е л і с е й раз'юшыўся.

Е л і с е й. Адну хвілінку.

Выбягае вонкі і вяртаецца з цаглінай у руцэ.

С т а с. Гэта падыдзе.

Д ж о н. Гэта штосьці новае ў псіхалогіі. Такога ў Амерыцы няма.

С т а с. Ноу-хау.

Е л і с е й моцна стукае. Ц е л а а х о ў н і к прысядае і доўга хапае ротам паветра. Паўза.
Е л і с е й хаваецца за спіну С т а с а.

Д ж о н. Можа, яшчэ бітай?

Ц е л а а х о ў н і к *(з цяжкасцю ўстае).* Не трэба. Вы мяне ўжо вылечылі. Цяпер я маю ўяўленне.

С т а с. Цяжка…

Ц е л а а х о ў н і к. Не тое слова. Дзякуй. Падумаю, можа, працу памяняю. Я праклёнаў баюся. Дзякуй. Можна ісці?

С т а с. Другога сеанса не трэба?

Ц е л а а х о ў н і к. Не, не. Усё ў норме. Псіхіка на месцы.

Ц е л а а х о ў н і к выходзіць.

Д ж о н. Крута. Трэба запантаваць такі метад лячэння рэдкай дэпрэсіі.

С т а с. Не хочаце вы, дзядзька, адпачыць?

Д ж о н. Хачу. Перамена часавых паясоў адчуваецца. Да таго ж прафілактыка інфаркту.

Д ж о н ідзе на другі паверх.

С т а с. Ліка, прынясі вады, моташна. *(Ліка выходзіць.)* Паехалі. Я здабыў яго банкаўскую картку. Паспрабуем, а раптам пашанцуе. Колькі там у яго на рахунку? Роднасныя сувязі — гэта добра, але яшчэ лепш, калі яны падмацоўваюцца банкаматамі.

Л і к а прыносіць шклянку вады.

С т а с. Даражэнькая наша, дзякуй. А Елісею хіба не моташна?

Л і к а. Ён не прасіў.

Е л і с е й. У машыне мінералка.

С т а с. Ну, кіруй. Мы ў горад. Калі ўсё о'кэй, вернемся на вячэру.

С т а с і Е л і с е й хутка выходзяць. (Музыка.)
Л і к а тэлефануе маці.

Л і к а. Мама, можаш прыязджаць. Тут нікога. Дзядзька адпачывае. Фотку я на камп’ютары ў «фоташопе» пакінула без вусоў і бакенбардаў. Чакаю.

Уваходзіць З о я.

З о я. А дзе ўсе?
Л і к а. Мне справаздачы не даюць. Накіраваліся ў горад. Збяры маліну.
З о я. Я хацела пагаварыць з табой.
Л і к а. Гавары, толькі хутчэй.
З о я. У цябе да яго сур’ёзныя пачуцці?
Л і к а. Да каго?
З о я. Да Стаса.
Л і к а. Хіба табе не ўсё роўна?
З о я. Не.
Л і к а. Я магу адказаць шчыра, а магу так, як мне выгадна.
З о я. Скажы праўду.
Л і к а. Ну, калі ты надта хочаш… Ён папрасіў маёй рукі і прапанаваў сваё сэрца.
З о я. Не магу паверыць.
Л і к а. Вось і пярсцёначак падарыў. Хрысціцца не буду, я атэістка. А ты закаханая ў яго?
З о я . Мы з дзяцінства сябравалі. Ён для мяне дарагі…
Л і к а. Спіш з ім ці сябруеш?
З о я. Спім *(нечакана).*І я цяжарная ад яго.
Л і к а. Знайшла чым здзівіць. Зрабі аборт.
З о я. Я хачу нарадзіць.
Л і к а. Маці-адзіночцы цяжка гадаваць дзіця. Нешта я не веру табе, сяброўчка, бярэш мяне на понт. Па ўсім відаць.
З о я. Я… толькі тыдзень, як цяжарная.
Л і к а. Кінь. Ён не ажэніцца з табой. Ён мой. Каханне непрадказальнае. Шукай каго прасцей.
З о я. Кінь яго. Табе толькі грошы трэба. Гэта будзе суцэльная пакута, а не жыццё.
Л і к а. Калі з грашыма — гэта салодкая пакута. Прабач. Я чакаю маці. Нам няма больш пра што гаварыць.

З о я выходзіць.

Л і к а. Няшчасная. Ёй бы гадоў сто таму нарадзіцца, ды ўздыхаць на лаўцы ў панскім маёнтку.

Уваходзіць В і т а л і н а.

В і т а л і н а. Спяшалася, ехала пад сотню. Давай фотку.
Л і к а. Аддыхайся, выпі вады.
В і т а л і н а. Уключай.

Л і к а ўключае манітор. В і т а л і н а ад здзіўлення села. Паўза. Выпіла вады. Яшчэ раз угледзелася ў фотку.

Л і к а. Што з табой?

В і т а л і н а. Чула маё сэрца… У мяне ж геніяльная інтуіцыя. Ніякі гэта не Джон, а Іван Казіміравіч Коржык. Каханне майго юнацтва.

Л і к а. Ма-ма?!

В і т а л і н а. Так, дачушка…

Л і к а. Дык можа… Няўжо ён мой… бацька?

В і т а л і н а. Не. Твой бацька ва Уладзівастоку. А гэты ўцёк ад мяне. Я ўзяла яго на понт. Кажу, цяжарная. Ён кухарам у сталоўцы, а я на касе там жа, на радыёзаводзе. А ён шах — і ў Амерыку. Бог ёсць! Дзе Ваня?

Л і к а. Адпачывае.

В і т а л і н а. Пабудзі.

Л і к а. Нейк…

В і т а л і н а. Ідзі. Прывядзі яго сюды. Я яму скажу, што ты яго дачка. Я пакутавала ў адзіноце. Хай і ён пакутуе. Чые гэта цыгары?

Л і к а. Джонавы-Ваніны.

В і т а л і н а бярэ цыгару, сядае ў крэсла, закідвае нагу на стол.

В і т а л і н а. Агню.

Л і к а падае запальнічку. Паднімаецца па лесвіцы да пакоя Д ж о н а. В і т а л і н а паварочваецца спінай да лесвіцы, каб ён не бачыў яе твару.

Л і к а. Дзядзька Джон! Дзядзька Джон! Вас тут чакаюць. *(Голас Джона: «Хто?»)* Дама.

Д ж о н. Іду-іду-у…

Праз імгненне ён з’яўляецца на лесвіцы.

В і т а л і н а. Спускайцеся ўніз, смялей. *(Джон асцярожна спускаецца ўніз.)* Не пазнаеш мяне?

Д ж о н. Прабачце, не пазнаю.

В і т а л і н а. Іван Казіміравіч, якая ж у цябе кароткая памяць. *(Віталіна паварочваецца да яго тварам.)*

Д ж о н. Віта?! Ты?

В і т а л і н а. Я самая, касір у сталоўцы. Твой зайчык, тваё казлянё, твая дарагая…

Д ж о н. Як ты даведалася, што я прыехаў?

В і т а л і н а. Дачка расказала, ад якой ты збег. Ліка.

Д ж о н. Яна? Мая? Не можа быць!

В і т а л і н а. Можа. Прыхапіў тады ў касе дваццаць пяць рублёў… мяне ледзь не пасадзілі… і сігануў у Штаты. Колькі працэнтаў набегла за дваццаць пяць гадоў? Дзве тысячы баксаў…

Д ж о н. Можа, менш…

В і т а л і н а. Скнара! Роднаму дзіцяці… Як толькі сказала, што цяжарная, дык уцёк!

Д ж о н. Яна не можа быць маёю *(выцягвае планшэт)*. Вось. Вось у мяне ўсё, усё запісана. З кім, калі, дзе, колькі…

В і т а л і н а. Казанова, улік вядзеш…

Д ж о н. Страхуюся. Я па сетцы даведаўся, калі яна нарадзілася…

В і т а л і н а. Нават калі яна ад другога, але я ж засталася адна. Ты мне лёс зламаў. Першым быў, каго пакахала. Вартавала ля дома, з кім гуляеш. Ты чытаў Дантэ? Узялася і я чытаць «Боскую камедыю». І ведаеш, хто ў паэта самы страшны ў пекле? Здраднік!..

Д ж о н. Але яна не мая дачка..

В і т а л і н а. Гэта яе шчасце. Але ж я была тваёю.

Л і к а. Мама, чаго ты прыніжаешся?

Д ж о н. І праўда? Чаго?

В і т а л і н а. Хоць бы вестку адтуль падаў. Хоць бы пацікавіўся, як я тут, ці не памерла. Я была блізкая да самазабойства.

Л і к а. Мама…

В і т а л і н а. І колькі ў цябе рэстаранаў? Дачу для плямнніка хочаш купіць? Давай. Але цану я буду трымаць. Сто тысяч і не менш. Мае пакуты каштуюць яшчэ даражэй. *(Паўза.)* Ды даўгі пляменніка, а як жа…

Д ж о н. Разумееш, Віталіна, я грэшны, але не да такой ступені. Няма ў мяне рэстаранаў, я там быў «у падполлі». Я нават не грамадзянін Амерыкі… Я доўга не мог уладкавацца шэф-поварам. Доўгі час ліў асфальт, збіраў сою. З першай жонкай не пашанцавала, яна была з эмігрантаў. З другой жыў у грамадзянскім шлюбе. Сёе-тое прыдбалі. Яна ўсё адсудзіла. Я сёння чакаў, як мы дамовіліся, хоць якія грошы, але не дачакаўся. Яна нічога не аддае… *(Паўза.)* Вось, вазьмі за даўгі пляменніка гэты залаты пярсцёнак. Ён хоць і абібок, але таленавіты хлопец. Прабач, што абышоўся з табой па-свінску. Малады быў, дурны. Прагнуў свабоды, не хацеў яшчэ жаніцца. Баяўся сямейнага жыцця, хацеў зрабіцца багатым.

В і т а л і н а. Я памятаю, як ты браў грошы з касы за левыя абеды.

Д ж о н. І за гэта даруй. Я ўбачыў радзіму і магу спакойна паміраць. Назад мне дарогі няма. Пайду прасіцца старастам у царкву Святога Міколы.

В і т а л і н а. Вой, сумняваюся, вой, зноў падманваеш. Пярсцёнак не вазьму — а раптам ты яго скраў?

Д ж о н. Пра што ты? Вазьмі, мой.

Л і к а. Мама, бяры.

Д ж о н. Ехаць няма куды. Даруй…

В і т а л і н а. Бог даруе. Я зноў шкадую цябе, Іван Казіміравіч.

Д ж о н. Дачка ў цябе прыгажуня. Шкада, што не мая.

В і т а л і н а. А магла б быць і тваёй. Дрэнна ты Дантэ чытаў. Аднак жа трэба і гонар мець. Хадзем, дачушка, тут нам больш няма чаго рабіць.

Л і к а . А як жа Джон-Ваня?

В і т а л і н а. Выблытаецца. Ён хітры. У мяне на ўсіх прайдзісветаў міласціны не хопіць.

В і т а л і н а і Л і к а выходзяць.

Д ж о н запальвае цыгарэту, але перадумаў, не курыць.

Д ж о н. Вось табе, бабуля, і Юр’я дзень.

Уваходзіць вельмі сумны С т а с.

С т а с. Дзядзька Джон, я нягоднік. Сварыцеся на мяне, карайце. У мяне няма выйсця. Я зрабіў злачынства.

Д ж о н. Божа!

С т а с. Я скраў вашу банкаўскую картку і праверыў рахунак у банку. Там дзесяць долараў.

Паўза.

Д ж о н. Гэта добра, што ты праўду сказаў. Сярод нашых продкаў, відаць, і злодзеі былі. Не ведаем свайго радаводу. Чорная чадзь. Дарую, таму як паважаю твой талент. Справа ў тым, што ў мяне ёсць яшчэ адна картка.

С т а с. Дзядзька! Ура! Ура! Мы выратуемся *(цалуе Джона).*

Д ж о н. Пачакай, не спяшайся. І там дзесяць… Я голы, як мыш у краме электратавараў. Рэстараны — гэта хлусня, пыл у вочы. Думаў, жонка, ужо былая, адшкадуе долю… пуста. Я не грамадзянін Амерыкі, жыў у Штатах нелегальна, швэндаўся па розных работах. Праў ніякіх. А цяпер… Пайду прасіцца ў сталоўку радыёзавода кухарам. З чаго пачаў, туды і вяртаюся…

С т а с. Пра што вы? Якая сталоўка?! Там даўно кітайскі рэстаран.

Д ж о н. Значыць, у дворнікі. Трэбы ж нейкім чынам жыць.

С т а с. Не палохайце мяне. Я ўсім раструбіў, што мой дзядзька багаты. Вы загубіце мяне. Адны крэдыты… машына, даўгі…

Д ж о н. Вазьмі пярсцёнак. Прадай, павыплачваеш даўгі.

С т а с. Дайце мне другую картку, а раптам яна перавяла? Ёсць жа ААН, суд у Гаазе.

Д ж о н. Для супакаення душы. Трымай, правер. Надзеі ніякай няма. Нумар 686801.

С т а с. Чакайце. Так усё было добра, на нашу карысць! А Ліка, Віталіна?

Д ж о н. Ведаюць.

С т а с. Спазніўся. Ну ды нічога. Я зараз.

С т а с выходзіць. (Музыка.)

Д ж о н. Што рабіць, ніяк не прыдумаю.

Уваходзіць Е л і с е й. У руках у яго дзве чаркі з віскі.

Е л і с е й. Дзядзька Джон, усе кудысьці разбегліся, няма з кім і выпіць.

Д ж о н. Магу скласці табе кампанію. *(Выпілі.)* Ты якой прафесіяй валодаеш?

Е л і с е й. Гісторыя, але цягне ў літаратуру. Афарызмы пішу. Толькі што адзін прыдумаў.

Д ж о н. Прачытай.

Е л і с е й *(выцягвае нататнік).* Вось. Прыходзіць чалавек да Бога і кажа: «Мне сумна». Бог дае яму машыну. Зноў прыходзіць чалавек да Бога і кажа: «Мне сумна». І Бог дае яму мабільны тэлефон. Зноў прыходзіць чалавек да Бога і зноў кажа, што яму па-ранейшаму сумна. І Бог дае яму інтэрнэт. Тады чалавек ідзе да Д’ябла і кажа, што яму сумна. Тады Д’ябал за ўсё, што даў чалавеку Бог, прымушае яго плаціць грошы. Больш у чалавека пытанняў не было — на іх не хапала часу.

Д ж о н. Цалкам сучасна. А яшчэ?

Е л і с е й. Грошы не пахнуць, але трэба ведаць месцы, якія пахнуць грашыма.

Д ж о н. Добра, усё пра грошы… А пра каханне ёсць?

Е л і с е й. Цяжкавата. Можа, вось гэта. Калі ў чалавека няма кахання — яму цяжка і з ім цяжка.

Д ж о н. Прыстойна. Прасоўвай. У асноўным разлік, кахання мала. Друкуй. Ганарары вялікія?

Е л і с е й. І хацеў бы, ды ніяк спонсара не знайду. Цяпер усе ў асноўным выдаюць за ўласны кошт.

Д ж о н. Без ганарару?

Е л і с е й. На жаль, без.

Д ж о н. Усё роўна друкуй. Былі б у мне грошы, пазычыў бы. А так… Не змарнуй талент. Напісанае застаецца. Я, братка, чытаю Дон Кіхота і плачу.

Ведаю, што ў свеце няма праўды і справядлівасці, аднак жа Дон Кіхот верыў у гэта, змагаўся. Чытаў Сервантэса?

Е л і с е й. Не.

Д ж о н. Прачытай. Не кідай. У цябе атрымаецца. А ў мяне, дружа, усё разбурылася. Давай яшчэ па адной.

Е л і с е й. Гэта з задавальненнем. *(Музыка.)*

***Зацямненне.***

## Карціна пятая

Дэкарацыі першай сцэны.
У пакоі С т а с і Ц е л а а х о ў н і к. С т а с сумны.

Ц е л а а х о ў н і к *(ля бюста Эпікура).* І колькі гэты насаты без вачэй каштуе?

С т а с. Прашу пяцьсот баксаў.

Ц е л а а х о ў н і к. Мой знаёмы антыквар больш за сто не дае.

С т а с. Бяры за сотню. Усё ўжо бессэнсоўна.

Ц е л а а х о ў н і к накідвае на бюст цэлафанавы мяшок.

Ц е л а а х о ў н і к. Фікус?

С т а с. Пяцьдзясят баксаў.

Ц е л а а х о ў н і к. Мама дала дваццаць.

С т а с. Забірай. *(Налівае ў чаркі віскі.)*

Уваходзіць З о я .

З о я. Сёння не будзе сеанса?

С т а с. Кінамеханік спіўся.

З о я. Я сур’ёзна.

С т а с. Не будзе. Трэст не вытрымаў. Дзядзька ў галечы, у дзяржаве інфляцыя, у Сірыі вайна, зоркі шоу-бізнесу шукаюць сурагатных маці, касманаўты чакаюць на станцыі харчу, а Стаса чакае армія.

З о я. А дзе дзядзька Джон?

С т а с. Іван Казіміравіч пад псеўданімам Джон замольвае грахі ў царкве. Калі прыходзіць бяда, усе чамусьці ўспамінаюць пра Бога. Раней трэба было малітвы чытаць.

Ц е л а а х о ў н і к. Бяру фікус за дваццаць.

С т а с. Бяры.

Ц е л а а х о ў н і к. Мама даўно пра такі марыла. Камп’ютар?

С т а с. Трыста.

Ц е л а а х о ў н і к. Трыста новы. Сто пяцьдзясят.

С т а с. Бяры.

Ц е л а а х о ў н і к выносіць бюст, фікус і камп’ютар.

З о я. Я прынесла табе выпіску з рэестра.

С т а с. Не зразумеў.

З о я. У нас ёсць магчымасць. Мы ў натарыяльнай канторы ўнеслі ў рэестр машын тваю машыну, якую ты купіў. Унеслі дзень яе пакупкі і рэгістрацыі. Так што ты за яе банку плаціць не будзеш *(працягвае яму даведку).* Вось трымай. Плаціць будзе ранейшы ўладальнік.

С т а с. Не чакаў. Ты, як кажа дзядзька Іван-Джон, чулая і спагадлівая. Выпі разам са мной.

З о я. Можна і выпіць. А Елісей?

С т а с. Ён у таварыстве сляпых паказвае прыёмы боксу.

З о я. Не, сур’ёзна?

С т а с. Ды спіць ён. Уведаў, што мы праляцелі і напіўся. Шкада, я мог бы зрабіцца сусветна вядомым псіхолагам. Карнегі адпачывае…

З о я. Што перашкаджае?

С т а с. Галеча і армія.

З о я. Сёй-той ідзе ў армію з задавальненнем.

С т а с. Дык гэта сёй-той.

З о я. Ты ж моцны духам. Вяртайся ва ўніверсітэт.

С т а с. Позна ўжо.

Уваходзіць Л і к а.

Л і к а. Усім прывітанне! Стас, вяртаю табе пярсцёнак. Пагулялі трохі і досыць. Мне трэба кар’еру рабіць, Еўропу заваёўваць. Я прайшла кастынг. Два месяцы стажыроўкі ў Рыме, Кавана, Версачы, Армані… Казка!

С т а с да пярсцёнка не дакрануўся. Л і к а паклала яго на стол.

Л і к а. Ты папрасі ў мамы, яна цяпер добрая — здолелі прадаць цырульню і набыць прыдарожную кавярню. Можа, яна дазволіць табе і надалей тут практыкаваць. У яе цяпер добры настрой.

С т а с. Калі пабагацею, куплю яе кавярню пры дарозе і турфірму. Вазьму яе да сябе на працу.

Л і к а. Не злуйся.

З о я. Ён даможацца свайго.

Л і к а. Марыць не шкодна. Пакуль ты пабагацееш, будзе другое прышэсце Хрыста.

С т а с. Не хвалюйся. Пакуль ты на зямлі, ён не рызыкне сюды спусціцца.

Л і к а. Нахабнік. Вось я паскарджуся маме, і яна пасадзіць цябе ў турму. А?! Спалохаўся?!

С т а с. Жартую, жартую. Выпі з намі на развітанне.

Л і к а. Калі толькі гэта сапраўднае віскі, а не падробка.

С т а с. Натуральнае. Вып’ем за твае поспехі ў Рыме.

Уваходзіць Е л і с е й.

Е л і с е й. Ага, выпіваеце, лайдакі.

С т а с. П’ём, араты.

Е л і с е й. А дзядзька Джон сядзіць пад сасной. Па-мойму, нешта з сэрцам.

Усе ў трывозе пакідаюць пакой. Е л і с е й сядае да стала і налівае сабе ў чарку віскі. Уваходзяць С т а с, З о я і Л і к а.

С т а с. Разыграў. Што ты палохаеш. Ён проста заснуў ад задавальнення.

Е л і с е й. А я адкуль ведаю? Сядзіць нерухома. Пажартаваць ужо нельга. Што, гэтая дача адзінае святло ў акне? Прадаю афарызм: «Сэнс жыцця — паспець усяго пакаштаваць пры жыцці і пры гэтым шчасліва пазбегчы турмы, жабрацкай торбы і бальніцы».

С т а с. Добра было б дадаць — «і арміі таксама».

Е л і с е й. Мы маладыя — і гэта вялікі плюс. Усё яшчэ наперадзе, як у Македонскага.

Шум машыны. С т а с падыходзіць да акна.

С т а с. Даражэнькія мае, калі гэта з ваенкамата, мяне тут няма і не было. Не ўздумайце падпісваць за мяне позву. Я ад'ехаў. Куды? Не ведаеце. Не падпісвайце.

С т а с выходзіць.

***Зацямненне.***

## Карціна шостая

Дэкарацыі першай карціны.
З чамаданам з другога паверха спускаецца Д ж о н. У пакоі С т а с, З о я, Е л і с е й.

Е л і с е й. Я дапамагу.

Дапамагае несці чамадан.

Д ж о н. Ну, здаецца нічога не забыў.

С т а с. Я б вам саступіў свой пакой, але там згодна з дамовай яшчэ паўгода будзе жыць целаахоўнік Віталіны і яго маці. У яе слабае здароўе.

Д ж о н. Разумею. Знайшлася добрая душа. Выходжу з царквы, насустрач жанчына. Разгаварыліся. Яна і прапанавала спыніцца ў яе доме. Сапраўды, як не прыслухацца да слоў апостала Паўла: «Адно аднаго цяжар панясіце». Добры ў нас народ, спагадлівы.

Е л і с е й. Віталіна магла б і прытуліць, мала месца, ці што?

С т а с. Можа, знайшла пакупніка і на дачу? Заўтра тут будуць іншыя гаспадары.

Е л і с е й. Угаварыў бы дзеля дзядзькі.

С т а с. Я сам цяпер без прытулку.

Д ж о н. Давай разам са мной…

С т а с. Мне на вёсцы нязвыкла. Маштаб не той.

Е л і с е й. Я б рызыкнуў папрасіць.

С т а с. Я падэшвы ад чаравікаў у супе варыць буду, а прыніжацца не стану.

Е л і с е й. На ганарлівых ваду возяць.

С т а с. Гэта не твой афарызм.

З о я *(дае Джону грошы).* Вось сто долараў. Вазьміце…

Е л і с е й. Ды і ў мяне дваццаць. Бярыце…

С т а с. І мне целаахоўнік прынёс трыста баксаў.

З о я. Ад шчырага сэрца.

Д ж о н. Вазьму сотню. Зараблю — аддам. Радзіма — гэта не толькі палі, лясы, азёры, сосны, гарады. Радзіма — гэта найперш людзі. Мне тут Богам дадзена жыць. У Штаты не вярнуся. Там я чужы. Хтосьці змог асімілявацца, а я — не.

Уваходзяць В і т а л і н а і Л і к а.

В і т а л і н а. Усе сабраліся? Бачу, фірма пагарэла. У мяне сёння выдатны настрой. Сэрца не камень. Амаль задарма прыдбала прыдарожную кавярню.

С т а с. Віншуем.

Л і к а. Мама геній.

В і т а л і н а. А чаму міны кіслыя?

С т а с. Мы прайгралі. Усе багатыя, а мы бедныя. Нам з вамі не па дарозе.

В і т а л і н а. Што ж вы з мяне монстра робіце, які толькі і думае, як бы гэта эксплуатаваць блізкага? Сказана ж — палюбі бліжняга свайго.

Л і к а. Мама і на будаўніцтва храма ахвяравала.

В і т а л і н а. Трэба задавальняцца малым і быць шчаслівым. Гэта ж твае словы.

С т а с. Гэта адзін манах сказаў.

Е л і с е й. Калі ты патрэбен хоць аднаму чалавеку, можаш лічыць сябе шчаслівым. Мы вам непатрэбныя.

Д ж о н. Колькі мой пляменнік вінаваты табе за арэнду?

В і т а л і н а. Вось ужо гэтыя амерыканцы… Адразу пра грошы. Ты б хоць узгадаў, як мы з табой на дыскатэцы танцавалі… Хоць памятаеш пад якую песню?

Д ж о н. Не памятаю.

В і т а л і н а. Ліка, уключы.

Л і к а ўключае свой тэлефон. Гучыць песня «Эти глаза напротив».

В і т а л і н а. Патанцуем на развітанне?

Д ж о н. Не рві душу. Не да танцаў.

С т а с. Дзядзька вырашыў не вяртацца ў Штаты. Ён пажыве пакуль у суседняй вёсцы.

В і т а л і н а. Як у ваду глядзела. Вось што, дырыжор фірмы, я падумала і вырашыла — дарую табе доўг за арэнду дачы.

Паўза.

Е л і с е й. Вельмі высакародна. Няма такога чалавека, якому не патрэбная б была дапамога іншых людзей.

Уваходзіць Ц е л а а х о ў н і к і моўчкі назірае за тым, што адбываецца.

В і т а л і н а. Скажу больш — развівайце свой бізнес. У нас не хапае прадпрымальнікаў. Зваротнага шляху няма. Свае павінны быць. Інакш зробімся рабамі чужых інтарэсаў.

С т а с. Не зразумеў?

Е л і с е й. Як гэта?

В і т а л і н а. Я даю вам карт-бланш. Працягвайце сваю справу ў маім офісе ў горадзе. Трэба інвесціраваць чалавечы патэнцыял, як вучаць амерыканскія і японскія алігархі.

З о я. Ура!

Е л і с е й. Пашанцавала табе, Стас.

В і т а л і н а. А табе, Іван Казіміравіч, прапаную месца кухара ў маёй кавярні. Не забыў яшчэ барбекю…

Д ж о н. Не забыў. Я падумаю.

З о я. Што тут думаць?! Згаджайцеся!

В і т а л і н а. Куды гэта ты з чамаданам?

Д ж о н. Гэта… У хімчыстку.

В і т а л і н а. Акуратных я паважаю. Так што, Стас, бярыся за справу. Не чую слоў ухвалы і згоды.

Ц е л а а х о ў н і к. Позна іх ужо гаварыць.

З о я. Што вы хочаце гэтым сказаць?

Ц е л а а х о ў н і к. Я прынёс Стасу Дударчыку позву ў армію. *(Паўза.)* Я сам служыў у паветрана-дэсантным войску — гэта незабыўны час.

Е л і с е й. Гэта калі ляціш з парашутам і аўтаматам на грудзях і войкаеш са страху?

С т а с. Я ж прасіў не падпісваць! Не браць позвы! Халера на тваю галаву, што ты нарабіў?!

Д ж о н. Вечна ўхіляцца немагчыма.

С т а с. Прыдумаў бы хваробу якую, адкупіўся б, даў бы на лапу ваенкаму. Я ведаю, бяруць.

Ц е л а а х о ў н і к. Трэба, Бураціна, паслужыць.

Нечакана зазванілі званы ў царкве.

В і т а л і н а. Што гэта?

Л і к а. Звоняць у царкве, мама.

В і т а л і н а. Да Раства яшчэ далёка.

Ц е л а а х о ў н і к. Сам Бог, Стас, радуецца твайму жаданню… Сёння дзень Прарока Іллі. Ён апякун ПДВ. Прасі, каб накіравалі ў ПДВ. Радзіма чакае…

С т а с. Ды пайшоў ты…

Е л і с е й. Я служыў, не так ужо і страшна. Не бядуй.

Д ж о н. Хо… У нас у танкавых памятаю… Сябры, загартоўка, інтарэс, гумар.

С т а с. Як бы гэта адкласці?

Ц е л а а х о ў н і к. Немагчыма. Каля дачы стаіць міліцэйская машына — па цябе.

С т а с. Здраднік! Усё скончана…

В і т а л і н а. Не перажывай так, дальбог.

С т а с бярэ цагліну.

Ц е л а а х о ў н і к *(адбірае цагліну ў Стаса).* Чаму не вынеслі пабочны прадмет?

З о я. Цяжка.

Ц е л а а х о ў н і к. Што тут цяжкага? *(Разбівае цагліну напалам аб сваю галаву і працягвае Зоі.)* Вазьмі і вынесі.

Е л і с е й. Сапраўды, трэба ісці ў ПДВ.

Л і к а. Які мача! У мяне няма слоў!

Е л і с е й. Я табе буду пісаць лісты.

С т а с. Ды ладна…

З о я *(да Стаса).* Я цябе буду чакаць.

С т а с. Дачакаешся?

З о я. Абавязкова. Таму што кахаю.

С т а с. Абяцаеш?

З о я. Абяцаю.

С т а с. Елісей, шампанскае засталося?

Е л і с е й. А як жа, таварыш лейтэнант!

С т а с. Цягні!

Д ж о н. Вось і добра! З Богам!

Усе стаяць на месцах. Гучыць песня В. Салаўёва-Сядога «Путь далек у нас с тобою». Музыка чуваць здаля, але паступова робіцца ўсё гучнейшай.

***Заслона.***



**Таццяна СІВЕЦ**

# БАКУ

*Паэма*

**1**

Баі ў маім сэрцы ідуць з пераменным поспехам:
нехта паранены, нехта прапаў без вестак…
Ды калі асабліва кепска,
я згадваю штосьці добрае, штось дзівоснае:
усмешку хросніка,
над Ракавам ветру спевы…
Вось і
сёння згадалася,
як увосень
я блукала па горадзе,
што пад вечар колеру вохры,
дзе
не паспееш вохнуць,
як становішся часткай яго,
апошняй, любімай жонкай,
і ты ўжо
не ты,
не госць,
не люстра вечна скажонае…

---

*__Сівец Таццяна Мікалаеўна__ нарадзілася 23 чэрвеня 1982 года ў Мінску. Скончыла факультэт беларускай філалогіі і культуры Беларускага дзяржаўнага педагагічнага ўніверсітэта імя Максіма Танка (2005), аспірантуру пры Інстытуце літаратуры імя Янкі Купалы НАН Беларусі (2008). Працавала на радыёстанцыі «Беларусь», галоўным рэдактарам часопіса «Маладосць», галоўным рэдактарам штотыднёвіка «Літаратура і мастацтва». Зараз — першы намеснік галоўнага рэдактара газеты «Медыцынскі веснік», вядучая праграмы «Дыя@блог. Пра літаратуру» на тэлеканале «Беларусь 3». Паэт, драматург, перакладчык.*

*Аўтар кніг «Праляцець па вясёлцы» (2002), «Ліпеньская навальніца» (2003), «Таму, хто знойдзе» (2009), «Брык і Шуся шукаюць лета» (2012), «Куды прапала малпа Маня?» (2013), «Самы лепшы падарунак» (2014).*

*Пераможца рэспубліканскага літаратурнага конкурсу «Лепшы твор 2013 года».*

Так, каменьчык
у боце Божым, а
як ён церпіць цябе
і колькі яшчэ —
хто ведае!
Прахожыя
глядзяць лагодна, без
падазрэння, што ты, беспрытульніца бедная,
скрадзеш у іх гэта мора
і дзень іх ветраны…
А ты ж менавіта для гэтага і прыехала!..

**2**

Хвала ўсім багам,
што лётаюць над зямлёю гэтай, —
асобна тым, што ўначы прыбываюць з Мінска!
Я не маю прапіскі,
ды ўсё-ткі мяне прымаюць:
мясцовыя крамы, куды, нібыта ў вароты раю,
трапляюць,
але не раю хадзіць там са спісам,
складзеным дома — ага! —
з таго анічога добрага…

Я гандляра прасіла
прадаць мне кветкі,
ускласці каб да магілы
Паэта вядомага,
а ён падарыў іх!
Як жа цяпер прынесці
іх іншаму?
У гатэль аднясу, вядома…
Потым іду на могілкі.

Тут, нібы ў шматкватэрным доме,
дзе ўсе сябры,
здаецца,
побач стаіць і зараз абдыме,
паляпае па плячы,
скажа: «Салам, маё сэрца!
Хадзі хутчэй — будзем гаварыць мы,
піць віно…»
І няма прычын,
каб яму адмовіць…

Мова?
Мову тут вучыш лёгка —
галоўныя словы на «эс»:
прывітанне, дзякую і кахаю…
А ўсе астатнія пазна*е*ш
па смаку, водару, плёскату,
позірку і дыханні…
Паэт?
Не,
не пакрыўдзіўся на мяне!..

## 3

На горад гляджу я з вежы, якая
разоў у трыццаць
старэйшая, але ўсё-ткі —
яшчэ дзяўчына,
да гэтага ж — адзінокая!
А вецер шэпча на вуха: «Скачы,
далоні мае чакаюць,
злаўлю цябе — сто адсоткаў!»
Не веру яму, не слухаю — мужчыны
паўсюль аднолькавыя!..

Аднолькавыя,
нібы чайкі над морам…
Мора аблокі гойдае,
набрынялыя сонцам,
быццам гранатавым сокам…
А я, змораная,
галодная,
шукаю адчайна —
нават не шчасця! —
а вось ЯГО… Ды
тут няма ніводнага
ПЕРАХОДУ
цераз дарогу,
апроч вясёлкі!..

Вясёлка мусіць
паказваць месца,
дзе пахаваны
святы апостал Варфаламею:
і мне здаецца, што не за веру,
а за каханне
да чарнавокай

ён быў забіты, той хлопец смелы,
чыясьці згуба, чыясь спакуса…

Я еду ў Кубу…
Не там, дзе скачуць і лёс каштуе
не больш за долар,
ці трыццаць песа…
Не, гэта доўга:
амаль гадзіна, калі дарогай, што
па міжгор'і,
дзе бог мясцовы заснуў калісьці,
бяжыць нястрымна, спявае песні…
Я еду ў Кубу…

**4**

Нібыта ў калодзеж падаю…
Падаю,
падаю,
падаю…
Толькі ўнізе не зоры,
а чарапы…
Сляпыя вядуць сляпых,
і пад іх уладаю
памяць ад болю курчыцца
і хрыпіць…

Мармур,
жалеза,
слова —
што даўжэй пратрымаецца?
Жалеза іржой расцярушыцца,
мармур засыпле снег…
Слова з зямлі ўзнімаецца,
слова зямлю ўзварушвае,
слова, бы кветка вырасце
па вясне.

Але тут — цішыня,
загорнутая ў цішыню…
І не тое што слова —
гуку ў горле не пракаўтнуць.
Нібы жывую паклалі мяне ў труну.
Але не гэта палохае —
страшна, што не адну…
Так страшна апошнім разам было мне,

калі пабачыла я вайну,
што стаяла ў краіны маёй — у галовах.

Колькі па гэтых костках
пагойсалі?
Колькі часу скакалі — на чарапах?..
Колькі ў нас стадыёнаў яшчэ на могілках,
колькі гатэляў на месцах, дзе боль і страх!
Госпадзі!
Ну, чаму ты так?..

«Ойча наш…» Я шапчу, бо ўсе словы іншыя
кінулі мяне,
пэўна што назаўжды…
Бы скрозь дым,
я хачу адшукаць сляды
да хацін пад вішнямі,
дзе ўсе жывыя яшчэ,
жывыя,
жывыя,
жывыя…
Забярыце мяне туды!..

Божа, болей няма каму,
але ты працягні руку!
Выведзі мяне з гэтага болю —
сцежкаю палявой,
бо я ўжо не памятаю,
як гэта — быць жывой…
Я засталася там —
з праламанаю галавой…

Я вяртаюся — у Баку…

**5**

Спявае дарога поначы —
той самаю калыханкай
тысячы год люляла святых і грэшнікаў,
тых, хто, сябе не помнячы,
гнаўся за марай, як за чужой каханкай…
А я падпяваю: «Рэчанька,
чаму ж ты не поўная…»
І чакаю…
З Мінска званка чакаю…

«Алілюя! То бок, алё!..»
«Так, я слухаю!»

«Так, нармальна... Не дорага…»
«Я…»
«Надвор’е? Не, не халоднае!..
Чуеш, я…»
«Так… Ведама… Добра… Я…»
«Да пабачэння…»
Такі вось паміжкраінавы дыялог —
не сказала галоўнага…

Калі б я засталася тут,
то варта было б набыць
мапу і кучу хустак,
каб загарнуцца — цалкам! —
і чытаць гэты горад,
вучыць яго —
па завулках,
па розных знаках —
бачыць яго, калі людна і калі пуста,
быць разам з ім,
пасля адысці ў нябыт,
гледзячы ў гэтае неба,
гледзячы ў гэтае мора…
Хусткі?
Ды каб ніхто не пытаўся:
«А вы адкуль? Ці адна тут?»

Я ніколі не буду адна,
калі я ў Баку…

### 6

Гэты горад — каўчэг,
ды квіткі на яго — не ўсім.
Са здымкаў глядзяць,
не зводзяць з мяне вачэй:
бацька,
брат,
муж,
сын…
Алеяй Шахідаў іду —
нібы праз расстрэльны строй:
кожны з іх — герой.
А
хто
я
тут?

Год нараджэння
у многіх ад смерці розніцца —
год на дваццаць.
Ды той студзень усіх параўняў,
усіх узняў да аблокаў.
Здацца?!
Схіліць галовы?!
Не!
Яны свой горад, краіну абараnялі —
без розніцы,
каму з іх за сорак,
каму і дваццаці не было…

Так, і
адно сэрца
можа закрыць паўсвета,
але сэрцы так лёгка
раструшчыць танкамі.
Той, хто страляе па дзецях,
меціць
па Памяці.
Той, хто жанчыну забіў,
забіў
Маці.

Год 1990-ы —
час пераменаў,
час, калі ў маёй школе раптоўна
зніклі партрэты Леніна.
Баку,
у цябе тады былі іншыя ўрокі,
і ты помніш
тых,
хто хацеў паставіць цябе на калені,
так?..

**7**

Я еду ў машыне з Паэтам, якому пакуль яшчэ тут
не паставілі помніка,
ды (па колькасці помнікаў творцам мяркуючы)
ўсё наперадзе!
«З раёна, куды прыходзяць Паэты, —
ён кажа, —
сыходзяць усе сапернікі:
бандыты, прапойцы ды іншыя бессаромнікі…

Прычым, бандыты сыходзяць першымі!»
Ну, шанцуе сягодня!
Не там павярнулі, свісток, спыняе паліцыя —
гляджу з трывогай, чакаю
вымовы, штрафу — ды
чаго заўгодна…
Паэт усміхаецца —
і (вось жа цуд!) паліцэйскі яго пазна*е*,
пра новыя кнігі пытаецца,
добрай дарогі зычыць —
і адпускае…
Хто б не хацеў мець падобны допіс у біяграфіі?..

Тры гадзіны да самалёта —
ну, як мне ўсё-ткі
выпіць увесь гэты горад
да рэшняй кроплі?
Ля гатэля купляю на вуліцы шклянку соку…
«Так, гранатавага.
Два манаты?
Дзякуй! Толькі не дадавайце яблыкаў!..
І так салодка…»

## ЭПІЛОГ

Мне трэба казаць «пакуль»
бакінскаму ветру.
Мне трэба ляцець дадому…
Манеты няма —
дык я кідаю ў мора
сэрца. Чуеце плёскат?
Bakı, geri olacaq!
Я вярнуся ў Баку, вядома!
Як рыбіна ў сетцы,
адчуваю, што не хапае паветра —
у самалёце.

І гэтая лёска цягнецца —
кіламетры.
І, можа, аднойчы станецца
маім лёсам.
Іншым той горад, канечне,
іначай мерыць.
Але я ўспамінаю Баку,
калі згадваю штосьці добрае, штось дзівоснае,
разумееш?..



Іван САВЕРЧАНКА

# СКАРБ КРЫВІЧОЎ

*Легенда*

## 1

Незвычайны страх запанаваў сярод крывічоў. У людзей ажно кроў стыла ў жылах. Магічная зброя — лук са стралой і блішчасты кароткі меч, якія дасталіся племю ў спадчыну ад далёкіх прашчураў, людзей-волатаў — раптоўна страцілі сваю моц. Усе жылі прадчуваннем немінучай бяды. Старэйшыны ў адзін голас вінавацілі Ваўка — валадара крывічоў. Ён здзейсніў смяротны грэх, — у гневе забіў нявіннага земляроба, які ў нейкай дробязі запярэчыў яму, і таму, як тлумачылі жрацы, назаўсёды пазбавіўся падтрымкі багоў.

У адчаі і паніцы, некалі магутны і непераможны Воўк, насіўся на ўзмыленых скакунах ад паселішча да паселішча, раіўся з найбольш абазнанымі вешчунамі, шукаў выйсця. Яго прыгняталі цяжкія думкі: «Народ загіне, ворагі завалодаюць усімі багаццямі, спапяляць зямлю, расцярушаць людзей, а яго самога разарвуць на кавалкі і кінуць дзікім звярам».

Цела Ваўка напялася, мускулы здранцвелі, нібы скамянелі. Сон не ішоў да яго. Вочы наліліся чырванню, сталі злымі.

Канчаткова змораны і знясілены, ён спыніўся ля разгалістага дуба над Палатой. У засені магутнага дрэва, здаецца, на хвіліну звёў вочы, задрамаў. Яму прысніўся сон, які, на шчасце ўсёй крывіцкай зямлі, стаўся прарочым. Воўк выразна ўбачыў: «...паўз лес бяжыць малады і дужы лось. Зямля дрыжыць пад яго капытамі. Рогі ў лася — залатыя, а ў іх адсвечваецца Сонца. Раптам лось паварочваецца і ляціць наўпрост да Ваўка. Той, нібыта, і рады, але не ведае, што рабіць, як рэагаваць. Спрабуе агледзецца, аднак не можа павярнуць галавы».

---

***Саверчанка Іван Васільевіч*** *нарадзіўся 2 красавіка 1962 года ў вёсцы Малінаўка Касцюковіцкага раёна Магілёўскай вобласці. Скончыў Магілёўскі педагагічны інстытут імя А. Куляшова (1983). Доктар філалагічных навук, прафесар.*

*Аўтар дзевяці манаграфій, падрыхтаваў сем кніг пісьмовай і літаратурнай спадчыны Беларусі X — пачатку XX стст. з грунтоўнымі навуковымі каментарыямі і ўступнымі артыкуламі. Спецыяліст у галіне медыявістыкі, гісторыі і тэорыі літаратуры, кампаратывістыкі. Мае працы па філасофіі, гісторыі і міжнародных адносінах. Працуе ў цэнтры даследаванняў беларускай культуры, мовы і літаратуры НАН Беларусі.*

Праз сілу Воўк прачнуўся. Адразу адчуў палёгку на сэрцы. Паклікаў вешчуна, расказаў свой сон.

Вяшчун патлумачыў:

— Малады лось з залатымі рагамі — гэта малады князь, наш новы валадар. Трэба пасылаць за Варажскае мора. Там, у магутнага князя люцічаў — Любаміра, ёсць малодшы сын — Рагвалод. Твой сон выразна сведчыць: малады княжыч абраны багамі, каб валадарыць у нас. Такая воля нябёсаў! Яе не абмінеш, інакш кара спасцігне нашу зямлю!

Неўзабаве пасольства ад крывічоў выправілася ў няблізкі шлях.

## 2

Ішоў 945 год ад нараджэння Хрыстова.

Магутная Дзвіна ўпэўнена патрушчыла лядовы панцыр, які скоўваў яе цягам доўгай зімы, пазбавілася ад халодных крыг. Усю вясновую каламуць і сцёкі з прыдзвінскіх абшараў імкліва праглынула салёнае Варажскае мора. У прыродзе пачалося абнаўленне. Настаў спрыяльны момант, каб увасабляць у жыццё смелыя задумы.

Рагвалод, якому ўзімку споўнілася дваццаць год, прыняў канчатковае рашэнне — сёлета ўвесну пакінуць абветраныя берагі Варажскага мора і перабрацца на сталае жыццё ў лясістую Крывіцкую зямлю.

У Полацку яго з нецярпеннем чакалі.

Дасведчаныя і добра спрактыкаваныя мараходы старанна падрыхтавалі тры правераныя салёным морам ладдзі, надзейна ўпакавалі ўсе рэчы, неабходныя для доўгага плавання. Шлях ім быў, канечне, знаёмы, але зусім не блізкі і даволі цяжкі.

Рагвалод з вернымі і надзейнымі сябрамі, а таксама прыслугай, накіраваўся ўздоўж марскога ўзбярэжжа да вусця Дзвіны. Плылі з добрым настроем. Спадарожны вецер дапамагаў весលярам.

Княжыч углядаўся ў марскую далеч, пазіраў на маўклівы бераг, у думках развітваўся са знаёмымі з дзяцінства мясцінамі. Прыблізна сто гадоў таму гэтым жа шляхам плыў Рурык-вараг, гэтаксама запрошаны ўсходнімі славянамі на княжанне. Рагвалод ведаў, што Рурык доўгі час валадарыў у Ноўгарадзе, стварыў там магутную дзяржаву.

Сэрца Рагвалода крыху маркоцілася, але ў цэлым ён пачуваўся задаволеным — наперадзе самастойнае жыццё, напоўненае вялікімі справамі і прыгодамі.

Яшчэ летась да яго бацькі прыязджалі паслы ад крывічоў. Гаваркія госці, як і належыць, прывезлі каштоўныя падарункі — мячы і лукі, мяккія вырабы з футра, упрыгожанні і добры пачастунак. Князь прымаў падарункі, радаваўся, бо прадчуваў, — яны прыйшлі з добрымі навінамі.

Падчас раскошнай вячэры паслы-крывічы перашэптваліся з князем Любамірам. У знак згоды ён паківаў галавой. Як высветлілася пазней, яны прасілі накіраваць княжыць да іх яго малодшага сына — Рагвалода. Князь не запярэчыў. Наадварот, быў вельмі ўсцешаны, што яго род пашырыць уладанні, а ён праз гэта стане яшчэ мацнейшым.

Рагвалод таксама быў задаволены: нарэшце ён выйдзе з-пад строгага бацькоўскага нагляду. Хацелася жыць уласным розумам. Аб свабодзе Рагвалод ужо марыў шмат гадоў, даўно лічыў сябе дарослым. Да таго ж, ён меў

практычны досвед у розных рамёствах, быў першым падчас паляванняў на дзікіх звяроў.

Сапраўды, да таго часу Рагвалод атрымаў належную вайсковую загартоўку. Шмат разоў яго меч трушчыў галовы вардулакаў-германцаў пры сутычках з імі. Даволі рана ён зведаў асалоду перамогі над ворагамі.

Без асаблівых прыгод мараходы дабраліся да вусця Дзвіны, а затым уверх па цячэнні накіраваліся ў зямлю крывічоў. Клопатаў з харчаваннем не мелі. Накопчаных мясных вырабаў хапала. Адпачывалі і частаваліся часцей за ўсё на ладдзях.

Зрэдчас выходзілі на бераг, распальвалі вогнішча, варылі і смажылі рыбу. Дзвіна, асабліва надвячоркам, ажно кіпела ад розных яе відаў. Разгортвалі сетку-брэдзень, працягвалі раз-другі ўздоўж берага, і ўлову — хоць адбаўляй! Карма аж кішэла ад рачной жыўнасці — шчупакі, акуні, ліні, плоткі, доўгія мяні. Смачней і наедней нічога не прыдумаеш!

Стараліся, аднак, не вельмі часта спыняцца. І не таму, што нечага асцерагаліся ці баяліся. Ашчаджалі час, спяшаліся ў Полацк.

Плылі доўга, часцей трымаліся берага. Бліжэй да берагоў цячэнне здавалася не такім моцным як на сярэдзіне ракі.

Рагвалод углядаўся ў дзівосныя прыбярэжныя краявіды, марыў пра хуткую сустрэчу са Звеніславай, — дачкой старэйшыны Ваўка. Яе дзівосную прыгажосць летась на ўсе лады расхвальвалі прыезджыя крывіцкія паслы.

Сэрца княжыча, аднак, вярэдзілі трывожныя думкі: «Ці не стане гэты дынастычны шлюб цяжкім ярмом для яго? А можа, гэтая хвалёная Звеніслава раструшчыць яго сэрца, зробіць рабом, прынізіць? Дзе і якое выйсце тады шукаць? Але нічога ўжо не зменіш. Так распарадзіўся Кон. Ды і рашэнне прынята канчаткова».

Рагвалод супакойваў сябе, верыў у лепшае.

## 3

Напярэдадні прыезду Рагвалода ў Полацк на падаконнік да Звеніславы прыляцелі сінічкі. Яны радасна ціўкалі, махалі крыльцамі, пераскоквалі з месца на месца. Звеніслава ўбачыла ў гэтым добры знак. «Значыць, усё ідзе да лепшага, багі не супраць майго шчасця», — падумала дзяўчына. Яе сэрца суцішылася, трывожныя думкі адляцелі прэч.

Ладдзі з гасцямі прычалілі да берага бліжэй да поўдня. Прамяні вясновага сонца саграналі зямлю, усё навокал зелянела. Рагвалод саскочыў з ладдзі, агледзеўся, паправіў адзенне. Ён быў сярэдняга росту, але крэпкага целаскладу, з правільнымі рысамі твару і светлымі валасамі. Апрануты ў кароткую туніку з вышытай каймой. Падпяразаны скураным поясам з бронзавай чаканай бляхай. Зверху на плечы накінуты паўкруглы плашч. На нагах — мяккія саф’янавыя боты.

Гасцей сустракала шмат палачан. Усе хацелі бачыць князя. Мужчыны, жанчыны і падлеткі стаялі на валу, іншыя — наўпрост на беразе. Галовы дзяўчат упрыгожвалі прывабныя вянкі, зграбна сплеценыя з яркіх лугавых і лясных красак.

Паводле звычаю, прыгожа апранутая маладая дзяўчына паднесла Рагвалоду каравай. Воўк стаяў наперадзе натоўпу. Ён ступіў насустрач і моцна сціснуў у абдымках Рагвалода, як меркавалася — будучага зяця і новага валадара Полацкай зямлі.

*Адчуванне кроўнай еднасці людзей, незалежна ад іх нацыянальнасці і веравызнання, бясконцасць руху часу і жыццёвых падзей, адказнасць кожнага чалавека перад будучыняй і самім сабой — важныя тэмы першых твораў народнага пісьменніка Туркменістана Атамурада Атабаева, якія не страчваюць актуальнасці і ў яго далейшым творчым развіцці і станаўленні. Прычым паэт займае актыўную пазіцыю па пытаннях культурнага абмену і ўзаемадзеяння Туркменістана з краінамі свету. У інтэрв'ю, прысвечаным 20-годдзю ўтварэння Садружнасці Незалежных Дзяржаў, ён выказаўся наступным чынам: «Я думаю, што развіццё культурнага супрацоўніцтва паміж краінамі СНД — гэта жыццёва неабходная патрэба. Мы былі разам больш за сто гадоў, і проста так узяць і забыцца на гэтую векавую дружбу мы не можам». А жыццёва неабходныя патрэбы, як вядома, нельга не задавальняць. Мастацкі пераклад — яскравы прыклад плённага дыялогу паміж культурамі, што дазваляе адкрыць для сябе таямніцы душы, асаблівасці менталітэту і нацыянальнага характару жыхароў далёкай тэрытарыяльна і блізкай па духу краіны. Прапануем чытачам новыя пераклады на беларускую мову вершаў трох розных, па-свойму самабытных туркменскіх паэтаў.*

***Юлія АЛЕЙЧАНКА***

## Керым КУРБАНЯПЕСАЎ

* * *

Не для сябе гадуе каласы
Зямля, а сонца з неба шле праменне.
І хмара сыпле дождж ва ўсе часы
Не для свайго над светам узвышэння.
Хто вільгаць даць,
Хто здатны даць цяплынь.
Адным — квітнець, другім — шумець вадою.
А трэцім так успарыць далячынь,
Каб зноў плылі хмурыны чарадою.
Звінець дажджу. На схілах знікне лёд.
Унізе плынь палі вясной разбудзіць…
І так
Жыцця імкнецца
Вечны ход,
Краса
Красе
Даруе сілы,
Людзі!

***Пераклад Міколы МЯТЛІЦКАГА.***

## Агагельды АЛАНАЗАРАЎ

* * *

Зноў жарсць выходзіць з берагоў,
Хоць ў мора пасмачкі сівыя.
Скідае цэпы кайданоў
І будзіць сілы хваль жывыя.

Бы пёркі, кружыць караблі,
Бурліць, віруе ў страшным танцы.
Тады ў ім злосць не распалі,
Пад рукі лепей не трапляйся.

Усім здаецца: нораў той
Змірыць не варта намагацца.
Ды ўжо шыбуе ў ноч прыбой,
Як селянін з нялёгкай працы…

***Пераклад Юліі АЛЕЙЧАНКІ.***

## Атамурад АТАБАЕЎ

* * *

Па вечарах ля камянёў грады
Рака цякла спакойна і без руху.
Дзяўчына там сядзела бліз вады
І назірала за сваім люстрункам.

Паднялася, як лёгкі цень надзеі.
Аблокамі сышло з яе адзенне.
Ступіла, гледзячы ў ваду адно,
І тая злёгку ўздрыгнула ад ног.

Забылася рака пра звыклы шлях,
Вада ўздымалася насустрач крута,
Але застыла раптам на грудзях —
Далей не рушыла сваім маршрутам.

А сонца з-за каменнае грады
Лавіла мімалётнае імгненне,
На люстра пазіраючы вады
І азараючы прастору ценяў.

***Пераклад Яны ЯВІЧ.***



Алесь КАРЛЮКЕВІЧ

# ПА ЗАКОНАХ МЕНТАЛІТЭТУ ДРУЖБЫ

Шмат гадоў, дзесяцігоддзяў і нават ужо стагоддзяў злучаны паміж сабою дзве культуры, дзве літаратуры — беларуская і туркменская. Здавалася б, адлегласць паміж Беларуссю і Туркменістанам немалая — тысячы кіламетраў, мовы настолькі далёкія адна ад адной, што і вузельчыкаў ніякіх агульных няма зусім, але вось цягне лес да гор, азёры да пустыні, пяску. Цягнуцца адзін да аднаго розныя менталітэты, розныя па рэлігіі людзі цягнуцца адзін да аднаго. І шмат якія факты — яркае таму пацвярджэнне. Узгадаем хаця б некаторыя з іх…

Давайце спярша зазірнём у сярэдзіну XIX стагоддзя. Ураджэнец сучаснага Мядзельскага раёна на Міншчыне Аляксандр Ходзька, падарожнік па Туркменістане, запісаў паэтычныя тэксты туркменскага паэта Махтумкулі і надрукаваў іх у Англіі.

Гэта падзея стала пачаткам еўрапейскай славы класіка туркменскай літаратуры. Ураджэнец мядзельскіх Крывічоў расійскі дыпламат Аляксандр Ходзька таксама запісвае і туркменскі эпас «Кёр-аглы», вершы Кемінэ. Затым публікуе ў сваіх перакладах на англійскай мове. Праца нашага суайчынніка адкрывае Еўропе туркменскі фальклор, імёны невядомых дагэтуль пісьменнікаў, знаёміць з багатым на гісторыю народам. Паводле перакладу Ходзькі рыхтуюцца нямецкае, рускае і французскае выданні «Кёр-аглы». Перакладчыцай на французскую мову выступае Жорж Санд. Вось які цікавы ланцужок цягнецца: туркмен Махтумкулі — беларус Аляксандр Ходзька — французжанка Жорж Санд...

У XX ст. да перакладаў Махтумкулі на беларускую мову звярталіся народны паэт Беларусі Максім Танк, Алесь Звонак, Уладзімір Караткевіч і іншыя вядомыя беларускія літаратары. У Мінску пабачыла свет асобная кніга паэзіі Махтумкулі «Салавей шукае ружу». Верш «Лёс туркмена» ў перакладзе У. Караткевіча на беларускую мову апублікаваны і ў кнізе аднаго верша Махтумкулі на мовах народаў свету, выдадзенай у Ашхабадзе. Вартая ўвагі мініяцюрная кніга ў пачатку 1990-х гг. аўтарам гэтых радкоў была перададзена ў Нацыянальны навукова-асветніцкі цэнтр імя Ф. Скарыны. А зусім нядаўна вялікі том твораў Махтумкулі выйшаў у Мінску да юбілею класіка туркменскай паэзіі. Перакладчык — выдатны беларускі паэт Казімір Камейша. Вялікую арганізатарскую працу па рэалізацыі ў Мінску гэтага праекта правёў паэт і перакладчык Ганад Чарказян. Пра гэта шмат пісалі ў беларускай літаратурна-мастацкай перыёдыцы.

Пачатак знаёмству чытачоў Туркменістана з творчасцю беларускіх пісьменнікаў пакладзены публікацыяй апавядання Якуба Коласа на рускай мове ў газеце Закаспійскай вобласці «Асхабад». Першыя кнігі народных песняроў Беларусі Купалы і Коласа пабачылі свет на туркменскай мове ў 1941 годзе. Перакладчык — А. Ніязаў. Шырока былі адзначаны стагадовыя юбілеі Якуба Коласа і Янкі Купалы ў Туркменістане ў 1982 годзе. З'явіўся цэлы шэраг новых перакладаў, былі апублікаваныя артыкулы пра класікаў беларускай літаратуры ў газетах і часопісах «Совет эдебияты», «Совет Туркменистаны», «Эдебият ве сунгат».

Вялікую працу па прапагандзе творчасці Я. Купалы вёў вядомы туркменскі публіцыст, літаратурны крытык Какалы Бярдыеў, які ўзначальваў у 1980-я гг. рэдакцыю газеты «Эдебият ве сунгат». Невыпадкова К. Бярдыеву прысвечаны асобны артыкул у беларускай энцыклапедыі «Янка Купала». Памятаю, з якім душэўным узрушэннем, з якім сардэчным хваляваннем трымаў у руках таўшчэзны зялёны том з артыкулам пра яго Какалы Бярдыеў. Урачыстасць моманту надаваў і той факт, што кнігу ў Ашхабад даслаў сам Максім Танк.

Пачатак сувязям Беларусі і Туркменістана ў галіне выяўленчага мастацтва паклаў прафесійны туркменскі мастак Назар Іамудскі — сын поўнага Георгіеўскага кавалера, камандзіра ўланскага палка, героя руска-турэцкай вайны, удзельніка штурму Шыпкі Анамухамеда Іамудскага. Разам з працамі Н. Іамудскага «Будаўніцтва закаспійскай чыгункі», «У гарах Капетдага» ў гісторыі выяўленчага мастацтва засталіся карціны «Зіма ў Беларусі», «Белавежская пушча». Беларускі скульптар Віктар Папоў (1923, Мінск — 1981) з'яўляецца аўтарам помніка Махтумкулі ў Ашхабадзе (1970) і шэрагу іншых скульптурных работ у Туркменістане (Ашхабад, Небіт-Даг). Ашхабадскі і небітдагскі Ленін у скульптуры — працы беларуса Віктара Папова. У Беларусі ваяваў (пад Віцебскам) народны мастак СССР і Туркменістана, Герой Сацыялістычнай Працы Ізат Клычаў.

Асобны радок у гісторыі беларуска-туркменскіх сувязей — навуковы лёс А. П. Пацалуеўскага. На жаль, няма імя Аляксандра Пятровіча Пацалуеўскага ў «Беларускай Энцыклапедыі». Зрэшты, энцыклапедысты могуць і паспрачацца. Пацалуеўскі хоць і нарадзіўся ў Віцебскай губерні, усё роўна, маўляў, «не наш». Радзіма вучонага, мовазнаўца, літаратара, фальклярыста — «село Букмуйжа б. Режицкого павета б. Витебской губ. (ныне находится в пределах Латвийской ССР)» (цытую па аўтабіяграфіі прафесара, атрыманай ад яго сына Яўгена Аляксандравіча літаральна некалькі гадоў таму). Нельга не дадаць, што нарадзіўся «...в семье учителя. По национальности — белорус». У прынцыпе спрачацца — справа ў дадзеным выпадку нязначная і нават зусім непатрэбная. З часам у энцыклапедыях месца Пацалуеўскаму знойдзецца, і кнігу пра яго, бясспрэчна, нават у Беларусі напішуць. Жыццё Аляксандра Пятровіча, на першы погляд пазбаўленае якіх-небудзь мудрагелістых сюжэтаў, таго вартае.

У чым жа місіянерства Аляксандра Пацалуеўскага? Прыезду ў Ашхабад (тады, дарэчы, сталіца закаспійская краю называлася Палтарацк) папярэднічалі віцебскія гады хлопца з латышскай Букмуйжы. Якія б матэрыяльныя цяжкасці ні стрымлівалі вясковага настаўніка, бацька адпраўляе хлапчука ў Віцебскую класічную гімназію. У 1914 г. — новая адукацыйная прыступка: Аляксандр паступае ў маскоўскі Лазараўскі інстытут усходніх моў. Цытую аўтабіяграфію вучонага: «Во время пребывания в Лазаревском институте параллельно занимался французским языком на курсах при обществе «Альянс Франсэз» и английским на курсах «общества сближения России с Англией». Основная специальность — «лингвист-тюрколог». Што ні кажы, старыя (разумець варта: сапраўдныя) інтэлігенты... Расшыфраваць на прадмет ведання ўсходніх моў самахарактарыстыку «лингвист-тюрколог» дапамагаюць ужо старонкі навуковай біяграфіі: з інстытута выпускнік выходзіць, «получив солидную подготовку по турецкому, персидскому и арабскому языкам». Забягаючы наперад, зазірнём у лісток па ўліку кадраў, запоўнены Пацалуеўскім у сталыя гады. З адказу на пытанне, якімі замежнымі і народаў СССР мовамі валодаеце: «…только читаю без словаря и со словарем — немецкий, итальянский, польский, латинский, арабский, анатолийско-турецкий и некоторые другие; белорусский, латышский, азербайджанский, крымско-татарский, узбекский, таджикский и нек. др.; хорошо — французский, английский, персидский (фарси), русский, туркменский».

Са снежня 1918 года па чэрвень 1922 г. Аляксандр Пятровіч выкладае англійскую і французскую мовы ў Віцебскім аддзяленні Маскоўскага археалагічнага інстытута. Затым яшчэ год працуе лектарам і выкладчыкам на курсах Віцебскага губернскага аддзела народнай адукацыі. Але Усход, мовы вялікіх персідскіх паэтаў... А яшчэ — блізкая памяць пра ўрокі, якія далі навукоўцы, настаўнікі Лазараўскага інстытута. Напэўна, і ў час вучобы Аляксандр ведаў, што да вывучэння туркменскай мовы былі зробленыя толькі першыя, далёка не дасканалыя падыходы. У 1921 г. Віцебскае аддзяленне маскоўскага інстытута адпраўляе Пацалуеўскаго ў камандзіроўку ў Ташкент. Аляксандр Пятровіч працуе лектарам персідскай мовы на Ваенных курсах усходазнаўства, знаёміцца з дзейнасцю Туркестанскага Усходняга інстытута. А на вуліцах Ташкента прагна ловіць гаворку мясцовых жыхароў, спрабуе размаўляць на узбекскай.

А ў кастрычніку 1923 г. — запрашэнне Службы асветы сярэднеазіяцкай чыгункі ў Ашхабад на пасаду інструктара-метадыста. Маладому чалавеку — 29 гадоў. Ён яшчэ не ведае, што жыць яму засталося ўсяго чвэрць стагоддзя. Але цвёрда ведае, што трэба рабіць. Выкладчыкаў замежных моў у тыя часы катастрафічна не хапае. Аляксандр Пятровіч выкладае англійскую, французскую, персідскую, а яшчэ і туркменскую, якую і сам яшчэ толькі пачынаў асвойваць, — у чыгуначнай школе 2-й ступені імя К. Д. Ушынскага, школе 2-й ступені імя М. А. Някрасава, школе імя А. В. Луначарскага, у персідскай школе. А таксама — на пяхотных камандзірскіх курсах і курсах камерцыйных ведаў. Здаецца, што Пацалуеўскі працуе па 24 гадзіны ў суткі. А ў яго ж, як і ва ўсіх, — сям’я. Ды дзяцей — чацвёра. З Віцебска прыязджае стары і хворы бацька. Але мовы — захапленне, спасціжэнне іх — галоўнае ў жыцці прызначэнне. І яшчэ такой цікавай, сакавітай уяўляецца няведаная раней туркменская... Праўда, амаль няма літаратуры па яе вывучэнні. На памяць прыходзіць Самайловіч, прафесар Лазараўскага інстытута. Яшчэ будучы студэнтам ён падрыхтаваў дыплом «Вопыт лінгвістычнага даследавання тэкінскай гаворкі туркменскага дыялекту», куды ўключыў і кароткі тэкінска-рускі слоўнік. Тады працу высока ацанілі, узнагародзілі маладога вучонага залатым медалём Санкт-Пецярбургскага ўніверсітэта. Але гэта быў 1903 год... Пазней Самайловіч, хоць і прымаў удзел у дыялекталагічных экспедыцыях у Туркменістан, але праблемамі туркменскай мовы блізка не займаўся... З інстытуцкіх часоў Аляксандр засвоіў шматлікія рысы свайго настаўніка. Пацалуеўскі ва ўсім спрабуе разабрацца сам. Ходзіць па рынках, ездзіць у далёкія і блізкія аулы, залучае ў экспедыцыі калег па Туркменкульце, куды яго запрашаюць працаваць. Запісвае вусную мову, адсочвае дыялекты, выбірае ў іх словы, тыповыя для некалькіх туркменскіх плямёнаў. З году ў год па два-тры месяцы праводзіць навуковец у самых глухіх раёнах Каракумаў. 1927 г. — экспедыцыя да ёмудаў і гакленаў. 1928 г. — да племя анаўлі. 1929 г. — да эрсарынцаў. 1930 г. — да салыраў і да сарыкаў. У снежні таго ж 1930-га — да племя нахурлі... Да нахурлі ў аул Нахур Пацалуеўскі яшчэ вярнуўся і падчас Вялікай Айчыннай... Маскоўскі журналіст Мікалай Галоўкін (па нараджэнні ашхабадзец), даведаўшыся пра маю цікавасць да Пацалуеўскага, падказаў: «Мая мама ўдзельнічала ў той экспедыцыі у Нахур...» Тэлефаную ў Ашхабад. Доктар філалагічных навук Яўгенія Мікалаеўна Яршова даўно ўжо на пенсіі, але ў слухаўцы голас — бадзёры, малады:

— Тады я была студэнткай педінстытута, дзе Аляксандр Пятровіч загадваў кафедрай туркменскай мовы і агульнага мовазнаўства. Што здзіўляла ў ім, дык гэта выключная працаздольнасць. Праўда, у маладыя гады мы да гэтага ставіліся неяк без належнага піетэту. Здавалася, што ўсё яшчэ наперадзе і часу, каб у навуцы горы перавярнуць, будзе ў нас дастаткова. А калі запісвалі дыялекты, фальклор у Нахуры, прафесар здзіўляў тым, што з дзехканамі размаўляў на роўных. Як быццам шмат гадоў пражыў у ауле менавіта сярод дзехканаў племя нахурлі...

Але вернемся ў 1920-я... Пацалуеўскі ўнікае ва ўсе пытанні развіцця ці хутчэй станаўлення туркменскай мовы. У жніўні 1926-га выступае ў газеце «Туркменская іскра» з артыкулам «Рэформа туркменскага алфавіта». Адна за другой выходзяць навуковыя і навукова-папулярныя артыкулы, кнігі навукоўца. Ужо ў 1929 г. выдаецца яго падручнік «Кіраўніцтва для вывучэння туркменскай мовы» (у якасці дадатку — «Кароткі туркменскі слоўнік»). Яшчэ праз некалькі гадоў самастойна рыхтуе «Праект рэформы арфаграфіі туркменскай літаратурнай мовы».

...Збіраючы па крупінках інфармацыю пра вучонага, я размаўляў, перапісваўся з самымі рознымі людзьмі. У Маскве імя Пацалуеўскага добра вядома ў Інстытуце мовазнаўства Расійскай Акадэміі навук, у Інстытуце краін Азіі і Афрыкі пры МДУ імя М. В. Ламаносава, у Інстытуце ўсходазнаўства... Пісаў я і ў Ашхабад, дзе і сам жыў, працаваў у другой палове 1980-х... Пісаў знаёмым літаратарам, навукоўцам, а ў душы дакараў сябе, што тады «прапусціў» Пацалуеўскага. Шукаў ашхабадскія сляды іншых землякоў... Але з усіх беларусаў фігура Пацалуеўскага для Туркменістана маштабу самага вялікага. І гібель яго ў землятрусе 1948 года — страта незаменная.

Тады, кастрычніцкай ноччу 1948-га, загінуў і асабісты архіў вучонага. За 25 гадоў напружанай працы па «туркменскім моўным будаўніцтве» Аляксандр Пятровіч паспеў выдаць амаль 20 кніг. Тым самым стварыў навуковы падмурак для пошукаў некалькіх пакаленняў цюрколагаў. У пачатку гэтага стагоддзя ў Ашхабадзе падсумавалі падзеі папярэдняга стагоддзя, назвалі імёны туркменістанцаў, чые прозвішчы варта ўпісаць у гісторыю залатымі літарамі. І Пацалуеўскі — у іх ліку.

— А што тычыцца архіва бацькі, — распавядае сын вучонага, — то застаецца толькі меркаваць, над якімі праблемамі ён працаваў у апошнія гады. Пэўныя арыенціры дае спіс навуковых прац, складзены бацькам ў 1948 г., дзе разам з іншымі значацца працы, падрыхтаваныя да друку, але пакінутыя не апублікаванымі. А гэта — 10 нарысаў, прысвечаных дыялекту плямёнаў, агульным аб'ёмам больш за 300 машынапісных старонак, прыблізна такая ж па аб'ёме праца «Марфалогія туркменскай мовы ў навуковым асвятленні (сінтаксічныя формы)». У спісе — «Зборнік жаночых песень» на 10 аўтарскіх лістоў, «Кіраўніцтва да вывучэння персідскай мовы», «Матэрыялы для складання руска-персідскага слоўніка». Каласальная праца!..

Пасля землятрусу 1948 г. Ашхабад аднавілі параўнальна хутка. Дапамога прыйшла і з Беларусі, хоць і на ўсім нашым краі ляжала яшчэ пячатка ваеннага ліхалецця... А вось зніклыя ў страшную кастрычніцкую ноч дыялектныя зборы Пацалуеўскага аднаўляць давялося дзесяцігоддзямі. Але час не стаіць на месцы — і навуковыя знаходкі нашага земляка, яго гіпотэзы і перакананні развіваюцца ў працах вучняў Аляксандра Пятровіча. Многія з іх на ніве туркменскага мовазнаўства сталі кандыдатамі і дактарамі навук. Такую вось школу на стагоддзі пабудаваў на радзіме Махтумкулі беларус Аляксандр Пацалуеўскі.

...У гады Вялікай Айчыннай вайны газета Заходняга, а затым 3-га Беларускага фронту «Чырвонаармейская праўда» (цяперашняя «Беларуская ваенная газета») выдавалася і на туркменскай мове. У Ашхабадзе ў другой палове 1980-х гг. аўтару гэтых радкоў давялося сустракацца з намеснікам галоўнага рэдактара «Гызыл эсгер хакыкаты» (так звалася «Чырвонаармейская праўда» на туркменскай мове) Анакулі Мамедкуліевым. І хоць па гістарычнай храналогіі лічыцца, што газета «Гызыл эсгер хакыкаты»; існавала з лістапада 1942 г. па ліпень 1945-га, хацелася б прывесці наступнае сведчанне старшага палітрука Анамурада Ананурава (упершыню апублікавана ў яго кнізе «З франтавых сшыткаў» — Ашхабад, 1972): «Гонар арганізацыі і выдання франтавой газеты выпаў на нашу долю. Першы нумар нашай газеты «Гызыл эсгер хакыкаты» выйшаў

31 студзеня 1943 г., а апошні — 25 мая 1944 года. Усяго за гэты час мы і выпусцілі каля 90 нумароў газеты і 30 улётак. Да канца кастрычніка 1943 года рэдакцыя газеты складалася з двух чалавек: з пачатку арганізацыі са мной працаваў старшы лейтэнант А. Мамедкуліеў... З першага лістапада 1943 года дадаўся яшчэ адзін работнік — старшы лейтэнант А. Д. Анабаеў. У сакавіку 1944 года прыйшлі яшчэ двое: старшы лейтэнант Т. Курбанаў і старшы сяржант С. Джумасахатаў. Акрамя Джумасахатава, які працаваў карэктарам, усе супрацоўнікі рэдакцыі мелі салідны вопыт газетнай працы».

Толькі ў адным нумары туркменскай газеты «Гызыл эсгер хакыкаты» (3-ці Беларускі фронт) гэтай тэме былі прысвечаны нататкі сяржанта А. Лыгаліна «Радыст Жарыкаў», карэспандэнцыя журналіста-казаха Г. Абішава пра салдата-туркмена «Аймамед Егенджэеў». Радавы Фядзінаў распавёў у газеце пра мужны подзвіг украінскага хлопца М. Амечанкі. У нумары былі апублікаваныя вершы туркменскага паэта Р. Сяідава «Ліст маці». Пяру капітана А. Ананурава належыць артыкул «Дружба народаў — аснова сілы і магутнасці СССР». Пад рубрыкай «Лісты на фронт» нацыянальныя ваенныя газеты друкавалі разнастайныя матэрыялы пра лепшых людзей дружнай сям'і народаў СССР, аб выкананні вытворчай праграмы, пра жыццё калгасаў, фабрык і заводаў, аб дасягненнях навукі і тэхнікі...»

На працу журналістаў рэдакцыі туркменскай «Чырвонаармейскай праўды» свой уплыў аказвала тое, што чытачы нацыянальнага выдання былі раскіданы па войсках, карпусах, дывізіях, палках на розных участках фронту. Гэтая акалічнасць ускладняла працу. Але ўсё ж такі журналісты-туркмены адшуквалі землякоў і пісалі пра іх. Асабліва настойлівым быў Анакулі Мамедкуліеў. Усюды і ва ўсім ён выяўляў выключную настойлівасць. Астатнія супрацоўнікі таксама стараліся. Вынік — змястоўныя, насычаныя інфармацыяй, пісьменна аформленыя нумары газеты.

Вось што піша ў сваіх успамінах М. Ананураў: «Мы штомесяц планавалі працу газеты. У мяне захаваўся, у прыватнасці, план працы рэдакцыі за красавік 1944 года. У ім было прадугледжана выпусціць 8 нумароў, апублікаваць у іх 4 перадавыя артыкулы. Вылучаліся таксама галоўныя тэматычныя напрамкі: 1. Дысцыпліна, парадак, арганізаванасць; 2. Добра ведаць аўтаматычную зброю; 3. Гутарка-чытка — асноўная форма агітацыйнай работы сярод байцоў нярускай нацыянальнасці; 4. «Біць ворага па-гвардзейску». Акрамя таго, у плане меліся такія рубрыкі: а) у дапамогу агітатару; б) лісты аб воінскім выхаванні; в) у дапамогу сяржанту; г) аператыўныя матэрыялы; д) агляды ваенных дзеянняў на франтах Айчыннай вайны; е) у Туркменістане; ж) за мяжой; з) пытанні побыту; і) камсамол. Гэты план дае няхай не поўнае, але дастатковае ўяўленне аб праблематыцы выступленняў газеты». І далей: «З 31 студзеня 1943 па 20 мая 1944 года было выпушчана 78 (як бачыце, ва ўспамінах — разначытанне: дзве лічбы прыводзіць М. Ананураў: 78 і «каля 90» нумароў. — **А. К.**) газеты. У 1943 годзе — 57 нумароў... у 1944 — 21 нумар... За гэты час апублікавана матэрыялаў аб баявых эпізодах — 303, з іх аб воінах-туркменах — 69, афіцыйных матэрыялаў — 147, прапагандысцкіх — 63, літаратурных — 30 і інш. 52 матэрыялы з іх атрыманы ад байцоў-туркменаў».

У час Вялікай Айчыннай вайны ў Ашхабадзе асобным выданнем пабачыла свет паэма франтавога журналіста Анакулі Мамедкуліева, прысвечаная беларускаму патрыёту, кіраўніку падпольнай арганізацыі Канстанціну Заслонаву. Беларусь ад нямецка-фашысцкіх захопнікаў вызвалялі туркменскія паэты Чары Ашыраў (у складзе войскаў 3-га Беларускага фронту), Рухі Аліеў. Тэма вызвалення Беларусі знайшла адлюстраванне ў іх творчасці. Вершы Р. Аліева, Ч. Ашырава аб трагічным і гераічным тых часоў апублікаваныя і ў перакладзе на беларускую мову ў кнізе «И вспомним былые походы» (Мінск, 1990).

У гады вайны ў ваколіцах Ашхабада служыў будучы беларускі празаік і паэт Аркадзь Марціновіч. Пра гэта ён распавёў у сваім рамане «Не забывай слядоў сваіх». Праз гады ў Туркменіі пабывае яго сын — паэт Павел Марціновіч, які напіша пасля цыкл вершаў пра Туркменію і ўключыць яго ў паэтычны зборнік «Час бурштыну». У другой палове 1940-х гг. у Ашхабадзе ў сям'і сваёй роднай сястры опернай спявачкі Вольгі Мікуліч-Сабуравай (загінула падчас ашхабадскага землятрусу) жыве і працуе вядомы беларускі пісьменнік Барыс Мікуліч. Другая частка яго «Аповесці пра сябе» (апублікавана ў часопісе «Нёман») прысвечана ашхабадскаму перыяду.

У пасляваенныя гады пачалася актыўная праца па перакладах туркменскай літаратуры на беларускую мову і беларускай літаратуры на туркменскую. У Беларусі пабачылі свет кнігі Бярды Кербабаева (двойчы!), Каюма Тангрыкуліева (дзве кнігі вершаў), Агагельды Аланазарова (тры кнігі за розныя гады, з іх ліку яго знакамітая «Вясёлая азбука» ў перакладзе Віктара Гардзея — зусім нядаўна), Курбана Чаліева, Нуры Байрамава, Бабаніяза Каюмава і іншых аўтараў. У Беларусь у розныя гады прыязджалі паэты і празаікі Каюм Тангрыкуліеў, Газель Шакуліева, Пірнепес Авязліеў, Какабай Курбанмурадаў і інш., што знайшло адлюстраванне ў іх творчасці. Выдадзена ў Мінску Анталогія туркменскай дзіцячай літаратуры на беларускай мове — у серыі «Бібліятэка дзіцячай літаратуры народаў СССР».

Перакладчыцкая праца народных паэтаў Туркменістана Керыма Курбаняпесава (у яго аўтарскай анталогіі «Букет дружбы» апублікаваны пераклады вершаў Максіма Танка, Пімена Панчанкі, Ніла Гілевіча) і Каюма Тангрыкуліева (у яго аўтарскай анталогіі «Вясёлая вясёлка» апублікаваны вершы Еўдакіі Лось, Івана Муравейкі, Эдзі Агняцвет, Васіля Віткі). Выйшаў «беларускі» нумар дзіцячага часопіса «Корпе» («Дзіця») на беларускай і рускай мовах, анталогія беларускай дзіцячай літаратуры «Ачык Асма» («Яснае сонейка») у ашхабадскім выдавецтве «Магарыф» (1989). Рады, што мне давялося выступаць аўтарам каментарыяў да гэтай кнігі. А рукапіс дзіцячай анталогіі прывёз у 1987 годзе ў Ашхабад беларускі паэт Алесь Емяльянаў. Тады ён сустракаўся з Касымам Нурбадавым, Амандурды Джанмурадавым, Курбанам Чаліевым, Дангатарам Бярдыевым. Памятаю, з якой гасціннасцю прымаў нас у сябе вядомы дзіцячы пісьменнік Курбан Чаліеў, які працаваў у той час галоўным рэдактарам выдавецтва «Туркменістан». Курбан Чаліеў распавёў тады пра сваё знаёмства з беларускай паэткай Любоўю Філімонавай (яна і пераклала на беларускую мову кнігу яго вершаў), пра сустрэчы з дырэктарам выдавецтва «Юнацтва» Валянцінам Лукшам.

У Туркменістане пабачылі свет асобныя кнігі беларускіх паэтаў і празаікаў Максіма Танка, Івана Чыгрынава, Валянціна Лукшы і інш. Перакладзены на туркменскую мову лірычныя мініяцюры Янкі Брыля, апавяданні Алеся Жука, Васіля Ткачова, вершы Пімена Панчанкі, Міколы Чарняўскага, Раісы Баравіковай, Артура Вольскага, творы іншых аўтараў. Асобная старонка гісторыі — праца ў Туркменістане пісьменнікаў і журналістаў — ураджэнцаў Беларусі (пісьменнік-дакументаліст Мікалай Калінковіч, паэт, галоўны рэдактар газеты «Ташаўзская праўда» Міхась Карпенка, празаік Васіль Ткачоў, публіцыст галоўны рэдактар «Туркменскай іскры» Васіль Слушнік). Мікалай Калінковіч напісаў кнігу пра воіна-туркменістанца Героя Савецкага Саюза Івана Васільевіча Багданава, што вызваляў Беларусь ад нямецка-фашысцкіх захопнікаў і атрымаў высокае званне за праяўлены ў баях за Бабруйск гераізм, — «Возвращение рассветной рани» (Ашхабад, 1987), шэраг іншых кніг пра Туркменістан — «Не разрывается земная связь», «Имя мое — Свобода».

Сярод герояў яго публікацый — беларусы Сяргей Малібожка, Барыс Тузін, якія пакінулі свой след у гісторыі Туркменістана. Выступаў у часопісах і газетах Туркменістана «Ашхабад», «Совет эдебияты», «Эдебият ве сунгаг» наш зямляк

не толькі пад сваім прозвішчам, але і пад псеўданімамі — Цнянскі, Каменагорскі і інш. Кніга кандыдата гістарычных навук Мікалая Калінковіча «Палескія дні Аляксандра Блока» (Мінск, 1986) фактычна была напісана і і адрэдагавана ў тыя гады, калі беларускі даследчык жыў і працаваў у Ашхабадзе ў 1980—1984 гг. Ужо тады ў свядомасці Мікалая Калінковіча спелі задумы кніг пра беларускі перыяд у жыцці Аляксандра Грыбаедава, пра Браніслава Тарашкевіча. Характэрная дэталь, менавіта ў Туркменістане беларусаў Мікалая Калінковіча і Міхаіла Карпенку прынялі ў члены Саюза пісьменнікаў СССР. Шкада толькі, што вельмі рана пайшоў з жыцця Мікалай Калінковіч — сапраўдны паўпрэд беларускай культуры ў Туркменістане. Загінуў, калі ўзрост яго набліжаўся да сарака гадоў. Няма ў жывых і паэта Міхася Карпенкі, заслужанага дзеяча культуры Туркменскай ССР, шматгадовага галоўнага рэдактара абласной газеты «Ташаўзская праўда».

У звароце да фактаў літаратурнага пабрацімства нельга не ўзгадаць і той момант, што ў 1944 годзе прафесію ваеннага лётчыка спасцігаў у Гомелі Валянцін Рыбін, пасля — народны пісьменнік Туркменістана, аўтар гістарычных раманаў «Пералом», «Уладары і качэўнікі», «Закаспій», «Мора згоды» і іншых твораў, прысвечаных мінуламу Туркменістана.

І сучасны стан беларуска-туркменскіх літаратурных сувязей (публікацыі пра туркменскую літаратуру ў газетах «Літаратура і мастацтва», «Голас Радзімы», «Краязнаўчая газета», часопісах «Полымя», «Маладосць», пераклады туркменскай паэзіі ў часопісе «Полымя») не можа не ўяўляць цікавасці. У адным з пісьменніцкіх з'ездаў у Беларусі прымаў удзел народны паэт Туркменістана Каюм Тангрыкулііеў. Пасля адкрыцця новага для сябе краю ён напісаў выдатны верш «Самы вядомы на свеце аул», прысвечаны трагедыі Хатыні. На беларускую мову верш пераклаў народны паэт Беларусі Рыгор Барадулін. Твор апублікаваны ў альманаху «Братэрства».

У 1980—1990-я гг. у Беларусі выдавалася цэлая серыя літаратурна-мастацкіх альманахаў, якія прадстаўляюць літаратуру іншых народаў на беларускай мове, — «Ветразь», «Братэрства», «Даляглядыь». На іх старонках публікаваліся і творы туркменскіх пісьменнікаў — Амандурды Джанмурадава, Алаберды Хаідава, Касыма Нурбадава, Азата Рахманава і інш. Аб «туркменскіх старонках» альманаха «Братэрства» была публікацыя ў туркменскім часопісе «Совет эдебияты». Шмат сіл, працы ў прапаганду туркменскай літаратуры ў Беларусі ўклала беларуская паэтка і перакладчыца Любоў Філімонава.

Асновай для такіх чытацкіх сустрэч (у Беларусі — з туркменскай літаратурай, у Туркменістане — з беларускай), вядома, з'яўляюцца паездкі літаратараў адзін да аднаго, адкрыццё імі іншых краёў. У Ашхабадзе гасцяваў Алесь Жук. Ён добра знаёмы з выдатным туркменскім празаікам Атаджанам Таганам. На радзіму Махтумкулі прыязджалі Максім Танк, Алег Лойка, Янка Сіпакоў, Рыгор Барадулін, Віктар Шымук, Генадзь Пашкоў, Алесь Бадак, Алена Масла і іншыя беларускія пісьменнікі.

У 1984 годзе ў мінскім «Юнацтве» выйшла знакавая кніга для паэта, празаіка, публіцыста, перакладчыка Янкі Сіпакова «Пяць струн». У падзагалоўку: «Кніга настрояў». Чаму знакавая? Янка Сіпакоў шмат падарожнічаў па былым СССР. І вельмі цёпла і ўзнёсла расказваў пра сустрэчы, адкрыцці іншых старонак. Праз шмат гадоў пасля выдання пісьменнік падпісаў кнігу мне з такім вось аўтографам: «Шаноўнаму Алесю Міклаевічу Карлюкевічу — каб яшчэ раз засведчыць, што я, гэтак жа, як і Вы, вельмі далёкую і прывабную Туркменію палюбіў шчыра і назаўсёды. Янка Сіпакоў. 3 студзеня 2007 года». Прабачце за нясціпласць, але вельмі ўжо хацелася падкрэсліць «туркменскі характар» аўтографа. У «Пяці струнах» пра Туркменістан расказваецца ў нарысе «Пяць струн». Пастараемся зазірнуць хаця б крышачку ў сутнаснае, што падгледзеў, што ўбачыў у Туркменістане

вандроўнік Янка Сіпакоў: «Пустыня была зялёная. Яшчэ ў самалёце, падлятаючы да Краснаводска, перад якім якраз развіднела, я нецярпліва ўглядаўся ў незнаёмыя мне краявіды, настойліва шукаў жоўтага колеру, аднак барханы ўсюды, як агледзець вокам, былі зялёныя. І потым, высокаю дарогаю ад Краснаводска да Ашхабада, зноў жа не адрываўся ад ілюмінатара, але пясок нібы, дражнячыся са мною, здавалася, начыста і назаўсёды змяніў свой колер — ён таксама быў зялёны, -— і мне ўжо мроілася, што самалёт заблудзіўся і вязе нас кудысьці не туды. Я тады яшчэ не ведаў, што і з космасу вясновыя Каракумы выглядаюць зялёнымі. Гэта потым ужо даведаўся, што, гледзячы на Зямлю праз ілюмінатар касмічнага карабля, Юры Гагарын таксама шчыра здзіўляўся: «Але ж Туркменія ўся зялёная! І гэта называецца пустыня?»…

Пройдуць гады — і да сваіх туркменскіх успамінаў Янка Сіпакоў вернецца ў новай кнізе «Дзённік настрою». «Мне вельмі хацелася пабачыць Каракумы, — узгадвае Янка Сіпакоў у кнізе, выдадзенай у 2007 годзе. — І таму, прыляцеўшы ў Туркменію, у той жа дзень папрасіў Ахмета Курбаняпесава, які сустрэў мяне ў ашхабадскім аэрапорце, паказаць мне пустыню — я, шчыра кажучы, даўно трызніў ёю…» Такое трызненне, такая ўлюбёнасць, пагадзіцеся, дарагога каштуюць.

...Вельмі доўга жыў у Туркменістане беларускі празаік Васіль Ткачоў. Многія яго апавяданні (у тым ліку — і напоўненае любові да Ашхабада апавяданне «Казан») з кнігі «Дзень у горадзе» напісаны менавіта там. Штуршком для ўвасаблення некаторых задум у апавяданні Алеся Бадака «Ідэальны чытач» паслужыла паездка пісьменніка ў Туркменістан, яго ўдзел у ашхабадскай кніжнай выставе «Залатая кніга». Невыпадкова праз гады Алесь Бадак выступіў складальнікам выдадзенай у Мінску кнігі ў серыі «Сугучча сэрцаў: Беларусь — Туркменістан».... І гэтыя «вузельчыкі памяці» — вядома ж, далёка не ўсё, пра што варта было б расказаць, напісаць больш падрабязна і шырока.... Цяпер на маім працоўным стале ляжыць велізарны фаліянт — першы том збору твораў выдатнага туркменскага дзіцячага пісьменніка Агагельды Аланазарова. Назва ў тома — «Сонечны параход». Прывёз яго ў Мінск з кніжнай выставы ў Ашхабадзе былы намеснік міністра інфармацыі Рэспублікі Беларусь Ігар Мікалаевіч Лапцёнак. Многае з кнігі мне знаёма — у тым ліку і дзякуючы перакладам Якава Акіма. А зараз, спадзяюся, і нашы беларускія перакладчыкі пастараюцца, дапамогуць прыйсьці да юнага чытача новым вершам, новай кнізе Агагельды Аланазарова.

А вось нядаўна — новая бандэроль з Туркменістана. Гэтым разам — з кнігай, прысвечанай зусім дагэтуль невядомай паэтэсе Агульбеке Аразбердыевай… Але ж аб усім па парадку… Гісторыя на дзіва шчымлівая, нельга не спыніцца на ёй асобна.

У архіве памяці, якім з'яўляецца Беларускі дзяржаўны музей гісторыі Вялікай Айчыннай вайны, ёсць цікавы экспанат: ручной работы туркменскі дыван з партрэтам камандуючага 1-м Беларускім фронтам Маршала Савецкага Саюза Канстанціна Ракасоўскага. У музей дыван перадала сям'я военачальніка ў 1968 годзе. Дарэчы, зусім нядаўна фотаздымак дэманстраваўся на беларускай выставе ў Музеі выяўленчага мастацтва Туркменістана ў Ашхабадзе.

Якая ж гісторыя хаваецца за дыванам, які быў вытканы туркменскімі рукадзельніцамі ў 1943 годзе?.. Пачатак гісторыі — у Туркменістане. У 1941 ажаніліся маладыя людзі — аднавяскоўцы з аула Саюналы Тахтабазарскага этрапа: Агульбеке і Агаберды. Каханне аб'яднала маладых. Агульбеке было ўсяго 20 «з хвосцікам». Яна працавала настаўніцай у ауле Морчак. Завочна адвучылася ў Марыйскім педагагічным тэхнікуме. Агаберды і яго жонка марылі пра вучобу ў інстытуце. Але пачалася вайна. Агаберды пайшоў на фронт.

Агульбеке Аразбердыева вучыла дзяцей. Адпрацаваўшы на ўроках у школе, бегла на працу ў поле. Часта вяла тлумачальную работу, распавядала пра падзеі на фронце. І пісала лісты мужу на фронт. А ў лістах заўсёды былі вершы, што

складаліся ў яе познімі вечарамі. Пра што гаварыла ў іх маладая туркменская жанчына і, мяркуючы па ўсім, таленавітая пачынаючая паэтэса?.. «Сваё ты, вораг, атрымаеш!..», «У пошуках вас», «Вяртайся!» — вось назвы некаторых яе твораў. Пісала Агульбеке пра тое, што фашысцкія гады хутка будуць пакараныя за ўсе здзекі і ўсё зло, што прычынілі савецкім людзям, пра тое, што яна і ўсе аднавяскоўцы жывуць верай у вяртанне дадому сваіх мужоў, сыноў, бацькоў.

Жыхары Морчака ведалі, што Агульбеке піша вершы, часта прасілі яе прачытаць новыя творы, перапісвалі кранальныя радкі для сябе і захоўвалі гэтыя старонкі як самае дарагое, цытавалі іх быццам малітвы-абярэгі. Разам з іншымі жанчынамі Агульбеке збірала ў Фонд абароны сродкі, каштоўнасці. Жыхары калгаса «Гузыл гошгун» сабралі сярод іншага і 84 кг срэбра. Захаваліся кадры кінахронікі з эпізодам, дзе маладая прыгожая туркменка ў белай хустцы здае ўласныя ўпрыгажэнні. Гэта — Агульбеке. У канцы 1943 года працаўніцы Марыйскага велаята сабралі цэлы эшалон падарункаў франтавікам. Жанчыны, сярод якіх была і Агульбеке, выткалі дыван з партрэтам Маршала Савецкага Саюза К. Ракасоўскага. Ведалі, што іх падарунак павінен патрапіць на 1-ы Беларускі фронт... Там, дарэчы, ваяваў і муж настаўніцы і паэткі — Агаберды.

Разам з іншымі туркменкамі паехала на фронт і Агульбеке. Дыван з партрэтам быў уручаны асабіста слыннаму военачальніку. Распавяла туркменка і сваю асабістую гісторыю... Камандуючы фронтам даў загад арганізаваць сустрэчу жанчыны з мужам. Быў вядомы нумар палявой пошты. Агульбеке паказала маршалу ліст, які ведала на памяць. Але Агаберды быў на самым перадавым участку фронту. Атрымалася ў гэтай няпростай баявой абстаноўцы арганізаваць толькі прамую тэлефонную сувязь. Муж і жонка змаглі пагаварыць на адлегласці. Можна толькі паспрабаваць уявіць, якім цяплом дыхалі словы любых людзей. Яны ж да сыходу мужа на фронт пражылі разам усяго тры месяцы... З фронту Агульбеке прыехала надзвычай натхнёная, усхваляваная. Новыя вершы так і сыпаліся з яе шчодрай душы, шчырага сэрца. Як і верш «Шукаю цябе».

Франтавая нас паклікала дарога.
Шлях віецца клопатны і доўгі,
Каб байцам аддзячыць шчодрым падарункам
І мужам каханым цёплым пацалункам.
Жах вайны — але ж усюды людзі!
Як стрымацца? І што далей будзе?
Вы — святло, галоўнае ў жыцці,
Рушым з верай вас хутчэй знайсці.
І надзея, быццам полымя нас грэла,
А душа наперад рвалася, ляцела.
Тут гарыць зямля — а значыць, мэта блізка.
Неба змрочнае вісіць варожа, нізка.
Колькі дзён трывожных перажыта!
Сэрца боль — за раненых, забітых.
Нам на слёзы, енкі не забыцца,
Гэты шлях заўсёды будзе сніцца.
Мой Агаберды, мой свеце, побач —
І сустрэча будзе ўзнагародай
Мне за тое, што прайшла ўсе межы,
Захавала пыл кахання свежы.
Толькі бой ідзе — і зараз ты на полі,
Скрозь агонь не ўбачыцца з табою.
Голас ў рацыі — у сэрцы як страла,
Я шчаслівая, бо ўсё ж цябе знайшла!

*(Пераклад Юліі АЛЕЙЧАНКІ.)*

...Усё было ў новых творах — і ласка, і трывога, і боль, і, вядома ж, каханне. Прывезла Агульбеке ў аул і патэфон, які туркменцы падарыў маршал Ракасоўскі. Дарэчы, патэфон гэты захоўваецца ў туркменскай вёсцы і сёння. А ўслед за вяртаннем дэлегацыі, якая наведала байцоў і камандзіраў на 1-м Беларускім фронце, праз лічаныя месяцы прыйшла ў аул змрочная вестка: загінуў муж Агульбеке — Агаберды. Маладой паэтцы здавалася, што гэтага проста не можа быць. Для яе, як і раней, гучаў з палявога тэлефона ўсхваляваны голас каханага чалавека. «Родная, мілая! Што ты робіш у гэтым полымі, у гэтым агні?!. Цябе можа нагнаць куля! Хутчэй з'язджай адсюль! Скончыцца вайна — і мы абавязкова сустрэнемся з табой!.. Чакай мяне!..» Не дачакалася. І сэрца яе не вытрымала. У 1949 годзе маладая паэтка памерла.

Землякі і цяпер трымаюць у памяці вобраз Агульбеке Аразбердыевай. Вядомы туркменскі паэт Агагельды Аланазараў падрыхтаваў і выпусціў асобнай кнігай яе вершы... Лёс простай туркменкі ўсё ж адбыўся — у каханні да маладога чалавека, у любові да Радзімы, у выкананых перад ёй і сваім каханым абавязках. Перад родным і любым Агаберды, якога яна так самаахвярна чакала з фронту!..



**Юлія АЛЕЙЧАНКА**

# ЦЭЛАСНЫ ЖЫВЫ АРГАНІЗМ: РЫТМА-МЕТРЫЧНАЯ РАЗНАСТАЙНАСЦЬ ЗБОРНІКА «СПАДЧЫНА» ЯНКІ КУПАЛЫ

«Спадчына» — чацвёрты зборнік Янкі Купалы. Ад трох першых «Жалейка», «Гусляр», «Шляхам жыцця» ён аддзелены, перш за ўсё, гістарычнай эпохай, зменамі грамадзянска-палітычнага ладу. Гэта першы зборнік паэта савецкага часу, які ўтрымлівае вершы і паэмы, напісаныя падчас Першай сусветнай вайны і рэвалюцыйных пераўтварэнняў (1913—1919 гг.), а таксама творы «жалейкаўскага перыяду», не надрукаваныя з-за цэнзурных абмежаванняў. Рукапіс быў падрыхтаваны аўтарам у 1919 г., аднак выдадзена «Спадчына» была толькі ў 1922 г. у Мінску Беларускім кааператыўна-выдавецкім таварыствам «Адраджэнне». Усе творы кнігі паяднаны агульнасцю праблематыкі — неабходнасцю вызначэння далейшых шляхоў беларускай нацыі ў час глабальных сацыяльна-палітычных, ідэалагічных пераўтварэнняў. Яшчэ мацней, чым у вяршынным дакастрычніцкім зборніку Янкі Купалы «Шляхам жыцця», у «Спадчыне» адчуваецца высокі патрыятычны пафас, глыбіня сацыяльна-філасофскага зместу. Пры гэтым, лірыка Янкі Купалы дадзенага перыяду набывае і абсалютна новую цікавую рысу. «Рамантычная абагульненасць і псіхалагічная абвостранасць успрымання жыцця надае шмат якім з твораў дзённікавы характар» [5, с. 572].

Трэба адзначыць, што тагачасная крытыка кнігу ўспрыняла неадназначна, што, у першую чаргу, было звязана з узроўнем падрыхтаванасці і схематычнасцю вульгарызатарскай крытыкі. Напрыклад, П. Любецкі адзначаў: «Чым жа з’яўляецца “Спадчына”? Рэцэнзент “Савецкай Беларусі” назваў яе крокам наперад. З гэтым ніяк не можна пагадзіцца. Каб назваць “Спадчыну” крокам наперад, трэба было б прызнаць, што ў ёй ёсць вершы больш вартыя, чым у ранейшым перыядзе творчасці Купалы. А гэта не так. Лепшыя адраджэнскія вершы “Спадчыны” толькі дасягаюць вышыні ранейшых купалаўскіх твораў, а другія высокамастацкія творы, змешчаныя ў кніжцы, з’яўляюцца спробаю творчасці ў новым кірунку». [1, с. 141]. Неразуменне «новага кірунку» творчасці, філасофскай заглыбленасці і агульначалавечай арыентацыі творчасці Янкі Купалы, адсутнасць строга выверваных эстэтычных катэгорый у сістэме літаратурнай крытыкі падобнага кшталту прыводзіла да грубай спрошчанасці і неабгрунтаванасці. Аднак у зборніку «Янка Купала ў літаратурнай крытыцы» 1928 г. у артыкуле М. Піятуховіча знаходзім ужо цалкам станоўчыя водзывы: «Значна збагачаецца лірыка асабовая; у ёй мы знаходзім новыя адценні ў светапоглядзе паэта і яго адчуваннях, агностыцызм “Гусляра” змяняецца тут бадзёрым рацыяналізмам» [17, с. 108].

Праграмны верш «Спадчына» заключае ў сабе цэнтральную ідэю аднайменнага зборніка:

Ад прадзедаў спакон вякоў
Мне засталася спадчына;
Паміж сваіх і чужакоў
Яна мне ласкай матчынай [15, т. 4, с. 43].

Зберагчы культурны набытак продкаў, «разжыцца новай доляй» і «новы ўзнесць пасад» («Час!») [15, т. 4, с. 33] прызывае Янка Купала ў многіх вершах «Спадчыны».

Доўгі час зборнік не разглядаўся літаратуразнаўцамі як ідэйна-мастацкая цэласнасць, бо, на іх думку, аўтарскі падзел на раздзелы не супадае з тэматычным (жыццё вёскі, тэма Першай сусветнай вайны, філасофская, інтымная лірыка і г. д.). Аднак «Спадчына» два разы перавыдавалася пры жыцці Янкі Купалы без змяненняў структуры, што сведчыць пра намер аўтара захаваць першапачатковую цэласнасць кнігі. «Для Купалы "Спадчына" не была сумай паасобных, часам выпадковых, сабраных пад адной вокладкай вершаў. Гэта кніга — цэласная, нібы жывы арганізм, дзе паасобныя вершы і цэлыя раздзелы ўступаюць адзін з другім у складаныя ўзаемаадносіны, асвятляюць і падтрымліваюць, узмацняюць і тлумачаць адзін аднаго. Цэласны характар паэтычнага зборніка з'яўляецца паказчыкам арыгінальнасці паэта, яго адзінства і шматграннасці ў падыходзе да рэчаіснасці» [5, с. 573].

«Спадчына» — гэта кніга незвычайна ёмістых вобразаў, канцэнтрацыі канкрэтнага і сутнаснага напаўнення:

Схамянайся ж ты, моладзь арліна!
Ў бок другі віхры веяць прымусь,
Бяры светач, ідзі за судзьбінай,
Ідзі з словам святым: Беларусь!
(«Беларусь») [15, т. 2, с. 24].

Несумненна, адбываюцца змены і ў форме вершаванага выказвання, узбагачэнне купалаўскага радка новымі рытмічнымі і гукавымі магчымасцямі, асваенне новых памераў, ускладненне кампазіцыі. У. Гніламёдаў слушна зазначае: «Няцяжка заўважыць далейшы рост майстэрства, умення тонка "аркестраваць" страфу, надаць радку нейкую магічную эмацыянальную сілу» [8, с. 123]. Ніжэй разгледзім, у якім кірунку Янка Купала працягвае ўзбагачаць і разнастаіць уласную вершаваную тэхніку. Пачнём з разгляду памераў верша, ужытых у зборніку (табліца 1).

**Табліца 1 — Вершаваныя памеры зборніка «Спадчына» Янкі Купалы**

| Памер | Колькасць вершаваных радкоў | Працэнт ад агульнай колькасці |
|---|---|---|
| Х6 | 24 | 0,4 % |
| Х4 | 549 | 9,7 % |
| Х443443 | 60 | 1,1 % |
| Х4343 | 656 | 11,5 % |
| Х3 | 334 | 5,9 % |
| Я7 | 40 | 0,7 % |
| Я76 | 12 | 0,2 % |
| Я6 | 544 | 9,6 % |
| Я65 | 40 | 0,7 % |
| Я5 | 208 | 3,7 % |
| Я4 | 952 | 16,7 % |
| Я4343 | 16 | 0,3 % |
| Я3 | 68 | 1,2 % |
| Д4 | 168 | 2,9 % |
| Д3 | 76 | 1,3 % |
| Д2 | 44 | 0,8 % |
| Ам4 | 434 | 7,6 % |
| Ам4343 | 180 | 3,2 % |
| Ам3 | 236 | 4,1 % |
| Ам2 | 56 | 1 % |
| Ан4 | 116 | 2 % |
| Ан4343 | 36 | 0,6 % |
| Ан3 | 86 | 1,5 % |
| Ан2 | 44 | 0,8 % |
| Танічны верш | 760 | 13,3 % |




*Малюнак 1 — Кадэнцыі вершаваных памераў у зборніку «Спадчына»*

У зборніку «Спадчына» налічваецца 25 вершаваных памераў (гл. табліцу 1). Для параўнання, у «Жалейцы» — 18, у «Гусляры» — 16, у зборніку «Шляхам жыцця» — 24. Пануючым вершаваным памерам выступае чатырохстопны ямб (952 радкі, або 16,7 %), за якім ідзе танічны верш (760 радкоў, або 13,3 %). На трэцім месцы — харэй з рэгулярным чаргаваннем чатырох- і трохстопных радкоў (656 радкоў, або 11,5 %). Калі разглядаць кадэнцыі вершаваных памераў (гл. малюнак 1), то і ў гэтым выпадку дамінуюць разнавіднасці ямба (1840 радкі, або 32,3 %). Другое месца займае харэічная кадэнцыя (1623 радкі, або 28,5 %), трэцяе — амфібрахічная (906 радкоў, або 15,9 %).

Такім чынам, зборнік «Спадчына» адрозніваецца ад папярэдніх трох панаваннем менавіта ямбічных памераў, а не харэічных (хоць і з невялікай перавагай). «Ямбічныя памеры даюць магчымасць выяўляць самыя розныя думкі і пачуцці, надаюць вершу песеннасць і размоўнасць, плаўнасць і імклівасць» [19, с. 698]. Перавага чатырохстопнага ямба сведчыць пра далучанасць паэта да класічных рускіх традыцый вершавання, бо гэты памер лічыцца найбольш распаўсюджаным у класічнай рускай літаратуры. «Кожная паэма, напісаная 4-ст. ямбам з вольнай рыфмоўкай будзе немінуча выклікаць успаміны пра рамантычную паэзію пушкінскага і лермантаўскага часу ўвогуле, напісаны 4-ст. ямбам з мужчынскай рыфмоўкай — больш канкрэтна, пра “Шыльёнскі вязень” ці “Мцыры”», — сцвярджаў М. Гаспараў [7, с. 12]. Канкрэтызуе гэтую думку наконт паэзіі Янкі Купалы М. Ларчанка: «Калі чытаеш рамантычныя паэмы Купалы (“Курган”, “Магіла льва”, “Бандароўна” і інш.), то нельга не адчуць пэўнай паэтычнай блізкасці, роднасці рамантыкі беларускага песняра з рамантыкай паэм Лермантава “Демон” і “Мцыры”. Гэта роднасць прыкметна ў паэтычнай фактуры твораў, у іх метрычных і рытмічных асаблівасцях, у майстэрстве творчай апрацоўкі вуснай народнай паэзіі, у глыбокай народнасці і прастаце мастацкіх прыёмаў і маляўнічых сродкаў адлюстравання пэўных з’яў рэчаіснасці» [16, с. 10]. Менавіта чатырохсопным ямбам напісана Купалава паэма «Магіла льва», «пабудаваная на фальклорным паданні пра паходжанне горада Магілёва, пра лагоднага працавітага земляроба-асілка Машэку, што стаў разбойнікам праз нявернасць сваёй каханкі, спакушанай усемагутным баярынам-феадалам» [4, с. 102]. Выкарыстанне для буйных паэтычных твораў ямбічных памераў

замест амфібрахічных (як на ранніх этапах творчасці), якое намячаецца ўжо ў зборніках «Гусляр» і «Шляхам жыцця», у зборніку «Спадчына» атрымоўвае арганічнае развіццё. Дадзеная заканамернасць звязана з агульнай тэндэнцыяй развіцця жанрава-стылістычных форм беларускай паэзіі пачатку XX ст.. Рамантычная паэма «Магіла льва» (480 радкоў) вызначаецца класічнай семітрычнай кампазіцыяй (20 раздзелаў, кожны з якіх мае 6 катрэнаў аднолькавай рыфмоўкі). Янка Купала праяўляе высокую чуласць да драбнейшых змен у настроі паэтычнага выказвання, удала падкрэслівае гэта з дапамогай рытмічных сродкаў выразнасці. Спакойны, ураўнаважаны зачын, вытрыманы ў памеры класічнага чатырохстопнага ямба, гучыць цалкам натуральна і арганічна, метрычныя націскі часта супадаюць з граматычнымі:

Збіраць пачнём зярно к зярняці,
Былое ў думках ускрашаць,
Каб быт на новы лад пачаці
І сеўбу новую пачаць [15, т. 6, с. 91].

Шырокае выкарыстанне анжамбеманаў дапамагае стварэнню аповеднай інтанацыі:

Пачнём дакапывацца самі
Разгадкі нашых крыўд і бед,
Што леглі цёмнымі лясамі
На нашай долі з даўных лет [15, т. 6, с. 92].

Аднак пры ўзрастанні драматызму ў творы эпічная запаволенасць радка парушаецца за кошт унутры- і міжрадковых паўз і абрываў:

Сябе сам кінуў у няволю
Дзявочых ласк і пустаты;
Пацех меў шмат, цярпення болей,
То весел быў, то — як струты.

Дзяўчына... ведама, дзяўчына —
Хто там згадаў, што ў ёй сядзіць;
Любіла ж, пэўна, хоць часінай, —
У лес па гэта не хадзіць [15, т. 6, с. 94].

На тое ж спрацоўвае і рытмічная інверсія (несупадзенне націскнога складу з асноўным рытмічным акцэнтам), а таксама клічныя інтанацыі:

Але Наталька ўгаварыла:

«Едзь! штось заробіш к жаніцьбе».
Ну, як тут не паслухаць мілай!
І наш Машэка, у жальбе [15, т. 6, с. 95].

Усе названыя прыёмы надаюць вершаванаму радку «адценне асаблівай гнуткасці», істотна ўзбагачаюць інтанацыйнае гучанне і «эмацыянальны каларыт» [9, с. 132]. Такім чынам, Янка Купала дасягае вельмі тонкага паяднання зместавага і фармальнага боку паэтычнага твора, абірае аптымальны шлях увасаблення ўласных эстэтычных задач.

Нягледзячы на значную ўстойлівасць «семантычнага арэалу» (М. Гаспараў), чатырохстопны ямб «Спадчыны» мае шмат адценняў эмацыйнай афарбоўкі. Перш за ўсё, дадзены вершаваны памер аказаўся надзвычай прыдатным для грамадзянскай лірыкі Янкі Купалы. Чатырохстопным ямбам напісаны верш «Куды ты рвешся?» з адкрыта бунтарскім, рэвалюцыйным гучаннем. У даволі змрочнай іранічнай форме Янка Купала заклікае абярнуць моц спрадвечнага цярпення селяніна ў моц змагання, каб пераадолець неўладкаванасць жыцця:

Працуй ярэмнаю скацінай
На сытых ворагаў тваіх;
Хай сохнуць грудзі, чахне спіна,
Забудзься думак удалых! [15, т. 1, с. 149].

Рытмічная структура верша, яго прамоўніцкі тон, эмацыйны запал, звароты, заклікавая інтанацыя, чаргаванне «меладычнай жаночай» і «ўдарнай мужчынскай рыфмаў» [13, с. 308] арганічна спалучаюць у творы два пачаткі — лірыкі смутку, галашэння і рашучага, выбухнога дзеяння. Разнастаяць рытмічны малюнак даволі частыя пірыхіі ў трэцяй стапе, што даволі паказальная з’ява для дадзенага вершаванага памеру. Па падліках К. Тараноўскага, у XIX ст. 63,7 % рускіх вершаў чатырохстопнага ямба ўтрымліваюць адзін пірыхій, г.зн. з’яўляюцца трохнацісднымі, а з гэтых пірыхіяў 54 % прыпадаюць на трэцюю стапу. Пірыхій як сродак ураўнаважання рытмічнага малюнка верша ўпершыню ў беларускай літаратуры шырока ўвёў Янка Лучына. Такім чынам, сродкам мастацкага ўзбагачэння Янкі Купалы ў дадзеным кірунку магла быць як руская класіка, так і ўжо сфарміраваная беларуская традыцыя.

Верш «З дня ў дзень» таксама адзначаецца надзённай грамадзянскай тэматыкай. Аўтар раскрывае розныя бакі гаротнага жыцця народа: «адвечныя крыўды і беды, беспрасветную цемру, бясконцую цярплівасць і ўціск бесчалавечнымі законамі» [11, с. 224]. Для выражэння бясконцага кругазвароту дзён працоўнага селяніна Янка Купала абірае надзвычай арыгінальную кампазіцыю: верш падзелены на восем трохрадкоўяў, якія папарна аб’ядноўваюцца агульнасцю рыфмоўкі: (ааБ) (ааБ) (ввГ) (ввГ) (ддЕ) (ддЕ) (жжЗ) (жжЗ). Два першыя радкі амаль кожнага трохрадкоўя, дакладна вытрыманыя ў памеры чатырохстопнага ямба (рытмічныя законы супадаюць з фаналагічнымі), падзелены цэзурай, што надае ім унутраны рытм, а таксама звязаны між сабой сумежнай мужчынскай рыфмай. Трэці радок кожнага трохрадкоўя адрозніваецца нарашчэннем на адзін склад і выкарыстаннем жаночай рыфмы, што нібы падсумоўвае сказанае вышэй:

Адвечных крыўд, адвечных бед
Не бачым мы, не бачыць свет,
І не пабачым, мусіць, скора [15, т. 4, с. 47].

«Ямбы — асноўны памер баек, які прымяняецца таксама ў драматычных творах і ў лірыцы (элегіях)», — адзначае М. Харлап [22, с. 57]. Янка Купала, відавочна, падтрымліваючы дадзеную традыцыю, стварае ў памеры чатырохстопнага ямба байкі «Асёл і яго цень», «Груган і салавей». Першая з іх вызначаецца арыгінальнасцю ў стварэнні камічнай сітуацыі, з’едлівай сатырай на камічную дурноту асла, якая набывае ў вершы абагульняючае значэнне:

Асёл, убачыўшы ў вадзе
Ў крынічнай свой асліны цень,
Здзівіўся, стаў, далей не йдзе,
Глядзіць ды думае, як пень [15, т. 3, с. 196].

Нагнятанне сінтаксічных адрэзкаў, пытальныя і клічныя інтанацыі, анжамбеман у другой страфе надаюць незвычайную жывасць рытмічнаму малюнку кампактнага верша.

Другая байка, «Груган і салавей» [15, т. 3, с. 189], што ўзнікла ў кантэксце нашаніўскай дыскусіі аб шляхах развіцця паэзіі, таксама вызначаецца алегарычнай вобразнасцю. «Ствараючы алегарычны вобраз гругана, паэт меў на ўвазе тых, хто імкнуўся пераканаць чытачоў, быццам усе беларусы жывуць аднолькавымі інтарэсамі» [12, с. 170]:

Груган, сустрэўшы салаўя,
З сваяцтвам лезці стаў к таму.
«Ты родны мне, як бачу я, —
Хадзі ж, як брата абыму! [15, т. 3, с. 189]

Энергія радка вызначаецца багаццем клічных і пытальных інтанацый, выкарыстаннем дакладных мужчынскіх рыфмаў. Аднак у апошняй страфе верша, дзякуючы сінтаксічна маркіраваным унутрырадковым паўзам, назіраецца некаторае запавольванне рытму, выдзялянне сэнсава значных элементаў паэтычнага выказвання:

«О, вельмі дзякую за чэсць! —
Адпеў салоўка з-над палян, —
Мо ў нас і аднолькова шэрсць,
А ўсё ж такі ты, брат, — груган!» [15, т. 3, с. 190].

Трэба адзначыць, што зборнік «Спадчына» ўтрымлівае 8 разнавіднасцей ямбічных памераў, што значна перавышае іх колькасць у ранейшых зборніках Янкі Купалы — «Жалейка», «Гусляр», «Шляхам жыцця». Упершыню з'яўляецца даволі рэдкі для беларускай літаратуры ў цэлым пяцістопны ямб — вершы «Валачобнікі» [15, т. 3, с. 201], «Свайму народу» [15, т. 4, с. 29], «Цару неба і зямлі» [15, т. 3, с. 85], «На прызбе» [15, т. 4, с. 32] і інш. Пяцістопны і шасцістопны ямбы ў зборніку звязаны, перш за ўсё, з цыклам з дзевяці філасофскіх санетаў: «Для бацькаўшчыны» [15, т. 4, с. 27], «Бацькаўшчына» [15, т. 4, с. 19], «Пчолы» [15, т. 4, с. 35], «Наша гаспадарка» [15, т. 4, с. 35], «Чаму?» [15, т. 4, с. 19], «Маё цярпенне» [15, т. 4, с. 7], «Таварыш мой» [15, т. 4, с. 10], «Сярод магіл» [15, т. 4, с. 17], «На суд» [15, т. 4, с. 11]. Да часу напісання названых вышэй санетаў паэт стварыў ужо сем польскамоўных і шэсць беларускамоўных вершаў дадзенай цвёрдай формы, засвоіў правілы лаканічнасці, афарыстычнасці санетнай страфы, а таксама правілы пабудовы класічнага санета. Толькі зрэдку знаходзім парушэнні патрабавання чаргавання мужчынскіх і жаночых рыфмаў у катрэне:

На суд вам, кніжнікі, сябе я аддаю,
Судзіце па стаццях, як піша ваш закон;
Было ж жыццё мне — узаконены прыгон,
Хоць я не даў вам і не дам стаптаць душу сваю.
(«На суд») [15, т. 4, с. 11], —

ці класічныя правілы рыфмоўкі ў тэрцэтах.

Адрозніваецца «Спадчына» і выкарыстаннем змешаных ямбічных форм (з чаргаваннем чатырох- і трохстопных, шасці- і пяцістопных радкоў). Дадзеныя формы маюць багатыя рытмастваральныя магчымасці, дапамагаюць пазбегнуць манатоннасці:

На полі стаяў бледны снег,
Вясна абходзіць поле...
Пакінь у хаце свой начлег,
Устань са сну, саколе!
(«На полі тае») [15, т. 3, с. 113].

Як ужо адзначалася вышэй, пры разглядзе кадэнцый вершаваных памераў на другое месца ў зборніку «Спадчына» выходзяць харэічныя памеры. Янкам Купалам выкарастаны пяць разнавіднасцей харэя. Традыцыйна найбольш пашыранай для творчасці паэта з'яўляецца змешаная форма харэя з рэгулярным чаргаваннем чатырох- і трохстопных радкоў. Сувязь дадзенай формы з фальклорнымі традыцыямі, яе вытокі аўтар часам свядома падкрэслівае нават у назве. Яскравым прыкладам з'яўляецца верш «Песня» з паметай «з народнай». Дадзены твор не з'яўляецца прамым запазычаннем з фальклору, аднак абыгрывае традыцыйную

фальклорную вобразную сітуацыю: дзяўчына жадае ператварыцца ў птушку, каб пазбавіцца цяжкай долі:

Каб была я перапёлкай,
Каб я волю мела, —
Дзе б хацела, паляцела,
Дома б не сядзела [15, т. 3, с. 175].

Народна-песенныя традыцыі праяўляюцца ў вобразнай сістэме. Актыўна выкарыстоўвае Янка Купала прыёмы фальклорнай паэтыкі: вобразны паралелізм («Найгарчэйшыя ў лузе // Ягады каліны, // Найгарчэйшая на службе // Доля ў дзяўчыны»), сталыя эпітэты («горкі слёзы», «шчыры бор»), словы з памяншальна-ласкальнымі суфіксамі (сялібкі, крылейкі). Выкарыстанне анафары, клічных інтанацый, унутранай рыфмы, жаночых клаўзул ажыўляе рытмічную будову верша, надае вершу «народна-песенны каларыт» [21, с. 478].

Выдатны ўзор купалаўскай публіцыстычнай лірыкі — верш «Рвіся, думка» [15, т. 3, с. 95] таксама напісаны змешаным тыпам харэя, вызначаецца вострым грамадзянскім гучаннем, услаўляе імкненне «к шчасцю і свабодзе». Аднак сувязь з народнымі традыцыямі прасочваецца ў народна-бытавой лексіцы, фразеалогіі: «Покі старасць неўдалая // Костак з ног не вале, // Рвіся, думка маладая // Туды, вышай, далей!». Рытарычны паўтор («Рвіся!»), клічныя інтанацыі, асаблівы малюнак унутрырадковых паўз дапамае выявіць публіцыстычны напал заклікаў:

Рвіся! рвіся! дый старайся
Нуду адалеці,
Заглушыцца не давайся
Ні за што на свеце [15, т. 3, с. 95].

Падобным прыкладам паяднання публіцыстычнага пачатку з выразна народнай асновай з'яўляюцца і вершы «Аб мужыцкай долі» [15, т. 3, с. 129], «Думка» [15, т. 2, с. 166], «Сумна, сумна» [15, т. 1, с. 150] і інш., напісаныя дадзеным памерам.

Шырока распаўсюджаны ў зборніку «Спадчына» і чатырохрохстопны харэй. «Спецыфіка 4-ст. харэя — гэта яго сувязь з песняй: яна прасочваецца ў сілаба-танічным харэі і яго сілабічных аналагах розных еўрапейскіх моў і, відаць, тлумачыцца тым, што песня для дакладнасці рытму аддае перавагу памеру з моцным месцам на першым складзе, без затакта, г.зн. харэй, а не ямб» [6, с. 193]. Аб сувязі чатырохстопнага харэя з песняй сведчыць і выкарыстанне яго Янкам Купалам у вершах цыкла «Песні вайны», звязанага з асэнсаваннем паэтам падзей Першай сусветнай вайны. Творы цыкла ў многім нагадваюць традыцыйныя народныя галашэнні. «Народнасць успрыняцця ваенных падзей» [10, с. 475] у вершы «Варожбы» [15, т. 3, с. 210] падкрэсліваецца выкарыстаннем эпіграфа — радкоў з народнай песні:

Вазьмі, маці, пяску жменю,
Пасей, маці, на каменю.
Як прыжджэшся з пяску ўсходу,
Тады верне сын з паходу [15, т. 3, с. 210].

У вершы ствараюцца злавесныя вобразы міфалагічных істот, груганоў, начніц, якія разам з нябеснымі знакамі прадвяшчаюць надыход трывожнага ваеннага часу. Яднае твор з традыцыямі народнай песні і характар рыфмоўкі — сумежная жаночая. Дадаковыя рытмастваральныя магчымасці набываюць цэзуры і нагнятанне сінтагматычных адрэзкаў, што стварае адчуванне хуткай змены кадраў жудаснай карціны ўпадку краю. Выдатна праяўляюцца ў якасці дадатковых рытмастваральных кампанентаў і магчымасці гукапісу (напрыклад, алітэрацыя ў наступных радках):

Ходзіць ходырам камета, —
Хвост яе — не дай ты Божа… [15, т. 3, с. 210]

Гарманізуе структуру верша рэфрэн «Што то будзе, што то будзе? Штось трывожны свет і людзі» і яго кальцавая кампазіцыя.

Другі верш цыкла «Песні вайны», «Прад бурай» [15, т. 3, с. 211], таксама напісаны чатырохстопным харэем. Твор надзвычай сімвалічны, «у алегарычных вобразах і малюнках даволі выразна выступаюць жудасныя супярэчнасці буржуазнага грамадства, якія непазбежна спараджаюць захопніцкія войны» [10, с. 475]. Пры падобным характары гучання дадзены верш выразна адрозніваецца ад верша «Прад бурай»: тут адсутнічаюць клічныя і пытальныя інтанацыі, сінтаксічны паралелізм і анафара накладаюць інерцыю на ўсю страфу, што паглыбляе сэнсававыяўленчыя і рытмалагічныя асновы твора:

Грамадзяцца цёмны хмары,
Грозяць сьвету страшнай карай,
Не супыняць ужо бітваў
Ні ўздыханні, ні малітвы [15, т. 3, с. 211].

Сапраўдным прыкладам наследавання традыцыі галашэння «маці-ўдоўкі» выступае верш «Засталіся нівы, сёлы» [15, т. 3, с. 215]. Зноў-такі прысутнічае народна-побытавая лексіка, характэрныя для гутарковага стылю граматычныя формы (ліпова, староны), словы з памяншальна-ласкальнай афарбоўкай (ночка, удоўка), у вобразнай сістэме вылучаецца фальклорная апазіцыя «калыска-дамавіна». Рытмічны лад верша вызначаецца выкарыстаннем сумежнай рыфмоўкі, абрывамі, багаццем інтанацый, лексічнымі паўторамі, градацыяй аднародных членаў:

Ночкай, вечарам, зарання
Маці-ўдоўка выйдзе, гляне,
Выйдзе, гляне — стане досіць...
Просіць Бога... не дапросіць:

«На каго ж Ты нас пакінуў?
Чаму ж лепей дамавіну
За калыску, за ліпову,
Ты ня даў нам дзеля хову?» [15, т. 3, с. 215]

Заключны верш цыкла «Песні вайны» — «Пабоішча», мае панарамны характар, «эпічныя малюнкі вайны падаюцца маштабна, жудасна — ва ўсёй сваёй антычалавечай сутнасці» [10, с. 475]:

І вось жніва, што за жніва!
Бокам, сторчам, проста, крыва —
Труп ля трупа, як калоды...
Што за сон, што за выгоды!
Не на смехі, не на жарт,
Ката — брат, кат брата варт! [15, т. 3, с. 217]

Верш падзелены на шасцірадковыя строфы, два апошнія радкі якіх быццам падсумоўваюць вышэй сказанае і адрозніваюцца ад папярэдніх чатырохрадкоўяў характарам рыфмоўкі (чатырохрадкоўі паяднаны жаночай рыфмай, двухрадкоўі — мужчынскай). Унутрырадковыя паўзы, багацце клічных інтанацый, частае супадзенне метрычнага націску з фанічным спрацоўваюць на карысць цалкам арганічнага і натуральнага гучання паэтычнага радка і, як следства, маюць вялікую сілу эмацыйнага ўздзеяння на чытача.

Аднак сілаба-танічная рэгулярнасць харэя ў Янкі Купалы можа цалкам падпарадкоўвацца прынцыпу ўдарнасці і, нягледзячы на прысутнасць харэічнай

кадэнцыі, вельмі выразна выступаюць асобныя словы з моцным націскам. Паэма «Бандароўна» [15, т. 6, с. 79—91] як нельга лепей выяўляе дадзеную заканамернасць. «У “Бандароўне” выразна ўгадваецца водгулле шаўчэнкаўскіх неспакойных інтанацый, энергічных рытмаў. Беларускі паэт, улічваючы вопыт украінскага класіка, шчодра выкарыстоўвае ўлюбёныя Шаўчэнкам формы верша. Вопыт фальклорны і вопыт літаратурны пасадзейнічалі глыбокаму ўвасабленню “Бандароўны”. Паэт паглядзеў на падзеі мінулага — і рэальныя, і народжаныя народнай фантазіяй — з вышыні сучаснасці», — заўважае М. Ярош [23, с. 7]. Зразумела, што пад «улюбёнай Шаўчэнкам формай верша» маецца на ўвазе акцэнтны каламыйкавы верш, які аказаўся надзвычай прыдатным для перадачы драматычнай напружанасці дзеяння, экспрэсіўнай кантраснай характарыстыкі герояў. Анжамбеман, сінкапіраванне ў клаўзулах, актыўнае вылучэнне ў рытмарадах сэнсава- і рытмаапорных слоў яскрава дэманструе сувязь з песеннай традыцыяй:

Уцякала Бандароўна
Ды паміж платамі,
А за ёю тры гайдукі
З голымі шаблямі.

Бегла поле і другое,
Ўзбегла і на трэцце,
Ды ўжо сілы не хапае
Далей так ляцеці [15, т. 6, с. 83].

Аб літаратурным пераасэнсаванні і ўзбагачэнні фальклорнага сюжэта сведчыць дэталёвая канкрэтызацыя дзеяння, выкарыстанне маналогаў, партрэтаў, простай мовы. «Форма 14-складовага ляонінскага, ці як называюць яго ўкраінцы, каламыйкавага, верша знайшла шырокае распаўсюджанне ў творчасці Шаўчэнкі і Купалы не таму толькі, што яна бытавала ў народна-песеннай паэзіі ўкраінцаў і беларусаў, але перш за ўсё таму, што нацыянальныя геніі ўкраінскага і беларускага народаў успрынялі гэтую вершаваную форму як адну з форм выяўлення характару народа і свайго ўласнага нацыянальнага характару» [20, с. 149]. І сапраўды, купалаўскі рамантызм з яго тонкім адчуваннем прыгажосці, справядлівасці, верай у моц і духоўнасць народа як ніколі дагэтуль арганічна ўвасобіўся ў першым буйным творы, напісаным паэтам танічным вершам — паэме «Бандароўна».

Пры разглядзе асобных вершаваных памераў танічны верш у зборніку «Спадчына» займае другое месцы пасля чатырохстопнага ямба (760 радкоў, або 13,3 % ад агульнай колькасці радкоў зборніка). Акрамя згаданага каламыйкавага верша, прадстаўлены таксама пяцiскладовік кальцоўскага тыпу і дольнік.

Аднаакцэнтны пяцiскладовік (пяцiскладовік кальцоўскага тыпу) — памер, уласцівы народнаму вершу, «адзін са старажытнейшых памераў некласічных памераў рускай паэзіі» [7, с. 278]. Развіўшыся з агульнаславянскага дзесяцiскладовіка, пяцiскладовік увайшоў у літаратуру праз імітацыю народнай песні. Акрамя А. Кальцова, пяцiскладовікам захапіліся іншыя рускія паэты XIX ст. — М. Цыганоў, І. Нікіцін, А. Талстой. У XIX ст. пяцiскладовікі распаўсюдзіліся і ў беларускай літаратуры. Прыклады двухакцэнтнага пяцiскладовіка знаходзім у Ф. Багушэвіча:

Выйшаў бы я ў гай, —
Чык-чырык дуба,
Аж ён граў бы, знай,
Як тая труба [3, с. 201].

Янка Купала выкарыстоўвае аднаакцэнтныя пяцiскладовікі. У вершы «Поле роднае», заснаваным на размоўна-бытавых, рэчытатыўных інтанацыях, выяўля-

ецца маштабнасць вобразных параўнанняў: камяністае поле ўвасабляе сабой усе цяжкасці і перашкоды на жыццёвым шляху селяніна. Прысутнасць аднаго моцнага націску ў радку дазваляе максімальна падкрэсліць значныя ў сэнсавых адносінах словы, анафарычны паралелізм, звароты надаюць вершу яшчэ большую энергію:

Ты і пелікай,
Ты і каменем
Апрыгожылась,
Поле роднае.

Ты і вёскаю,
Ты і горадам
Абнядолілась,
Поле роднае [15, т. 1, с. 148].

Большую блізкасць да фальклорнай вобразнасці заўважаем яшчэ ў адным купалаўскім пяціскладовіку кальцоўскага тыпу «З песень нядолі». Выяўляецца гэта ў выкарыстанні ўстойлівых фальклорных параўнанняў («рэчкай льецца кроў»), аднародных радоў (голад-холад), слоў з памяншальна-ласкальнымі суфіксамі (сіротанька), выклічнікаў. Як і ў першым прыкладзе, гарманізуе структуру анафарычны паралелізм:

Колькі жудкага,
Колькі горкага
Зла ўсялякага
Ходзіць, поўзае! [15, т. 1, с. 148].

Яшчэ адной формай танічнага верша ў зборніку «Спадчына» выступае дольнік, прычым, у даволі значным аб'ёме: дадзеным вершаваным памерам напісаны асобныя раздзелы паэмы «Яна і я» [15, т. 6, с. 106—120]. Дольнік — гэта своеасаблівая пераходная форма ад сілаба-танічнай да танічнай сістэмы вершавання. Маючы даўнюю гісторыю станаўлення і карані ў народнай песні, дольнік сваю літаратурную форму на Беларусі набывае ў канцы XIX — пачатку XX ст. у творчасці Янкі Лучыны, Цёткі. Працягваюць дадзеную традыцыю Янка Купала, М. Багдановіч, Міхась Чарот. Аднак Янка Купала ўсё ж такі не адразу прымае чысты дольнік. Паэма «Яна і я» вызначаецца сінтэзам, творчым паяднаннем дольніка з класічнымі сілаба-танічнымі формамі. Сустракаем у творы строфы, цалкам вытрыманыя па правілах ямбічнага памеру (у першы раздзеле «Стрэча»):

На крыжавых пуцінах з ёй сустрэўся —
Куды ісці, не ведала яна,
І я не ведаў — ў полі я ці ў лесе,
І мне ляжала сцежка не адна [15, т. 6, с. 106].

Як бачым, тут і далей пры апісанні шчаслівай сустрэчы і першых радасцей маладых Янка Купала карыстаецца гарманічнай структурай ямбічных памераў, доўгай творчай практыкай замацаваных за рамантычнымі паэмамі. Аднак ужо ў чацвёртым раздзеле паэмы, «За кроснамі», дзе мы знаходзім «бадай, адзіны выпадак у паэтычны эпасе Купалы, калі такая ўвага ўдзяляецца бытавой рэчы, дэталі (чаўнок, ніты, бёрда, уток)» [2, с. 30], структура ямбічнага памера разбураецца, галоўнымі становяцца моцныя націскі ў радках, якія яшчэ больш падкрэсліваюць, выдзяляюць значнасць мастацкіх дэталяў, якія «настолькі каларытна адухоўленыя лірычным бачаннем паэта, што нярэдка становяцца шматзначным вобразам з багатым падтэкстам» [2, с. 30]:

Садзіцца мае сэрца-ткаля ў кросенкі,
Набіліцамі громка б'е,
Кладуцца ўтоку гусьценька палосанькі,
Сучу я цэўкі для яе [15, т. 6, с. 109].

Такім чынам, сінтэз сістэм вершавання ў межах адной паэмы дэманструе, магчыма, яшчэ больш плённае развіццё суладных адносін паміж зместавым і фармальным бакамі купалаўскай паэзіі, чым у межах монарытмічнай кампазіцыі паэм «Курган», «Магіла льва», «Бандароўна».

З узрастаннем лірызацыі творчасці Янкі Купалы назіраецца некаторае змяншэнне долі трохскладовых памераў. У зборніку колькасна вылучаюцца толькі амфібрахічная кадэнцыя (15,9 % ад агульнай колькасці). Чатырохстопным амфібрахіем напісаны раннія паэмы Янкі Купалы — «Зімой», «Адплата кахання», якія, паводле сведчання аўтара, узнікалі з жыццёвых фактаў. Гэта цалкам заканамерна, бо звязаны з гутарковай традыцыяй амфібрахій лічыцца найбольш прыдатны для «няспешнага апавядання, развагі» [18, с. 39]. У духу народных паданняў, рамантычных балад напісаны і верш «Забытая карчма» [14, т. 1, с. 152]. Апавядаючы жудасную гісторыю сямейнага забойства, Янка Купала ўводзіць алегарычныя вобразы, якія адсылаюць да вобразнасці цыкла «Песні вайны»: здані, груганнё. Абрывы, гукаперайманні, клічная інтанацыя, простая мова, чарнаванне чатырох- і трохскладовых радкоў амфібрахія ўтвараюць дадатковае напружанне, перадаюць трагічнасць успрымання падзей:

Вось поўнач... Звон чарак... Смех, крыкі, кляцьба...
Не сцяміш, дзе свой, дзе чужы..
Гахх!.. цвякнуў тапор... Міг, знямела гульба...
Ляжыць труп, як крыж на мяжы... [15, т. 1, с. 152].

Падобнай танальнасцю вызначаюцца вершы «Казка аб песні» [15, т. 3, с. 183], «Страшны вір» [15, т. 3, с. 191], «Першы снег» [15, т. 4, с. 46] і інш.

Такім чынам, Янка Купала сваім чацвёртым зборнікам замацаваў распачатую раней лінію распрацоўкі і ўдасканалення асноўных сілаба-танічных памераў. Перавага ямбічных памераў сведчыць пра яскравую арыентацыю паэта на класічныя літаратурныя традыцыі, агульную дынаміку развіцця жанравых форм. Выкарыстанне двухскладовых памераў для буйных паэтычных форм — заканамерная з’ява, якая паступова прасочваецца ад зборніка да зборніка (за выключэннем ранніх этапаў творчасці). Аднак Янка Купала «не абмяжоўвае сябе выключна адной сістэмай, а, арыентуючыся на лепшыя літаратурныя і фальклорныя традыцыі, спрабуе пашырыць выяўленчыя магчымасці беларускага верша, яго поліметрычныя тэндэнцыі» [9, с. 181]. Тэндэнцыі да танізацыі верша, паяднання вусна-паэтычных традыцый з пісьмовай літаратурай канчаткова ўсталёўваюцца. Набываюць пашырэнне ў творчай спадчыне новыя віды літаратурнага танічнага верша: пяцiскладовік кальцоўскага тыпу і дольнік. Вялікім дасягненнем Янкі Купалы з’яўляецца арганічнае паяднанне зместу і рытму, гармонія формы і зместу. Ускладняецца кампазіцыя вершаў, з’яўляюцца новыя віды рыфмоўкі і не асвоеныя раней паэтам, рэдкія для беларускай літаратуры, вершаваныя памеры. «Элементы публіцыстычнасці спалучаюцца цяпер з багаццем і арыгінальнасцю ўласна-нацыянальных традыцый лірычнай паэзіі, яе самабытнасцю і непаўторнасцю». [9, с. 161].

## Спіс літаратуры:

1. Адраджэнне: Літаратурна-навуковы веснік Інстытута Беларускай культуры / рэд. Я. Лёсік. — Мінск: Адраджэнне, 1922. Сш.1. — 301 с.

2. Арочка, М. М. Беларуская савецкая паэма / М. М. Арочка. — Мінск: Навука і тэхніка, 1979, — 333 с.

3. Багушэвіч, Ф. Творы: Вершы, паэма, апавяданні, артыкулы, лісты / Ф. Багушэвіч — Мінск: Маст. літаратура, 1991.— 289 с.

4. Бярозкін, Р. С. Свет Купалы. Звенні / Р. С. Бярозкін. — Мінск: Маст. літаратура, 1981. — 570 с.

5. Гапава, В. І. «Спадчына» / В. І. Гапава // Янка Купала: энцыкл. даведнік / рэдкал.: І. П. Шамякін (гал. рэд.) і інш. — Мінск: БелСЭ, 1986. — 727 с.

6. Гаспаров, М. Л. Метр и смысл: об одном механизме культурной памяти / М. Л. Гаспаров. — М.: РГГУ, 2000. — 297 с.

7. Гаспаров, М. Л. Очерк истории русского стиха: Метрика. Ритмика. Рифма. Строфика / М. Л. Гаспаров. — 2-е изд. (доп.). — М., 2000. — 321 с.

8. Гніламёдаў, У. В. Янка Купала: Новы погляд: дапам. для настаўніка / У. В. Гніламёдаў. — Мінск: Нар. асвета, 1995. — 176 с.

9. Грынчык, М. М. Шляхі беларускага вершаскладання / М. М. Грынчык. — Мінск: Выд-ва БДУ імя У. І. Леніна, 1973. — 264 с.

10. Грынчык, М. М. «Песні вайны» / М. М. Грынчык // Янка Купала: энцыкл. даведнік / рэдкал.: І. П. Шамякін (гал. рэд.) і інш. — Мінск: БелСЭ, 1986. — 727 с.

11. Ермаловіч, М. І. «З дня ў дзень» / М. І. Ермаловіч // Янка Купала: энцыкл. даведнік / рэдкал.: І. П. Шамякін (гал. рэд.) і інш. — Мінск: БелСЭ, 1986. — 727 с.

12. Казека, І. Д. «Груган і салавей» / І. Д. Казека // Янка Купала: энцыкл. даведнік / рэдкал.: І. П. Шамякін (гал. рэд.) і інш. — Мінск: БелСЭ, 1986. — 727 с.

13. Кліменка, Н. С. «Куды ты рвешся?» / Н. С. Кліменка // Янка Купала: энцыкл. даведнік / рэдкал.: І. П. Шамякін (гал. рэд.) і інш. — Мінск: БелСЭ, 1986. — 727 с.

14. Коваль, У. І. Народныя ўяўленні, павер'і і прыкметы: даведнік па ўсходнеславянскай міфалогіі / У. І. Коваль. — Гомель: ИММС НАНБ, 1995. — 341 с.

15. Купала, Я. Поўны збор твораў: У 9 т. / Я. Купала. — Мінск: Маст. літаратура, 1995—2003.

16. Ларчанка, М. Р. Янка Купала і традыцыі рускай класічнай літаратуры / М. Р. Ларчанка // Песні беларускай валадар / рэдкал.: А. А. Лойка (гал. рэд.) і інш. — Мінск: Выд-ва БДУ, 1981. — 161 с.

17. Піятуховіч, М. Асноўныя этапы развіцця лірыкі Янкі Купалы / М. Піятуховіч // Янка Купала ў літаратурнай крытыцы / пад рэд. З. Жылуновіча, М. Байкова. — Мінск: Белар. дзярж. выд-ва, 1928. — 259 с.

18. Рагойша, В. П. Амфібрахій / В. П. Рагойша // Янка Купала: энцыкл. даведнік / рэдкал.: І. П. Шамякін (гал. рэд.) і інш. — Мінск: БелСЭ, 1986. — 727 с.

19. Рагойша, В. П. Ямб / В. П. Рагойша // Янка Купала: энцыкл. даведнік / рэдкал.: І. П. Шамякін (гал. рэд.) і інш. — Мінск: БелСЭ, 1986. — 727 с.

20. Ралько, І. Д. Шаўчэнка і Купала: ля вытокаў беларускага і ўкраінскага акцэнтнага верша / І. Д. Ралько // Маладосць. — 1967. — № 7. — С. 149 — 154.

21. Тарасюк, Л. К. «Песня» / Л. К. Тарасюк // Янка Купала: энцыкл. даведнік / рэдкал.: І. П. Шамякін (гал. рэд.) і інш. — Мінск: БелСЭ, 1986. — 727 с.

22. Харлап, М. Г. О стихе / М. Г. Харлап. — М.: Худож. лит., 1966. — 150 с.

23. Ярош, М. Р. Янка Купала і беларуская паэзія / М. Р. Ярош. — Мінск: Навука і тэхніка, 1971. — 234 с.

Артыкул паступіў у рэдакцыю 20 лістапада 2015 года.

**Юлія АЛЕЙЧАНКА**

## Цэласны жывы арганізм: рытма-метрычная разнастайнасць зборніка «Спадчына» Янкі Купалы

### Рэзюмэ

Артыкул прысвечаны аналізу рытмічных і метрычных асаблівасцей зборніка «Спадчына» Янкі Купалы ў кантэксце ранейшай творчасці паэта і славянскіх паэтычных традыцый. Суадносяцца паняцці «рытм» і «сэнс», «метр» і «сэнс». Робіцца выснова аб заканамернасцях засваення Янкам Купалам прынцыпаў сілаба-танічнага вершавання, стварэння літаратурнага танічнага верша. Упершыню праводзіцца даследаванне верша Янкі Купалы ў рамках комплекснага шматаспектнага падыходу. Улічваецца адрозненне функцыянальных і структурных характарыстык метрычнага і рытмічнага ўзроўняў вершаванай арганізацыі.

**Ключавыя словы:** метр, памер вершаваны, харэй, ямб, дактыль, амфібрахій, анапест, танічны верш, рытм, рытмастваральныя кампаненты, сістэма вершавання.

**Yuliya ALEICHANKA**

## A complete living organism: rhythmometric diversity of Yanka Kupala's book «Spadchyna»

### Summary

The article is written about an analysis of rhythmic and metric features of the book «Spadchina» in the context of previous Kupala's works and slavic poetic traditions. The author correlates notions «rhythm» and «sense», «metre» and «sense», and concludes the regularity of development of Yanka Kupala accentual-syllabic verse principles, a literary tonic verse creation. For the first time a study of the verse of Yanka Kupala is carried out in an integrated multi-dimensional approach. In the same way functional and structural characteristics of the metric and rhythmic verse levels are taken into account.

**Key words:** meter, foot, trochee, iambus, dactyl, amphibrach, anapaest, accentual verse, rhythm, rhythm-forming elements, the system of versification.



Сцяпан ЛАЎШУК

# УЗОРВАЮЧЫ АГРЭХІ ЭПОХІ

Быў час, быў век… І была эпоха, якую не ўсе сучасныя беларусы ўспрымаюць адэкватна. Большасць маладзейшых — з-за адсутнасці жыццёвага досведу і аб'ектыўнай інфармаванасці, некаторыя ж старэйшыя — з-за ідэалагічнай заангажаванасці і палітычных прымхаў. Зрэшты, пэўныя карэктывы ў яе ацэнках вымушаны рабіць нават тыя, хто прывык давяраць гістарычнай праўдзе — ХХ стагоддзе на Беларусі пры ўсёй сваёй неаспрэчнай крэатыўнасці адзначылася і пераборам — не заўсёды, дарэчы, апраўданым — брутальнасці. Само сабою зразумела, што насяляў наша краіну тым часам люд самы разнастайны, якому нішто чалавечае чужым не было. Важна тое, што аснову яго складала здаровая жыццядайная бальшыня, што ў народзе жыла шчырая вера ў светлае будучае, якая вызначала сацыяльны аптымізм, надавала штодзённаму існаванню пэўную матываванасць, а працоўнай дзейнасці — мэтава-стваральны кшталт. Што ж датычыцца папрокаў у саўковасці і сервільнасці, дык хай яны застануцца на сумленні тых нядобразычліўцаў, якія па розных прычынах спрабуюць густа замазаць наша мінулае чорнымі фарбамі. Факт жа застаецца фактам: пабудавалі ўсё ж беларусы на сваіх шматпакутных землях суверэнную дзяржаву! І ў асноўным — за ХХ стагоддзе, ператварыўшы тло гістарычнага мінулага ў трывалы падмурак. І не рабамі гэта зроблена, паколькі рабы таму і рабы, бо не маюць дзяржаўніцкіх інтэнцый. Беларусь паўстала з небыцця дзякуючы свабоднай тытанічнай працы лепшых яе сыноў. Колькасць іх — легіён. Таленавітыя і самаахвярныя, яны зрабілі вялікі ўклад у развіццё і духоўнай, і матэрыяльнай культуры народа. Менавіта яны прэзентуюць эпоху, без іх яна — гістарычны фантом, і не больш.

Мэтай гэтай публікацыі з'яўляецца вельмі сціплая задача даць некалькі штрыхоў да сацыяльна-літаратурнага партрэта аднаго з такіх працаўнікоў — Андрэя Ягоравіча Макаёнка, якому 12 лістапада 2015 года споўнілася б 95 гадоў.

У анкеце ўдзельніка адной з маскоўскіх канферэнцый Усесаюзнага тэатральнага аб'яднання ў графе «партыйнасць» ён дапісаў: «Коммунист. По убеждению». Па перакананні… Сапраўды, такім ён і быў. Але вось што цікава. Гэтую сваю перакананасць у жыццёва-побытавых стасунках ніколі не пракламаваў. Славесна. Затое справамі — заўсёды. Натура цэласная, глыбінна-сумленная, ён вельмі не любіў слова «амаль». «Ты толькі паслухай, — саркастычна пацяшаўся ён, — «амаль крыштальна-чысты», «амаль святы», «амаль разумны», «амаль непераможны»… Пяць літар у слове, а што яно вытварае! «Амаль камуніст»… Папомніш маё слова: вось гэтыя дзелякар'ерныя партбілетчыкі моцна дадуцца народу ў знакі. Проста дзіўна, як яны хутка размнажаюцца, а яшчэ хутчэй апетыты ў іх растуць…»

Як у ваду глядзеў А. Макаёнак! І народ ён узгадваў у такім кантэксце не пустаслоўна. Час паказаў, што ён глыбей за палітолагаў і іншых аналітыкаў разумеў тагачасныя грамадска-палітычныя працэсы, таму прадчуваў насоўванне на Беларусь паласы лёсавызначальных сацыяльна-эканамічных выпрабаванняў, пертрусаў. Гэтае разуменне межавала з празарлівасцю, народжанай вялікай любоўю да Радзімы, шчырай трывогай за яе лёс і будучыню, клопатам пра лепшую долю

сваіх землякоў. Невыпадкова ж адна з яго п’ес называлася «Каб людзі не журыліся». І вось што дзіўна: хоць і быў ён па сваім творчым амплуа сатырыкам, а ў абыходжанні з людзьмі дастаткова стрыманым (яго пастаянная іранічнасць, як правіла, не пераступала пэўныя межы этыкету), у выражэнні ўласных пачуццяў да Радзімы не саромеўся быць і сентыментальна-чуллівым. Вось, напрыклад, як пачынае ён камедыю «Таблетку пад язык»:

«Хай будзе песня. Хай дзяўчаты яе спяваюць. Задушэўна. Мякка.

Люблю мой край, старонку гэту,
Дзе я радзілася, расла,
Дзе першы раз пазнала шчасце,
Слязу нядолі праліла.

Кожны раз, калі я пачую гэтую песню, перада мною ўзнікае, як дзівосны міраж, як дзіцячая казка, вобраз майго роднага сяла, і сэрца пачынае шчымець радасцю жаданай сустрэчы… І няважна — даўно я там быў ці толькі ўчора адтуль.

Не, не забыць мне яго ніколі. Там — радзіма. У душы яна. У памяці. У снах неспакойных. У пастаянным чаканні няясна чаго, у спадзяванні на нешта харошае, радаснае. Нібы вясну чакаю з цёплым ветрыкам і дожджыкам. А можа, першых усходаў, якія потым гіпнатычна вабяць твае вочы, твой пагляд, аж пакуль бледненькія расточкі паднімуцца сцебелькамі, а з іх ускалыхнуцца буйныя каласы — надзея і радасць сялянская…

Прыплюшчыш іншы раз вочы, і перад табою ўзнаўляюцца некалі бачаныя ці міжволі падслуханыя вячэрнія сельскія маленькія інтэрмедыі. Яркія, сакавітыя…

Вось яны.

Вясна.

Вечар.

Месячык. У нас яшчэ яго маладзіком завуць.

Зорак — поўны кош.

А гукаў!..

Здаецца, усе млеюць ад нейкіх салодкіх пакут жадання: і звонкія цвыркуны, і галасістыя лягушкі, і камары з далікатнымі скрыпкамі. А то раптам, спрасоння ці ад нуды, лянiва завые сабака ці цяжка-цяжка ўздыхне сумная, журботная карова.

А ля самых гарадоў плешчацца ў цемені вясенняя паводка. І гракі… Грачыны грай!..»

Зрэшты, нічога дзіўнага ў гэтых словах няма. Любоў і павінна выражацца ў такой танальнасці, бо якая ж любоў без цёплай замілаванасці, ласкавай захопленасці, адданай вернасці? Іван Шамякін сцвярджаў, што менавіта любоў была сутнасцю жыцця і дзейнасці А. Макаёнка. «Любоў з вялікай літары. Любоў да жыцця. Жыццё любяць усе, аднак любяць па-рознаму. Андрэй любіў яго як змагар, даследчык, пераўтваральнік, нястомны барацьбіт за яго чысціню і прыгажосць». Пагадзіўшыся з гэтымі высновамі, зазначым, што дзеля таго, каб выступаць даследчыкам, пераўтваральнікам жыцця, стаць нястомным змагаром і барацьбітом за яго чысціню і прыгажосць, трэба быць неардынарнай асобай з вельмі моцным характарам. Усё гэта ў А. Макаёнка было. З запасам. І хто ведае, адкуль што ўзялося. Падарунак прыроды ў выглядзе генетычнай спадчыны? Не без таго. Невыпадкова ж абодва родныя браты і сястра таксама бесхрыбетнымі не былі. Але не больш. Андрэй жа, бадай, з самага дзяцінства імкнуўся шліфаваць свой характар. Мэтанакіравана. Заложна. Матывавана. Узяць хоць бы аказію з пачаткам школьнага навучання. У 1927 годзе ў вёсцы Борхаў адкрылася пачатковая школа. Сябры расселіся па класах, а Андрэя не прынялі: аказаўся замалады — ажно двух месяцаў не хапала да сямі год. Іншае дзіцянё змірылася б, чакала б наступнага лета. Толькі не Андрэй. Дзень у дзень, штораніцы, браў ён палатняную торбачку з букварам і сшыткамі ды шыбаваў да школы. Сядзеў пад

вокнамі, часам зазіраючы ў іх, чым выклікаў ажыўленне ў класе. Настаўніцы гэта не вельмі падабалася, але калі пачаліся замаразкі, яна злітасцівілася. Упусціла малога назолу ў клас, папярэдзіўшы, што толькі старанная вучоба забяспечыць яму сталае месца за партай. І ён стараўся, у класе таму і прыжыўся.

Тут напрошваецца сусальны працяг: і вучыўся настойлівы хлапчук толькі на «выдатна». Каб жа так! Прызнацца, аўтар гэтых радкоў быў вельмі расчараваны, калі, адшукаўшы ў архіве ведамасць паспяховасці А. Макаёнка за трэці клас, убачыў там вялікую перавагу адзнак «здавальняюча». Але! Знайшліся ў архіве і іншыя дакументы, якія засведчылі: вырваўся ён і ў перадавікі, закончыўшы Журавіцкую сярэднюю школу сярод лепшых яе выпускнікоў. Гэты поспех сам сабою не прыйшоў, давялося добра-такі папрацаваць. У сярэдзіне 1930-х гадоў Макаёнкі перабраліся на сталае жыццё ў раённы цэнтр Журавічы. Побыт сям'і змяніўся не дужа значна: у вялікай вёсцы Журавічы, як і раней у маленькім Борхаве, каб выжыць, пракарміцца, трэба было трымацца за асабістую гаспадарку, догляд якой вымагаў шмат высілкаў і часу. З сямейнікамі Андрэй заключыў джэнтльменскае пагадненне: ад дамашняй працы ён не ўхіляецца, але па выкананні вызначанай яму яе часткі атрымлівае суверэнную свабоду дзеля адукацыйных заняткаў. Сюды ўваходзілі не толькі агульнаасветніцкія «штудыі», але і заняткі жывапісам і разьбой па дрэве. Дарэчы, з ліповага пацурбалка ён латва выразаў моцна сціснуты кулак у камбінацыі з трох пальцаў. Абклаўшыся кнігамі, ён выстаўляў на стале тую «фігу на талерцы» ў бок дзвярэй, і ўсе ведалі: ні просьбамі, ні грозьбамі ад любімых заняткаў яго не адарваць. З усіх журавіцкіх сцежак найлепей пратаптаў ён сцежку ў раённую бібліятэку. Хіба што аднакласнік Пятро Васілеўскі, у будучым пісьменннік і кінарэжысёр, мог параўнацца з ім па колькасці прачытанага. Нават фізічная загартоўка — важнейшы атрыбут самавыхавання моладзі перадваеннай пары — саступала магіі чытання. Не было праблем і з так званай прафарыентацыяй. Культура. Мастацтва. Творчасць. Менавіта з гэтымі сферамі марыў юнак звязаць сваё жыццё. Утапічнай такая мара не была, але калі ўлічыць яго сельскае паходжанне, дык інакш як рамантычнай назваць яе было нельга. Творцамі, мастакамі нараджаюцца. Гэта калі на ўзроўні адоранасці, прызвання. А калі па прафесіі — становяцца. Але паспрабуй — стань, калі твая стартавая пляцоўка знаходзіцца надта ж далёка ад культурных цэнтраў. Ці не ўсведамленне гэтай ісціны падказала А. Макаёнку рашэнне паступаць пасля заканчэння ў 1938 годзе Журавіцкай сярэдняй школы ў ваеннае вучылішча: лепш сініца ў руках, чым жуpавель у небе. Паступіць паступіў, але прыжыцца там не здолеў. У яго, вольналюбівага, з пачуццём уласнай годнасці кніжніка-летуценніка элементарна не хапіла духу трываць казарменную дысцыпліну. Вось і «паспавядаў» аднаго залішне ўедлівага памкамузвода па поўнай праграме. Той паскардзіўся начальству. Маглі б і засудзіць, але паколькі прысягу прыняць яшчэ не паспеў — адпусцілі па-добраму дадому. Не, ніколі той не ўтопіцца, каму суджана згарэць у агні: покліч сапраўднага прызвання, а не толькі пачуццё ўласнай годнасці стаў прычынай бунту.

Што гэта так, сведчаць наступныя біяграфічныя крокі А. Макаёнка. Працаваць ён уладкаваўся ў раённы Дом сацыялістычнай культуры, а паступаць праз год паехаў не абы-куды, а ў Маскву, у славуты Інстытут кінематаграфіі. Не прынялі. І гэта не дзіўна, бо ён, правінцыя, пра некаторыя спецiспыты нават не чуў. Але нечым таленавіты юнак з Беларусі спадабаўся прыёмнай камісіі, яго запрасілі паступаць на наступны год, узяўшы «на заметку». Хто ведае, як бы ўсё было, але выйшла ўрадавая пастанова, паводле якой юнакі з сярэдняй адукацыяй прызываліся ў Чырвоную армію на адзін год раней. Вось і А. Макаёнку ў кастрычніку 1939 года давялося апрануць салдацкі шынель. Служыў спачатку на Каўказе, у Грузіі, якая — з яе скаламі ды цяснінамі — здалася ледзь не казачнай краінай. Гэта пакуль не пачаліся паходы з поўнай баявой выкладкай, з частымі начнымі баявымі трывогамі, з капаннем акопаў у камяністай глебе. Прызначэнне памочнікам палітрука роты яшчэ дадало клопатаў: засталася ўсё тая ж салдацкая ношка,

а прыплюсаваўся абавязак выпускаць баявыя лісткі, чытаць чырвонаармейцам свежыя газеты, праводзіць з імі гутаркі, паказваючы пры гэтым «узоры бадзёрасці і аптымізму». Служыў, сніў родную Борхаўшчыну і зусім не думаў, што самае цяжкае ўперадзе.

Пачатак кожнай чаканай з'явы псіхалагічна ўспрымаецца часцей за ўсё поўнай нечаканасцю. Усе, выключаючы хіба што закончаных пацыфістаў, ведалі, што ваеннага канфлікту паміж СССР і фашысцкай Германіяй пазбегнуць не ўдасца, але нават для кадравых ваенных пачатак вайны ўспрыняўся як гром з яснага неба. Яшчэ большай нечаканасцю сталіся татальныя няўдачы нашай арміі, бо свята верылі ў свае сілы і спадзяваліся на класавую салідарнасць нямецкіх рабочых і сялян. Многае выклікала недаўменне. У жніўні 1941 года дывізію, у якой служыў А. Макаёнак, кінулі да іранскай граніцы, каб апярэдзіць пранікненне туды фашысцкіх войскаў. Салдатам здавалася, што вядуць іх не туды: не там ішла сапраўдная вайна, не там здаваліся савецкія гарады. Туды — не туды… Паслалі і «туды» — у пекла крымскага дэсанта. І адбылося гэта перад самым новым годам, калі ўсе савецкія людзі (ды і шмат хто за мяжой) жылі пад моцным уражаннем ад разгрому немцаў пад Масквой. На жаль, крымскі дэсант такім паспяховым не быў. Больш за тое, А. Макаёнак лічыў гэту аперацыю самай бяздарнай за ўсю ваенную кампанію, стратэгічна непатрэбнай і злачыннай па панесеных стратах. За ім асабіста смерць хадзіла літаральна па пятах. Асабліва блізка адчуў яе дыханне 4 красавіка 1942 года. Падняўшы байцоў у чарговую атаку, быў аглушаны выбухам варожай міны. Адчуўшы, што паранены, паспрабаваў схавацца ў свежай варонцы. Аскепкамі яшчэ адной міны секанула ўжо па абедзвюх нагах…

Палату ваенна-палявога шпіталя без дрогкага хвалявання ўспамінаць не мог. Знясільваючы боль пераносіў стойка, нават пажартаваць з сябе і са сваіх суседзяў спрабаваў. Заглушаць боль дапамагала чытанне «Энеіды» Катлярэўскага, якую прынёс яму ўрач Аляксей Данілавіч Бугаенка — добрая, чулая душа, — які нават у такім пекле не страціў здольнасці суперажываць, блізка да сэрца прымаць лёс і будучыню кожнага параненага. Гэта ён па сакрэце падказаў маладому беларускаму хлапчыне, што яму пагражае ампутацыя абедзвюх ног і што ногі можна выратаваць. Вопытны ўрач быў перакананы, што калегі, якія вызначылі гангрэну, памыліліся: ногі пачарнелі таму, што былі вельмі густа пасечаны аскепкамі ды з-за элементарнага забруджання ран.

Сваю адмову ад ампутацыі А. Макаёнак паспяхова «аргументаваў» пры дапамозе трафейнага пісталета, якога ўмудрыўся пранесці з сабою ў шпіталь. І тут пачаліся сапраўдныя кашмары. Ні піць, ні есці ён не мог, бо баяўся, што падсыплюць снатворнага — і на стол, пад пілу. Высокая тэмпература, гарачка, трызненні… «Рэзаць не дам! Не дамся!..» І невядома, чым бы ўсё скончылася. Хутчэй за ўсё — вельмі кепска. Але на пазіцыі дэсанта прызямліўся — дзеля дазапраўкі — самалёт, які вывозіў з варожага тылу параненага партызанскага камандзіра. У ім знайшлося месца і для ўпартага палітрука. Пасля некалькіх складаных аперацый у Краснадарскім і Бакінскіх шпіталях ён яшчэ не ведаў, што вайна, дакладней, ваенныя дзеянні для яго асабіста — у мінулым. А на фронт хацелася вельмі — цяпер да фашызму з'явіліся і асабістыя рахункі. І ўсё нібыта складвалася нармальна. Пасля чатырохмесячнага лячэння са шпіталя яго выпісалі, перад адпраўкай на фронт далі кароткачасовы водпуск (на жаль, паехаць дамоў не мог — акупацыя). Але раны адкрыліся зноў. Пра фронт не магло быць і гаворкі. Замест яго — выкладанне ваеннай справы ў Акаурцкай сярэдняй школе ў Грузіі.

І распалавініўся для яго свет на дзве нераўназначныя часткі: на «тут» і «недзе». Тут — хай сабе і не чужы, але і не родны край (прырода казачнай ужо не здавалася). А недзе ішла грандыёзная бітва з фашысцкай ардой, а родная Борхаўшчына стагнала пад пятой акупантаў. Як рвалася яго душа да таго «недзе»! І як радасна ўстрапянулася яна ад паведамленняў ТАСС аб вызваленні першых беларускіх гарадоў! Дамоў! Яму, бітаму-перабітаму ў баях з фашыстамі, моцна

абпаленаму пякельным полымем франтавых выпрабаванняў, родная Беларусь з адлегласці ў тысячы кіламетраў убачылася ў сакральным арэоле. Ён не саромеўся староннiх цікаўных позіркаў, калі, саскочыўшы са спадарожнага грузавічка і моцна сціснуўшы зубы, каб не разрыдацца, шчыльна прыпаў грудзьмі да роднай зямелькі. Ён яшчэ не ведаў, як складзецца яго будучае жыццё. Адно для яго было зразумела як двойчы два: краіна, якая прайшла праз такія жахлівыя выпрабаванні, вынесла столькі неймаверна жорсткіх пакут, мірным часам мусіць жыць у атмасферы дабра, святла і справядлівасці, а ён, селянін і воін Андрэй Макаёнак, зробіць усё магчымае і немагчымае, каб так і было. Выконваючы гэты запавет, ён пазней сатырычным жыгалам паражаў зло ў імя дабра, цемрашальства — у імя святла, гнюснасці беззаконня — у імя справядлівасці. Адстойваючы ўсё тую ж справядлівасць, ён мог безаглядна атакаваць любога начальніка, прадстаўніка нават самай высокай улады. Неаднойчы пабываўшы ў абдымках смерці, ён зрабіў выснову аб адноснасці ўсяго існага. Узяць тую ж уладу. Розныя там цары, каралі, султаны, прэзідэнты з прэм’ерамі карыстаюцца толькі сімвалам, прывідам улады, а сапраўднай уладай валодае Вялікая Жанчына па імені Смерць. І няма чаго баяцца простых або прыўладных смертных, калі не заўсёды і не для ўсіх сама смерць не страшная.

Абжывацца на знявечанай вайною зямлі было надзвычай цяжка, паўсюль былі апустошэнні і нястачы. Хоць вайна яшчэ не закончылася, трэба было вызначыцца са сваім будучым. Даваенная мара атрымаць адукацыю ажыла з новай сілай. Але суровая рэчаіснасць ваеннага часу дыктавала свае ўмовы. Людзей катастрафічна не хапала, таму адукаванага юнака «прымервалі» да розных пасад. Спачатку працаваў у Журавіцкай СШ ваенруком, потым быў абраны сакратаром мясцовага райкама камсамола. Можна толькі падзівіцца, як пакручаста вымалёўваў яму лёс жыццёвыя дарогі: слухач курсаў прапагандыстаў пры ЦК КПБ (снежань 1944 — студзень 1945 гг.), сакратар Гродзенскага гаркама камсамола (люты — жнівень 1945 г.), загадчык парткабінета Магілёўскага чыгуначнага вузла (жнівень 1945 — чэрвень 1946 гг.), памочнік першага сакратара Журавіцкага райкама партыі (чэрвень—верасень 1946 г.). Усе гэтыя перамяшчэнні выклікаліся аб’ектыўнымі, а часам нават трагічнымі абставінамі. Пераехаць з Гродна ў Магілёў вымусіла вялікая бяда: у стане пасляродавай гарачкі скончыла жыццё самагубствам сястра Моця; груднічок-пляменнік застаўся круглым сіратой, паколькі за тыдзень да яго нараджэння ад хуткацечнай чахоткі памёр і яго бацька — былы камандзір партызанскага атрада Бархозаў; трэба было працаваць бліжэй да дому, каб хоць харчамі ў той галодны час дапамагаць сваёй маці ўздымаць на ногі няшчаснае дзіцянё. У працоўных клопатах праляталі дні за днямі, а ў душы ніяк не знікала трывога ад усведамлення ўласнай бездапаможнасці. Усе гэтыя перамяшчэнні па службовай лесвіцы ўяўляліся яму хаатычнымі, бесперспектыўнымі. Вучыцца, трэба абавязкова атрымаць сістэматызаваную адукацыю, бо без яе ў літаратуры рабіць няма чаго. Ужо і месца вучобы прыгледзеў: Рэспубліканская партыйная школа пры ЦК КПБ. Аддзяленне журналістыкі. У верасні 1927 года яго не пускалі ў пачатковую школу, бо не хапала гадоў. У верасні 1947 года не пускалі ў партыйную школу, бо не хапала кадраў на раёне. Пусцілі: у сваім імкненні трапіць на вучобу А. Макаёнак быў такі настойлівы, што справа дайшла да ЦК КПБ, і ў сярэдзіне верасня, калі заняткі ўжо ішлі поўным ходам, як і дваццаць год назад, над ім злітаваліся, дазволілі вучыцца, пусцілі ў аўдыторыі РПШ.

Стык 1940—1950 гг. — вельмі цікавы ў творчай біяграфіі А. Макаёнка. Тым часам ён шмат пісаў. Паколькі напісанае яго не вельмі задавальняла, з друкаваннем не спяшаўся. Выключэнне зрабіў толькі для аднаактоўкі «Добра, калі добра канчаецца», адзначанай другой прэміяй на Рэспубліканскім конкурсе лепшых драматургічных твораў за 1946 год. Яе апублікаваў у «Чырвонай змене» за 13 ліпеня 1946 года. Шматактовыя п’есы «Ворагі» (1947), «Выйгрыш» (1948) і «Узыходы шчасця» (1948) надрукаваны толькі пасля смерці драматурга ў пяцітом-

ным Зборы яго твораў. А між тым, драма «Узыходы шчасця» была адзначана другой прэміяй Рэспубліканскага конкурсу, што па практыцы тых гадоў аўтаматычна адкрывала ёй дарогу на сцэну. Аднак малады драматург не спяшаўся ў тэатр ні з гэтай п'есай, ні з іншымі і меў, як потым аказалася, рацыю. І толькі ў 1951 годзе ён рызыкнуў прапанаваць Тэатру імя Янкі Купалы драму «На досвітку», хоць унутрана і адчуваў, што і гэтая п'еса яшчэ не тая, не таго мастацкага ўзроўню, якога жадала яго мастацкае самалюбства. Але, пастаўленая калектывам высокіх прафесіяналаў, яна адкрывала для маладога драматурга многія тонкасці сцэнічнага мастацтва. Без гэтага досведу супрацы з тэатрам, непасрэднага кантактавання з акцёрамі, рэжысёрамі, сцэнографамі яму было б нашмат цяжэй рэалізаваць адну з самых грандыёзных сваіх мастацкіх задум — напісанне сатырычнай камедыі «Выбачайце, калі ласка!» (1953). Працуючы на розных кіруючых пасадах у розных рэгіёнах Беларусі, А. Макаёнак нярэдка сутыкаўся з такімі фактамі і з'явамі, якія выклікалі пачуцці гневу, пратэсту. Гэтае звыродлівае параджэнне тупога адміністрацыйна-бюракратычнага стылю кіраўніцтва народнай гаспадаркай ён неаднойчы атакоўваў на старонках сатырычнага часопіса «Вожык», дзе працаваў пасля заканчэння партыйнай школы (1949—1953). Былі і пэўныя вынікі: некалькі высокапастаўленых чыноўнікаў, у тым ліку і адзін намеснік міністра, пазбавіліся сваіх пасад, але пісьменнік бачыў, што гэтая сацыяльная пошасць вельмі жывучая і маштабная. Таму і пастараўся, адшукаўшы, выкарыстаць адэкватныя мастацкія сродкі дзеля яе этычнага выкрыцця і разгрому. Сучаснікаў камедыя якраз і ўразіла майстэрствам мастацкіх абагульненняў. Прынцыповай удачай і аўтара, і ўсёй тагачаснай савецкай драматургіі справядліва лічыцца вобраз Каліберава, які стаўся назыўным. Калібераўшчына як сацыяльная з'ява (практыка цынічнага аўтарытарнага адміністравання, паказуха, прыпіскі, махінатарства) існавала даўно, але назыўной стала ідэнтыфікавацца па макаёнкаўскім архетыпе, па ўзоры-партрэце з камедыі «Выбачайце, калі ласка!». Дзеля дасягнення пераканаўчасці гэтага партрэта аўтар не скупіўся ў выдаткаванні сатырычных фарбаў, не абмяжоўваў сваю творчую фантазію і не займаўся самарэдагаваннем. Плённае выкарыстанне знайшоў у камедыі мастацкі прыём характарыстыкі галоўнага героя яго духоўным акружэннем.

Жонка Антаніна Цімафееўна — амбіцыйная мяшчанка; менавіта яна пастаянна натхняла разжалаванага з высокай сталічнай пасады ў старшыні сельскага райвыканкама Каліберава «націскаць», «закручваць гайкі», «узяць работнічкаў за жабры», прыдумала яму камяні ў печані і легенду кіраўніка, які згарае на працы. Муж павінен вярнуцца ў Мінск! На белым кані! Дзеля дасягнення гэтай мэты ўсе сродкі — амаральныя, крымінальныя, проста гнюсныя — прыдатныя. Дзеля яе здзяйснення не грэх абаперціся на любога памочніка. Нават на хакучу-казнакрада, дырэктара спіртзавода Кузьму Печкурова. Або на адпетага жуліка, упаўнаважанага па нарыхтоўках Моцкіна, вобраз якога з'яўляецца адным з самых яркіх сатырычных тыпаў у беларускай камедыяграфіі. Моцкін — фігура па-свойму маштабная. Праўда, маштабнасць тая — залюстэркавая, бо і сам ён — не герой, а антыгерой. З вывернутай мараллю, з антыподнымі параметрамі светабачання, з крайне цынічнымі крытэрыямі ацэнкі людзей, рэчаіснасці, свайго месца ў жыцці. У яго быў абсалютны нюх на чарвяточыну ў душах людзей, а таксама віртуознае ўменне пакарыстацца ў шкурных інтарэсах гэтым дарам прыроды. Менавіта яму належала ідэя выйсці ў перадавікі па збожжанарыхтоўках пры дапамозе фікцыі з гарантыйнымі распіскамі, сутнасць якой заключалася ў тым, што замест рэальна здадзенага збожжа ў органы статыстыкі паступалі квітанцыі, выдадзеныя старшыням калгасаў дырэктарам спіртзавода Печкуровым узамен на распіскі, якія гарантавалі здачу збожжа пазней. Афёру гэту ён зладзіў з вялікім спрытам, беспамылкова выбраў хаўруснікаў, умела абмінуўшы тых старшынь калгасаў, якія прынцыпова не маглі пайсці на падлог. Калі афёра ўсё ж лопнула, ён з зайздроснай выкрутлівасцю стараецца выратаваць уласную шкуру, пераклад-

ваючы віну на іншых: і квітанцый ніякіх ён не выпісваў, і распісак не даваў, і на старшынь не націскаў, і па радыё з пахвальбой не выступаў… Я не я, і хата не мая. Нібыта і праўда ён ні пры чым, гэтак жа як «ні пры чым» бывае лялькавод у тэатры марыянетак. Засвечвацца махляру не з рукі, бо і ў яго ёсць запаветная мара — узначаліць вялікую базу ў Бабруйску. І можна не сумнявацца: у яго ёсць рэальныя шанцы выйсці сухім з вады, паколькі падобныя спрытнюгі незаменныя ў тым сегменце соцыуму, які займае калібераўшчына, а яна — пра гэта сведчаць многія публікацыі ў сучасных СМІ — з'ява надзвычай жывучая. І па-ранейшаму златворная, бо наносіць грамадству побач з матэрыяльнымі незлічоныя маральныя страты.

Калі б А. Макаёнак быў аўтарам адной толькі сатырычнай камедыі «Выбачайце, калі ласка!», у гісторыі беларускай літаратуры ён усё роўна застаўся б выдатным драматургам. Яе высокія мастацкія якасці належным чынам ацанілі і за межамі Беларусі: там камедыю паставілі амаль 200 тэатраў. П'еса пісалася ў час, калі сумна славутая тэорыя бесканфліктнасці дасягнула зеніту сваёй уплывовасці. Невядома кім сфармуляванае патрабаванне паказу канфліктаў толькі добрага з лепшым (у савецкім грамадстве, маўляў, антаганістычныя супярэчнасці цалкам пераадолены) спустошвала, здрабняла творчыя задумы пісьменнікаў, прыводзіла да лакіроўкі ў мастацкім адлюстраванні рэчаіснасці. Абструкцыяніскія ж адносіны да гратэску, гіпербалы, карыкатуры і да сатыры наогул рабілі праблему гарманічнага развіцця некаторых жанраў літаратуры невычарпальнай. На шчасце, не ўсіх пісьменнікаў задавальняла перспектыва напісання сусальных твораў, у якіх сапраўдныя эстэтычныя каштоўнасці саступалі месца эрзац-заменнікам. Лепшыя з іх, найбольш таленавітыя, гатовыя былі і на рашучае змаганне з той клятай тэорыяй — наперакор устаноўкам зверху А. Макаёнак, безаглядна і рашуча, зрабіў першы крок у гэтым напрамку. І можна зразумець вядомага савецкага драматурга М. Пагодзіна, на той час галоўнага рэдактара часопіса «Театр», які, азнаёміўшыся з рукапісам камедыі «Выбачайце, калі ласка!», напісаў на тытуле рэзалюцыю: «У друк! Тэрмінова!» Гэта азначала, што з цалкам звярстанага 10 нумара часопіса «Театр» за 1953 год здымаўся нейкі матэрыял на карысць п'есы маладога беларускага драматурга.

Сваю наступную п'есу А. Макаёнак назваў «Каб людзі не журыліся» (1957). За яе пастаноўку ўзяліся ўсе прафесійныя тэатры Беларусі, зацікавіліся ёю таксама ў блізкім і дальнім замежжы. Сярод іншага, яе апублікавала з адпаведнымі каментарыямі мюнхенская газета беларускіх эмігрантаў «Бацькаўшчына». Гэты факт у немалой ступені пасадзейнічаў таму, што шлях на сцэну для адной з лепшых сатырычных камедый А. Макаёнка, у якой праўдзіва, на высокім мастацкім узроўні асэнсоўваліся праблемы, цяжкасці і супярэчнасці жыцця пасляваеннай беларускай вёскі, быў практычна закрыты. Спектакль купалаўцаў пасля двухтрох прэм'ерных паказаў быў зняты, у іншых тэатрах да прэм'еры справа не дайшла.

Такі афронт п'есе быў і нечаканы, і непрыемны. Але трэба было працаваць, ісці далей. А далей напісалася камедыя «Лявоніха на арбіце» (1961), якая сваім поспехам у гледачоў прынесла яе аўтару шмат радасці. Прэм'ера спектакля ў тэатры імя Янкі Купалы, як і некаторых іншых тэатральных калектываў, супала з палётам Ю. Гагарына ў космас, і гэта выклікала ў гледачоў дадатковыя станоўчыя эмоцыі і асацыяцыі. Зрэшты, цікавасць да «Лявоніхі на арбіце» з боку гледачоў заўсёды заставалася самадастатковай і ў нейкіх знешніх пазаэстэтычных допінгавых ін'екцыях патрэбы не мела. Гэта быў твор, разлічаны на розную глядацкую аўдыторыю; поліфанічная па танальнасці, шматвектарная па ідэйна-палітычных арыентацыях, камедыя ў аднолькавай ступені цікавіла як высокалобага інтэлектуала, так і прастадушнага мешчаніна, бо ў ёй асэнсоўваліся надзвычай вострыя, надзённыя праблемы савецкай рэчаіснасці пачатку 1960-х гадоў. І асэнсоўваліся праніклівым мастаком, а не палітыкам, шчыльна звязаным з сацыяльна-эканаміч-

най кан'юнктурай часу. Фірменная праблема — каб людзі не журыліся — прысутнічае і ў гэтай п'есе. Але як? Побыт сельскага працаўніка істотна змяніўся, нястачы пасляваеннай разрухі засталіся ў мінулым, і зараз праблема заключалася не ў тым, каб проста выжыць, а жыць годна. І што ёсць дабрабыт? Колькі чаго трэба чалавеку? А над усім — найважнейшае пытанне: як дасягнуць таго, каб праца, крыніца ўсякага дабрабыту, не была рабскай, не закабаляла? Большасць герояў п'есы: самавіты старшыня калгаса Буйкевіч; каларытны бяссрэбранік, Лявонаў; сват і антаганіст Максім; саламяная ўдава Клава; па-юнацку прагматычныя маладажоны Міхал і Соня, не кажучы ўжо пра стыхійную бунтарку Лявоніху-Лушку, не жадаюць жыць па-старому. Увесь цывілізаваны свет арыентуецца на грамадскія фонды спажывання, а не на прысядзібную, уласную — лічы, натуральную — гаспадарку. Вольны час — важнейшы складнік паняцця «свабода». А без яе людское існаванне траціць усякі сэнс. Для драматурга гэтыя высновы былі крайне дарагія, але і да Лявона, носьбіта альтэрнатыўных поглядаў, аўтарскія адносіны вызначаліся спачувальнасцю і паразуменнем. Недарэмна ж гэты нібыта закаранелы кансерватар, абаронца бастыёнаў мінулага так умела, годна і пераканаўча абгрунтоўвае свае пазіцыі. Ён таксама за свабоду, але ўпэўнены, што забяспечыць яе можа толькі самадастатковая асабістая гаспадарка, якая будзе аплотам яго эканамічнай незалежнасці — ад самадурства калгасных старшынь і брыгадзіраў, ад кан'юнктуры ўрадавых пастаноў. Што тыя грамадскія фонды! Яшчэ не вядома, ці здолее грамадства даць чалавеку дастаткова высокі заробак, каб карыстацца тымі фондамі. Ніхто не вораг сабе. Даўно зажыў бы і Лявон на гарадскі манер, бо каму прыемна без патрэбы гарбаціцца на ўласным падворку, калі б у яго былі пэўныя гарантыі. А іх не было. Па словах свата Максіма, у суседнім калгасе рэфарматары цалкам аканфузіліся: «Абяцалі ж яны і малака рэкі разліўныя. І мяса багата, і да мяса хрэну ўдоваль, а потым праверылі і …э-э-э… Толькі хрэнам і пахне». Сумненняў дадавала і наяўнасць не вельмі, на думку Лявона, самавітага начальства. У калгасе — гэта «перагібшчыкі», якія імкнуцца правесці рэформы кавалерыйскай атакай — ледзь не за адзін дзень. Яшчэ «мудрэйшае» раённае начальства ў асобе старшыні райвыканкама Глуздакова і яго памочніка Цесакова. Дзякуючы бліскучай аўтарскай абмалёўцы, гэтыя звыродлівыя канцылярскія робаты, якія за бюракратычнымі цыркулярамі, фармулярамі і пастановамі даўно перасталі бачыць людзей, занялі віднае месца ў паноптыкуме сатырчына-гратэскных тыпаў беларускай камедыяграфіі. Нідзе не дзенецца Лявон, адступіць пад дружным націскам апанентаў. І не таму, што довады ў іх аказаліся вельмі пераканаўчымі (ну, засабіралася Лушка пакінуць яго аднаго, перабраўшыся жыць у дом дачкі з зяцем, — дык хіба гэта довад?). Проста яму не хацелася, каб на яго людзі-суседзі паказвалі пальцамі.

Як гэта гаварылася вышэй, камедыя «Лявоніха на арбіце» прынесла яе аўтару многа радасці. У тэатры імя Янкі Купалы стварылі некалькі творчых калектываў, якія ў працяглых гастрольных турах паказалі «Лявоніху» літаральна па ўсёй Беларусі: спектакль здолелі пабачыць нават у самых глухіх яе рэгіёнах — абы быў клуб і сякая-такая сцэна. І не было ніводнага выпадку, каб гледачы не ўспрынялі спектакль, расчараваліся ў ім. Яны дружна — у вуснай і пісьмовай форме — выказвалі падзяку артыстам і аўтару п'есы.

А яму трэба было думаць пра заўтрашні дзень. Яму, хто з самых першых крокаў на літаратурнай ніве ставіў перад сабой максімалісцкія задачы, мроіліся новыя творчыя вяршыні. Але заваёўваць іх было надзвычай цяжка. Антыгулагаўскую сатырычную камедыю «З кірмашу» (1967) перастраховачнае чынавецтва нават блізка не дапусціла да сцэны. Абструкцыю свайму твору А. Макаёнак успрыняў не проста балюча, а хваравіта — да адчаю, да памкнення звесці рахункі з жыццём. І толькі франтавая закалка, падтрымка сяброў, усведамленне неабходнасці барацьбы за тое, каб людзі (у тым ліку і ён сам) не журыліся, дапамаглі выстаяць, не зламацца. Ратаваўся працай. Пераважна — самаадукацыйнай.

Прачытаў ён за гэты час надзвычай многа: творы сусветнай літаратурнай класікі, у тым ліку і антычных аўтараў, працы знакамітых філосафаў, эстэтыкаў… За ўласныя творы засеў толькі ў канцы 1960-х гадоў. Амаль аднучасова, з інтэрвалам у некалькі месяцаў драматург давяршыў дзве трагікамедыі — «Зацюканы апостал» (1969) і «Трыбунал» (1970), якія далі падставы гаварыць пра новага Макаёнка.

Новы Макаёнак — гэта смелы, але разважлівы, выверaны нормамі мастацкай меры пошук. Згаданыя вышэй п’есы сталі пачаткам мэтанакіраванай працы драматурга па «прышчэпцы» беларускай камедыі разнастайных жанравых адгалінаванняў. У далейшай сваёй творчасці ён даказаў, што спектр камедыяграфічнага выяўлення практычна невычэрпны. У выніку творчай эвалюцыі пісьменніка адбыўся рашучы паварот ад паэтыкі традыцыйнай камедыі да камедыі эксперыментальнай, гратэскавай, ад паслядоўна вытрыманай праўдападобнасці — да нічым не абмежаванай фантазіі, сцэнічнай умоўнасці. Гэтыя новыя грані творчага аблічча драматурга асабліва яскрава адбіліся ў п’есе «Зацюканы апостал», якая выклікала жывейшую зацікаўленасць з боку тэатральнай грамадскасці: яна шырока ставілася не толькі тэатраламі СССР, але і за яго межамі — у Югаславіі, Іспаніі, Англіі і інш.

Канфлікт трагікамедыі «Зацюканы апостал» фарміруецца сродкам сутыкнення персанажаў, абагуленых да сімвалаў. Вось гэтая сімвалападобнасць вобразаў, абагуленасць, узбуйненасць падачы матэрыялу, абстрагаванне ад часавай і лакальнай прывязкі, афарыстычны тон выказванняў вызначаюць у творы своеасаблівы, непаўторны каларыт. Змясціўшы герояў у зачараванае кола бездухоўнага, спажывецкага побыту, дзе псіхічная дэпрэсія на аснове прыніжэння асобы нараджае культ сілы, фашысцкую ідэалогію, драматург на прыкладзе кароткага жыццёвага лёсу галоўнага героя п’есы Сына паказвае, наколькі згубная атмасфера ўтвараецца тады, калі чалавек слепа падладжваецца пад абставіны. Тата, Мама, Дзед… Пасіўнасцю сваіх грамадскіх пазіцый, аморфнасцю палітычных поглядаў яны нішчылі ў душы шырока начытанага, інтэлектуальна адоранага нашчадка ўсё святое і пазітыўнае. Яму, натуры бунтоўнай, але яшчэ духоўна неакрэплай, не было на каго абаперціся. Рашэнне выкінуцца з акна якраз і прадыктавана адчаем, безабароннасцю.

Яшчэ не астыўшы ад шчымлівага пачуцця творчага палёту, якое валодала ім пры стварэнні «Зацюканага апостала», А. Макаёнак узяўся за напісанне трагікамедыі «Трыбунал». Твор гэты атрымаўся да палемічнасці арыгінальным. Папершае, пісьменнік смела парушыў жанравае табу: да яго ў савецкай драматургіі ніхто не рашаўся падзеі Вялікай Айчыннай вайны ўвасабляць у камедыйным аспекце (як жа так, столькі гора, пакут, крыві, смярцей — і раптам смех, камікаванне). Па-другое, носьбіты гераічнага ў п’есе выглядаюць па-бурлескнаму праставата. Пералік падобных адзнак можна доўжыць, аднак колькі іх ні было б, ні адна з іх самамэтай не з’яўлялася: «арыгінальнасць» А. Макаёнак не любіў і ў маладыя гады, стаўшы ж майстрам, клапаціўся больш пра пераканаўчасць, свежасць, мастацкую праўдзівасць уласных твораў. Перадаць у п’есе гераічны, суровы пафас Вялікай Айчыннай вайны, пазбегнуць штампаў, зацяганых сюжэтных хадоў, катурнавых герояў — гэты клопат, несумненна, паўставаў перад кожным драматургам, але толькі А. Макаёнку ўдалося напісаць такі твор, які не толькі адпавядаў згаданым патрабаванням, але вызначаўся невядомай ранейшай савецкай драматургіі на ваенную тэматыку якасцю выяўленчых фарбаў, наватарскімі падыходамі ў асэнсаванні прыроды гераічнага. Кідалася ў вочы, што замест суровай аднатоннасці, уласцівай папярэднім п’есам на ваенную тэматыку, «Трыбунал» дэманстраваў проста-такі раскошны паліфанізм: у ім арганічна пераплецены трывога і надзея, адчай і аптымізм, будзённае і ўзнёслае, гідкае і высакароднае, скептычнае і пафаснае… А над усім — смех самых розных адценняў: ад сардонічнага да замілаванага. Менавіта ў такой «аплатцы» сама па сабе кур’ёзная, але

сюжэтна адналінейная гісторыя аб тым, як бацьку, які пагадзіўся быць нямецкім старастам, яго блізкія наладзілі сямейны трыбунал і ледзь не ўтапілі ў копанцы, магла ўспрыняцца рэччу высокага мастацтва, а галоўны герой п'есы Цярэшка Калабок — найярчэйшай творчай удачай беларускай сцэнічнай партрэтыстыкі.

Многія даследчыкі адзначалі, што поспех п'есы на радзіме і за яе межамі ў немалой ступені абумоўлены яркім нацыянальным яе зместам. Сапраўды, у Цярэшку Калабку, у Паліне, у іх дзецях своеасабліва сфакусіраваліся многія анталагічныя рысы беларускага нацыянальнага характару.

Канец 1960-х — 1970-я гады былі вельмі плённыя ў творчасці А. Макаёнка. Ніколі яшчэ не адчуваў ён такой творчай раскаванасці. Майстар сатырычнай і сацыяльна-бытавой камедыі, ён удала асвоіў дзве няпростыя разнавіднасці трагікамедыі як палітычны памфлет («Зацюканы апостал») і народны лубок («Трыбунал»). На гэтым яго творчыя дзярзанні не скончыліся: наступнай напісалася камедыя-рэпартаж («Таблетку пад язык»), у якой драматург востра, па-грамадзянску смела асэнсаваў многія праблемы сельскай рэчаіснасці, у тым ліку і міграцыю сельскіх жыхароў у гарады. У шэрагу так званых вытворчых п'ес савецкай драматургіі «Таблетку пад язык» па праве лічылася адной з самых лепшых.

У 1970-я ж гады былі завершаны такія розныя па сваіх выяўленчых асаблівасцях і структурна-кампазіцыйных формах творы, як сатырычная камедыя трагікамічнага плана «Кашмар» (сцэнічная назва «Святая прастата»), камедыя-сентыментальны фельетон «Верачка» і трагікамедыя «Пагарэльцы». Праўда, апошні твор, дакладней, першапачатковы яго варыянт пад назвай «З кірмашу» быў напісаны яшчэ ў сярэдзіне 1960-х гадоў. Пасля істотнай перапрацоўкі п'еса атрымала назву «Пагарэльцы». У ёй аўтар адмовіўся ад прывычных сюжэтна-кампазіцыйных форм, што і адлюстравалася ў жанравай дэфініцыі: «пралог і эпілог адной трагікамічнай гісторыі». Паказальна, што ад гэтага трагікамедыя не страціла сваёй цэласнасці, а выкрыццё цынічнага прыстасавальніцтва, апалітычнасці, глумлення над святасцю гуманістычных ідэалаў — сваёй вастрыні, перакануўчасці. Бязлітаснаму сатырычнаму абстрэлу ў п'есе падвергліся маральныя пазіцыі Ухватава, які трапіў у высокія ўладныя структуры ў выніку д'ябальскай кадравай чахарды рэпрэсіўных 1930-х гадоў. Драматург добра разумеў шкоднасць ухватаўшчыны, бо гэта не толькі кар'ерызм, не толькі пралікі ў кадравай палітыцы, але і дрымучы кансерватызм, некампетэнтнасць, пасіўнасць і коснасць, нежаданне мысліць па-сучаснаму.

Новыя грані драматургічнага таленту А. Макаёнка адкрыла камедыя «Верачка». Спецыялістаў здзівіла перш за ўсё яе танальнасць — тое, што дало падставы драматургу назваць п'есу сентыментальным фельетонам. Вытрыманая ў выяўленчым рэчышчы бытавой камедыі, яна мала падобна на ранейшыя творы пісьменніка-сатырыка, які ў кожнай сваёй п'есе зацята атакаваў розныя сацыяльныя недахопы. Ёсць сатырычная плынь і ў «Верачцы», але яна яўна прыцішана. У выкрыцці таго ж чыноўніка-бюракрата Прокусава драматург карыстаецца больш гумарыстычнамі, чым сатырычнымі фарбамі. «Верачка», бадай, самы паэтычны твор А. Макаёнка, апалогія людской дабрыні, чалавечай спагадлівасці.

Апошняй завершанай п'есай, своеасаблівым творчым завяшчаннем драматурга была трагікамедыя «Дыхайце эканомна». Шлях да яе аказаўся вельмі доўгім: ад драмы «На досвітку» праз трагікамедыі «Зацюканы апостал» і «Кашмар» — шлях у трыццаць год. Асабліва блізкай да «Дыхайце эканомна» з'яўляецца, несумненна, п'еса «Кашмар». Калі ўчытваешся ў гэтыя п'есы, зноў і зноў уражваешся грамадзянскай пранікліваcцю іх аўтара. Падчас прэм'еры трагікамедыі «Кашмар» чалавецтва больш бестурботна глядзела на праблемы вайны і міру. Магчымасць вайны, вядома, не адмаўлялася, але яна ўспрымалася хутчэй гіпатэтычна, чым рэальна. У А. Макаёнка наконт гэтага не было ніякіх ілюзій. Яго вельмі турбавала, што лепшыя навуковыя сілы планеты, аграмаднейшыя бюджэтныя ўкладанні накіроўваліся на распрацоўку, удасканаленне сродкаў знішчэння. Не

на стварэнне, хоць чалавецтва не пазбылося яшчэ голаду, хвароб, непісьменнасці, іншых напасцей. Складвалася ўражанне, што чалавецтва мэтавыя арыенціры свайго існавання, што палітыка і развіццё эканомікі паступова адчужаюцца ад разумнай волі чалавека.

У сваёй апошняй п’есе А. Макаёнак сінтэзаваў многія творчыя знаходкі з папярэдніх сваіх твораў. Як і ў «Зацюканым апостале», канфлікт камедыі фарміруецца сродкам сутыкнення персанажаў, абагуленых да сімвалаў. Прэзідэнт, Цэзар, Фарыд, Людовік Адольф, Ісак, Хіра Сіта і іншыя персанажы ўвасабляюць сабою не проста пэўныя сацыяльныя тыпы, а цэлыя грамадскія фармацыі. Свежасці ўспрыняцця садзейнічае тое, што драматург адшукаў арыгінальную перспектыву адлюстравання падзей, цікавы ракурс асвятлення, асэнсавання характараў. Перспектыва гэта як бы перакулена ў мінулае, дзеянне развіваецца ў адваротны бок, нібыта на кінаэкране, калі плёнка запраўлена наадварот. І гэты прыём прынёс столькі парадаксальнага, іранічна-саркастычнага зместу! Планетарная эліта, прадстаўнікі ўладных і ваенна-прамысловых структур задумалі суперсатанінскую афёру. Схаваўшыся ў надзейным модулі-арэшніку, знішчыць усё жывое на Зямлі магутным тэрмаядзерным ударам, каб праз пэўны час, калі адбудзецца натуральная дэзактывізацыя паверхні, зноў панаваць над светам, але ўжо без чырвоных, без класавых выступленняў працоўных, без пастаяннай пагрозы страціць свае капіталы. На самай жа справе прага нажывы, барацьба за ўладу ў гэтым ізаляваным мікрацарстве адкінула яго насельнікаў на тысячы гадоў назад — да дзікунства. Самае ж крыўднае для іх заключалася ў тым, што ядзерная катастрофа не адбылася. Прэзідэнту не ўдалося знішчыць усё жывое на планеце: у апошні момант вучоны Кейт здолеў адключыць фатальныя кнопкі ад крыніц сілкавання. І яго словы: «Не! Не дапусцім! Нават калі на планеце (паказвае на Біма і Крошку) іх было б толькі двое. То і тады варта ратаваць мір!» — успрымаюцца маральным імператывам камедыі і аўтарскім запаветам.

Сышоў у іншы свет А. Макаёнак да крыўднага рана. І адбылося гэта хмурным ранкам 16 лістапада 1982 года, калі свінцова-цяжкія, пульхна набрынялыя вільгаццю і нядрогкай настыласцю хмары так нізка навіслі над Мінскам, нібыта хацелі сцерці межы паміж небам і зямлёй. З такіх хмар звычайна не бывае ні маланак, ні грому. Але вестка пра заўчасную, а таму нечаканую, недарэчную смерць вялікага драматурга прагучала падобна магутнаму, да звону ў вушах, раскату грома. Беларусь ведала, каго яна страціла. Памяць пра яго была ўшанавана ў назвах вуліц і бібліятэк, у выданні пяцітомнага Збору твораў. Але памяць пра любога драматурга найлепш дэманструе сцэна. А вось тут пахваліцца нам асабліва няма чым. На сённяшні дзень у рэпертуары некалькіх нашых тэатраў прысутнічаюць трагікамедыі «Зацюканы апостал» ды «Трыбунал». І ўсё! А на добры лад у Беларусі даўно трэба было б паставіць пытанне аб стварэнні Тэатра Макаёнка. А новы Саннікаў — рэжысёр, які здолее зразумець глыбінную сутнасць твораў нашага па-сапраўднаму народнага пісьменніка, абавязкова знойдзецца.



Таццяна ШАМЯКІНА

# ІДЭАЛОГІЯ І АДУКАЦЫЯ, АБО ЦІ ПАТРЭБНА СУЧАСНАЙ МОЛАДЗІ ВЕДАЦЬ ЖЫЦЦЁ?

*(Сацыялагічна-філалагічныя нататкі)*

Размову пра асвету, адукацыю, кніжную культуру — усё тое, што надзвычай хвалюе інтэлектуалаў Беларусі і пра што не спыняецца гаворка ў СМІ, немагчыма весці асобна ад аналізу настрояў і ідэалагічна-псіхалагічнай атмасферы ў беларускім грамадстве. Не абысціся без эмоцый і публіцыстычнага пафасу, тым больш, што аўтар артыкула — літаратар. Пры гэтым хацелася б пазбегнуць абстрактных разваг. Прапанаваныя нататкі — меркаванні, выкліканыя канкрэтнымі з'явамі жыцця.

У ацэнцы сацыяльнай псіхалогіі наўрад ці магчымы адназначны падыход. Рэч гэта тонкая. Такое ўражанне, што наш беларускі народ амбівалентны, як, можа быць, ніякі іншы. З аднаго боку, ён працалюбівы, цярплівы, талерантны, рахманы, на падсвядомым узроўні глыбока мудры — ведае, хто і што яго ратуе. З другога боку, залішне рацыянальны, прагматычны, меркантыльны. Баюся, што з ім, на жаль, адбываецца тое, што з большасцю савецкіх людзей якраз перад пагібеллю СССР — абмяшчаньванне, якое непазбежна цягне за сабою інтэлектуальную дэградацыю і маральнае падзенне.

Гэта, праўда, не дзіўна. Расце ўжо трэцяе пакаленне, якое сфармавалася постсавецкімі мас-медыя, што прапагандуюць пабудову грамадства спажывання, і толькі спажывання. Не пазбегла ўплыву і тое пакаленне, якое нарадзілася і вырасла ў СССР, а значыць, выхоўвалася з цвёрдымі каштоўнасна-маральнымі ўстаноўкамі, але, прыстасоўваючыся да новых антыгуманных рынкавых рэалій, неяк хутка забылася пра ўсё тое добрае, што было ў сацыялістычнай дзяржаве. Нашы сучаснікі, здраджваючы самі сабе, свайму рамантычнаму маленству і юнацтву, падганяюць уласныя ўспаміны пад тыя ўяўленні пра мінулае, якія настойліва, на ўзроўні ментальнай наркатызацыі, насаджаюцца буржуазнымі па духу сродкамі масавай інфармацыі. Тут першы папрок — расійскім тэлеканалам і радыё, ад якіх беларускае насельніцтва не абаронена моўным бар'ерам. Сугестыўнае ўздзеянне, або нейра-лінгвістычнае праграмаванне, інакш кажучы, методыкі вербальнага кадзіравання на падсвядомым узроўні адпрацаваны ў Расіі, з дапамогай амерыканскіх кансультантаў, на самым высокім прафесійным узроўні. На жаль, пра ўсе такога кшталту прыёмы ведаюць толькі спецыялісты. А ўсе астатнія — іх ахвяры. Але і на свядомым узроўні многія залішне лёгкія жанры і ў цэлым пошлы тон некаторых перадач — нядобры прыклад для беларускіх СМІ. Нам па-ранейшаму бракуе глыбокіх, адзначаных *дыялектычным падыходам*, аналітычных праграм, мала сур'ёзных дакументальных фільмаў, амаль няма дзіцячых перадач або яны ідуць у выключна няўдалы час.

Скажу банальнасць, але і не сказаць нельга: рэзка ўпаў адукацыйны ўзровень вытворцаў кіно і мас-медыя. Таму многія серыялы створаны быццам бы па адным узоры, пераважна галівудскім, і ў выніку добрым акцёрам няма чаго іграць. Сюжэтнае дзеянне нават у дэтэктывах вялае і сумнае, дыялогі прадказальныя, прымітыўныя, часта істэрычныя, мова герояў бедная. Зусім нярэдкія рознага роду ляпы, што тычацца гісторыі і быту.

Ідэалагічнае напаўненне разнастайных інфармацыйных і забаўляльных праграм, што прапаноўваюцца на Беларускім тэлебачанні і радыё, патрабуе спецыяль-

нага даследавання. У дадзеным выпадку, у *год 70-годдзя Вялікай Перамогі і у Год моладзі*, звярну ўвагу толькі на адзін, як здаецца, важны момант — выхаванне ў насельніцтва, перш за ўсё, у маладых людзей патрыятызму і павагі да традыцый.

Вопыт продкаў вучыць, што нельга будаваць грамадства, фармуляваць яго ідэалогію, асноўваючыся на адмаўленні папярэдняга перыяду гісторыі. У нашым выпадку — савецкага. І калі ў Расіі дастаткова папяровых выданняў і форумаў у інтэрнэце, што прапагандуюць альтэрнатыўныя ў адносінах да пануючай — ліберальнай — дактрыны погляды, то ў Беларусі падкрэслена антыліберальным курсам кіруецца невялікая і не асабліва ўплывовая камуністычная партыя. Увогуле ў нас пра ідэалогію імкнуцца асабліва не нагадваць. Гэта таксама ў рэчышчы ліберальнай мадэлі, якая ідэалогію поўнасцю адмаўляе. Хоць на самай справе любая дзяржава без ідэалогіі — нішто, проста аморфнае ўтварэнне, фармальная структура без мэты і сэнсу. Сама ж ліберальная мадэль унутрана глыбока ідэалагічная. Ды што казаць: яна, гэтая бюргерская пошлая ідэалогія, лезе з усіх шчылін.

Беларускія ўлады без шырокага агучвання, без уціску і яўнай прапаганды, з ігнараваннем самога тэрміну «ідэалогія», усё ж кіруюцца нейкімі дастаткова цвёрдымі базавымі ідэалагічнымі пастулатамі, якія выяўляюцца ў інфармацыйнай і адукацыйнай сферах. Праўда, далёка не заўсёды тэзісы, выказаныя Прэзідэнтам і яго камандай, — разумныя і вывераныя — рэалізуюцца на практыцы, у паўсядзённай рабоце мас-медыя, дзе кожны праект прасачыць немагчыма.

Асноўны праваднік ідэалогіі — Беларускае тэлебачанне. Яно, стоячы, кажучы фігуральна, як быццам прама, у цэлым павернута «галавою» або на Захад, або да расійскага ТБ, прычым горшага яго часу — 1990-х гадоў (а яно таксама працавала па заходніх лякалах). Паспрабую прасачыць дадзены тэзіс усяго на адным прыкладзе, але ён паказальны.

У канцы 2013 — пачатку 2014 гг. па трэцім беларускім канале (само яго адкрыццё — вялікі плюс, бо на ім прапагандуецца беларуская мова) з дня ў дзень ішла інфармацыйна-пазнавальная перадача «Год у гісторыі» (на рускай мове). Вось, скажам, 1948 г. Палавіна перадачы прысвечана «цкаванню» кампазітараў Д. Шастаковіча і А. Пракоф’ева. Але чамусьці ні слова не сказана пра іх шыкоўныя пяціпакаёвыя кватэры, велізарныя лецішчы, машыны, шматтысячныя ганарары і прэміі. Так, за Сталінскую прэмію Д. Шастаковіч атрымаў 100 000 рублёў.

Факт як быццам ганенняў на знакамітых творцаў даўно аспрэчаны ў сур’ёзных расійскіх выданнях, але беларускі праект асноўваецца не на навуковых доследах, не на рабоце рэдактараў у архівах і бібліятэках, а выключна на чутках, брудных міфах і плётках, якія шырока прапагандуюцца ў бульварных СМІ. Барацьба савецкіх улад з фармалізмам у праекце «Год у гісторыі» падаецца як вялікая трагедыя ў жыцці слынных майстроў культуры. На самай справе, народу-пераможцу, які цяжка пасля вайны жыў, але актыўна, з энтузіязмам, працаваў, адбудоўваючы сваю краіну, сапраўды, было неабходна зусім іншае мастацтва: фармалістычнае адводзіла ад рэальнага жыцця, яно — для сытых, разбэшчаных, лянівых абывацеляў. Нельга падыходзіць да таго драматычнага, але велічнага часу з меркамі тлустага спажывецкага грамадства — нейкі хоць бы элементарны ўлік рэалій, атмасферы эпохі, гістарычнага кантэксту павінен прысутнічаць. Гэта што тычыцца пазіцыі сённяшніх журналістаў. Што ж тычыцца саміх творцаў, пра якіх ішла гаворка ў перадачы, то здаровая крытыка яшчэ нікому не шкодзіла, тым больш, што адразу ўслед за ёю на майстроў сыпаўся літаральна залаты дождж узнагарод і званняў.

Нельга лічыць «цкаванне» дзеячаў мастацтва выключна таталітарнай палітыкай камуністычных улад. Яны ў дадзеным выпадку якраз адэкватна ўлічвалі культурныя запатрабаванні спакутаванага вайной народа. Акрамя таго, і гэта вельмі істотна, у прафесійных калектывах, асабліва творчых, дзе размяркоўваюцца слава і грошы — званні і прэміі, непазбежная вайна кланаў. У такіх умовах, і гэта выдаткі дзяржаўнага кіраўніцтва культурай, партыйныя органы былі *вымушаны*

пастаянна балансаваць паміж markgроznымі групоўкамі: то па чарзе іх крытыкуючы, то раздаючы грашовыя ўзнагароды і медалі. Іншая справа, што не заўсёды ўдавалася падтрымліваць *раўнавагу* — залішне з тонкай матэрыяй прыходзілася мець справу. Да таго ж заўсёды — у выпадку касмапалітычных кланаў — улічвалася рэакцыя міжнародных колаў. У той час як з уласнымі патрыётамі можна было не цырымоніцца і на іх прыкладзе вучыць усіх.

Паралельна з аплакваннем лёсу «няшчасных» савецкіх кампазітараў у перадачы «1948 год» прадстаўлена бліскучая, з пункту гледжання аўтараў праекта, кар’ера амерыканскай кіназоркі Мэрылін Манро. Але гэтая поп-дзіва ўвогуле не гістарычная асоба, не таленавітая акцёрка, а пустышка, народжаная мас-медыя. Затое ў перадачы ні слова не прамоўлена пра геніяльных пісьменнікаў Амерыкі, якія ў той час актыўна працавалі, — У. Фолкнера, Э. Хемінгуэя, Д. Стэйнбека. Як не сказана і пра змрочныя часы макартызму ў ЗША, шпіёнаманіі і нагнятанні халоднай вайны. А навошта гаварыць? Усё негатыўнае пра Амерыку — табу, і гэты прынцып у адукацыі і СМІ Беларусі вытрымліваецца вельмі паслядоўна, прычым па ўласнай ініцыятыве радавых журналістаў і прафесуры.

Справядліва ў перадачы адзначана цяжкае становішча ізраільскіх гарадоў, асаджаных палесцінцамі, у выніку чаго гараджане пакутавалі без вады, але не згадана, што ўласна дзяржава Ізраіль сваім існаваннем, што вядзе адлік менавіта з 1948 года, абавязана пазіцыі ў ААН Савецкага Саюза, у той час надзвычай уплывовага ў міжнародных структурах.

СССР ва ўсім праекце «Год у гісторыі» паўстае, як гэта, паводле ліберальнай дактрыны, і павінна быць, у самым змрочным свеце. Усё тое добрае, што было ў 1948 годзе, не згадваецца зусім: ні адмена яшчэ напярэдадні харчовых картачак і напаўненне крам таварамі, ні адмена смяротнага пакарання (!), ні адраджэнне краіны, ні пачатак узвядзення вышынных будынкаў у Маскве, ні будаўніцтва Сталінскага праспекта ў Мінску.

Яшчэ адзін сегмент цыкла — год 1975. Ужо зусім іншая эпоха, аднак аповед разгортваецца абсалютна ў тым жа духу — крыўдным да савецкай гісторыі па сутнасці і пошлым па форме, разлічаным на невукаў і цынікаў. У фільме слынны акадэмік Андрэй Сахараў у роднай краіне, якую ён ненавідзеў, аб’яўлены адзіным абаронцам міру. Ні слова пра Хельсінскія пагадненні, пра актыўную міжнародную палітыку СССР, пра дзейнасць аднаго з лепшых міністраў замежных спраў у XX ст. — А. А. Грамыкі, ураджэнца Беларусі.

Ёсць адзін з дзейсных відаў маны — замоўчванне. Ім карыстаюцца ў тэлепраекце на ўсе 100 працэнтаў. Але напоўнена перадача і проста адкрытай мярзотнай хлуснёй. Напрыклад, такі «шэдэўр» прапаганды: «З усіх мастацтваў для савецкіх людзей дасягальным аказалася толькі кіно, але рэпертуар быў надзвычай бедны». Гэта пра той час, калі тэатральнае, музычнае мастацтва СССР карысталася велізарнай папулярнасцю ва ўсім свеце і было шырока запатрабавана на радзіме! Калі білеты ў тэатры каштавалі капейкі. Калі ў знакамітыя музеі стаялі кіламетровыя чэргі, бо людзі ехалі па прафсаюзных, амаль бясплатных, пуцёўках з усёй краіны, каб трапіць ў Эрмітаж ці Траццякоўку. А фільмы выпуску 1970-х гг., прычым самых розных жанраў, можна называць сотнямі. Дарэчы, і лепшыя замежныя (але менавіта лепшыя) шырока ішлі ў савецкім пракаце. Неяк нядаўна давялося чытаць мемуары французскай знакамітай спявачкі Мірэй Мац’е, маёй аднагодкі. Яна ўспаміная любімых у яе юнацтве сусветных акцёраў і музыкантаў. Але і мы іх усіх тады ведалі!

У гэтай жа перадачы («1975 год») апавядаецца пра фільм «Зорка чароўнага шчасця», прычым сюжэтам стужкі аўтары праекта палічылі гісторыю француженкі Паліны Гебль, якая стала жонкай князя Аненкава. Пра іншых рускіх жанчын, жонак дзекабрыстаў, якія першымі паехалі за мужамі ў Сібір, — Кацярыну Трубяцкую і Марыю Валконскую, увогуле не згадваецца. Але ж фільм, зняты на «Масфільме», у значнай ступені і пра іх.

І так у кожнай перадачы: бессаромная хлусня, цынічныя выказванні, маўчанне пра тое добрае, што адбывалася ў СССР і ў краінах народнай дэмакратыі. Усё страшна прымітыўна, дробна, брудна, па-местачковаму. У праекце аб'ектыўнасць, інфармацыйнасць, мастацкасць прынесены ў ахвяру самаму чорнаму антысаветызму. У выніку ва ўсіх частках цыкла *вобраз* таго ці іншага года не атрымаўся.

Дадзены інфармацыйны прадукт створаны ў Беларусі ў 2010 г. Нідзе ў друку ён аналітычна не разглядаўся, пазбегнуў любой, хоць бы і бяззубай, крытыкі. Больш за тое, яго неаднаразова паўтаралі па ўсіх дзяржаўных беларускіх каналах, каб гэтую нахабную фальшыўку паглядзела як мага больш беларусаў.

У выніку нават людзі, якія жылі ў Савецкім Саюзе, пачынаюць верыць у тэлевізійныя байкі. Адбываецца *аберацыя свядомасці*. Часам аўтару артыкула прыходзіцца гаварыць сваім калегам: «Пастарайцеся сесці і спакойна ўспомніць хоць бы тое, што не толькі салат «аліўе» вы елі на святы, як з вас кпяць на тэлебачанні, а стол, на самай справе, у вас быў напоўнены пачастункамі, прывезенымі ад вясковых родзічаў, такімі стравамі, якіх масквічы, стваральнікі тэлепраграм, — гараджане у трэцім-чацвёртым пакаленні, зацыкленыя на каўбасе, — і ў вочы не бачылі. Успомніце, як весела мы хадзілі ў калонах дэманстрантаў на 1 Мая ці 7 лістапада. І не таму, што нас прымусова на праспект гналі, а таму што ў масавых акцыях мы адчувалі сваё яднанне. І як выязджалі ўсім філалагічным факультэтам на свята паэзіі ў Вязынку, бадзёра, з песнямі, маршыруючы па вуліцы Кірава да вакзала. І якія, нарэшце, высокія былі зарплаты ў дацэнтаў і прафесараў у савецкі час. А працавалася непараўнальна лягчэй, як бы ні пакутавалі ад так званага «партыйнага прыгнёту». Ды сёння ўціск чыноўнікаў РІВШа намнога мацнейшы. Нават смешна параўноўваць...»

Калі пастаянна дзяўбці пра адно, то гэта сапраўды робіцца наркатычнай атрутай, пераходзіць у хранічную стадыю. У мозгу ўтвараюцца надзвычай устойлівыя сляды, якія іншую інфармацыю ўжо не ўспрымаюць. Пастаянная, скіраваная ў адным напрамку прапаганда прыводзіць, у рэшце рэшт, нашых людзей да дзіўнай вузкасці ўспрыняцця, прымітывізму мыслення, да адмаўлення таго, што выходзіць за кола ўжо засвоеных за дзесяцігоддзі вяшчання паняццяў і вобразаў, да ўпартага нежадання лічыцца з фактамі рэчаіснасці. На жаль, гэта характарызуе некаторую частку сённяшняй беларускай інтэлігенцыі. Цяжка чуць, як разумныя людзі, высокія прафесіяналы паўтараюць абсалютнае тэлевізійнае глупства, да яшчэ і ўнушаюць яго студэнтам.

І вось нарэшце пра студэнтаў — вечным нашым клопаце. Студэнцкая моладзь — люстэрка ўсіх сацыяльных, палітычных, маральна-этычных працэсаў, што адбываюцца ў рэспубліцы. А яе настроі і меркаванні, пры ўважлівым на іх поглядзе, — паказчык *будучага* стану грамадства, асабліва калі ўлічваць сітуацыю з нашымі геаграфічнымі суседзямі.

Веданне *гісторыі* ў студэнтаў чацвёртага курса аддзялення беларускай філалогіі я правярала ў працэсе выкладання дысцыпліны «Гісторыя і тэорыя сусветнай культуры» па тэме «Савецкае і замежнае кінамастацтва». Адразу засведчу, што курс моцны (па філалагічных прадметах) — можа быць, апошні з добрых курсаў, якія нам давялося вучыць у мінулыя дзесяцігоддзі. Наступныя, што ідуць за ім, ужо намнога слабейшыя.

З-за недахопу месца скажу пра аналіз студэнтамі савецкіх кінастужак. Хоць ацэнкі замежных таксама цікавыя. Так, аказваецца, маладыя людзі ўяўлення не маюць пра краіны народнай дэмакратыі, якія паралельна з СССР будавалі сацыялізм і кінамастацтва якіх было на дастаткова высокім узроўні. Атрымоўваецца, што пра такую з'яву, як сістэма сацыялізму, у школе ўвогуле не згадваецца. Сапраўды, гэта небяспечна: а раптам дзеці неяк няправільна задумаліся б — таму стваральнікі школьных праграм і настаўнікі вырашылі не рызыкаваць.

Вельмі коратка спынюся на разглядзе студэнтамі савецкіх кінашэдэўраў, якія ўсё ж даволі часта паказваюцца па тэлевізары, хоць і не па дзяржаўных бела-

рускіх каналах (там на 95 працэнтаў — прадукцыя Галівуда ці расійскія баевікі і слязлівыя меладрамы, не адрозныя адна ад адной).

Пачну з «Кубанскіх казакоў». Па ацэнцы студэнтаў, «суцэльная лакіроўка». Сапраўды, менавіта так фільм падаецца ў постсавецкай крытыцы, таму што здымаў яго Іван Пыр’еў, які карыстаўся любоўю камуністычных улад. Такіх адыёзных асоб ліберальная крытыка поўнасцю, без усялякай літасці, знішчае. Але маладым людзям няўцям, што ў пасляваенны час змучанаму народу неабходны былі яркія, жыццярадасныя кінастужкі. Акрамя таго, у любым мастацкім вобразе, самім па сабе, заключаны *ідэальны пачатак*, нейкі высокі ўзор. У тым і талент рэжысёра, што ён звычайныя рэчы здолеў паказаць святочна і прыгожа — бо не вустрыцамі ж гандлююць на раённым кірмашы, а звычайнымі памідорамі і агуркамі, што выраслі на ўрадлівай кубанскай зямлі. Нарэшце, хіба ў галівудскай прадукцыі, якая шырока прапагандуецца па беларускім ТБ, мы не бачым суцэльнае «сусальнае золата»? Ружовыя соплі літаральна запаўняюць экран.

Ацэнку стужак студэнты давалі, адказваючы на канкрэтныя пытанні, якія выключалі спісванне з інтэрнэту, палягчалі задачу аналізу і адначасова развівалі назіральнасць. На пытанне «Што здзівіла?» у «Кубанскіх казаках» адказ такі: здзівіла тое, што ў савецкі час праводзіліся конскія рысталішчы. Гэтага проста, на думку маладых людзей, не можа быць, таму што не можа быць ніколі: любыя масавыя відовішчы ў СССР забараняліся, там толькі працавалі, прычым у ГУЛАГу. Мяне, у сваю чаргу, здзівіла тое, што здзівіла студэнтаў.

Пра цудоўны, любімы пакаленнямі, фільм «Вясна на Зарэчнай вуліцы» сказана, што ў ім усе героі пастаянна выпіваюць. Сапраўды, алкагалізацыя насельніцтва пэўнымі ўладнымі структурамі СССР праводзілася актыўна і абсалютна свядома, але ў асноўным пачынаючы з 1970-х гадоў. А фільм зняты ў 1956 г. На тое, што п’е ў асноўным негатыўны персанаж, на рытуальныя рэчы, тыпу святкавання «новага года» ў сувязі з датэрміновым выкананнем гадавога плана ці ўсяленнем маладой настаўніцы ў новую кватэру, студэнты проста не звярнулі ўвагу. *Яны бачаць толькі тое, што жадаюць бачыць*, на што спрацоўвае ўмоўны рэфлекс, выпрацаваны настаўнікамі, выкладчыкамі і тэлевізарам.

У культавай савецкай камедыі «Карнавальная ноч» дырэктар Дома культуры Агурцоў падаецца як *увасабленне рыс савецкага чалавека*. Не маладыя людзі, супрацоўнікі ДК, якія імкнуцца падрыхтаваць вясёлае свята, а менавіта ён! Добрая студэнтка, выдатніца, якая напісала гэта, не мае ўяўлення пра сатыру, пра крытыку бюракратызму, высмейванне невуцтва і фанабэрыі? Безумоўна, на чацвёртым курсе яна пра ўсё сказанае цудоўна ведае, але такая зашоранасць свядомасці, такія ўбітыя ў галаву стэрэатыпы, такая нянавісць да савецкага ладу! Чаго, урэшце, і дамагаліся яго знішчальнікі, якія перадалі багацці, створаныя ўсім народам, кучцы махляроў і прайдзісветаў, а цяпер трымцяць, як бы народ не запатрабаваў сваё законнае дабро назад.

Другая студэнтка напісала, што Агурцоў — пародыя на Л. І. Брэжнева. Вось веданне гісторыі! Брэжнеў у 1956 г., калі здымаўся фільм, быў, безумоўна, чыноўнікам даволі высокага рангу, але абсалютна невядомым у народзе да свайго ўзыходжання на вяршыню савецкай іерархіі ў 1964 г. І, дарэчы, ён ніколі не лічыўся бюракратам і фармалістам. Няхай не зусім адукаваны, але натура шырокая, чалавек абаяльны. Характэрна, што студэнты абсалютна не ўяўляюць час знаходжання ва ўладзе розных кіраўнікоў Савецкай дзяржавы. Для іх усе савецкія перыяды, у нечым прынцыпова розныя, зліваюцца ў адзін суцэльны ГУЛАГ. Гэта тым больш дзіўна, што ўжо вывучаны асноўныя курсы гісторыі беларускай і рускай літаратуры ХХ ст. Але ў гэтых скразных курсах, якія чыталі розныя выкладчыкі, зноў-такі не праўдзівыя гістарычныя рэаліі аказваліся важнымі, не паказ грамадства ва ўсіх яго супярэчнасцях і дынаміцы развіцця, а развянчанне таталітарнага мінулага. Да якой ступені абсурду дурная прапаганда даходзіць, я і сама не ўяўляла (будучы загадчыкам кафедры беларускай літаратуры і культуры), у чым каюся.

У 2015 г. студэнты пры паступленні ў магістратуру 1930-я гады характарызавалі як адзначаныя *выключна* рэпрэсіямі, у тым ліку, у адносінах практычна ўсіх беларускіх пісьменнікаў.

У той жа час маладыя людзі не мелі ўяўлення, што ў фільме «Чырвонае лісце», дзе дзеянне адбываецца ў Заходняй Беларусі пад уладай буржуазнай Польшчы, апісана рэальная біяграфія Сяргея Прытыцкага. Аб гэтым чалавеку, жывучы ў Беларусі, увогуле ніхто з маладых людзей не ведаў! Факт тым больш недаравальны, што адным з аўтараў сцэнарыя стужкі быў выдатны беларускі паэт Аркадзь Куляшоў, значыць, фільм павінен быў згадвацца ў лекцыях пра творчасць майстра. Але не быў, таму што герой твора — камуніст. Мы маем абсалютную, татальную *вульгарызацыю* гісторыі і літаратуры, горшы сацыялагізм, толькі з адваротным знакам, чым у часы БелАППа, Л. Бэндэ і А. Кучара.

Фільм «Экіпаж», створаны ў 1970-я гады. «У ім, — адзначаюць студэнты, — шмат момантаў, пра якія не дазвалялася гаварыць у савецкі час». А адкуль вы ведаеце, што «не дазвалялася»? Тым не менш тут прагаворана. Як у многіх іншых савецкіх фільмах. Нідзе гэты *крытычны пафас* (а недзе, скажу ад сябе, і фіга ў кішэні рэжысёраў у бок савецкай улады) рашуча студэнтамі не заўважаны, таму што разыходзіцца з тымі ідэалагічнымі клішэ, якія ў іх ужо сфармаваліся ў галовах. Напрыклад, пра добры фільм «Справа была ў Пянькове» сказана, што «ён прапагандуе савецкі лад жыцця». А калі проста паказвае рэальнае жыццё, дарэчы, з многімі недахопамі?

Усе савецкія фільмы — карціны мінулага жыцця, дакументы часу, якія нельга ні перарабіць, ні знішчыць, ні замяніць фальшыўкай — гісторыя як яна ёсць. У адрозненне ад сучасных імітацый і суцэльнай хлусні там захоўваюцца праўдзівыя рысы эпохі. Таму яны і прапанаваліся студэнтам для прагляду. Аднак моладзь жыве ў фантастычным віртуальным свеце. Нашы людзі ўвогуле ўсё больш прывыкаюць да вымыслу, да блефу, да сацыяльных міфаў.

Добры фільм «Дом, у якім я жыву» заклеймаваны таталітарызмам і сталінізмам. Яўна прачыталі ў інтэрнэце, дзе хапае несусветнага глупства. А, можа, і спецыяльна пішуць для такіх дурнічак, як мае студэнткі. «А ў чым жа яны, таталітарызм і сталінізм?», — спытала я на занятках. — «У тым, што людзі бясплатна атрымоўвалі кватэры? Былі патрыётамі сваёй радзімы, таму і адолелі ворага?» Адказу няма.

Фільм «Дажывём да панядзелка». Ніхто не звярнуў ўвагу на глыбокія, ключавыя моманты адукацыі і выхавання, актуальныя і сёння. Ніякія важныя праблемы маладых не хвалююць. Затое імі адзначана, што кватэра настаўніка Мельнікава бедная. У чым жа беднасць? Сціпласць. Але яна была характэрная і ўвогуле для таго часу, і для сапраўдных інтэлігентаў тыпу героя Вячаслава Ціханава.

Цудоўны фільм «Мужыкі». Усе студэнты сказалі пра бюракратызм савецкай сістэмы апекі над дзецьмі. Ці ведаюць маладыя людзі пра ювенальную юстыцыю ў сучасных краінах Еўропы? Аказваецца, не ведаюць, упершыню чуюць. Але ўсё пазнаецца ў параўнанні. Ды і зусім не бюракратка прадстаўніца органаў апекі ў кінастужцы. Акрамя таго, *усіх* уразіла, што герой фільма Павел пайшоў у краму і лёгка купіў паліто для дачкі. А ў СССР жа — суцэльны дэфіцыт, усе ў ватоўках хадзілі.

Некалькі студэнтаў напісалі, што не вераць (не вераць — і ўсё!) у белую форму савецкіх міліцыянераў. Залішне, маўляў, прыгожа, святочна. Вось здзівілі! Ды як бы народ у той час глядзеў кінастужкі, калі б міліцыянеры выступалі ненармальна апранутымі? Я сама цудоўна памятаю іх летнюю белую форму. Але логіка адсутнічае ў нашых дзяцей, выхаваных тэлевізарам і інтэрнэтам.

Інакш кажучы, студэнты катэгарычна не прымаюць *рэалізм* савецкіх фільмаў, лічачы, што ўсё гэта — таталітарная прапаганда.

Паказальная ацэнка кінастужкі «Дзяўчаты». Фільм ведалі абсалютна ўсе. Шмат хто з дзяўчат прызналіся, што ён у іх — любімы, што глядзелі яго не адзін раз. І пры гэтым практычна нічога істотнага ў ім не заўважылі. Скажам, ніхто

не напісаў, дзе на самай справе адбываецца дзеянне. Большасць паведаміла, што ў вёсцы на поўначы. Адна надзвычай здзівілася таму, што будуюцца дамы для жанатых людзей, бо сюжэт жа разгортваецца на пасяленні, у ссылцы, дзе ўсе — рэпрэсіраваныя (!). На пытанне выкладчыка, ці ведаюць дзеці пра леспрамгасы, адказам было маўчанне. Увогуле пра аналіз кінастужкі «Дзяўчаты» можна было б пісаць асобны артыкул. Я ўявіць не магла такіх дзіўных ракурсаў погляду на самыя звычайныя рэчы.

Такім чынам, не толькі няведанне гісторыі (яно здзіўляе да анямення) — *няведанне ўвогуле жыцця*. Аднак няведанне жыцця, бытавы інфантылізм — вельмі сур'ёзны недахоп для будучых прафесій нашых выпускнікоў, якія атрымоўваюць спецыяльнасці рэдактараў і настаўнікаў.

Для многіх сучасных маладых людзей характэрна гістарычная бяспамятнасць, татальная сацыяльна-палітычная неадукаванасць, адсутнасць здаровага патрыятызму. Таму што патрыёт не толькі той, хто любіць сваю цяперашнюю радзіму, але і той, хто любіць яе ў гістарычнай перспектыве, цэніць людзей, якія стварылі яе і ахвяравалі дзеля яе дабрабытам, здароўем і часта жыццём.

Няведанне жыцця ў яго разнастайных праявах, адсутнасць дапытлівасці, раўнадушша да існавання іншых асоб, а то і пагарда імі, пагарда чужой культурай, напрыклад, рускай — вось што хвалюе ў жыццёвых установках нашай моладзі. Напрыклад, ніхто ў групе не ведаў слова «док», увогуле марскую тэрміналогію. Можна растлумачыць невуцтва адсутнасцю мора ў Беларусі, але тое ж палажэнне з «рачной» лексікай, з «лясной». Дарэчы, практычна ўсе студэнты былі на моры, і не адзін раз. Справа ж у іншым. Паступілі на філфак, а не чыталі тых прыгодніцкіх кніг (Жуль Верна, Р. Л. Стывенсана, Д. Конрада), якія былі абавязковым і любімым чытаннем у мільёнаў падлеткаў на працягу некалькіх пакаленняў і ў якіх дзеянне часта адбываецца на моры. Выдатнейшыя рамантычныя творы, напоўненыя самай разнастайнай інфармацыяй, з сапраўднымі, а не гламурнымі героямі, для сённяшніх маладых людзей нецікавыя. Або яны спецыяльна закрытыя для навучэнцаў, юнацтва якіх без такіх кніг проста непаўнацэннае. Праўда, у нас цяпер інтэрнэт. Але патрэбна ведаць, *што* ў ім шукаць. Такога роду кнігі для чытання яўна не шукаюць.

У апошнія гады на філфак прыходзяць студэнты, якія і народных казак не ведаюць. Атрымоўваецца, што нават культавыя мультфільмы не глядзелі. А чым жа запоўнены іх мозг?

На завочным аддзяленне *паскоранай* формы навучання (людзі адразу пасля педвучылішча паступілі на трэці курс) выкладчык задавала пытанне: «У якіх творах рускай літаратуры сустракаюцца фальклорныя персанажы?» Маўчанне. Падказка выкладчыка: «Пушкін. Гогаль». Адказ студэнтаў: «Пісьменнікаў мы ведаем, але саміх твораў не памятаем». Гэта — мяжа, ніжэй якой падаць немагчыма...

Ад неадукаванасці — і махровы антысаветызм нашых студэнтаў. А справа ж ідзе пра юнацтва і жыццё іх блізкіх родзічаў — бацькоў, дзядоў. Ды праблема нават не ў антысаветызме як такім, а ў страшэннай *вузкасці мыслення, няўменні назіраць, думаць, аналізаваць, параўноўваць, праводзіць паралелі*. Калі ўзяць іх аналіз шэдэўраў кінамастацтва ў цэлым і агульны настрой, то атрымоўваецца нейкая дзікая фантасмагорыя і кашмар. Але дзеці не вінаватыя. Іх бацькам і педагогам на працягу чвэрці стагоддзя ледзь не штохвілінна, тысячы і тысячы гадзін запар, улічваючы розныя тэлеканалы і іншыя СМІ, унушалі ў размове на любую тэму, нават у перадачах пра жывёл, жахі таталітарызму і сталінізму ў СССР. Таму што рэанімацыі сацыялізму, на думку буржуазных ідэолагаў, не павінна быць ні ў якім разе — інакш прыйдзецца вяртаць скрадзенае, да яшчэ і несці адказнасць за бандытызм. І вось ідэалагічныя памыі, самая сапраўдная гебельсаўская хлусня літаральна вадаспадамі льюцца на галовы наіўных беларусаў.

Між тым, па-мойму, маладыя, тыя, каму меней за трыццаць гадоў, увогуле *не маюць права* крытычна выказвацца пра савецкае мінулае. Яны яго не ведаюць,

значыць, *час іх жыцця няма з чым параўноўваць*. Найбольш нахабныя — пісьменнікі, журналісты, рэжысёры — яшчэ і экстрапаліруюць рэаліі, часта мярзотныя, *цяперашняй капіталістычнай рэчаіснасці* ў савецкую эпоху, у якой нічога падобнага не было. Хоць, безумоўна, людзі ва ўсе эпохі аднолькавыя — добрыя, працалюбівыя, але і злыя, хцівыя. З-за апошніх і праваліўся сацыялістычны праект.

«Не судзіце, ды не судзімыя будзеце». Калі няма *паўнаты дадзеных* для разважанняў пра чалавека, краіну, той ці іншы гістарычны перыяд, калі мы не ведаем *усіх* абставін, то лепш памаўчаць.

Прывяду свежы прыклад. У ліпені 2015 г. у «Народнай волі» нашы выкладчыкі прачыталі, што за дваццаць хвілін да пачатку нападу гітлераўцаў на Савецкі Саюз (у 4 гадзіны раніцы) у Германію прайшоў чарговы эшалон з харчам, паводле заключаных паміж СССР і Германіяй ў 1939 годзе дамоўленасцей. На філфаку пачалося абсмоктванне кашмарнага факту — вось, маўляў, як сябравалі СССР і Германія, значыць, яны аднолькавыя.

Нам пра дамову Гітлера са Сталіным «бацька рускай дэмакратыі», «архітэктар перабудовы» Аляксандр Якаўлеў і яго паслядоўнікі, разбуральнікі СССР, літаральна праелі вушы на працягу ўсіх 1990-х гадоў. Але мала хто ведае, што такія ж дамовы, як з СССР, Гітлер заключыў абсалютна з усімі краінамі Еўропы. У прыватнасці, з Польшчай у 1934 г., і па гэтай дамове Польшча адхапіла сабе даволі значны кавалак Чэхаславакіі. Што ж тычыцца савецка-германскага дагавору, то, сапраўды, СССР гнаў да немцаў стратэгічную сыравіну — нафту, руду, хлеб. Але ўзамен атрымаў самы сучасны для таго часу крэйсер «Лютцаў», які Германія будавала для сябе, рабочыя чарцяжы лінкора «Бісмарк», 30 баявых самалётаў, узоры палявой артылерыі, навейшыя прыборы ўпраўлення агнём, танкі і формулы іх брані. У выніку гэтых паставак савецкія спецыялісты вывучылі ўзоры ваеннай тэхнікі будучага праціўніка і стварылі на іх аснове ўласную зброю, больш дасканалую. Акрамя таго, нямецкі бок пастаўляў у СССР гандлёвыя судны, абсталяванне для нафтавай прамысловасці, лакаматывы, турбіны, дызель-маторы, прэсы, станкі навейшых мадыфікацый, што для СССР мела не меншае значэнне, чым стратэгічная сыравіна для Германіі.

Нават калі гэтага ўсяго не ведаць, то можна было б сесці, спакойна, без істэрык, падумаць і прыйсці да высновы: вайна яшчэ не пачалася, яе адчувалі, але рыхтаваліся толькі ваенныя, а СССР, верны дамоўленасцям, акуратна пастаўляў ўсё, чым абменьваўся з Германіяй. Чыгуначнікі не ўяўлялі, што праз дваццаць хвілін з неба пасыплюцца бомбы, а эшалон стаяў падрыхтаваны. Так склалася. Але ў жыцці ўсё бывае, у гісторыі здараліся самыя розныя выпадковасці і дзіўныя супадзенні.

Такім чынам, перш чым асуджаць і адмаўляць цяжкае, драматычнае, але гераічна-цудоўнае жыццё дзядоў і бацькоў, варта было б яго добра вывучыць. Вось падстава для прапанаванай студэнтам кантрольнай работы па кінамастацтве. Прычым не магу сказаць, што не было разумных адказаў. Былі — больш за палову ад агульнай колькасці (гэтыя студэнты аказаліся разумныя і асцярожныя). І эстэтычны аналіз фільмаў праведзены дастаткова кваліфікавана. Інакш кажучы, прафесійныя веды студэнты пакуль што атрымоўваюць добрыя. Але гэта пакуль. Яшчэ працуюць выкладчыкі, якія самі вучыліся ў СССР. Многія з іх, мяркуючы па выказваннях калег, раздзяляюць погляды аўтара артыкула. Так, дэкан *гістарычнага* факультэта БДУ дацэнт С. Ходзін, выступаючы на «круглым стале» газеты «СБ», гаварыў: «Усё паціху зводзіцца да таго, што Савецкі Саюз — дрэнна, Сталін — дрэнна. Гісторыю часам жадаюць бачыць у чорна-белым колеры. Але ў жыцці шмат адценняў».

Адценні не ўлічваюцца. Не бачаць і розніцы поглядаў на адну і тую ж з’яву, у прыватнасці, на Другую сусветную вайну, нашага боку, дзе пацярпела ледзь не кожная сям’я, і заходніх краін, многія з якіх разам з Германіяй напалі на СССР. Ужо хоць бы таму пакланенне перад Захадам, які смяротна хворы і працягвае

сваю агонію, у тым ліку, за наш, славян, кошт, не павінна быць прыярытэтным у ідэалогіі і адукацыйнай палітыцы. Няўжо не бачаць беларусы, як *там* нас пазбаўляюць нашай гісторыі?! Замест таго, каб тонка і мудра паказваць загніванне Еўропы і Амерыкі (сатанізм, сацыял-дарвінізм, разбурэнне сям'і, заняпад маралі), мы працягваем з азартам танцаваць на костках пераможанага СССР. Праўда, цяпер у «развянчанні» савецкага мінулага трохі сцішыліся — не праз кожныя пяць хвілін устаўляюць у сваю гаворку чарговую хлусню ці глупства дрэнна адукаваныя дыктары і вядучыя шматлікіх перадач. Магчыма, сяму-таму вучаць падзеі ва Украіне. Але не выключана, што рэцыдыў хутка адбудзецца. Ды і цяпер ён заўважаецца, толькі дзейнічаюць прыхільнікі нашых дарагіх партнёраў, якія абкружылі нас ваеннымі базамі, больш тонка.

У *цывілізаванай краіне* аплёўванне мінулага, непавагу да драматычна-высокага жыцця продкаў варта, па вялікім рахунку, разглядаць як пошасць, больш за тое, — дзікунства. Суцэльна негатыўны падыход, *мне здаецца*, абсалютна недаравальны ў выкладчыцкім асяроддзі, паколькі кожны педагог павінен кіравацца ў навучанні *дыялектычным метадам — паказваць любую з'яву ў яе гістарычнай перспектыве, у паўнаце сацыяльных і эканамічных фактараў, з усімі плюсамі і мінусамі*. Для таго, уласна кажучы, і прызначана навучанне.

А ў цэлым адукацыю добра было б будаваць пераважна *на пазітыве*. Гэта значыць, браць з савецкага вопыту лепшае, прадуктыўнае, што мае ўніверсальнае значэнне. Сапраўды, семдзесят год існавала краіна, якая стала па большасці эканамічных паказчыкаў другой дзяржавай у свеце. Яе каштоўны вопыт, асабліва ў мабілізацыйных праектах, выкарысталі шмат якія дзяржавы, напрыклад, Японія, Кітай, В'етнам, Сінгапур, Малайзія. Нарэшце, Перамога — хіба не маюць значэння фактары, якія яе забяспечылі?! Ужо надышоў тэрмін адкінуць усё дрэннае, што было, — хоць бы таму, што пра яго сказана дастаткова, нават зашмат (як відаць па адказах студэнтаў), а ўзяць лепшае, правільнае, канструктыўнае, здольнае працаваць на будучае, ачышчанае ад ліберальнай міфалогіі.

Дарэчы, безапеляцыйныя адказы студэнтаў — ад іх бязмежнай *самаўпэўненасці* дзякуючы магчымасці атрымоўваць у інтэрнэце любыя звесткі. Але ж у галовах у нашых дзяцей бітаў інфармацыі мала. Няма ў іх базавых, патрэбных у жыцці ведаў. Яны не адрозніваюць расліны, не маюць уяўлення, дзе якія жывёлы водзяцца, не ўяўляюць механізмаў, што ляжаць у аснове сутачнага, гадавога руху сонца. Няведанне геаграфіі блізкае да той мяжы, што дэманструюць амерыканскія высокія чыноўнікі, з якіх смяецца ўвесь свет. Аднойчы на адным з заняткаў уся студэнцкая група здзівілася, што ў пустыні, аказваецца, бываюць узгоркі і скалы, і, безумоўна, ніхто мне не паверыў. Тым больш не паверылі сцвярджэнню, што ў адносінах да карэннага насельніцтва Амерыкі — індзейцаў — з боку белах заваёўнікаў ажыццяўляўся генацыд. Выходзіць, ніхто ніколі не гаварыў навучэнцам пра тое, як ствараліся ЗША і якіх ахвяр гэта каштавала.

Пра тое, што нейкія элементарныя веды для жыцця ўсё ж неабходныя, гаворыць такі нядаўні факт. У чэрвені 2015 г. некалькі гараджан, паспяховых, прыстойных людзей, добрых прафесіяналаў, заблудзіліся ў тайзе. Яны не здолелі знайсці свой «джып», у іх разрадзіліся мабільныя тэлефоны. У выніку яны... з'елі аднаго са сваіх таварышаў, бо не ведалі, чым можна харчавацца ў лесе — выйсці ж у інтэрнэт, каб даведацца, было немагчыма...

У сувязі з гэтым выпадкам мне ўспомніўся іншы, які адбыўся ў далёкія, відаць, яшчэ 1960-я гады. Баржу з савецкімі салдатамі адарвала і вынесла ў Ціхі акіян. Я нават памятаю два з чатырох прозвішчаў пакутнікаў — Зіганшын і Паплаўскі. Іх насіла па акіяне 49 дзён. Харчу на баржы не было — хлопцы елі свае рэмені. Але ідэя канібалізму ніколі не ўзнікла ў іх галовах. І ўрэшце ўсе выратаваліся. Дзве тыповыя для розных эпох сітуацыі...

Што ж тычыцца сучасных маладых людзей, то яны знаходзяць сабе апраўданне, сцвярджаючы, што ў дваццаць гадоў немагчыма ведаць рэчаіснасць добра.

Добра немагчыма, але ў цэлым... Дваццаць гадоў — гэта ж чвэрць жыцця сучаснага чалавека! А галоўнае, у нас, выкладчыкаў, ёсць магчымасць параўноўваць аб'ём ведаў — навуковых і нават бытавых — які ён быў у студэнтаў дваццаць пяць, дваццаць, нават дзесяць гадоў таму, з цяперашнім. Тыя рэформы, што праводзіліся ў постсавецкі час, карэнным чынам падарвалі інтэлектуальна-этычныя асновы ўсёй сістэмы адукацыі і навукі.

Баюся, што ў аснове абрыдлых для нас, педагогаў, рэформаў — зноў-такі ідэалагемы, якія насаджаліся сродкамі масавай інфармацыі. Іх цэнтральная думка — «не грузіць» дзяцей. Нашто вучыць вершы на памяць — загрувашчваць памяць малых? Нашто падлеткам чытаць вялікія мастацкія творы? Каму гэта патрэбна, якую практычную карыснасць велізарныя фаліянты прынясуць? Нашто вывучаць мастацкую культуру ў школе і ВНУ — няхай лепш дзеці выязджаюць за мяжу і гасцююць у замежных сем'ях. А ў студэнтаў рабочы тыдзень не павінен перавышаць 36 гадзін. Вось чаму ў нас ўсе асноўныя прадметы па гадзінах зрэзалі напалавіну. Між тым, у Кітаі студэнты знаходзяцца ва ўніверсітэтах з раніцы да вечара. І гэта правільна: ты паступіў вучыцца, значыць, павінен аддаваць сябе толькі вучобе. Міжволі ўзнікае крамольная думка, што такім чынам міністэрскія чыноўнікі (розных міністэрстваў) вырашаюць праблему занятасці малапрэстыжных рабочых месцаў, і, акрамя таго, могуць не клапаціцца пра будаўніцтва інтэрнатаў. Студэнты вымушаны працаваць (для таго ім і неабходны вольны ад вучобы час), каб зарабіць сабе на кватэру. Практыка ганебная. На маім курсе ў пачатку 1970-х гадоў (з яго выйшлі выдатныя паэты, дыпламаты, выкладчыкі) займалася 135 чалавек. І ўсе іншагароднія жылі ў інтэрнаце. Чамусьці месцаў хапала, прытым, што і замежныя студэнты ўжо тады вучыліся. Безумоўна, бытавыя ўмовы былі не такія, як цяпер, але ў тых, хто здымае «вугал» на краі горада, а такіх сёння — большасць, яны таксама не лепшыя, чым у савецкіх інтэрнатах.

Зыходзячы менавіта з меркантылізму, голай рацыянальнасці, на беларускае аддзяленне бацькі сваіх дзяцей не пасылаюць. Каму патрэбная тая беларуская мова? А міністэрства, замест таго, каб увесці ў школе, для падняцця прэстыжу нацыянальнай культуры, экзамен ці сачыненне па беларускай літаратуры, скарачае і скарачае наборы на беларускую філалогію. 20 чалавек у БДУ — цэнтры, без перабольшання, *сусветнай беларусістыкі...* Ці не ганьба?! Да дыплома дойдзе не больш 8—10 чалавек, таму што, шчыра кажучы, слабенькія — самыя слабыя з усіх абітурыентаў. Раней мы іх «дацягвалі», і пасля пятага курса выходзілі зусім прыстойныя філолагі. Цяпер няма калі «дацягваць» — навучанне скарочана да чатырох гадоў. Яшчэ адна кардынальная рэформа, а мы яшчэ ад папярэдніх апрытомнець не паспелі.

У чыноўнікаў, якія ўводзілі аптымізацыю — чатырохгадовае навучанне, як быццам, спрацавала нармальная логіка: мы ж маем сучасныя тэхналогіі, інтэрнэт. У Акадэміі Платона і ў Ліцэі Арыстоцеля асноўнае навучанне — менавіта пяць гадоў. Але ў нас трэцяе тысячагоддзе! Між тым, веды з інтэрнэту не пераходзяць непасрэдна ў структуры памяці людзей — для іх засваення неабходны час. Мазгі чалавека не змяніліся. Тысячагадовая практыка пацвярджае: для базавых ведаў па той ці іншай спецыяльнасці неабходна як мінімум пяць гадоў. Не мае значэння, адкуль веды паступаюць у галаву: мы сядзелі ў бібліятэках, сучасныя дзеці — у інтэрнэце. Але адукацыя для таго і неабходная, каб веды аказаліся засвоенымі па пэўных методыках, трывала ўкладіся ў мазгі, былі правераны на практыцы.

Знакаміты рускі педагог Дзмітрый Ушынскі ўсе веды раздзяляў на неабходныя, карысныя і прыемныя. Савецкая школа асноўную ўвагу надавала ведам *неабходным*, даючы фундаментальную адукацыйную падрыхтоўку. Сёння — прыярытэт ведам *карысным*. Але вузка прафесійны падыход не дае поўных уяўленняў пра свет. А ў гэтым свеце нашым дзецям жыць.

Сучасная педагагічная сістэма ў многім глыбока шкодная і ганебная. У студэнтаў 1 курса, якія толькі прыходзяць да нас на факультэт, няма ўвогуле ніякага

парадку ў мазгах адносна гісторыі, літаратуры, геаграфіі, культуры. Школа не ўпарадкавала, ды і ўвогуле ведаў не дала (выпускнікі ліцэяў — намнога лепшыя, чаму б не распаўсюдзіць ліцэйскую методыку на ўсю школу?). Уласна, упарадкоўваць веды — наша, універсітэцкіх выкладчыкаў, задача. Але было б што... І быў бы час...

Не валодаючы ведамі, маладыя людзі, дзякуючы тэлевізару і інтэрнэту, адкінуты ў свет выключна акустычных і зрокавых вобразаў. Але яны не могуць талкова распавесці пра ўбачанае. Канкрэтныя зрокавыя вобразы не асэнсоўваюцца (або асэнсоўваюцца на аснове ментальных шаблонаў, што і паказаў аналіз кінастужак студэнтамі) і з цяжкасцю перадаюцца з дапамогай вербальных сродкаў. Таму я, сама вельмі шырока карыстаючыся прэзентацыямі, пачынаю ў іх сумнявацца. Безумоўна, адмаўляцца не збіраюся, але лічу, што *патрэбен час* і на паказ прыгожых малюнкаў, і на іх асэнсаванне, перавод у слоўнае афармленне. Без гэтага не існуе філалагічнай адукацыі.

Шкоднасць адукацыйнай сістэмы бачыцца, перш за ўсё, у *тэставай* форме праверкі ведаў. Яна абсалютна сябе не апраўдвае. Гэта прыклад неразумнага запазычання з Захаду (на жаль, не першы прыклад і не апошні). Прамежкавая бягучая форма кантролю пераведзена ў асноўную, выніковую па ўсіх дысцыплінах. У рэшце рэшт, мы ёю авалодалі (відаць, гэты этап быў неабходны, хоць бы для таго, каб зразумець яго дурасць), але сродак сябе вычарпаў — неабходна *ісці далей*, распрацоўваць іншыя формы і метады праверкі ведаў. Магчыма, на аснове сінтэзу розных этапаў з гісторыі адукацыі, у тым ліку, савецкага.

Формы, метады, прыёмы *падачы* вучэбнага матэрыялу выкладчыкамі ўжо адпрацаваны добра, у тым ліку, падачы з дапамогай інтэрнэту. Але *аддачы* ад навучэнцаў няма. Проста давайце гэта шчыра прызнаем. Па гуманітарных прадметах, відавочна, неабходна вярнуцца да сачынення, якое злучае ў сабе вынікі авалодання школьнікамі пісьмовай мовы з логікай іх мыслення, з навыкамі разважанняў і з дэманстрацыяй чытацкага вопыту. І паступленне на беларусістыку варта было б (у незалежнай краіне жывём!) штучна стымуляваць. Скажам, усім прадставіць інтэрнат, павысіць стыпендыю ў параўнанні з іншымі аддзяленнямі. Дзеці б адчувалі павагу да роднага!

Кардынальныя недахопы адукацыі маюць, як мне здаецца, глыбока анталагічны характар. Выкажу крамольную думку. *Прагматызм* ва ўмовах сусветнай рынкавай эканомікі настолькі ўкаранёны, што ніхто нават і не думае пра *альтэрнатыўныя падыходы*. Між тым адукацыя не павінна быць другаснай у адносінах да эканомікі. Не бізнес дыктуе адукацыі, якою ёй быць, а, наадварот, адукацыйная карпарацыя як найбольш інфармаваная частка грамадства прызвана, без катэгарычнага прыціску, задаваць *накірунак развіцця* матэрыяльнай і духоўнай сферы, таму ж рынку і ўсяму грамадству ў цэлым. Хоць бы таму, што рынак пазбаўлены агульных сэнсаў і глыбока амаральны, а неабходна якраз усебакова павышаць узровень *маральнасці, гуманнасці* ў народзе — для таго, каб грамадства працягвала існаваць і развівацца.

Мэта адукацыі — разняволенне *духоўнай цэласнасці ў чалавеку і далучэнне яго да скарбаў нацыянальнай і сусветнай культуры*, як гэта робіцца, дарэчы, у Кітаі. Галоўнае — навучыць дзяцей *думаць*. (Хоць гэта супярэчыць задачам рынку — сфармаваць чалавека-спажыўца). Але навучыцца думаць немагчыма без авалодання пэўнай *сумай ведаў*. Сёння асноўная задача — не «набіць» імі галовы навучэнцаў, а выкарыстаць для развіцця мозгу, крэатыўных здольнасцей маладых людзей. Механічнае завучванне, на якое, па сутнасці, арыентавана Балонская сістэма і наша бюракратыя, не прывядзе да прарыву ў адукацыі.

Аднак развіццё мыслення — даволі доўгі працэс. І таму, зноў паўтараю, перавод навучання ў ВНУ на чатыры гады перакрэслівае, уласна, вышэйшую адукацыю як такую, ігнаруе тысячагадовую, укаранёную з часоў Антычнасці, традыцыю. Даўжыня традыцыі, як мне здаецца, не магла не замацавацца *генетычна*.

Значыць, яе ігнараванне — фактычна гвалт над прыродай чалавека, які пакуль не здольны паскорана авалодаць ведамі (мозг непасрэдна не злучаны з камп'ютарам), нават ведамі бытавымі, што я і імкнулася паказаць, прыводзячы адказы студэнтаў-філолагаў на канкрэтныя пытанні адносна савецкіх кінастужак.

Агульны высокі ўзровень адукацыі — базіс і для навуковых адкрыццяў. Вельмі часта, як сведчаць знакамітыя вучоныя, ідэі прыходзяць на стыку навук ці ўвогуле ад знешняга штуршка, нейкай яркай дэталі, вобраза. Механізм адкрыцця надзвычай складаны і наўрад магчымы па замове, па загадзе, па плане. Інакш кажучы, патрабаванне *хуткай аддачы* ад навукі ў прынцыпе няправільнае. Даследчык павінен ствараць навуковы прадукт у *творчым асяроддзі* — лічыць лаўрэат Нобелеўскай прэміі Жарэс Алфёраў. Гэтаму прысвечаны амаль ўсе яго выступленні. Але асяроддзе неабходна забяспечыць. Вось задача для работнікаў сістэмы адукацыі і для чыноўнікаў. Бюракратызацыя, надзвычай характэрная для Балонскай сістэмы, куды нас зацягнулі, наадварот, разбурае любую творчую атмасферу, бо робіць даследчыка, прафесара ўніверсітэта максімальна несвабодным, проста *падтанцоўкай* для чыноўнікаў. Адсюль і нежаданне маладых людзей ісці ў навуку. За апошнія час аспірантура на беларусістыцы і на русістыцы фактычна сканала — дзеці не прагнуць займацца доследамі, ды і нам няма з каго выбіраць: іх проста мала. Некалькі гадоў запар мы стабільна не дабіраем студэнтаў у магістратуру. Не можам прапанаваць выпускнікоў нават на працу ў Акадэмію навук. Вось вынік *падрыхтоўкі* да ўваходжання ў Балонскі працэс.

Сапраўды, да прызнання нас «Балонкай» беларуская вышэйшая школа ў асобах яе ўладных структур мэтанакіравана рыхтавалася некалькі гадоў. Усе этапы падрыхтоўкі можна прасачыць, і *кожны разбураў базавыя асновы філалогіі, іншых гуманітарных навук*. Я пішу непаважліва, бо з маіх калег толькі каля аднаго працэнта прыхільна паставіліся да Балонскай сістэмы. Ды і нашы замежныя калегі з краін, якія ўжо даўно ў «Балонцы», рашуча яе асуджаюць.

Асабліва часта нам у апошнія гады паўтаралі, што адукацыя, паводле Балонскай сістэмы, — *сфера паслуг*. Я з абурэнне пісала не раз, што мы, выкладчыкі, раней адчувалі сваю прафесію як *місію, як служэнне*, таму шмат што рабілі бескарысліва, а нас ператварылі, быццам касметолагаў у салонах прыгажосці, у звычайных служак: каб прыніжана маўчалі, думалі толькі пра заробак, дарэчы, зусім невялікі, і не памяталі пра сваю місію выхавання духоўнага чалавека. Увогуле думаць за нас будуць іншыя — міжнародныя структуры, задача якіх — пошук і размеркаванне рабочай сілы для транснацыянальных карпарацый.

Шкодная тэорыя паслуг у сістэме адукацыі разбурае сістэму як такую. Усё тут накіравана на тое, каб дагадзіць студэнтам і іх бацькам — сваім кліентам, якія аплачваюць паслугі. Адсюль і імкненне ў Балонскі працэс, таму што гэтага прагнуў *абывацель*. Аднак адукацыя не можа быць таварам. Не варта з выкладчыкаў рабіць маркетолагаў. *Іх справа — даваць веды, а не прадаваць іх.*

Дарэчы, нашы дарагія кіраўнікі ад адукацыі, не адмаўляючыся ад прарэктараў і намеснікаў дэканаў па выхаваўчай рабоце і патрабуючы ад іх такую работу ў поўным аб'ёме, не бачаць супярэчнасці ў сваіх патрабаваннях. Мы чарговы раз апынуліся ўнутры *нонсэнсу*. Калі мы прызваны аказваць адукацыйныя паслугі, то мы не можам і нават не маем права ніяк *уздзейнічаць* на сваіх пакупнікоў.

Ясна, што гэта глупства. Безумоўна, любая вучэбная ўстанова немагчымая без сувязі адукацыі і выхавання. Але тое, што ў нас *лічыцца* выхаваннем, проста ператвараецца ў сістэму мерапрыемстваў, якія, зноў-такі, можна лічыць паслугамі — робім тое, што падабаецца студэнтам: праводзім конкурсы прыгажосці, розных «міс» і «містэраў» факультэтаў, універсітэтаў.

Выкажу ўласную думку, якая, безумоўна, разыходзіцца з агульнапрынятай. Я за сорак гадоў выкладання не бачыла непрыгожых дваццацігадовых людзей. Кожны па-свойму прывабны. Толькі неабходна ўмець убачыць іх чалавечую прывабнасць, раскрыць яе. Гэтаму не вучым. А выбар нейкай адной «міс» ці «містэ-

ра» — абраза для іншых, больш сціплых, якія не лезуць крыўляцца на подыум. У той час як якраз сціпласць — вышэйшы крытэрый чалавечай прыгажосці. Акрамя таго, і па форме такія імпрэзы — пошасць ва ўсім, пачынаючы ад назваў конкурсаў (чаму «міс» і «містэр»? Ахінея!). Розныя спаборніцтвы, конкурсы, фестывалі неабходныя, але афармляць іх трэба інакш. Акрамя таго, гэта ж не выхаванне. Непатрэбна забаўкі падводзіць пад выхаваўчы працэс.

Відаць, выхаванне, як і адукацыя, — *правядзенне ў жыццё* ідэалогіі дзяржавы, інакш кажучы, замацаванне ў свядомасці людзей яе галоўных мэт і задач.

І вось цяпер зноў пра ідэалогію.

Незалежная Беларусь існуе каля чвэрці стагоддзя. Калі ўспамінаеш станаўленне дзяржавы, пачатак 1990-х гадоў, то не можаш не парадавацца маштабу зробленага за кароткі гістарычны перыяд. Створана краіна прыгожая, дагледжаная, з сацыяльна абароненым насельніцтвам. У нечым захоўваюцца, хоць паступова знішчаюцца, лепшыя савецкія традыцыі, якія працягвае, перш за ўсё, старэйшае пакаленне.

Моладзь — прадукт новай эпохі. Яна жыве падчас магутнага навукова-тэхнічнага, тэхналагічнага парыву, абумоўленага, у тым ліку, задзелам, створаным у СССР, а таксама вынікам спаборніцтва дзвюх грамадскіх сістэм — сацыялізму і капіталізму.

Аднак ні разу ў гісторыі чалавецтва, якую моладзь абсалютна не ведае, кардынальная мадэрнізацыя, прагрэс, перыяд імклівага пад’ёму не цягнуўся больш за сто гадоў, а за ім абавязкова ішлі войны, рэвалюцыі, міжусобіцы, агульная нестабільнасць жыцця, заняпад ва ўсіх сферах культуры. Праўда, мы яўна знаходзімся ў *кропцы біфуркацыі*, а значыць, сістэма няўстойлівая, і ёсць магчымасць выбару. Калі сусветная эліта і арыентаванае на *геданізм* насельніцтва зменяць свае жыццёвыя ўстаноўкі і прыярытэты, адмовяцца ад хцівасці і эгаізму, то ў будучым, услед за інфармацыйнай, настане *творчая рэвалюцыя*, кардынальнае вырашэнне экалагічных і дэмаграфічных праблем, упарадкаванне па законах прыгажосці роднай планеты і росквіт культуры ўсіх народаў. Аднак гэта патрабуе разумных абмежаванняў у прадстаўленні камфорту, хоць і абяцае годны ўзровень жыцця для *ўсіх* членаў грамадства, а не для *залатога мільярда*.

У сувязі з няўстойлівай раўнавагай, агульнай нестабільнасцю жыцця, нават і ваеннай, яўна *пераходным перыядам*, паўстае пытанне — да чаго рыхтаваць моладзь: да імклівага прагрэсу з яго нарастаючымі, як лавіна, супярэчнасцямі, або да магчымых цяжкасцей і аскетычнаму самаабмежаванню дзеля захавання агульнага дома — Зямлі?

І тое і тое, безумоўна, крайнасці. Шлях, заснаваны на рацыянальнасці, а не на веры ў Бога, непрадказальны, і ўсё ж ён, відаць, не абыдзецца без абмежаванняў ва ўсім. Якім будзе будучае грамадства — загадка. І моладзь неабходна рыхтаваць не столькі да ўмення прыстасоўвацца ў розных няпростых сітуацыях, колькі да навыку рашаць *нестандартныя задачы*. На аснове конкурсаў прыгажосці праблему крэатыву яўна не вырашыць.

Інакш кажучы, у сістэмы адукацыі, як і ў грамадства, павінна быць яскрава акрэсленая *мэта, стратэгія, вызначаны шлях развіцця*, прытым з улікам таго, што ўпраўляць змадэляванай гісторыяй, як імкнуцца *ўладары свету* (300 найбольш уплывовых і багатых сем’яў, кіраўнікі вядучых банкаў і 147 ТНК), на самай справе, немагчыма — яна стыхійная і можа падкідваць непрадказальныя варыянты падзей, нават непраўдападобныя сцэнарыі. Хто два гады таму, калі не верыць у тэорыю «сусветнай змовы», меркаваў пра грамадзянскую вайну на тэрыторыі Украіны?

Адсюль першая выснова, якую можна вывесці на падставе назіранняў за бягучым жыццём: нельга ў стратэгіі адукацыі і выхавання зыходзіць з вузкапрагматычных, толькі злабадзённых эканамічных мэт, хоць, безумоўна, іх неабходна ўлічваць і па меры неабходнасці карэкціраваць.

Другая выснова. Тое, што ў апошнія гады здараецца недабор на некаторыя важныя для рэспублікі спецыяльнасці — трывожны сігнал. Акрамя розных іншых прычын назаву, як мне здаецца, асноўную: маладыя людзі не думаюць развіваць пэўныя айчынныя галіны вытворчасці і навукі, таму што не збіраюцца аставацца ў Беларусі, а на Захадзе прыярытэтныя для нас спецыяльнасці (тая ж беларусістыка) — непатрэбныя.

Адштурхоўваючыся ад гэтай думкі, спынюся на шаблонах мыслення, грамадскіх міфах, стэрэатыпах свядомасці, якія паспяхова культывуюцца нашымі СМІ, паколькі агульнакультурная атмасфера — той фон, які ў многім вызначае тактыку ў сістэме адукацыі.

У мяне вялікае кола знаёмых — вучоныя, пісьменнікі, сотні вучняў — студэнтаў, якія закончылі наш факультэт. Я агледзелася вакол, падлічыла: кожны чацвёрты, калі не трэці з маіх знаёмых, або сам з'ехаў за мяжу, або адправіў туды дзяцей. А гаворка ж ідзе пра інтэлігенцыю, золата нацыі, людзей найбольш творчых, адукаваных, актыўных.

Падставы для ад'езду — зусім не цяжкасці жыцця, а ўбіты ў мазгі не толькі маладых людзей, але і ўмудроных дарослых, комплекс пакланення перад Захадам, упэўненасць у нашым адставанні ад Еўропы, перакананне, што там — усё лепшае, а жыццё больш камфортнае, свабоднае, вясёлае. Гэты комплекс выяўляецца ў мностве рэчаў: ад вулічных шыльдаў і моўных клішэ да рэйтынгаў універсітэтаў.

Безумоўна, вельмі важна выглядаць у свеце прыстойна, але гэта не павінна стаць асноўнай мэтай. Між тым, што тычыцца майго роднага ўніверсітэта — БДУ, то так у апошнія гады і адбывалася: шалёная гонка за высокі міжнародны рэйтынг. Але як паказала практыка, *айчынных* абітурыентаў і іх бацькоў мала цікавіць рэйтынг вучэбнай установы на міжнароднай арэне, у іх — іншыя прыярытэты, скажам, прадстаўленне дзецям інтэрнатаў, што ў нас пакуль не на вышыні.

Тое ж тычыцца патрабавання абавязковага супрацоўніцтва з міжнароднымі структурамі, якое, сапраўды, выключна карыснае, калі гаворка ідзе пра жалезкі і бяздушныя прыборы, але не заўсёды бяскрыўднае адносна гуманітарных праблем. Так, у выніку надзвычай дзейснага супрацоўніцтва з Альдэнбургскім універсітэтам у нас, нягледзячы на супраціўленне часткі прафесуры, прапагандуецца ў выкладанні літаратуры гісторыка-літаратуразнаўчая тэорыя Бурдзё, разбуральная для правільнага разумення гісторыі XX стагоддзя і крыўдная для гонару былых савецкіх людзей. Тое ж тычыцца і канцэпцыі «малых літаратур» (менавіта так называецца сумесны з Германіяй праект). Калі беларуская літаратура — «малая», інакш кажучы, прымітыўная, нікчэмная, нічога не вартая (еўрапейцы, нашы партнёры, менавіта гэта і маюць на ўвазе, і незаўважна, праз нашых жа людзей, праводзяць ідэю ў СМІ), то не дзіва няведанне народам твораў генія беларускай літаратуры Якуба Коласа. Пагарду да культавага аўтара прадэманстравалі ўдзельнікі не аднаго, а некалькі конкурсаў на Беларускім тэлебачанні і радыё.

Непавага да свайго і пакланенне перад замежным часта ідзе ад *перабольшанай* увагі да такога вось мірнага супрацоўніцтва, наладжвання шматлікіх міжнародных імпрэзаў, абавязковага абмену студэнтамі і аспірантамі (а «Балонка» гэта прадугледжвае ў першую чаргу), інакш кажучы, ад жадання абавязкова стаць упоравень з лідарам (Захадам). Між тым, як піша дэкан Вышэйшай школы тэлебачання МДУ Віталь Траццякоў, «не заўсёды важна быць першым. Калі той, хто паперадзе цябе, бяжыць прама ў бездань, не задача — дагнаць яго. Варта быць як мінімум другім. А лепш звярнуць убок».

На Захадзе поўна сваіх праблем, глупства і брыдоты, хлусні і несвабоды. Далёка не ўсё там так рацыянальна, разумна і маральна, як здаецца некаторым нашым наіўным людзям. Шмат якія ідэі, што ўзніклі на Захадзе, не прынеслі чаканых вынікаў. Праўда, узровень там камфорту пакуль што вышэйшы, але не так і істотна. І не таму, што ў нас ён павышаецца, а таму што ў іх зніжаецца! Без-

умоўна, тут нам сапраўды неабходна вучыцца лепшаму, улічваць запатрабаванні замежных турыстаў. Але спакойна, без апалагетыкі, без заглядвання ў рот, без любавання, без гаварэння з захлынаннем пра «дасягненні» амерыканскай і еўрапейскай культуры, без дзясяткаў тупых галівудскіх фільмаў у тыдзень па дзяржаўных беларускіх каналах. Калі ўжо мудрэйшы з мудрых Папа Рымскі Бенедыкт XVI раіў еўрапейскім бацькам паказваць дзецям савецкія мультфільмы, каб выхаваць у іх дабрыню, то, відаць, мы сваіх дзяцей павінны на тым жа выхоўваць.

Прасцей кажучы, у любой размове пра краіны Захаду неабходна здаровая аб'ектыўнасць, а недзе і добры гумар, нават прыхаваная іронія.

Няхай бы ідэалагічныя работнікі, журналісты, настаўнікі і выкладчыкі ВНУ задумаліся, колькі дзясяткаў разоў за адзін дзень звычайны чалавек чуе з разных месцаў, з розных вуснаў, часта надзвычай аўтарытэтных, узвелічэнне чужой нам цывілізацыі. Але гэта не толькі не хвалюе нашу эліту, а, наадварот, яна надзвычай актыўна пасылае сваіх дзяцей вучыцца выключна на факультэт міжнародных адносін або на нашы аддзяленні замежных моў філфака, і ўсё з разлікам адправіць дзяцей чым далей ад роднай зямлі.

Адразу адводжу абвінавачванні ў рэакцыйнасці і саветызме. Я сама трыццаць гадоў выкладаю дысцыпліну «Гісторыя і тэорыя сусветнай культуры» (і яшчэ дзевяць розных прадметаў) і заклікаю і студэнтаў, і калег, а ў сваіх публікацыях і чытачоў, вывучаць сусветную гісторыю і культуру як мага *шырэй і глыбей*. У мяне больш за сто друкаваных прац па культуры розных краін і рэгіёнаў на беларускай і рускай мовах, ёсць кнігі. І супрацоўніцтва з міжнароднымі структурамі, безумоўна, ні ў якім разе не адмаўляю. Але толькі ва ўсім неабходна разумная *мера*. Паважай, добра ведай чужую культуру, але перш ведай і любі сваю. Вось градацыя — «паважаць» і «любіць». Інакш кажучы, як выхаваць сапраўдных патрыётаў, якія заўсёды і вышэй за ўсё ставяць *сваё*?

Любоў пачынаецца з нераўнадушша да сваёй гісторыі, неверагодна складанай і трагічнай. Аднак каб спасцігнуць складанасць, неабходны *гадзіны* на вывучэнне, на чытанне адпаведных тэкстаў, на прагляд кінафільмаў. Інакш, без спасціжэння *праз вобразы*, гісторыя не робіцца часткай індывідуальнай памяці чалавека, не ўваходзіць у свядомасць, не замацоўваецца ў ёй. Падручнікі тут не спрацоўваюць.

Ды нават сучаснасць з яе, шчыра кажучы, шматлікімі праблемамі цяпер у свядомасць не ўваходзіць — яе не дапускаюць, адштурхоўваюць, бо перашкаджае забаўляцца. Шмат якія маладыя людзі жывуць у віртуальным свеце — гульні, галівудскае кіно, у асноўным фэнтэзі і дэтэктывы, спорт, анекдоты. Як я высветліла, пераважная большасць студэнтаў навіны не глядзяць, не слухаюць — зрэдку прабягуць у інтэрнэце. Поўнае раўнадушша да падзей у свеце. Якія сайты яны адкрываюць, у якіх форумах удзельнічаюць — прасачыць немагчыма. Тут поўны хаос. Такі ж у мазгах, адсюль — этычны рэлятывізм.

Дзеля эканоміі, пад лозунгам «аптымізацыі адукацыі», мы адмаўляемся менавіта ад тых элементаў адукацыі, якія адыгрываюць галоўную ролю ў захаванні маральнага здароўя нацыі, у выхаванні крэатыўных асоб і сапраўдных патрыётаў. Выдумляць у ідэалогіі нічога не патрэбна: ёсць цудоўная беларуская літаратурная класіка, у тым ліку савецкая літаратура — аснова для засваення ўсіх базавых каштоўнасцей і высокай маралі. Застаецца толькі дзяцей ёю зацікавіць. Праўда, зацікавіць цяжка, калі сам «дух часу» не дазваляе. Сапраўды, выхоўвае сацыяльна-псіхалагічная «атмасфера», а не спецыяльныя акцыі. І ўсё ж «атмасферу» ствараем мы. Таму варта было б памятаць чыноўнікам, журналістам і абывацелям, што непавага да мастацтва, да гуманітарных навук, у рэшце рэшт, прывядзе да зніжэння якасці жыцця, калі пад гэтым паняццем разумець не толькі матэрыяльны дабрабыт.

Для сучаснага этапу развіцця характэрна *мазаічнасць* успрыняцця рэальнасці ў маладых, ды і ў старэйшага пакалення. Элементы рэальнасці паўстаюць у свядомасці як цэласная рэальнасць. Для беларусаў гэта асабліва характэрна дзякуючы нашай талерантнасці, актыўнаму «заглытванню» самых розных уплываў.

У такіх умовах нельга рабіць мазаічным яшчэ і адукацыю, што менавіта і адбылося, а цяпер дзякуючы «Балонцы» проста ўводзіцца ў прынцып. Так, абсалютна разбуральныя розныя вучэбныя модулі. Адны студэнты выбіраюць адны дысцыпліны, іншыя — другія. Цэласная карціна светабудовы і стану гуманітарнай навукі ніяк не фарміруецца. У выніку маем у дзяцей *кліпавае* мысленне. Чалавек з такім мысленнем на творчасць не здольны, затое лёгка паддаецца маніпуляцыям.

Разбураецца і ўніверсітэцкая навука. Скажам, для некалькіх студэнтаў, якія выбралі мой прадмет, а на наступны год могуць і зусім не выбраць, я не буду ствараць манаграфіі, падручнікі, пісаць артыкулы. Няма сэнсу паглыблена працаваць над праблемай.

«Аптымізацыя адукацыі» не азначае механічнага знішчэння ўсяго, што раней лічылася класічным. Увогуле перш чым бурыць стагоддзямі (менавіта стагоддзямі) заведзены парадак, гістарычную традыцыю, разумна абумоўленую ўмовамі чалавечага ўспрыняцця інфармацыі, неабходна было правесці педагагічны эксперымент: увесці чатырохгадовую адукацыю на адным факультэце, дачакацца выпуску, даць кантрольныя «зрэзы» па асноўных дысцыплінах, параўнаць з выпускам «пяцігадовак». І калі адрозненняў мала, запускаць праект ва ўсіх ВНУ рэспублікі. Нічога і блізка падобнага зроблена не было. Між тым, скажам, у Аўстрыі зусім не пераходзяць на «Балонку» і нічога не змяняюць у сваёй сістэме адукацыі, наадварот, культывуюць нацыянальныя традыцыі. Прадбачу аспрэчванне: Аўстрыя — краіна багатая, можа сабе дазволіць. Але ж у нас за плячыма савецкі вопыт у разбуранай войнамі і рэвалюцыямі краіне, якая ў пачатку 1990-х гадоў выйшла практычна на першае месца ў свеце па ўзроўні адукацыі.

Я ўсяго толькі паставіла пытанні і заклікаю да прадуманасці, разліку і *навуковай абгрунтаванасці* ўсіх рэформаў у адукацыі і фармаванні ідэалагічных мадэлей. Пры гэтым падкрэсліваю, што пакуль усе рэформы арыентаваліся на *заходні вопыт*. Але аддачы ад іх няма, наадварот, разумовая дэградацыя дзяцей ідзе імклівa (ва ўсім свеце), і таму варта нешта рабіць.

Погляд толькі ў адзін бок вельмі перашкаджае творчаму развіццю, свабодзе, магчымасці быць сабою. І калі ў тэхнічных, прыродазнаўчых дысцыплінах міжнароднае супрацоўніцтва неабходнае і абавязковае, то ў гуманітарных яно спрэчнае. У той жа час мы для свету цікавыя менавіта сваёй самабытнасцю, народнай культурай — фальклорам, этнаграфіяй, мастацтвам. Пры гэтым ёсць тэндэнцыя ўсё названае развіваць толькі на ўзроўні *паслуг* для турыстаў. Такая небяспека існуе. Скажам, навуковыя, раней фундаментальныя дысцыпліны міфалогія і фальклfavорыстыка на філфаку сталі аднымі з апошніх — яны па выбары саміх студэнтаў. Фальклор, беларускую культуру у нас фактычна «закрылі». Як і ўвогуле закончылі з *класічнай* філалагічнай адукацыяй, паставілі на ёй крыж.

Між тым нельга сказаць, што ўлады Беларусі (перш за ўсё Прэзідэнт і яго Адміністрацыя) не клапоцяцца пра патрыятычнае выхаванне насельніцтва. Праводзяцца шматлікія акцыі (напрыклад, адраджэнне вытворчасці слуцкіх паясоў), рэстаўрыруюцца сядзібы і палацы, адзначаюцца святы з улікам нацыянальных традыцый, кожны месяц дзеячы культуры атрымоўваюць розныя прэміі і званні. У многім гэта і ёсць фармаванне «атмасферы». Але насельніцтва ўжо настолькі настроена на спажыванне, што і ўсё, для яго зробленае, толькі спажывае, успрымае як віды шоу, формы забавак. Інакш кажучы, усё, што робіцца, а робіцца, сапраўды, шмат, бачыцца як фон, умова камфортнага жыцця.

*Пазнавальная цікаўнасць* адсутнічае, адсюль і закрыццё ўніверсітэцкай навукі, адсюль і ганебныя конкурсы. Толькі забаўкі. І няма любові. Тое, што прыемна для вока ці для страўніка, сузіраецца і ўспрымаецца раўнадушна, з упэўненасцю, што на Захадзе ўсё роўна лепш. Ну, няхай нават і лепш. Пакуль. А ты зрабі, каб лепш было ў нас. І было ж — у СССР: лепшая адукацыя, лепшы кінематограф, балет, літаратура, навука. Ды не цанілі. Як і сёння не цэнім тое добрае, што ў краіне ёсць. А недахопы, абумоўленыя самім *палажэннем рэчаў* (рынкавай неспра-

вядлівай эканомікай, дзікім капіталізмам, калі аднаму працэнту жыхароў Зямлі належыць палавіна ўсіх багаццяў свету!), абывацелі звязваюць з асобай аднаго чалавека, не задумваючыся, як, у якіх умовах ён працуе.

У краіне праводзіцца мудрая рознавектарная палітыка: Беларусь супрацоўнічае як з Захадам, што, безумоўна, карысна, так і з Усходам. Ды толькі супрацоўніцтва ў галіне эканомікі, палітыкі, нават культуры — не тое, што ідэалогія дзяржавы. Галовы ўсё роўна павернуты толькі ў адзін бок.

Праўда, адна цэнтральная ідэалагічная лінія ў нас праводзіцца пэўна і яскрава — памяць пра Перамогу ў Вялікай Айчыннай вайне і ўсведамленне сябе народам-пераможцам, які пераадолеў цяжкасці і ажыццявіў шматвяковую мару пра незалежную краіну. Гэта на самай справе тое, што *пакуль* цэментуе нацыю. Але ветэраны, на вялікі жаль, адыходзяць, а маладыя людзі, нягледзячы на выхаваўчыя акцыі ў школах і ўніверсітэтах, пра ваенныя гады ведаюць недаравальна мала, ды і не жадаюць ведаць, як я пераканалася, прапануючы паглядзець кінастужкі на ваенную тэму. Зноў-такі, «не грузіце» нас трагедыямі, і без таго жыццё страшнае. Акрамя таго, некаторыя з маіх калег кіруюцца ў размовах пра Перамогу не сур'ёзнымі доследамі, а бульварнымі аповедамі. А ў бульварных СМІ асноўны капітал — блеф.

У Айчыннай вайне перамог Савецкі Саюз. Ён для нашай эліты — не каштоўнасць. Пра яго няма ў яе шкадавання. Яна і ў часы СССР, нядрэнна ўладкаваўшыся, часта трымала фігі ў кішэнях, і цяпер робіць тое ж. Што ж інтэлігенцыі патрэбна?

Перш за ўсё яна патрабуе поўнай свабоды, талерантнасці, адмаўлення ад любой нормы, якая ўжо ўспрымаецца ледзьве не фашызмам, ва ўсялякім разе, савецкім таталітарызмам (адмаўленне ад нормы — класічнай адукацыі — таксама ў гэтым рэчышчы). Аднак калі ўзяць палітыку, то, стаўшы на пазіцыю талерантнасці, можна сказаць: у дзяржаве, якой кіруе, як сцвярджаюць заходнія і апазіцыйныя айчынныя СМІ, «апошні дыктатар Еўропы», сапраўднай дэмакратыі намнога больш, чым у самых «дэмакратычных» краінах, дзе, на самай справе, пануе жорсткая цэнзура, а мазгі насельніцтва ўжо прамытыя поўнасцю і канчаткова.

Доказы? У нас чалавек можа публічна, ва ўсялякім разе, сярод калег і студэнтаў, выказвацца супраць улад, рэгулярна выступаць па радыё «Свабода» і ў апазіцыйнай прэсе, але будзе нармальна працаваць на *дзяржаўнай* службе, больш за тое, атрымоўваць узнагароды і званні. І гэта правільна.

У краіне сцверджана, як, можа, нідзе на постсавецкай прасторы, канфесійная згода і поўная талерантнасць. І ўсё ж у нейкіх аспектах перакос у адзін бок, як выдатна паказаў у сваіх апошніх па часе артыкулах прафесар Іван Чарота, безумоўна, ёсць. Напрыклад, у Мінску дзве вуліцы Каліноўскага, але ніводнай — Я. Карскага, выдатнага рознабаковага даследчыка. Ведаць сваю гісторыю і культуру неабходна ў як мага большым аб'ёме, у тым ліку паўстанні Касцюшка і Каліноўскага, дзейнасць магнатаў Радзівілаў, хоць яны і збіралі па ўсёй Еўропе старадаўнія рукапісы пра гісторыю славян і знішчалі іх. Карацей, усё неабходна ведаць, але *не ўсё павінна рабіцца ідэалагічнай базай* адукацыі і выхавання, як пакуль у нас *на практыцы* адбываецца. Тут нельга сядзець адразу на двух крэслах — абавязкова правалімся паміж імі. Ідэалогія — тыя ідэалы, якімі варта кіравацца, да якіх неабходна імкнуцца. Нельга жыць без базы і мэты.

Прыйшоў час вызначыцца: мы *нашчадкі пераможцаў* над фашызмам ці мы *нашчадкі Касцюшкі і Радзівілаў*. Безумоўна, Касцюшкі — скажуць многія прадстаўнікі нашай інтэлігенцыі і амаль усе студэнты. Хоць я сумняваюся: на маю думку, нашчадкаў буйной шляхты ў нас усё ж такі намнога менш, чым нашчадкаў простых сялян. Значыць, павінна ўлічвацца перш за ўсё пазіцыя большасці.

Нельга аспрэчваць, што наш народ выключна талерантны, любоўна памяркоўны да розных пярэваратняў і з задавальненнем «харчуецца» ўсім, што яму прапаноўваюць. Няхай «квітнеюць усе кветкі», няхай развіваюцца культурныя традыцыі ў іх разнастайнасці і ў як мага большым аб'ёме. Гэта наша спецыфіка

з-за сярэдзіннага палажэння ў Еўропе. Але дзяржава пакуль не вельмі багатая і *абавязана дапамагаць* толькі тым, хто працуе на выхаванне *дзяржаўнага чалавека*, *патрыёта*, а не таго, хто збіраецца радзіму пакідаць.

Афіцыйная беларуская ідэалогія, якая гвалтам не ўкараняецца, на самай справе, выключна ўзважаная, прадуманая і прадуктыўная ў параўнанні з усімі іншымі постсавецкімі рэспублікамі. Яна мае прагрэсіўны змест, але пры гэтым архаічную форму.

Сапраўды, мы недаацэньваем нашу ідэалагічную мадэль. У нас няма міжканфесійных, міжмоўных, міжнацыянальных канфліктаў, разбурэння маральных каштоўнасцей і нават прыкметнага супрацьстаяння пакаленняў. Інакш кажучы, наша мадэль працуе лепш, чым сацыяльна-ідэалагічныя ўстаноўкі шмат якіх заходніх краін, таму што ў іх ўсе названыя праблемы ёсць, і яны толькі абвастраюцца.

Дзіўны факт! Асновы нашай ідэалогіі закладаліся дваццаць год таму. Тады мала хто ў свеце ўвогуле мог уявіць, што ў другім дзесяцігоддзі XXI стагоддзя чалавецтва сутыкнецца з войнамі, наркатызацыяй, аднаполымі шлюбамі, ювенальнай юстыцыяй, эўтаназіяй і т. п.

Дык чаму ж значны працэнт нашай моладзі захапляецца яўна разбуральнымі, дэструктыўнымі ідэямі? У многім таму, што яны народжаны Захадам. Але заходняя арыентацыя — менавіта *архаічная* на сённяшні дзень форма: яна складвалася яшчэ ў савецкі час, у эпоху такой любімай лібераламі «хрушчоўскай адлігі», калі па бытавых умовах СССР, сапраўды, адставаў ад Захаду. А ўсё астатняе, у многім станоўчае, не цанілася.

Сёння ідзе настойлівая рэклама нейкага вобраза «еўрапейскай Беларусі». Але што гэта? Проста вымысел, канструкт. Ён не асноўваецца ні на чым, акрамя фантазій і надзвычай даходлівых тэхналогій, на якія якраз і кідаецца моладзь, бо для яе яркая вокладка важней за сутнасць. Хоць мы ведаем палажэнне ў Еўрасаюзе некалі квітнеючых сацыялістычных краін (Балгарыі, прыбалтыйскіх лімітрофаў). Пра «багацце для ўсіх», якое і нам абяцаюць у апазіцыйнай прэсе, там і гаворка не ідзе. А ўсё роўна еўрапрапаганда працуе.

Імкненне прымаць літаральна ўсё ці, наадварот, не прымаць бывае пакутлівым для кожнага канкрэтнага чалавека. Так, калі ўважліва прыгледзецца да вучоных-гуманітарыяў, то, нельга не ўбачыць яўнай аглядкі на Польшчу і на опусы беларусаў-эмігрантаў. У той жа час большасць даследчыкаў (акрамя філолагаў і гісторыкаў) карыстаюцца рускай мовай. Інакш кажучы, яўны разлад у менталітэце эліты, у галаве кожнага канкрэтнага індывіда.

Каб яго пераадолець, мне здаецца, неабходна прыпыніць антысавецкую істэрыю. Пошла, нізка, ганебна аплёўваць мінулае сваіх непасрэдных, бліжэйшых продкаў — бацькоў і дзядоў. Калі нішчыцца аснова, нельга чакаць цэласнасці светапогляду нават у адной асобы.

Таму мой адказ на пытанне пра ідэалогію і адначасова пра *стратэгію* ў адукацыі можа быць такім: прывіваць любоў да *ўсіх этапаў* гісторыі сваёй краіны, як гэта робіцца ва ўсім свеце. Якімі прыёмамі і метадамі — гэта задача для паліталагаў, сацыёлагаў, філолагаў. Задача складаная, улічваючы, колькі ўжо страчана, але ўсё ж можа быць выкананай.

Каб дасягнуць пэўнай мэты, неабходна ясна заявіць пра яе. Не проста працаваць, а прыкладаць намаганні ў пэўным напрамку. Мэта, стратэгія ў нас не вызначаны, таму работа ідзе, але няма вялікіх вынікаў. Не можа ж быць мэтай пабудова развітога капіталізму, інакш кажучы, спажывецкага грамадства. Хоць мы ўпарта рухаемся менавіта ў гэтым кірунку.

Часта паўтараюць пра «дыктатуру» ў Беларусі, маючы на ўвазе ўлады. На самай справе, у нас іншая дыктатура — міфаў мыслення, стэрэатыпаў грамадскай свядомасці, фантастычных ліберальных уяўленняў, у тым ліку ў ідэалогіі. Аднак прыклад суседніх краін сведчыць, што гэтыя ўяўленні ўсё часцей церпяць паразу. А, значыць, паглядзеўшы ва ўсе бакі, варта было б хоць бы задумацца...

**Алег СЛУКА**

# ЛІРЫЧНАЯ СІМФОНІЯ

Прайшло сорак пяць гадоў з таго часу, як выдатная беларуская паэтэса Яўгенія Янішчыц закончыла Беларускі дзяржаўны ўніверсітэт. У той жа год у выдавецтве «Беларусь» у серыі «Першая кніга паэта» выйшаў яе зборнік «Снежныя грамніцы». Гэта падзея стала значнай мастацкай з’явай, адкрыла беларускай грамадскасці новае імя ў літаратуры і было святым хрышчэннем маладога паэта на таленавітую творчасць.

З грэчаскага — «Яўгенія» — высакародная. Прыгожае імя далі бацькі сваёй дачушцы. Канешне ж, родныя мілавалі сваё сонейка і марылі аб тым, што яно, сонейка гэтае, будзе заўсёды прыгожым, светлым, цёплым, радасным, самым-самым лепшым дзіцем і чалавекам на свеце. І ўгадалі сэрцам і жаданнем маці і бацька, што іх дачушка стане яснай зорачкай на небе беларускага народа і будзе свяціць людзям пачуццямі любові і шчасця. Але што іх Яўгенія стане вытанчаным майстрам паэтычнага слова, да гэтага іх думка не сягала.

Такое прызначэнне — сеяць дабро сярод людзей, надзяляць іх пачуццямі высокага мастацтва — арганічна і шчасліва супала ў адной асобе. Можна меркаваць, што старажытныя мудрацы і выводзілі свае прароцтвы для нас з такой незвычайнай дзяўчыны-жанчыны, якая захавала праз тысячагоддзі адкрытае для дабра і людзей сваё улюбёнае ў жыццё сэрца, і надзелена светлым паэтычным дарам апавяць рэальны свет.

Яе пажыццёвая доля была набліжана да духоўнага ачышчэння людскога роду. Прычашчаць высакародныя думкі красамоўным словам, узвышаць і рабіць чалавека моцным перад сваім векам. Такое незвычайна каштоўнае, змястоўнае жыццё і таленавітую творчасць пакінула нам і паслядоўным нашчадкам Яўгенія Янішчыц.

Асэнсаваць вышыні і сакрэты паэтычнай творчасці складана і нават наўрад ці магчыма, так як задумаў іх і прадставіў нам сам выдатны мастак. Цяжка ўзняцца да тых боскіх высноў, што натхнялі творцу і выклікалі ў яго душы незвычайныя вобразы і такія таямнічыя рыфмаваныя акорды, якія хвалююць розум і спяваюць у сэрцы кожнага чалавека, кранаюць глыбінныя струны свядомасці чараўніцтвам вершаванага адбітку складанага людскога жыцця.

Але напэўна гэта меркаванне не адносіцца да такіх жа таленавітых мастакоў, якім падуладны сакрэты тварэння прыгажосці, і ім зразумелыя павевы паэтычнай душы, якія ахутваюць прыгажосцю сэрцы і розум людзей. Трапна і незвычайна вобразна выказаўся народны пісьменнік Беларусі Васіль Быкаў пра Яўгенію Янішчыц: «Жэня была самая таленавітая з усіх самых таленавітых паэтэс Беларусі, самая “целомудренная и совершенная”».

Ці магчыма сказаць больш узнёсла і высакародна! Ды і патрэбна ведаць высокую цану слова класіка літаратуры Васіля Быкава. Таму яшчэ раз паважліва акцэнтуем, што гэта словы аднаго з духоўных ахоўнікаў беларускага грамадства ў складаную пасляваенную эпоху. Можа хіба толькі ўзнёслую паэтычную музыку творчасці Яўгеніі Янішчыц патрэбна ўключыць у гэтую высокую і ўдзячную характарыстыку, каб сапраўды адчуць пульсаванне яе незвычайна цёплага сэрца і вытанчанай музыкай творчасці, назаўсёды юнай дзявочай душы.

Жэня не «ўварвалася» ў нацыянальную прастору творчасці, не звалілася з неба, як падарунак, некалькі стаміўшымся беларусам, пасля ўзнёслага спеву

нацыянальнага генія Янкі Купалы. Гэта Янка Купала, нацыянальны правідца і духоўны павадыр беларускага народа, пакінуў нам свой высакародны запаветкрэда жыцця і творчасці: «Я адплаціў народу, чым моц мая магла, // Зваў з путаў на свабоду, зваў з цемры да святла!»

І вось настаў час, калі і путы былі адкінуты воляй народа, і свабода людзей стала явай пасля грымот Вялікай Айчыннай вайны, і святло інтэлектуальнага наступу пасляваеннага грамадства паступова адсоўвала ў цень цяжкія гістарычныя калізіі, якія ў вялікай колькасці давялося пераҗыць народу.

Беларусы ў свеце сталі «людзьмі звацца» за мужнасць у барацьбе за свабоду, за стваральны талент у будаўніцтве цудоўнага дома на папялішчы зруйнаванай няпрошанымі заваёўнікамі Белай Русі. У грамадстве выспела цяга да новага чыстага спеву, чакалася музыка ачышчэння і новага благаславення да шчаслівага жыцця.

Беларуская нацыя была падрыхтавана да асваення захмарных вяршынь новай цывілізацыі, каб узняць, выпеставаць пакаленне касмічнай эры ўжо не ў песнях жальбы і самоты, а ў крынічнай чысціні нашай Радзімы, у прадоннях высакароднай славянскай душы, у непахіснай веры ў шчаслівае жыццё кожнага чалавека.

Жэня Янішчыц з'явілася своечасова ў запатрабаваную хвіліну новай інтэлектуальнай рэвалюцыі на Беларусі. Першы і моцны выбух гэтага нацыянальна-асветнага руху адбыўся ў 20—30-я гады мінулага стагоддзя. На магутным фундаменце нашаніўскага рэнесансу ў савецкі час здзейснілася наасферная рэвалюцыя нацыянальнага інтэлектуальнага ўзвышэння беларускай нацыі.

Маладая беларуская нацыя з даўнімі традыцыямі існавання ў прасторы і часе атрымала класічнае завяршэнне свайго фарміравання і геапалітычную прастору сацыяльна-палітычнага дзеяння. На ўрадавым узроўні была сцверджана гістарычная данасць нацыянальнай дзяржаўнасці і канстытуцыйнага верхавенства беларускай мовы, як вышэйшай каштоўнасці існавання самастойнага славянскага праваслаўнага беларускага народа.

Праўда, тут з задавальненнем падкрэслім важную і каштоўную гістарычную асаблівасць, што да вайны ў Беларусі дзяржаўнымі былі чатыры мовы: беларуская, руская, польская і яўрэйская. Думаю, што гэта нацыянальна-палітычная празарлівасць савецкай улады моцна паўплывала на кансалідацыю грамадства ў БССР і спрыяла прыярытэтнаму развіццю беларускай нацыі.

Беларусь упершыню пасля Вялікага Княства Літоўскага атрымала сваю дзржаўнасць у складзе Савецкага Саюза, а таксама гістарычна-акрэсленую нацыянальную тэрыторыю. Гэта і дало аб'ектыўную падставу для развіцця другога этапу сацыяльна-эканамічнай і культурна-асветнай рэвалюцыі на Беларусі, які пачаўся пасля заканчэння Вялікай Айчыннай вайны. Тады скаліся спрыяльныя ўмовы для выросту і выхавання нацыянальнай інтэлігенцыі новага часу, адпаведнай запатрабаванням навукова-тэхнічнай цывілізацыі.

У літаратуру і мастацтва, у навуку і інжынерны корпус прыйшло маладое таленавітае пакаленне, якое і падрыхтавала паспяховы выхад Беларусі на перадавыя пазіцыі сацыяльна-эканамічнага развіцця ў савецкай дзяржаве. Вось тут і з'явілася на паэтычным Парнасе Яўгенія Янішчыц.

Маладая паэтэса прыйшла як здабытак новага часу, як арганічная неабходнасць, патрабаванне духоўнай інтэлектуальнай сферы, своеасаблівы заказ грамадства, у якім пазначаўся імклівы аб'ектыўны пераход да творчага асэнсавання складанай рэчаіснасці.

У гэты час творчы патэнцыял беларускай літаратуры быў вельмі высокі і вызначаўся значным шэрагам аўтарытэтных мастакоў, талент якіх на поўную моц раскрыўся ў пасляваенны перыяд. Узровень нацыянальнай літаратуры грунтаваўся на высокамастацкай творчасці Івана Мележа, Івана Шамякіна, Івана Навуменкі, Максіма Танка, Васіля Быкава, Андрэя Макаёнка, Івана Чыгрынава, Генадзя Бураўкіна, Ніла Гілевіча, Барыса Сачанкі, Анатоля Вярцінскага.

Мастацкі калегіум Беларусі гэтымі слаўнымі імёнамі, зразумела, далёка не заканчваецца. Нацыянальнае мастацтва, застаючыся на пазіцыях сацыялістычнага рэалізму, паступова пазначала дэмакратычныя пазіцыі ў творчым працэсе і

такім чынам рыхтавала грамадска-палітычныя змены ў савецкай краіне і свядомасці беларускіх людзей.

Яўгенія Янішчыц са сваім арыгінальным талентам прыспела якраз на самы складаны час маральна-этычнага пошуку беларускага грамадства, стала адным з нямногх мастакоў, якія прапускалі праз сябе і адухаўлялі нацыянальныя гуманістычныя каштоўнасці, дзе цяжка было прабіцца кліпавай і наступаючай офіснай спажывецкай маралі.

Чыстым і чароўным быў спеў Яўгеніі Янішчыц. Высокая песня нараджалася недзе ў вытоках жыватворнай крынічкі ў яе роднай палескай пушчы і расцякалася не вадою, а прыгожай музычнай гамай, якая клалася на чуйную душу хатнім цяплом, пяшчотай і ласкай роднай маці.

Талент Яўгеніі Янішчыц Богам і быў скіраваны ад сэрца маці. Ад сэрца мамы, як заўсёды пісала ў сваіх вершах і ўсюды гаварыла паэтэса. Дэталь гэта вельмі важная ў філасофскім вымярэнні каштоўнасці паэзіі Яўгеніі Янішчыц, разумення маральна-этычных карэнняў творчасці і высокай мастацкасці яе лірыкі.

Ад мамы нараджаецца жыццё, ад мамы ўсё пачынаецца. І калі чалавек не адарвецца ад малака мамы, не астудзіць сваё сэрца на складаных жыццёвых дарогах, то ён атрымлівае самы змястоўны лёс, неабсяжны космас пачуццяў, памкненняў, дабра і любові, неверагодны талент разумення, адлюстравання і асваення рэчаіснасці.

Ён становіцца Чалавекам, праяўляе незвычайны талент, здзіўляе грамадскасць сваім майстэрстам. Так Яўгеніі Янішчыц ад Бога пашанцавала з мамай, а яе маме і беларускаму народу выпала шчасце зведаць непаўторны лірычны голас маладой паэтэсы ў палітры нацыянальнай літаратуры.

Не часта, а, на жаль, нават зусім рэдка, і як паказвае гісторыя, можа, раз у эпоху, адорвае Вышэйшы тварэц незвычайным дарам свайго абранца. Яўгенія Янішыц была каранавана на пажыццёвае служэнне мастацтву, для захавання і развіцця яго высокай нацыянальнай каштоўнасці. У беларускай літаратуры, а дакладней у нацыянальнай паэзіі, яна незвычайны і рэдкі сольны выканаўца беларускага лірычнага спеву.

Паэтэса па мастацкасці і мілагучнасці твораў, шчырасці і сардэчнасці лірычных вобразаў, арганічна злітых з рэальным жыццём, бязмернай напоўненасці вытанчанай эмацыянальнасцю сваёй паэзіі і музыкай беларускага верша, высока і арыгінальна ўзнялася над нацыянальнай жаночай паэзіяй.

Удала, і з несумненнай каштоўнасцю для сваёй творчасці, Яўгенія Янішчыц выкарыстала вялікі вопыт вядомых беларускіх паэтэс-папярэдніц. Важна і тое, што яна здзейсніла пераход на больш высокі ўзровень мастацтва, выявіла свой арыгінальны таленавіты голас у нацыянальнай паэзіі.

Адзначым, што і сучасным беларускім пявунням Яўгенія Янішчыц падаравала высокапрафесійны майстар-клас дзеля мастацкага асваення паэтычнай прасторы і адначасова пакінула складаную загадку: як дасягнуць такіх падвоблачных вышынь у майстэрстве паэзіі, дзе лунала сама?

Паэтычнае слова выдатнай паэтэсы — гэта спеў душэўнай існасці нашай роднай Беларусі. Ясенінскі подых зачаравання ахутвае сардэчнай радасцю, калі чытаеш лірычныя прызнанні Яўгеніі Янішчыц: «Там лістапады выпалі, // Там выплылі плыты. // І зоры воду выпілі // З азёраў залатых …» Гэта паэтэса ў сваіх уяўных летуценнях перамяшчаецца ў свой родны кут, як у святое чысцілішча, дзе яе чакае прага мядовага паветра і хмельная ад крыштальнай чысціні крынічная вада.

Зачараваная прыгажосць Радзімы — гэта мерны стук нашага сэрца, рытмічнае пульсаванне крывяноснай сістэмы, эмацыянальная ўзнёсласць душы, калі глядзець на белы свет вачыма выдатнага паэта, пазбавіўшыся прыплюснутых век паўсядзённага жыцця-быцця, прыгнечанага вечнымі бытавымі супярэчнасцямі і спакусамі. Нашы вочы на здзіўленне жыццём, на замілаванне хараством родных беларускіх краявідаў, адкрывае паэтычная муза і філасофская гуманістычная ідэя Яўгеніі Янішчыц.

Яна ўсё жыццё спявала пра сваю, пра нашу маму. Гэты вобраз у яе паэзіі, як цяпер кажуць, мае глабальнае вымярэнне. Біёграфы паэтэсы адзначаюць тую

прыемную акалічнасць, што як толькі ў дзяцінстве яна адчула свой лірычны дар, недзе ў пачатку вучобы ў школе, ёй ужо быў створаны першы рукапісны зборнік вершаў, які і быў прысвечаны маме. Каму ж аддаваць сваю ўзнёслую любоў і пра каго пісаць пяшчотныя словы, калі не пра маму, такую прыгожую, родную, адзіную на ўсім свеце!

Такое разуменне ролі мамы ў жыцці напаўняла творчасць непаўторным тонкім лірызмам, прадчуваннем жыццёвай асалоды і радасці. У мастацкім слове Яўгеніі Янішчыц чулася бясконцая мілагучнасць і спеўнасць Янкі Купалы, вытанчанасць і душэўнасць паэзіі Пімена Панчанкі, узнёслыя грамадзянскія матывы Аркадзя Куляшова.

Разам з гэтым ад кніжкі да кнжкі вершаў усё выразней праяўляўся і прывабна гучаў пяшчотны матыў лірычнай паэзіі маладой узнёслай дзяўчыны-паэта. Маміна песня ў паэзіі Яўгеніі Янішчыц будзе развівацца разам з глыбокім і красамоўным вобразам Радзімы-Беларусі.

Высокі патэнцыянальны палёт маладой паэтэсы адчуўся вельмі рана і фактычна стала і моцна праявіўся ва ўніверсітэцкай інтэлектуальнай аўры філалагічнага факультэта, на дзіва літаратурнага асяроддзя і развіваўся імкліва, захапляючы паэтычную прастору і прагных да мастацкага і арыгінальнага слова зацікаўленых чытачоў.

Невыпадкова першы зборнік вершаў маладой дэбютанткі рэдагаваў таленавіты беларускі паэт Генадзь Бураўкін, які адчуў новы, арыгінальны спеў паэтэсы, убачыў у ёй, схаваны пакуль за маладосцю, несумненны талент мастака.

Першая кніга выйшла з друку, калі Яўгенія Янішчыц вучылася на пятым курсе ўніверсітэта. Даволі незвычайная з'ява нават у асабліва паспяховым творчым працэсе. Тут з шчырай удзячнасцю і задавальненнем успомнім дзейнасць універсітэцкага студэнцкага літаратурнага аб'яднання «Узлёт», у якое ў асноўным уваходзілі студэнты філалагічнага факультэта.

Студэнты, якія «рваліся ў паэзію», і якія адчувалі ў сабе патрэбу «іграць на струнах душы», заўзята асвойвалі таямніцы паэтычнай творчасці. Многія вядомыя сучасныя паэты і празаікі Беларусі свой першы радок у літаратуры напісалі там, ва ўніверсітэцкім «Узлёце».

Якая змястоўная і вобразна-трапная назва маладога літаратурнага аб'яднання! Сапраўды, з яго акадэмічнага кворуму выляталі птушкі высокага палёту. Але самае цікавае і каштоўнае тое, што дзявочы высокі лірызм, спеў на сольны арыгінальны голас, увасобіла там толькі Яўгенія Янішчыц.

Назву літаб'яднання, «Узлёт», думаецца, празарліва вызначыў яго кіраўнік, выдатны беларускі паэт і вучоны Алег Лойка. Узлётаўскую аўдыторыю таленавіта запоўнілі многія, потым знакамітыя пісьменнікі. Хацелася б назваць усіх, хто сказаў сваё значнае арыгінальнае слова ў нашай літаратуры, вёў разведку сваёй творчай будучыні ў студэнцкай гартоўні.

Аддадзім павагу мастацкай мудрасці і педагагічнай празарлівасці прафесара Алега Антонавіча Лойкі ў адносінах кожнага ўзлётаўца. Даспадобы было чытаць яго прадстаўленні маладых паэтаў ва ўніверсітэцай газеце. З асаблівай эмацыянальнай улюбёнасцю і тонкім адчуваннем паэтычнага дару, ён паступова выпраўляў узрост маладых ад ноты да ноты, ад вобраза да вобраза, скіроўваючы іх у самастойны шлях на творчай ніве.

Як можна ацаніць такую неацэнную працу нацыянальнага рупліўца і падзвіжніка? Сабраць бы ўсе «Літаратурныя старонкі» студэнцкага аб'яднання «Узлёт» з газеты «Беларускі ўніверсітэт» у адной кніжцы, каб сучасныя пачаткоўцы адчулі дыханне і творчы запал сваіх папярэднікаў, а тыя, хто друкаваў тады свае вершы, перажылі б яшчэ раз колішнія хваляванні і расказалі сваім дзецям аб сваёй паэтычнай маладосці.

У Яўгеніі Янішчыц у студэнцкія гады праявілася асаблівая лірычная асалода пісаць і пісаць, а таксама друкаваць і друкаваць свае вершы, як здаваць і паспяхова здаваць экзамены на атрыманне ўніверсітэцкага дыплома.

Разам з вучобай ад курса да курса расло і майстэрства маладой паэтэсы. Ад

верша да верша раскрывалася грацыёзная лірычная асоба таленавітага аўтара. Яна сама адчувала свае здольнасці і імкнулася ўсё больш патрабавальна адносіцца да слова і да філасофскага зместу паэтычнага вобраза.

Ужо на чацвёртым курсе ўніверсітэта сабрала вялікую колькасць апрабаваных у друку вершаў і тады выспела зразумелае жаданне выдаць асабісты зборнік. Такая арыгінальная з'ява сустракаецца не часта. Але ў маладога мастака было вялікае жаданне атрымаць свой творчы атэстат для ўзыходжання на прызнаны літаратурны п'едэстал.

Любоў да мамы ў творчасці Яўгеніі Янішчыц паступова перарастала, эвалюцыяніравала ад бясконцай удзячнасці самаму дарагому чалавеку, што падаравала такое таленавітае, незвычайнае жыццё, да вытанчанага адлюстравання чалавечай любові да самой сутнасці існавання чалавека. У рэчышчы планетарнага паэтычнага мастацтва даўно вядомы заканамернасці адкрыцця цудаў рэальнага свету асабліва вобразнымі фарбамі, якія не заўсёды заўважае чалавек у паўсядзённым клапатлівым жыцці.

Нарэшце прыходзіць з нябёс паэт, нараджаецца Яўгенія Янішчыц, і праз яе незвычайна тонкую душу пачынаюць спяваць тыя бярозы і ліпы, узгоркі і лугі, рэкі і блакітныя азёры беларускай зямлі, якія ахутваюць чалавека сваёй цеплынёй, утульнасцю, раскрываюць перад намі прыгажосць нашай Радзімы і робяць жыццё зямным раем.

Такое ўзнёслае прадстаўленне паэта разам з яго музычным афармленнем у вершаваных радках арганічна перасяляецца ў душы чытачоў, дзе абуджае ўзнёслыя пачуцці, дае дапаўняльныя сілы для пераадолення магчымых нягод і перашкод, увогуле робіць чалавека моцным, высакародным, улюбёным у падоранае Богам жыццё. Высокі ўзровень духоўнай чысціні і непахіснай веры ў святасць жыцця пакінуты нам Яўгеніяй Янішчыц.

Наша Радзіма пасялілася ў душы і сэрцы таленавітага паэта, сфарміравалася там у моцную субстанцыю энергіі паэтычнага слова і прадстаўляе грамадскасці як самую высокую і адзіную каштоўнасць, якой можна любавацца, аберагаць Маці-Радзіму, а таксама штодзённа рупіцца аб яе прыгажосці і камфортнасці пражывання самога чалавека.

Вобраз Беларусі-Радзімы паэтэсы Янішчыц не саладжавая карціна толькі для замілавання, а больш той складаны і шматаблічны абярэг, які ахоўвае чалавека і прадастаўляе для яго неабходныя ўмовы шчаслівага пражывання ў складаным і супярэчлівым існаванні беларусаў на працягу нашай слаўнай і трагічнай гісторыі.

Той жа першы паэтычны збонік пачынаецца вершам «Радзіме». І які там глыбакадумны філасофскі пагляд маладой дзяўчыны-паэта!

Радзіма за руку павяла яе, Яўгенію Янішчыц, у шчаслівы свет. Але якая была гэта няпростая дарога! Беларускаму народу прыйшлося ісці калдобінамі і хісткімі грэблямі, грэцца ля датляваючых хат, «наядацца толькі ў сне», паіць і ратаваць параненых на дарогах, схіляцца над кожным горам.

Вось якое па-філасофску завостранае разуменне сутнасці гістарычнага быцця беларускага народа, тонкае пранікненне думкі паэта і не ў бясконцае перманентнае гора і бядоты, што трымаюць нашу нацыю на кароткім ланцужку, а імкненне да свабоды і свету, да шчасця. Сталая маладосць на асэнсаванне маральна-этычных ідэалаў рэальнасці была адметнай рысай, імкліва ідучай у паэзію Яўгеніі Янішчыц.

Трэба ж было адкрыць такія вобразы: «Наядаліся толькі ў сне…», або яшчэ глыбей і да слёз балюча: «… Для бабулі свет не міл — У бабулі Паланеі — Пяць сыноў і пяць магіл…»

Можа ад таго, што Радзіма даецца беларусам такім складаным лёсам, яна і стае ўсё даражэй для кожнага новага пакалення. У паэта гучыць як прызнанне, а можа, лепш, як прызыўная просьба: «Праз гады я цябе абдымаю, Будзь мне мамай, Радзіма мая». І з такой шчырасцю і ўзнёсласцю праз усю творчасць да апошніх верша і рыфмы.

Паплечнік Яўгеніі Янішчыц па ўніверсітэту, сусед па бясконцых інтэрнацкіх калідорах на прыгожай вуліцы нашага юнацтва Паркавая магістраль, паэт Віктар Поляк напісаў у вершы-спачуванні, прысвечаным памяці свайго таварыша-паэта:

Зачем при звуках аллилуи,
Никто не может уберечь
Поэта от петли и пули.
Его последнее «прости»
Звучит *оттуда* нам укором...
Поэта нет. Остался стих,
Чтоб «жечь сердца людей глаголом!»

Можа, лепш запальваць не «глаголом», а больш саграваць чалавека любоўю і пяшчотай, ласкай і шчырасцю, як у Яўгеніі Янішчыц. Ды не будзем «выпраўляць» спагадныя словы паэта. У іх сутнасці — каварная ісціна. Верш Яўгеніі Янішчыц, яе маланкавае жыццё — несупыннае імкненне ўвысь, на паэтычны недасягальны Алімп. І кожная песня ўсё вышэй і вышэй уздымала яе талент, аўтарытэтнае прызнане ў літаратурнай сферы і ўзбуджала хвалю святла і радасці ў шчырых сэрцах людзей.

Богу шкада было яшчэ вельмі ранні́м світанкам развітвацца са сваім святым пасланцом, які чысцінёй жыцця і помыслаў узвышаў веру і сеяў святасць у нашых душах. Аднак сад любові Яўгеніі Янішчыц у гэтым свеце расквеціўся толькі адзін раз, а паэтычны сад-эрмітаж яе таленавітай творчасці квітнее і будзе квітнець для беларусаў заўсёды.

Але што ні гавары, чаго ні шукай для апраўдання кароткага яркага лёсу пясняркі-паэтэсы, усёроўна да болі журба на душы. Вось адчуйце стук яе, Яўгеніі Янішчыц, сэрца: «І хваёваю ігліцай // Адзавецца лета звон. // Толькі мне не паўтарыцца // Ні вясною, ні зімой…» Пасля такога прызнання зашчыміць тваё сэрца незагойнай і непраходзячай стратай.

У квецені былой вуліцы Паркавая магістраль, насупроць шыкоўнага Палаца спорту, у шэрым, казарменнага выгляду ўніверсітэцкім інтэрнаце № 4, які знік з вачэй мінчан гады чатыры таму па волі імклівага абнаўлення нашай сталіцы, у адным з пакояў на пятым паверсе, бывала, збіраліся вечарамі тры сяброўкі-студэнткі філалагічнага факультэта: Жэня Янішчыц і сёстры Кавалеўскія.

У роднасных дзявочых сэрцах заўсёды было шмат пяшчоты і зацікаўленасці жыццём, безліч тэм для гаворак і, зразумела, сакрэтаў, якія напластаваліся за цэлы ўніверсітэцкі дзень, і якімі шчыра дзяліліся сяброўкі.

Але часам бывала, што ўзнёслы лірычны настрой выводзіў студэнтак на музычны лад, і тады маленькі інтэрнацкі пакойчык ператвараўся ў цудоўны спеўны салон. Як дзяўчаты спявалі! Зачараваны быў той, хто слухаў іх. Напісаць пра гэтыя цудоўныя праявы юначага студэнцкага свята-жыцця цяжка, і наўрад ці магчыма.

Шчаслівы лёс сабраў у адну прыгожую песню такія цудоўныя галасы. Кожны акорд народнай беларускай, ці сучаснай эстраднай песні ў гучанні дзяўчат зачароўваў высокай душэўнай музычнасцю, чысцінёй мелодыі і празрыстымі міла-гучнымі маладымі галасамі. Заслухаешся зачараванай музыкай і ўтопішся ўсёй істотай у аўры цудоўнага спеву. Можа, і там, у песні юначай душы, агранялася россыпам творчых алмазаў паэтычная ліра Яўгеніі Янішчыц?

Але нам падаецца, што ў тым песенным лірызме выпястоўвалася паэтычная планета кахання маладога творцы да людзей, Радзімы і да прыгожага чалавека як арганічная каштоўнасць высокай творчасці і філасофія высокамастацкай паэзіі. Кожная страфа яе верша напружана дынамікай любові, эмацыянальным палётам прыгожай думкі, зафіксаванай пачуццём высокага кахання.

Цудоўная песня высокай і гордай птушкай вылецела з сцесненых пакояў студэнцкага інтэрната ў нацыянальную паэтычную прастору, і лунае цяпер над нашай Радзімай, таленавітым голасам спевака-паэтэсы Яўгеніі Янішчыц.

Успомнім і прагаворым зноўку незвычайнае сцвярджэнне-запавет несумненна народнай паэтэсы Беларусі Яўгеніі Янішчыц: «Пачынаецца ўсё з любові, // А інакш і жыць немагчыма …» Яўгенія Янішчыц прыгожа жыла, ўзнёсла любіла і зачаравана пела…




**Міхась СЛІВА**
**НА ДНЯПРОЎСКІМ ЛУЗЕ.**
**Кніга прозы**
*Мінск: Чатыры чвэрці, 2015*

**Віктар БАЖЭНКА**

# І ЖАРТАМ, І ЎСУР'ЁЗ

У выдавецтве «Чатыры чвэрці», як бачна, працуюць людзі хоць і сур'ёзныя, як і мае быць у такой структуры, але і не пазбаўленыя пачуцця гумару. У чым і ўпэўніліся прыхільнікі «Чатырох чвэрцяў», пачаўшы знаёміцца з серыяй кніг «Несур'ёзна пра сурёзнае» (пра яе «Полымя» пісала ў дзявятым нумары за сёлетні год), якая, заявіўшы аб сабе першымі сваімі кніжкамі, працягвае выдавацца, радуючы чытача, як новымі імёнамі, так і, канешне, новымі творамі. Ды, аказваецца гумару ў гэтай унікальнай бібліятэчцы цесна, што і пацвердзіла кніга Міхася Слівы «На дняпроўскім лузе». Праўда, яна не толькі гумарыстычна-сатырычная. Прадстаўлены ў ёй і «сур'ёзныя» творы, тым не менш, гумар — тое, чаму Міхась Сліва надае асабліва шмат увагі.

Дарэчы, тыя, хто добра знаёмы з ягонай творчасцю, а гэта не толькі публікацыі ў часопісах «Вожык», «Нёман», «Полымя», газетах «Літаратура і мастацтва», «Звязда», «Народная газета» і іншых перыядычных выданнях, а таксама ў калектыўных зборніках і альманахах, не кажучы ўжо пра больш як дзясятак выдадзеных ім кніг, ведаюць, што Міхась Сліва — літаратурны псеўданім пісьменніка. Сапраўднае прозвішча яго Кавалёў, Міхась Кавалёў. Як і ведаюць пра тое, што менавіта такі псеўданім М. Кавалёў узяў сабе невыпадкова. Прызнаецца: «На Украіне ёсць Вішня, а ў Беларусі няхай будзе Сліва…»

Дык які ж ён, сённяшні Міхась Сліва? Калі казаць пра адзнаку ягонай творчасці, то з'яўляецца лаўрэатам прэміі «Залаты Купідон» у галіне сатыры і гумару, Гомельскай абласной літаратурнай прэміі імя Аляксандра Капусціна, прэміі Беларускага саюза журналістаў «Залатое пяро», а таксама некаторых іншых. Але, гэта, хоць і істотна, не трэба забываць, што пра пісьменніка, наколькі вядома, усё ж куды больш гавораць ягоныя творы. Міхась Сліва — не выключэнне. Знаёмячыся з кнігай «На дняпроўскім лузе», гэта няцяжка заўважыць, бо яна з'яўляецца ягоным выбраным (дарэчы, выйшла ў «Бібліятэцы Саюза пісьменікаў Беларусі»), а таму прадстаўляе ўсе жанры яго творчасці.

Адкрываецца яна ўсё ж «сур'ёзнымі» творамі. Відаць, Міхась Сліва дзейнічаў па прынцыпе, што ў літаратуры да іх стаўленне, прабачце за таўталогію, куды больш сур'ёзнае, чым да сатыры і гумару. Хоць, вядома, не столькі той ці іншы жанр сам па сабе важны, колькі тое, як усё напісана, у чым ужо

ўпэўніваешся, чытаючы першы раздзел кнігі — «Прыгожыя караблі». Гэта добра відаць па навеле, якая і дала яму назву, дый адкрывае яго.

У творы, як быццам, не адбываецца нічога незвычайнага. Звычайны, можна нават сказаць, радавы эпізод з паўсядзённага жыцця: «На невялікай чыгуначнай станцыі сустрэліся два цягнікі. На некалькі хвілін спыніліся. У адным з вагонаў, гледзячы ў акно, сядзеў мужчына сярэдніх год з прыемным, дабрадушным тварам. У вагоне насупраць у асветленым акне, бы ў зарамленай карціне, застыла сімпатычная жанчына. Яна паглядала на мужчыну. Той таксама глянуў на яе. Іх позіркі сышліся».

Як неўзабаве даведваешся, гэтыя позіркі былі невыпадковымі. Не проста таму, што ўзнікае заканамерны ў такіх выпадках інтарэс да прадстаўніка супрацьлеглага полу. Зусім іншыя думкі з'явіліся ў гэты момант і ў жанчыны, і ў мужчыны. Гледзячы на таго, хто знаходзіцца праз некалькі метраў насупраць, кожны з іх імгненна пракручваў у сваёй свядомасці ўласнае жыццё. Як быццам, усё ў сям'і прыстойна. Хоць гэта толькі так здаецца. У сапраўднасці ж поўная адзінота. І гэта пры тым, што поруч з табой пастаянна знаходзіцца той, каго кахаеш. Правільней, мусіш кахаць…

«Які светлы твар, — падумала жанчына. — Відаць, што чалавек добры. Магчыма, з ім была б шчаслівая».

«Якім шчаслівым я мог бы быць з ёю! — думаў мужчына. — Такія добрыя, прыгожыя вочы не могуць быць у дрэннага чалавека. Як хочацца клопату, увагі, спагады, жаночай ласкі… А іх няма…»

На гэткай тужліва-самотлівай ноце і завяршэнне навелы:

«…Цягнік, у якім ехала жанчына, крануўся з месца і пачаў набіраць хуткасць. Крануўся і той, у якім сядзеў мужчына. «Прыгожымі здаюцца заўсёды тыя караблі, якія праходзяць міма», — успомніў ён нечыя словы і цяжка ўздыхнуў».

Вось і ўвесь твор. Кароткі, лаканічны, сюжэтна звязаны ўсяго з адным выпадкам, падобным на многія тыя, што надараюцца ў паўсядзённым жыцці. Але, разам з тым, як шмат сказана ў гэтым эпізодзе, выхапленым пісьменніцкім вокам з паўсядзённасці. Хоць, бадай, нават не столькі сказана, колькі дадзена магчымасць кожнаму, хто пазнаёміцца з гэтай навелай, суаднесці прачытанае з жыццём сваіх знаёмых, блізкіх, а можа, і са сваім уласным жыццём, якое толькі на першы погляд здаецца зладжаным, у сапраўднасці… Столькі ж яшчэ ў свеце і бяздушнасці, і непаразумення адзін аднаго, і адсутнасці сапраўднага шчасця. Асабліва, калі нечакана пазнаёміўшыся з кім-небудзь, са шкадаваннем думаеш, як было б добра, калі б гэты чалавек сустрэўся табе раней. Ды, бадай, так будзе заўсёды, бо добра там, дзе нас няма. Калі ж адштурхоўвацца ад навелы «Прыгожыя караблі», добра было б з тымі, з кім лёс ніяк не хоча (а мо і не можа) звесці нас. Аднак, магчыма, і такое ўспрыняцце ілюзорнае, падманлівае…

Маральная праблематыка закранаецца і ў апавяданнях. Як, напрыклад, у «Перасяленні». Галоўны герой твора Максім Новікаў — так званы гараджанін першага пакалення. Ён з тых, каму, кажучы словамі Міхася Стральцова, сніцца «сена на асфальце». Працуе Новікаў у горадзе галоўным архітэктарам, а душой усё цягнецца ў вёску Белыя Берагі, адкуль родам ягоная жонка і дзе любіць бавіць вольны час. З нецярпеннем чакае чарговы водпуск, каб, паехаўшы туды, заняцца любімай справай — пачаць маляваць. А яшчэ давесці да ладу могілкі, на якіх пахаваны блізкія яму людзі. Сябар Максіма — «Фёдар зараз таксама пры пасадзе — галоўны інжынер буйнога вытворчага аб'яднання ў вобласці» — як і ён, колішні вясковец, ды непадобны на Новікава. Мала таго, што ў вёску не наведваецца, дык «нават дакладна не ведае магілу свайго бацькі, бо няма на ёй ні агароджы, ні надпісу на крыжы».

Адразу відавочна, што Максім і Фёдар — антыподы. Толькі Сліва зусім не на гэтым засяроджвае галоўную ўвагу, хоць і тут ёсць над чым паразважаць. Але ў яго іншая задача. Ён імкнецца глыбей зазірнуць ва ўнутраны свет чалавека, які дасягнуў у сваім жыцці немалых прафесійных

вышынь, каб разабрацца, што робіцца ў ягонай душы. Самае страшнае не столькі само развітанне са сваімі вытокамі, колькі ачарсцвенне душой, маральная ўбогасць, не жаданне помніць тых, хто даў табе жыццё, вывеў цябе ў людзі. І падумаць не можа Фёдар, што калі ён раптоўна памрэ, гэтаксама стане адразу нікому непатрэбны, як і яго бацька, пра якога ён зусім забыўся. Спрацуе свайго роду бумеранг.

«Бумеранг» — назва і аднаго з апавяданняў Міхася Слівы. На гарадской вуліцы выпадкова сустракаюцца двое сталых мужчын, якія некалі вучыліся ў адной вясковай школе. За час, які прайшоў пасля гэтага, яны ні разу не бачыліся. Безумоўна, абодва знешне непазнавальна змяніліся. Але адбыліся і іншыя змены. Адзін з іх Аркадзь стаў звычайным алкаголікам. Некалі ж яго бацька, які быў дырэктарам школы, з'яўляўся празмерным маралізатарам, любіў павучаць вучняў, якімі нельга быць. Усё гэта нічога б, ды ў падобным выхаванні страчваў пачуццё меры, чытаючы «натацыі» дзецям, чые бацькі вялі сябе недастаткова прыстойна. З-за гэтага дзеці, зразумела, вельмі перажывалі. Ды лёс распарадзіўся так, што тое, супраць чаго так рашуча выступаў Аракадзеў бацька, зрыкашэціўшы, ударыла па ягоным сыне.

І іншыя апавяданні, што склалі раздзел «Прыгожыя караблі», пры пэўнай лакальнасці сітуацый, пакладзеных у аснову іх, цікавыя тым, што прымушаюць чытача задумацца над тым, пра што расказвае пісьменнік, пастарацца даць сваю ацэнку як персанажам, так і іхнім паводзінам. Актыўная жыццёвая пазіцыя Міхася Слівы — сведчанне таго, што ён, пішучы свае апавяданні, звычайна не застаецца староннім сузіральнікам. Абавязкова даводзіць сваю думку, але не ў лоб, не прамалінейна, а ненавязліва, а гэта прыходзіць з жыццёвым і творчым вопытам, які ў яго, канешне, ёсць.

Наступны раздзел — «Усмешка Джаконды» — таксама названы па аднайменным творы. Гэтая гумарэска пачынаецца інтрыгуюча: «Я сустракаўся з ёю амаль штодня. Ідучы ў гастраном па пакупкі, вяртаючыся дадому, заўсёды заглядваўся на яе. Прыгожы твар, прывабная, загадкавая, нават таямнічая, як у Джаконды, усмешка. Надзвычай зграбная постаць».

Так і хочацца хутчэй даведацца, хто такая тая, што гэтак кінулася ў вочы апавядальніку. Аднак Сліва не спяшаецца называць яе, толькі працягвае выказваць сваё стаўленне да незнаёмкі, дзяліцца сваімі пачуццямі: «Я так прывык да яе, што пры кожным зручным выпадку стараўся пайсці лішні раз у магазін, каб толькі ўбачыць знаёмае аблічча. Стаяў звычайна падоўгу, любаваўся. Настрой падымаўся, у грудзях як бы нешта пераварочвалася».

Мінаўся дзень за днём, а пачуццё, што з'явілася нечакана-негадана, паранейшаму не давала спакою. Наадварот, яно яшчэ мацнела: «Так прайшло некалькі тыдняў. Нават на працы я стаў думаць пра яе, з нецярплівасцю чакаў канца змены, каб хутчэй бегчы дадому, а потым — у магазін».

Чытачу, праўда, незразумела, чаму гэта апавядальнік не спяшаўся знаёміцца з тою, з-за якой пазбавіўся спакою. Сказвалася сарамлівасць, нерашучасць? Аказваецца, сапраўдная прычына ў іншым: «Сёння на сэрцы горка і цяжка… Часопіс, на вокладцы якога быў змешчаны фотаздымак прыгожай артысткі кіно, у кіёску нехта купіў».

Гэты твор я прывёў цалкам, каб паказаць, наколькі Міхась Сліва дасканала валодае майстэрствам, як умее пабудаваць сюжэт так, што чытач з нецярпеннем чакае развязкі, хоча хутчэй даведацца, чым нарэшце ўсё скончыцца. Канешне, самыя нецерплівыя, пры жаданні, маглі зазірнуць у канец гумарэскі. Але гэта тое самае, што і пры чытанні дэтэктыва. Развязка будзе мець належны эфект толькі пры ўмове, калі не станеш «праспешваць» разгортванне сюжэта, праявіш вытрымку, каб дзеянне само прыйшло да свайго лагічнага завяршэння.

Адметнасць Слівы-гумарыста яшчэ і ў тым, што ён тэмы для сваіх твораў бярэ з самога жыцця. Нічога не выдумляе, а толькі штосьці-небудзь як бы выхоплівае з паўсядзённасці, праяўляючы пры гэтым добрую назіральнасць.

Што гэта і сапраўды так, сведчыць і гумарэска «Куртка»:

«Сымон купіў сабе куртку. Дома жонка пытае, колькі заплаціў.

— Два мільёны, — жартам адказаў Сымон.

— Ты ведаеш, яна табе крыху малая, — заўважыла жонка.

— Ды не, гэта я пажартаваў, — засмяяўся Сымон. — Аддаў усяго трыста тысяч.

— А нутка-ка, павярніся да святла! — загадала жонка. — Я на табе добра сядзіць і някепска глядзіцца…»

Пра тое, што Міхась Сліва — пісьменнік, міма позірку якога нішто не праходзіць незаўважаным, нагадвае і аўтар прадмовы «Майстар смеху» Васіль Ткачоў, зазначаючы: ён — «надта назіральны чалавек. Іншы раз можа падацца, што ён адно і робіць: ходзіць па вуліцы, заглядвае ў людныя месцы… і абавязкова з алоўкам і блакнотам. Пачуўшы нешта вартае ўвагі — на паперку, каб не забыцца. А чаму можа падацца? Амаль што так і ёсць. Занатоўвае Міхась Сліва трапныя выразы, апрацоўвае іх і аддае чытачу».

Як быццам усё надта проста, ды толькі так падаецца на першы погляд: «А што, паспрабуйце. Ну, дзень, два паносіце той аловак і блакнот. І — досыць, кропка. Забудзецеся. Нагортваецца іншы клопат».

Безумоўна, стае такіх іншых клопатаў і ў аўтара кнігі «На дняпроўскім лузе». Але ўсе гэтыя клопаты — вялікія і малыя, пільныя і не не вельмі ўжо спешныя, важныя і такія, што могуць крыху пачакаць — нікольні не перашкаджаюць яму памятаць пра свой галоўны клопат, які стаў прызваннем. Як і кожны сапраўдны пісьменнік, Міхась Сліва памятае, што поспеху можна дасягнуць толькі пры ўмове, калі будзеш брацца пісаць тое, што, упэўнены, іншы напісаць не зможа. Калі ж ён штосьці і напіша, дык куды слабей, чым ты. Такое стаўленне да выбару тэм, герояў, дылетанту можа падацца праяўленнем самаўпэўненасці. У сапраўднасці ж — гэта вера ў сябе як творцу, вера ў свой талент.

З гэтай верай у сябе, у свой талент і піша Міхась Сліва свае творы. Не ў апошнюю чаргу — гумарэскі. Каторую з іх ні возьмеш — «Дамафон — штука патрэбная», «Як упаляваць зайца», «Візіт да ўнука», «Скарачэнне штатаў», «Падвёў мабільны» і іншыя — гэта ўсё тое, што не толькі дазваляе ўдосталь пасмяяцца, а і над жыццём задумацца, а задумаўшыся, паразважаць, наколькі сур'ёзная рэч гумар.

Аднак смех, як вядома, рэч сур'ёзная, якая падуладна не толькі дарослым, а і дзецям. З той толькі розніцай, што ў хлопчыкаў і дзяўчынак ён куды больш натуральны, шчыры, а часам і наіўны. У гэтым можна ўпэўніцца, пазнаёміўшыся з раздзелам «Дзіцячыя смяшынкі». Усё таксама падгледжана, падслухана Міхасём Слівам. Праўда, часам цяжка разабрацца, што было ў сапраўднасці, а што самім аўтарам прыдумана. Па той простай прычыне, што сучасныя дзеткі вельмі ж рана становяцца дарослымі, а таму могуць такое прамовіць, што колькі дзясяцігоддзяў назад гэта, калі і можна было пачуць, дык толькі з вуснаў старшакласнікаў. Невыпадкова адну са смяшынак Сліва так і назваў: «Дзеці XXI стагоддзя»:

«Маці з пяцігадовай дачкой зайшлі ў кніжны магазін.

— Давай спытаем кнігу казак, — прапаноўвае маці.

— Не. Мне патрэбна класіка! — кажа малеча».

Завяршае кнігу раздзел «Цяпло роднай зямлі», у якім змешчаны рэцэнзіі на кнігі, слова пра пісьменнікаў. Вольга Нікольская, Васіль Ткачоў, Георгій Марчук, Мікалай Чаргінец, Уладзімір Саламаха, Алесь Марціновіч, Мікола Чарняўскі, Міхась Пазнякоў, Міхаіл Кузьміч. Анатоль Зэкаў… У кожнага з гэтых і іншых аўтараў — свой творчы лёс, свая праблематыка кніг. Іх адметнасць і стараецца заўважыць Міхась Сліва, даючы аб'ектыўную ацэнку напісанаму імі.

Калі гаварыць пра кнігу «На дняпроўскім лузе» ў цэлым, дык правільным будзе сказаць, што гэта свайго роду творчая справаздача Міхася Слівы. Дарэчы, выдавецтва «Чатыры чвэрці» выпусціла яе да 65-годдзя з дня нараджэння пісьменніка.

Эмануіл ІОФЕ

# БОЛЬ — СПАЛЕНЫЯ ВЁСКІ




**ХАТЫНСКИЕ ДЕРЕВЬЯ ЖИЗНИ: документы и материалы.**
*Сост. А. БУБОЛО [и др.]. Минск: НАРБ, 2015.*

Сорак шэсць гадоў назад — 5 ліпеня 1969 года на месцы былой вёскі Хатынь Лагойскага раёна адкрыты мемарыяльны комплекс на ўшанаванне памяці яе жыхароў і іншых вёсак, знішчаных нямецкімі акупантамі разам з насельніцтвам у час Вялікай Айчыннай вайны. Побач са сцяной Жалобы і Магілкамі вёсак размешчаны сімвалічныя Дрэвы жыцця са спісам 433 вёсак, знішчаных разам з жыхарамі і адроджаных пасля вайны. Менавіта ім і прысвечаны зборнік дакументаў і матэрыялаў «Хатынские Деревья жизни».

Чытачам будзе карысна ведаць, што ў рамках міжнароднага праекта «Павышэнне статусу выратаваўшыхся жыхароў спаленых беларускіх вёсак», які ажыццяўляецца Беларускім фондам міру і Нацыянальным архівам Рэспублікі Беларусь, створана электронная база беларускіх вёсак, знішчаных у гады Вялікай Айчыннай вайны (аўтары Н. Кірылава, Т. Міхёнак, В. Селяменеў). Яна размешчана на сайцте Нацыянальнага архіва Рэспублікі Беларусь і ў ёй значыцца 8921 населены пункт, знішчаны нацыстамі поўнасцю або часткова. У сапраўднасці ўжо вядома больш чым аб 9000 такіх населеных пунктаў.

Летась да 45-годдзя адкрыцця Дзяржаўнага мемарыяльнага комплексу «Хатынь» выдадзены дзве кнігі дакументаў («Хатынь. Трагедия и память», 2-е изд. і «Хатынский некрополь»). Рэцэнзуемы зборнік працягвае гаворку аб мемарыяле, дакладней, аб 433 вёсках, спаленых нацыстамі. Іх назвы увекавечаны на Дрэвах жыцця. Першапачаткова гэты элемент мемарыяла быў афармлены як Сцяна памяці, на якой значылася 296 населеных пунктаў. У сувязі з заўвагамі аддзел культуры Цэнтральнага Камітэта Кампартыі Беларусі сумесна з абкамамі праверыў правільнасць увекавечвання ў мемарыяльным коплексе населеных пунктаў, знішчаных з жыхарамі. У ходзе праверкі абкамы КПБ унеслі прапанову аб дадатках, і 23 красавіка 1973 года Бюро ЦК КПБ прыняло пастанову аб увекавечванні ў Хатыні яшчэ 187 населеных пунктаў, у тым ліку 137 на Сцяне памяці.

Сярод адроджаных вёсак 69 адносіліся да Брэсцкай і 57 — да Магілёўскай абласцей.

7 чэрвеня 1974 года Бюро ЦК КПБ унесла папраўкі ў спіс увекавечаных населеных пунктаў, але іх колькасць засталася ранейшай.

Дасведчаны чытач можа спытаць: «У апошні час даецца шмат інфармацыі па праблеме трагедыі Хатыні і іншых беларускіх вёсак. Што ў гэтай кнізе новага і каштоўнага? Што ў ёй заслугоўвае ўвагі?»

Па-першае, перад намі першае ў свеце выданне аб Хатынскіх Дрэвах жыцця.

Па-другое, прыемна здзіўляе крынічная база, што ўключае 353 дакументы, у тым ліку 263 — з Нацыянальнага архіва Рэспублікі Беларусь, 7 — з Дзяржаўнагва архіва Брэсцкай вобласці, 19 — з Цэнтральнага архіва Камітэта дзяржаўнай бяспекі Рэспублікі Беларусь і 4 — з Дзяржаўнага архіва Расійскай Федэрацыі. Сярод іх данясенні, дзённікі баявых дзеянняў і гісторыі партызанскіх фарміраванняў, даведкі, акты, пратаколы допытаў сведкаў — жыхароў, якія выратаваліся, а таксама карнікаў і інш.

Па-трэцяе, па-новаму называецца колькасць населеных пунктаў на Хатынскіх Дрэвах жыцця па абласцях і асобных раёнах. Больш за ўсё такіх населеных пунктаў у Віцебскай вобласці — 111 (дарэчы, калі ў гады Вялікай Айчыннай вайны загінуў кожны трэці жыхар Беларусі, то ў Віцебскай вобласці — кожны другі). Далей ідуць Магілёўская вобласць — 96 населеных пунктаў, Брэсцкая — 93, Мінская — 60, Гомельская — 54 і Гродзенская — 19. Сярод раёнаў на першым месце стаіць Верхнядзвінскі — 26 населенных пунктаў, на другім — Івацэвіцкі — 17, на трэцім-чацвёртым — Кіраўскі і Салігорскі — па 15, на пятым месце — Чавускі — 14.

Па-чацвёртае, укладальнікі кнігі А. Бубала, Н. Дзянісава, Ю. Звераў, В. Казачонак, Н. Кірылава на чале з В. Селяменевым звяртаюць увагу на тое, што пры параўнанні спісаў населеных пунктаў, зацверджаных ЦК КПБ і ўнесеных на сімвалічныя Дрэвы, ёсць некаторыя разыходжанні паміж імі.

Напрыклад, вёска Баравыя Браслаўскага раёна ўвекавечана і на Хатынскіх могілках і на Дрэвах жыцця. Пасля вайны яна была часткова адроджана. Таму яе трэба ўвекавечыць на Дрэвах жыцця, а на могілках яе месца павінна заняць вёска Баравыя Верхнядзвінскага раёна, у адпаведнасці са спісам ЦК КПБ.

Замест вёсак Матужы Верхнядзвінскага раёна на Хатынскія Дрэвы жыцця занесена вёска Матукі гэтага ж раёна. Замест Пацавай Слабады — Грыбава Слабада Кіраўскага раёна. На таблічках вёсак Брыгідава, Гасцілава, Старынкі Вілейскага раёна памылкова ўказаны Барысаўскі раён, а вёска Слаўнае Талачынскага раёна аднесена да Ушацкага раёна. Акрамя таго, на Дрэвах жыцця адсутнічае вёска Сялюцічы-1 Петрыкаўскага раёна, якая значыцца ў спісках ЦК КПБ.

Па-пятае, нельга не згадзіцца з думкай укладальнікаў зборніка, што, нягледзячы на змены ў адміністрацыйна-тэрытарыяльным дзяленні Беларусі, кіраўніцтва Хатынскага мемарыяла не заўсёды іх улічвае. Так, у жніўні 1979 года Гаўрыльчыцкі сельсавет Лунінецкага раёна перададзены Салігорскаму раёну. Але на таблічках вёсак Гаўрыльчыцы, Дубіца, Цесна як і раней указаны Лунінецкі раён.

У снежні 1989 годзе адноўлены раней ліквідаваны Дрыбінскі раён Магілёўскай вобласці. Аднак у назвах вёсак Новае Прыбужжа, Расна Горацкага раёна і Белая, Ждановічы, Праабражэнск Шклоўскага раёна змены не ўлічаны.

Па-шостае, аўтар гэтых радкоў лічыць правільным, што ўкладальнікі зборніка не сталі мяняць пералік населеных пунктаў Лунінецкага, Горацкага, Салігорскага і Шклоўскага раёнаў, увекавечаных на Дрэвах жыцця, а абгаварылі змены ў геаграфічным указальніку.

Па-сёмае, укладальнікі кнігі праявілі сябе аб'ектыўнымі, добрасумленны-

мі і скрупулёзнымі даследчыкамі. Аб гэтым сведчыць такая дэталь. Часам знішчэнне населенага пункта і яго жыхароў не было аднаразовым актам. Бывалі выпадкі, калі ўсіх жыхароў, або частку іх расстрэльвалі, а вёску спальвалі часткова. Некаторыя вёскі карнікі палілі па некалькі разоў. Таму ў графе «Дата знішчэння» ўказваюцца ўсе ўстаноўленыя даты злачынстваў, учыненых нацыстамі ў гэтым населеным пункце. Пасля даведкі, у якой называецца колькасць хат і жыхароў у даваенны перыяд і знішчаных нацыстамі, а таксама часу яго спалення, у храналагічным парадку змешчаны архіўныя дакументы і ўспаміны аб трагедыі, перажытай жыхарамі вёсак.

Па-восьмае, навізна, каштоўнасць і важнасць прыведзеных дакументаў, праяўляецца таксама ў тым, што ў адрозненне ад папярэдніх зборнікаў укладальнікі і рэдкалегія, у якую ўвайшлі У. Адамушка, Д. Варапаеў, А. Дзюкаў, В. Казачонак, Н. Рудакоўскі, А. Самовіч і В. Селяменеў, закранулі тэму Халакоста на беларускай зямлі. Вядома, што ахвярамі яго ў сучасных межах Беларусі сталі каля 715 тысяч беларускіх яўрэяў і каля 90 тысяч яўрэяў з 7 краін Еўропы. Мала каму вядома, што сярод населеных пунктаў, занесеных на Хатынскія Дрэвы жыцця, нямала месц іх масавага знішчэння. У Брэсцкай вобласці — гэта вёскі Хомск Драгічынскага, Ацечызна Жабінкаўскага, Моталь Іванаўскага, Святая Воля Івацэвіцкага, Пагост-Загарадскі Пінскага раёнаў, у Віцебскай вобласці — Красналукі і Лукомль Чашніцкага, Іоды Шаркоўшчынскага раёнаў. У Гомельскай вобласці — Ленін Жыткавіцкага райна, у Гродзенскай вобласці — Дварэц Дзятлаўскага раёна, у Магілёўскай — Галоўчын Бялыніцкага, Расна Дрыбінскага, Напраснаўка Горацкага, Самацэвічы Касцюковіцкага, Шапалявічы Круглянскага, Маляцічы Крычаўскага, Шамава Мсціслаўскага раёнаў.

Па-дзявятае, не абыдзены так званыя «вострыя» пытанні. Адно іх заключаецца ў тым, што частка спаленых — гэта помста нямецкіх акупантаў за падтрымку мясцовым насельніцтвам партызан.

На стар. 7 аўтары «Прадмовы» Н. Кірылава і В. Селяменеў адзначаюць: «Наряду с крупными карательными операциями нацисты практиковали проведение акций возмездия за поддержку населением партизан, убийство немецких военнослужащих, невыполнение распоряжений немецких оккупационных властей и др.

В деревне Застаринье Барановичской области 1 мая 1943 г. остановился партизанский отряд. На следующий день на деревню напали гитлеровцы. После отступления партизан они устроили зверскую расправу над жителями деревни. Было расстреляно и сожжено 384 человека, сожжено 112 домов, угнан скот. За обстрел немецкого автомобиля военнослужащие 22-й роты 249-й пехотной дивизии сожгли в Смолевичском районе деревню Багута и расстреляли ее жителей.

Разгром партизанами Ремизовского жандармского участка в Ельском районе дал гитлеровцам повод сжечь 12 деревень. Три из них — Нововысокое, Николаевка и Верхи увековечены на Хатынских Деревьях жизни. Деревню Лески Каменецкого района гитлеровцы сожгли в мае 1943 года. По личному приказу Гитлера за нападение на партизан на станцию Славное Толочинского района сожжён посёлок Славное и его жители».

Нягледзячы на шматлікія вартасці кнігі, мэтазгодна выказаць некаторыя заўвагі і пажаданні.

На вялікі жаль, і сёння — праз 70 год пасля Вялікай Перамогі над германскім нацызмам, адсутнічае адзіная думка аб падыходах да асвятлення гісторыі спаленых нацыстамі вёсак на тэрыторыі Беларусі ў 1941—1944 гадах. Адны даследчыкі лічаць, што трэба даваць усе спаленыя вёскі — як з жыхарамі, так і без жыхароў, другія акцэнтуюць увагу толькі спаленых разам з жыхарамі. Прычым не мае значэння колькасць знішчаных жыхароў (ці сотні ці проста адзін чалавек). Такім чынам, само

сабой узнікае новае пытанне — поўнасцю ці часткова. У апошні час шэраг даследчыкаў выказвае думку, што спаленымі трэба лічыць вёскі з 25 працэнтаў знішчаных жыхароў, або вёскі, дзе спалена не менш як 20 хат.

У сувязі з гэтым укладальнікі і члены рэдкалегіі зборніка павінны былі ці ў «Прадмове», ці асобна выказаць свае думкі па дадзенай праблеме.

У «Геаграфічным паказальніку» на стар. 395 адзначаецца, што тэрмін «Слаўнае» на розных старонках зборніка сустракаецца шэсць раз. Але прыводзячы нямецкія дакументы аб рэпрэсіях супраць мірнага насельніцтва за напад партызан на станцыю Слаўнае (расстрэл 100 прыхільнікаў партызан і членаў іх сем'яў), нідзе не адзначаецца, што нацысты вывезлі і расстралялі іх у Крупках.

Сустракаюцца памылкі друку. Так, на стар. 368 адзін са здымкаў падпісаны так: «Шарковищинский район», а правільна — «Шарковщинский район».

У заключэнне трэба падкрэсліць, што ўкладальнікі і рэдкалегія стварылі ва многім унікальную кнігу, своеасаблівую энцыклапедыю Хатынскіх Дрэваў жыцця.

Нельга не згадзіцца з аўтарамі Прадмовы Н. Кірылавай і В. Селяменевым: «433 восстановленные деревни, увековеченные на Хатынских Деревьях жизни, — только часть населённых пунктов, достойных быть отмеченными здесь. Этот список можно продолжить».

Дададзім: не толькі можна, але і патрэбна.



# БЕЛАРУСКІЯ ЛІТАРАТУРНЫЯ АДРАСЫ Ў АШХАБАДЗЕ

Патрапіўшы ў Туркменістан у жніўні 1985 года, я ў першыя ўжо месяцы свайго адкрыцця гарачай каракумскай старонкі пачаў шукаць адрасы агульнай беларуска-туркменскай памяці. «Геаграфія» ці хутчэй «гарадская тапаніміка» слядоў дружбы, слядоў, якія сведчылі б пра блізкія да культур Беларусі і Туркменістана факты, складвалася, праўда, спакваля, не за адзін дзень. Яно і зразумела. Штосьці ўжо было згублена за смугою часін. Штосьці страчана незваротна…

І ўсё ж агульная карціна вартая ўвагі. Пакуль што беларускія літаратурныя адрасы ў Ашхабадзе пазначаю штрыхамі, пазначаю для памяці. Магчыма, і для будучых пакаленняў даследчыкаў. У спадзяванні на тое, што з'явіцца ж некалі краязнаўчы даведнік з такой назвай — «Беларускія літаратурныя адрасы ў свеце». Такую думку неаднойчы выказваў і доктар філалагічных навук прафесар Адам Мальдзіс. Паколькі першая кніга «Літаратурныя мясціны Беларусі», прысвечаная Брэсцкай, Віцебская і Гомельскай абласцям, даўно выйшла ў свет. Але ж толькі першая. І толькі тры вобласці — у ёй... А астатнія, а астатнія беларускія літаратурныя адрасы ў свеце?!.

Але ж паспрабуем пашукаць беларускія адрасы менавіта ў Ашхабадзе. І першы з іх — **вуліца Махтумкулі, 5** (размова — пра гарадскую тапаніміку 1980 — пачатку 1990-х). Тут месціўся двухпавярховы будынак саюза пісьменнікаў Туркменістана, рэдакцыі часопісаў «Совет эдебияты» ( «Савецкая літаратура») і «Ашхабад». Неаднойчы гасцямі і Саюза, і рэдакцый былі пісьменнікі з Беларусі: публіцыст Мікола Калінковіч (у 1979—1984 гг. ён жыў у Ашхабадзе), паэт Алесь Емяльянаў; паэт, журналіст Міхась Карпенка (у 1960—1990-я гг. жыў і працаваў у Краснаводску і Ташаузе). І Карпенка, і Калінковіч былі прыняты ў Саюз пісьменнікаў СССР у Ашхабадзе, часта друкаваліся ў туркменскіх часопісах. Непадалёку ад вуліцы Махтумкулі — сквер, дзе ўсталяваны помнік гэтаму класіку туркменскай літаратуры работы беларускага скульптара В. Папова.

Ад Саюза пісьменнікаў недалёка знаходзіцца **праспект Свабоды.** Ці не ў самай сярэдзіне яго месціўся будынак Камітэта дзяржаўнай бяспекі Туркменскай ССР. У гэтай установе ў першай палове 1980-х працаваў ураджэнец Лунінеччыны пісьменнік Мікалай Калінковіч. У Ашхабадзе выйшлі яго кнігі: «Не обрывается земная связь», «Имя мое — Свобода», «Возвращение рассветной рани»…

Вернемся ў цэнтр горада. **Вуліца Атабаева.** У 1985—1988 гг. я жыў у доме нумар 32, корпус 1. Непадалёку ад Нацыянальнай бібліятэкі Туркменістана. На гэтай жа вуліцы месцілася кватэра беларускага празаіка, драматурга, публіцыста Васіля Ткачова, які жыў у Ашхабадзе ў 1973—1980 гг. Тут, у сталіцы Туркменістана, Васіль Юр'евіч працаваў над кнігай апавяданняў «Дзень у горадзе». Спярша В. Ткачоў служыў у рэдакцыі вайсковай газеты «За Родину», пасля працаваў рэдактарам у «Туркменгандальрэкламе».

**Атабаева, 20.** Ашхабадскі Дом друку. Тут месцілася і рэдакцыя газеты «Туркменская искра», якую рэдагаваў ураджэнец Беларусі публіцыст Васіль Уладзіміравіч Слушнік (памёр у Ашхабадзе ў 1991 годзе). У «Туркменской искре» друкаваліся Мікалай Калінковіч, Міхась Карпенка. У ашхабадскім Доме друку знаходзіліся і іншыя рэдакцыі — газеты «Эдебият ве сунгат» («Літаратура

і мастацтва»), часопіса «Пионер» («Піянер»). У часопісе «Піянер» працавалі добрыя сябры беларускай літаратуры — паэты Азат Рахманаў, Пірнепес Авезліеў. Апошні з іх — аўтар паэмы ці то доўгага верша пра Хатынь. Гасцяваў у Беларусі, у «Зубронку». Ліставаўся з беларускім паэтам Міколам Чарняўскім. У літаратурна-мастацкім штотыднёвіку, які адзін са сваіх разваротаў у 1987 годзе прысвяціў Беларусі, галоўным рэдактарам у сярэдзіне 1980-х працаваў публіцыст, літаратуразнаўца Какалы Бердыеў. Ён напісаў некалькі артыкулаў пра Янку Купалу. А ў самым пачатку 1960-х правёў падарожжа па Каракумскім канале разам з беларускім празаікам, публіцыстам, літаратуразнаўцам Алесем Адамовічам. Вынікам іх творчай паездкі стаў падарожны нарыс, надрукаваны ў маскоўскай «Дружбе народов», ашхабадскім «Совет эдебияты», мінскім «Полымі». І зараз, праз паўвека і болей, нарыс падаецца цікавым мастацкім дакументам часу пераўтварэнняў. І яшчэ — дакументам літаратурнай дружбы, літаратурнага і культурнага ўзаемапранікнення розных нацыянальных памкненняў. Невыпадкова з’яўляюцца ў той даўняй публікацыі і фрагмены сустрэчы беларускага і туркменскага публіцыстаў з народным шахірам Ата Саліхам. Яго, сляпога выказніка дум і мар туркменаў сярэдзіны XX стагоддзя, і зараз добра памятаюць у Каракумскім краі.

**Карпінская, 1.** Мікрараён прыватных сядзіб Ашхабада 1950—1980-х гадоў. Падворак, дзе жыў з вялікай сям’ёй народны паэт Туркменістана Керым Курбанняпесаў (1929—1988). У 1986—1988 гг. я даволі часта бываў у доме Керым-ага. Ведаю, што ў яго гасцяваў і беларускі празаік Алесь Жук. Як пазнака тае сустрэчы — кніга прозы беларускага пісьменніка з аўтографам, адрасаваным старэйшаму сябру. Керым Курбанняпесаў сустракаўся ў Ашхабадзе і з беларускім паэтам Алесем Емяльянавым. У 1987 годзе туркменскі шахір пераклаў на туркменскую мову «Паэму сораму і гневу» народнага паэта Беларусі Пімена Панчанкі. І хаця на той час ужо меўся рускі пераклад, надрукаваны ў «Нёмане», Керым-ага зрабіў сваё пераўвасабленне па падрадкоўніку (ведаю пра гэта дакладна, бо сам і рыхтаваў гэты падрадкоўнік). Керым Курбанняпесаў — аўтар і іншых перакладаў беларускай паэзіі: надрукаваны яны ў аўтарскай анталогіі «Букет дружбы».

**Вуліца Хыдыра Дыр’ева, 5.** Тут, у сваім доме, і зараз жыве туркменскі празаік, паэт, дзіцячы пісьменнік Агагельды Аланазараў. У Беларусі ў розныя гады пабачылі свет тры яго дзіцячыя кнігі ў перакладзе на беларускую мову (апошняя — «Вясёлая азбука» — у 2013 годзе. Перакладчык — Віктар Гардзей). Агагельды Аланазараў сябраваў з Міхасём Карпенкам, Мікалаем Калінковічам, Валянцінам Лукшам. Пра кожнага з іх напісаў успаміны.

**Чырчыкскі праезд.** Тут і зараз у адным са шматкватэрных дамоў жыве дзіцячы паэт Касым Нурбадаў. Яго добра ведалі ў свой час у Беларусі дзякуючы перакладам Міколы Чарняўскага. Вершы Касыма Нурбадава друкаваліся ў мінскім альманаху «Ветразь».

У розныя гады ў Ашхабадзе жылі мовазнаўца ўраджэнец Латгаліі беларус Аляксандр Пацалуеўскі (загінуў у землятрусе 1948 года), празаік Барыс Мікуліч (пра гэтае яго жыццё пасля вяртання з ГУЛАГа — у другой частцы «Аповесці для сябе»), паэтэса Любоў Турбіна (нарадзілася ў Ашхабадзе ў 1942 годзе), ваенны публіцыст, Герой Савецкага Саюза ўраджэнец Барысава Яўсей Вайнруб. Гасцявалі ў Ашхабадзе беларускія пісьменнікі Рыгор Барадулін, Алег Лойка, Павел Марціновіч, Аркадзь Марціновіч, Любоў Філімонава, Алесь Бадак, Генадзь Пашкоў, Алена Масла, Еўдакія Лось, Віктар Шымук, Ігар Лапцёнак. І ў кожнага з іх — таксама свае літаратурныя адрасы, свае сустрэчы, свае знаёмствы з Ашхабадам і Туркменістанам, свае памяткі сяброўства і дружбы. У творчай спадчыне Еўдакіі Лось застаўся верш, прысвечаны тром турмкенскім пісьменнікам — Каюму Тангрыкуліеву, Ата Атаджанаву, Таушан Эсэнвай.

Мо з часам нават знойдзецца нехта ахвотны і з беларускіх твораў, прысвечаных Ашхабаду і Туркменістану, укладзе своеасаблівую анталогію пабрацімства?..

***Кастусь ЛАДУЦЬКА***

# СНЕЖАНЬ

Галоўным рэдактарам часопіса «Полымя» Максім Танк стаў у 1948 годзе. У 1967-м пакінуў гэтую пасаду ў сувязі з тым, што быў абраны старшынёй Саюза пісьменнікаў Беларусі. У кожнага галоўнага свой стыль кіравання і сваё бачанне выдання, якое ён узначальвае. Але некаторыя рэдактарскія манеры і прынцыпы Танка сёння ўспрымаюцца ўжо як легенды.

Пісьменнікі старэйшага пакалення ўспамінаюць, што Танк ніколі (ці — амаль ніколі) не сядзеў за сваім рабочым — рэдактарскім сталом. «Там пасярод пакоя стаяў доўгі стол. Злева за столікам сядзеў сакратар Бачыла, за гэтым доўгім сталом сядзеў рэдактар аддзела паэзіі Вялюгін, тут жа сядзелі Танк, Скрыган і Шкраба». Гэта — згадка Сяргея Грахоўскага, якую прыводзіць у сваёй кнізе «Максім Танк. Талент, заручаны з небам» Мікола Мікуліч. Алесь Бачыла ў сваіх успамінах (захоўваюцца ў Беларускім дзяржаўным архіве-музеі літаратуры і мастацтва) крыху ўдакладніў: «У адрозненне ад некаторых рэдактараў, якія з прыняццем пасады перш за ўсё клапоцяцца пра кабінет, ён не тое што не заводзіў сабе асобнага кабінета, але рэдка калі сядзеў за сваім рэдактарскім сталом. Звычайна, калі трэба было тэрмінова што-небудзь прачытаць, ён садзіўся за доўгі стол без шуфлядаў, прыстаўлены да яго стала, дзе сядзелі і мы, — і чытаў. Рукапісы буйных твораў звычайна браў дадому».

Але гісторыя са сталом не самая паказальная, і сама па сабе, без іншых танкаўскіх звычак і прынцыпаў, можа, і не вартая ўвагі. Аднак чытаем у таго ж Алеся Бачылы: «У рэдакцыі існавала нават няпісанае правіла, устаноўленае зноў жа самім рэдактарам, не адзначаць ацэначнымі артыкуламі яго творчасць». Вядома, гэтую фразу ў першую чаргу можна зразумець як нежаданне Танка друкаваць у «Полымі» артыкулы, прысвечаныя менавіта яго творчасці. Ды вось што дадае да сказанага Алесем Бачылам Мікола Аўрамчык ва ўспамінах, змешчаных у кнізе «Максім Танк. На камні, жалезе і золаце»: «Калі б у часопісе ні пералічваліся прозвішчы нашых пісьменнікаў, што дасягнулі значных здабыткаў у беларускай літаратуры, Максім Танк заўсёды акуратна выкрэсліваў з гэтага спісу сваё імя і на месца яго ўпісваў прозвішча Пімена Панчанкі.

У гэтым выяўлялася не толькі сціпласць рэдактара, але і яго павага да свайго сябра і калегі па працы, творчасць якога ён высока цаніў. Прычым нельга забываць таго, што праз вострыя і смелыя вершы Пімен Панчанка быў тады ў апале».

Зразумела, няма ніякіх падстаў не давяраць выказванням вядомых паэтаў, і згаданае імі, безумоўна, характарызуе Танка як вельмі сціплага чалавека, але пры гэтым усё ж нельга сказанае калегамі накладваць на ўсе артыкулы, якія тады друкаваліся ў часопісе, і ў якіх — у рукапісным варыянце — згадвалася імя галоўнага рэдактара. Інакш атрымліваецца прыгожая, аднак — легенда. Нельга накладваць ужо хоць бы таму, што няцяжка ў думках сканструяваць сітуацыю, калі імя Танка проста нельга было замяніць на імя Панчанкі, як і проста — у тых жа аглядных артыкулах — нельга было не згадаць імя палымянскага галоўрэда. Напрыклад, у артыкуле «На шляху служэння народу» (ён быў напісаны цэлым калектывам аўтараў да саракагоддзя беларускай савецкай літаратуры), надрукаваным у вераснёўскім нумары «Полымя» за 1957 год, чытаем: «Бадай, самай істотнейшай рысай творчасці М. Танка з'яў-

ляецца яе мужнасць. Выпрабаванні і нягоды толькі гартуюць і ўмацоўваюць яе. Яснасць думкі, уменне арыгінальна вырашаць складанейшыя сацыяльныя тэмы, удала карыстацца смелымі і нечаканымі асацыяцыямі ўласцівы паэзіі М. Танка. Разнастайнасць і багацце карцін, вобразаў, ідэй, думак — другая характэрная адзнака яго творчасці».

Яшчэ адна цікавая дэталь у дачыненні да партрэта Танка-рэдактара, якая таксама ўжо стала легендай: імкнучыся не злоўжываць сваім імем на старонках часопіса, ён раз у год дазваляў сабе надрукаваць у ім уласную падборку вершаў. Прычым, у многіх у свядомасці жыве перакананне, што ён друкаваў яе ў вераснёўскіх нумарах, паколькі сам нарадзіўся ў верасні. А калі год для яго быў юбілейны, то ён даваў у друк роўна столькі вершаў, колькі гадоў яму споўнілася.

На самай справе, так было далёка не заўсёды. Пагартаем, напрыклад, «Полымя» за 1957 год, калі Танку споўнілася 45. Вялікія падборкі яго новых вершаў двукаваліся ў другім, трэцім і дванаццатым (але не дзявятым!) нумарах. У 1958 годзе — зноў тры вялікія падборкі: у чацвёртым, шостым і дванаццатым нумарах. І гэтак далей. Танкаўская «традыцыя», пра якую часам згадваюць яго калегі, замацавалася значна пазней.

Тое, што Танк друкаваў у «Полымі» вялікія падборкі і, быў час, па некалькі разоў на год, можна растлумачыць тым, што і пісаў ён шмат (ужо калі яму было за восемдзесят, мог напісаць за дзень і тры, і чатыры вершы). Прычым, многае з надрукаванага пасля ўвайшло ў залаты фонд беларускай паэзіі.

Але тут хочацца прывесці, у пэўным сэнсе, адваротны прыклад, які, шчыра кажучы, асабіста мне даволі цяжка растлумачыць. Ва ўжо згаданай **снежаньскай** публікацыі Танка за **1957 год** было змешчана сем новых вершаў паэта, што пасля ўвайшлі ў яго кнігу «Мой хлеб надзённы». Дакладней, увайшлі ўсе, апроч аднаго. Можна было б спаслацца на высокую патрабавальнасць паэта да ўласнай творчасці, калі б гэты верш, на маю думку, не быў адным з самых лепшых у згаданай публікацыі. Вось ён:

У чыстым полі сваты блудзілі,
Блудзілі, скрыпку сваю згубілі.

А каля яру, дзе коней гналі,
Ў сумётах кінулі і цымбалы.

А калі ехалі праз сасоннік,
З рук гарманіста выпаў гармонік.

А каля грэблі старой, ля дуба,
З саней апошніх скаціўся бубен.

Цяпер завея на скрыпцы грае,
Цымбалаў струны перабірае,

Дзьме ў гармонік, б’е ў бубен глуха,
Аж часам спынішся, каб паслухаць:

Куды нясецца шырокім светам
Завея гэта, вяселле гэта?

Праўда, у 1960-м Танк напісаў верш «З вяселля» (якраз ён увайшоў у зборнік «Мой хлеб надзённы»), які ў многім пераклікаецца з толькі што працытаваным, і які сёння вядомы, бадай, кожнаму прыхільніку творчасці паэта:

Вяртаюцца госці з вяселля.
Відаць, хмель яшчэ не прайшоў,
Бо ўсё, што не раз перапелі,
Спяваюць заўзята ізноў.

Не можа іх уціхамірыць
Ні бразгат калёсаў, ні ноч,
Ні чэрвеньскі бурны і шчыры
З грымотамі гулкімі дождж.

І толькі ў маланках імклівых
Убачыш, разбуджаны, ты
Лятучыя конскія грывы
І поўныя грому раты.

Можна, вядома, сцвярджаць, што ў гэтым вершы больш яркія метафары, чым у папярэднім, і ў адной кнізе ім было не месца. Але перачытайце Збор твораў Максіма Танка ў шасці тамах, якія выходзілі з 1978 па 1981 гады: вы і там не знойдзеце верша «У чыстым полі сваты блудзілі…» Воля аўтара? Ці ён праз шмат гадоў проста… забыў пра яго? На жаль, у такім выпадку, не толькі ён, паколькі верш не трапіў нават у пасмяротны трынаццацітомны Збор твораў паэта.

***Алесь МАЛІНОЎСКІ***

## ПРОЗА



## ДРАМАТУРГІЯ



## ПАЭЗІЯ

## ГАЛАСЫ СВЕТУ



## СУГУЧЧА

## ДАЛЯГЛЯДЫ



## КРЫТЫКА І ЛІТАРАТУРАЗНАЎСТВА



## КНІГАРНЯ

## ЛІТАРАТУРАЗНАЎЧЫ ПАРТРЭТ



## НАВУКОВЫЯ ПУБЛІКАЦЫІ



## АНКЕТА



## ДЫСКУСІЯ



## ДЗЁННІКІ

## СПАДЧЫНА



## ПОСТАЦІ



## СТАРОНКІ ГІСТОРЫІ



## СТАРОНКІ ЛЁСУ



## СТАРОНКІ ЎСПАМІНАЎ



## У ПОЛІ ЗРОКУ



## ПОМНАЕ



## КУЛЬТУРА МОВЫ



## МАСТАЦТВА

## СЦЭНА



## НАШ КРАЙ



## ЭПІСТАЛЯРЫЙ



## ХРАНАПТОП



***Падрыхтавала М. МІХАЙЛАВА.***



